УДК 908.476.1-21 Барысаў
ББК 26.89
Д43



АЎТАРЫ:
Ж.В.Гілевіч, Г.В.Штыхаў (доктар гістарычных навук),
В.Л.Насевіч (кандыдат гістарычных навук), Л.Ф.Белая

Д43 **Дзевяць** стагоддзяў Барысава / Ж.В.Гілевіч, Г.В.Штыхаў, В.Л.Насевіч, Л.Ф.Белая. – Мн.: БЕЛТА, 2002. – 224 с.: іл.

ISBN 985-6302-41-2.

Кніга, напісаная сумеснымі намаганнямі краязнаўцаў і навукоўцаў, асвятляе 900-гадовую гісторыю Барысава: у ёй расказваецца пра ўзнікненне і развіццё горада, пра шматлікія падзеі, што адбываліся ў яго жыцці, і пра вядомых людзей, чый лёс быў звязаны з гэтым горадам. Кніга багата ілюстравана. Прызначана для шырокага кола чытачоў.

**УДК 908.476.1-21 Барысаў**
**ББК 26.89**

**ISBN 985- 6302-41-2**

# ДА ЧЫТАЧА

Гэта кніга пра Барысаў — адзін з буйнейшых гарадоў Мінскай вобласці. Яна прысвечана знамянальнай даце — 900-годдзю горада. Няшмат якія беларускія гарады маюць такі сталы ўзрост. У гісторыі Барысава як у люстэрку адбіўся шматпакутны лёс беларускага народа, і кожная значная падзея пакінула свой адметны след. У бурлівай віхуры часу, калі кароткае зацішша мірнага жыцця бясконца змянялася на бязлітасныя войны, наш горад, як і ўся Беларусь, гарэў і адраджаўся з руін і папялішчаў. І, нягледзячы на цяжкасці, наканаваныя лёсам, жыў, рос і развіваўся. Мабыць, гэты няпросты гістарычны шлях і прадвызначыў асноўныя рысы барысаўчан — уменне пераадольваць цяжкасці, спачуванне чужому гору, памяркоўнасць да тых, хто прыйшоў з дабром, і непрымірымасць да захопнікаў. А прайшло і праехала розных людзей праз Барысаў за ўсе часы нямала. Ды гэта і не дзіўна — горад размешчаны на самай бойкай дарозе, на самым кароткім шляху да Масквы. Падарожнікі, купцы, военачальнікі, дыпламаты — усе, хто ехаў з заходнееўрапейскіх краін у Расію, павінны былі абавязкова перасекчы Барысаў, а часта і спыніцца ў ім. Таму зусім невыпадкова наш горад згадваецца ў летапісах, нататках падарожнікаў, мемуарах і дзённіках.

На жаль, большасць звестак пра Барысаў мінулых гадоў у той ці іншай ступені звязана з войнамі. Нават калі б да 1812 г. ніхто не чуў пра Барысаў, то пасля бітвы на Бярэзіне і пераправы французскіх войскаў пад Студзёнкай наш горад увайшоў у сусветную гісторыю.

Рана ці позна войны заканчваюцца і горад-воін становіцца горадам-працаўніком: аднаўляецца, будуецца, гандлюе з іншымі гарадамі і краінамі. Такім быў наш Барысаў у далёкім мінулым, такім застаецца і сёння. Барысаўчане са стойкасцю і мужнасцю сустракаюць любыя цяжкасці, якія выпадаюць на іх долю, уносяць свой важкі ўклад у эканамічнае і культурнае развіццё Мінскай вобласці і ўсёй Беларусі. Гэта яны, шчырыя працаўнікі, адбудавалі свой родны горад пасля вайны, зрабілі ўсё для таго, каб расквітнелі

яго вуліцы і плошчы, падняліся гмахі новых кварталаў. Шмат яны зрабілі для добраўпарадкавання горада і напярэдадні юбілею, за што ім вялікая ўдзячнасць.

Барысаў пачынае новы адлік часу. Ён уступае ў сваё 10-е стагоддзе. Якая будучыня чакае наш горад? Гэта залежыць ад кожнага, хто жыве ў ім, хто неабыякавы да яго лёсу. Якім мы пакінем Барысаў сваім нашчадкам, такая і будзе памяць пра нас. Нішто не вечнае на свеце, акрамя памяці. Гісторыя горада, слаўныя справы барысаўчан будуць працягвацца. Барысаў варты таго, каб пра яго гаварылі як пра вялікі горад. Гэта права дае гораду яго 900-гадовы шлях і сённяшні дзень.

*В.І.Бургун,*
*старшыня Барысаўскага гарвыканкома.*

# БАРЫСАЎ У СКЛАДЗЕ ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Адкуль паходзіць назва горада

«У 1102 годзе Барыс Усяславіч полацкі хадзіў на ятвягаў і, перамогшы іх, вярнуўшыся, паставіў горад Барысаў у сваё імя і людзьмі насяліў», — пісаў расійскі гісторык В.М.Тацішчаў.

У некаторых выданнях, напрыклад, у кнізе «Россия, т. 9. 1905», выказваецца меркаванне, што Барысаў мог заснаваць у 1032 г. вялікі князь кіеўскі Яраслаў Уладзіміравіч (Мудры). У Пачатковым летапісе пад 6540 (1032) г. сказана, што Яраслаў «поча ставити городы по Роси». Рака Рось знаходзіцца ў Сярэднім Падняпроўі і лакалізацыя Барысава да яе не мае ніякага дачынення. Не стасуецца з патранімічнай назвай горада і хрысціянскае імя Яраслава — Георгій.

Адкуль узяў В.М.Тацішчаў вышэй прыведзенае паведамленне аб заснаванні Барысава князем Барысам, застаецца загадкай, але можна меркаваць, як гэта адбылося. Васіль Мікітавіч Тацішчаў (1686—1750) нарадзіўся блізка да межаў Беларусі на Пскоўшчыне ў сям'і двараніна і ўвайшоў у гісторыю як адзін з таленавітых паплечнікаў Пятра І. У 18 гадоў ён пачаў ваенную службу, удзельнічаў ва ўзяцці Нарвы, а затым у Палтаўскай бітве. Пётр І пасылаў Тацішчава за граніцу з дыпламатычнымі даручэннямі. Гэтыя паездкі ўзбагацілі яго веды па філасофіі і гісторыі, геаграфіі і горнай справе, артылерыі і статыстыцы, у галіне эканамічных і палітычных вучэнняў.

Тацішчаў высока цаніў розум і веды. Шмат вандруючы, ён усюды купляў кнігі і рукапісы, сабраў вялікую бібліятэку старажытных летапісаў і кніг на розных мовах. Кола яго навуковых інтарэсаў было вельмі шырокім, аднак галоўнай прыхільнасцю стала гісторыя.

«Гісторыя Расійская» Тацішчава — гэта першая ў Расіі праца такога кшталту. Паводле размяшчэння матэрыялу яна нагадвае ўсходнеславянскія (старажытнарускія) летапісы. Тацішчаў не проста перапісваў летапісы ў храналагічнай паслядоўнасці, а перадаваў іх змест больш даступнай сучаснай мовай. У спецыяльных каментарыях Тацішчаў даваў



*В.М.Тацішчаў.*

уласную ацэнку падзей і называў крыніцы. На жаль, ён не адзначыў, адкуль узяў паведамленне пра заснаванне горада Барысава.

Тацішчаў сабраў і выкарыстаў вялікую колькасць дакументаў. Сама яго праца, як адзначаюць даследчыкі, стала адзінай крыніцай, з якой можна даведацца аб змесце многіх гістарычных помнікаў, пазней загубленых ці знішчаных, як сталася з Полацкім летапісам.

Полацкі летапіс, напэўна, быў адным з першых гісторыка-літаратурных твораў, напісаных на беларускіх землях. Застаецца невядомым час яго ўзнікнення, аўтар, змест і характар. На думку аўтарытэтных даследчыкаў, асобныя ўрыўкі з Полацкага летапісу ёсць у складзе Іпацьеўскага летапіснага зводу.

Паведамляючы арыгінальныя звесткі аб падзеях у Полацкай зямлі, Тацішчаў пісаў: «...сие выписано из летописца Еропкина, который видно, что пополниван в Полоцке, ибо в нем много о полоцких, витебских и других литовских князьях писано, токмо я не имел времени всего выписать, и потом его видеть не достал, слыша, что отдал списывать». Сам Тацішчаў спасылаецца на Полацкі летапіс тройчы. Гісторык не выпадкова гаворыць пра «летописца Еропкина». Справа ідзе пра Полацкі летапіс, які належаў у пачатку XVIII ст. архітэктару Яропкіну, пакаранаму смерцю па справе А.П.Валынскага за выступленне супраць «біронаўшчыны». Напэўна, звестку пра заснаванне горада Барысава Тацішчаў узяў з Полацкага летапісу, які да нас не дайшоў.

## Тапанімічныя пацвярджэнні

У старажытных летапісах і іншых пісьмовых крыніцах на тэрыторыі беларускага этнасу абазначана прыкладна 150 геаграфічных назваў (тапонімаў). Гэты матэрыял мае важнае значэнне для вывучэння гісторыі ўсходнеславянскай тапаніміі.

Вучонымі ўстаноўлена, што ў славянскай тапаніміі словаўтварэнне геаграфічных назваў пераважна суфіксальнае. Адным са старадаўніх усходнеславянскіх тапанімічных суфіксаў з'яўляецца «-ов» або «-ев» («-аў» або «-ёў»), які выкарыстоўваецца для адлюстравання прыналежнасці. Ён распаўсюджаны ва Украіне (на Сярэднім Падняпроўі), у паўночных абласцях Расіі, а таксама ў Балгарыі, Польшчы, Македоніі. Амаль усе гэтыя тапонімы ўтвораны ад асабістых імён.

На беларускай этнічнай тэрыторыі назвы населеных пунктаў, утвораныя з дапамогай суфікса прыналежнасці, нешматлікія. Найбольш старажытным з іх з'яўляецца Тураў (упер-

шыню ўпамінаецца ў летапісе пад 980). Наступныя тапонімы адносяцца да XII ст. — Барысаў, Рагачоў. Пазней вядомы назвы Быхаў, Магілёў.

Вучоны-географ В.А.Жучкевіч лічыць, што назва Тураў паходзіць ад асабістага імя Тур, Рагачоў — ад імя Рагач, Быхаў — ад імя Бых, Магілёў — ад асабістага імя Магіла.

Многія старажытныя гарады Беларусі атрымалі назву ад ракі, на якой яны былі заснаваны. Возьмем назвы Полацк, Віцебск, Друцк, Пінск, Слуцк. Першая частка тапонімаў адносіцца да назвы ракі. Полацк заснаваны пры ўпадзенні Палаты ў Заходнюю Дзвіну, Віцебск каля прытоку Дзвіны Віцьбы, Друцк — на Друці, Пінск — на Піне, Слуцк — на Случы. Назвы гэтых гарадоў утвораны з дапамогай суфікса «-ск» («-цк») і яны больш маладыя, чым імёны рэк.

Не выключана, што назвы некаторых рэк паходзяць ад імя горада. Напрыклад, у аснове назвы Гродна ляжыць славянскі тэрмін «горад», або «гарадзьба». Старажытны горад быў пабудаваны пры ўпадзенні ракі, якая потым пачала называцца Гараднічанка.

У такой сувязі выклікае цікавасць тое, што на геаграфічнай карце 1595 г., якую польскі картограф К.Бушак апублікаваў у 1863 г., паказана вышэй Схі рэчка Барыса, прыкладна там, дзе знаходзіцца Стара-Барысаў. Пра гэта было сказана ў манаграфіі Г.В.Штыхава аб гарадах Полацкай зямлі IX—XIII ст. (1978). Некаторыя аўтары палічылі, што горад атрымаў назву менавіта ад ракі Барысы, аб чым пісаў гісторык Г.А.Каханоўскі ў кнізе, прысвечанай археалогіі і гістарычнаму краязнаўству Беларусі XVI—XIX ст. Аднак падобная выснова недастаткова абгрунтаваная. Па-першае, узнікае сумненне, ці існавала такая рака ў сапраўднасці, бо ні ў якіх іншых крыніцах такога гідроніма няма. Але калі Барыса ўсё ж існавала (затым перасохла), то яна магла атрымаць назву ад горада Барысава.

Такім чынам, ёсць падставы лічыць, што назва горада Барысава ўтворана ад імя князя Барыса і суфікса прыналежнасці «-аў». Даныя тапанімікі — навукі, якая вывучае геаграфічныя назвы, заканамернасці іх развіцця і функцыянавання, яскрава гэта пацвярджаюць.

## Князь Барыс — віноўнік «вольнасцей» палачанаў

У літаратурным творы 20-х гадоў XVI ст. «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» змешчана яшчэ адно паведамленне аб тым, што князь Барыс пабудаваў горад Барысаў на Бярэзіне. Храніст падрабязна апавядае, як Барыс у далёкім мінулым дараваў палачанам гарадскія вольнасці. У гісторыі Полацкай зямлі гэта значная падзея. У хроніцы змешчана апавяданне аб літоўскім князю Мінгайлу, які зрабіў паход «на горад Полтеск и на мужи полочане, которые вечом справовалися, яко Великий Новгород и Пъсков».

Мінгайла разграміў палачан у бітве пад Гарадцом, пасля чаго пасадзіў у Полацку свайго сына Гінвіла. Гінвіл узяў у жонкі дачку цвярскога князя Барыса і «окрестился в

руску веру», прыняўшы імя Барыса. Ён пабудаваў горад Барысаў на Бярэзіне, сабор Святой Сафіі ў Полацку і іншыя цэрквы. У гэтай хроніцы далей гаворыцца: «И пануючи ему в Полоцку был ласков на подданых своих и дал им, подданым своим, вольности и вечо мети и в звон звонити, и по тону ся справовати, яко у Великом Новегороде и в Пъскове».

У другой крыніцы — Хроніцы Быхаўца — прыведзены вышэй сюжэт ускладняецца і Гінвіл-Барыс падзяляецца на дзве асобы: бацьку і сына. Трэба адзначыць, што Мінгайла і Гінвіл асобы міфічныя, у сапраўднасці неіснаваўшыя, аб чым неаднаразова пісалі гісторыкі. Стваральніку Хронікі Быхаўца, складзенай прыкладна ў сярэдзіне XVI ст., давялося прыстасоўваць да сваіх мэт тэндэнцыю ўзвышэння ролі літоўскіх князёў ва ўтварэнні новай дзяржавы з выкарыстаннем ужо раней вядомага апавядання аб наяўнасці ў палачанаў «вольнасцей», якія былі дараваны ім некалі князем Барысам. Паданне было шырока вядомым і яго нельга было ігнараваць. Складальнік Хронікі Быхаўца мог яго толькі прыстасаваць да сваёй агульнай канцэпцыі, зрабіўшы крыніцай полацкіх «вольнасцей» уладу літоўскіх князёў Мінгайлы і яго сына Гінвіла, асоб, прыдуманых самімі храністамі.

Разам з тым, даследчыкі ўжо раней прыйшлі да высновы, што апавяданне пра князя Барыса як стваральніка полацкіх «вольнасцей» і будаўніка полацкіх храмаў не простая выдумка храніста, а вынік існаваўшага яшчэ да з'яўлення Хронікі Быхаўца адпаведнага Полацкага падання. Гісторыкі справядліва лічаць, што вытокі падання трэба адносіць да часоў палітычнай самастойнасці Полацкага княства, гэта значыць да яго ўключэння ў склад Вялікага княства Літоўскага.

Беларуска-літоўскія летапісы яшчэ раз пацвярджаюць, што заснавальнікам Барысава з'яўляецца полацкі князь Барыс.

## «І паклікаў тады епіскап князя Барыса»

Полацкі князь Усяслаў Брачыславіч (Чарадзей) меў шэсць сыноў. Няма звестак аб тым, хто была яго жонка. Гісторык М.І.Ермаловіч выказаў меркаванне, што яна паходзіла са знатнага роду водзі — прыбалтыйска-фінскага племені, якое жыло на тэрыторыі Наўгародскай зямлі, і гэтага нельзя выключаць.

Мала вядома пра старшынства сыноў Усяслава і хто з іх заняў прастол у Полацку пасля смерці бацькі. Адны гісторыкі лічаць старэйшым Давыда, другія — Барыса-Рагвалода. Ермаловіч дапускае, што яны нарадзіліся блізнятамі. Як бы там ні было, але найбольш верагодна, што прастол дастаўся Барысу, ён жа Рагвалод. Ва ўсходніх славян пасля прыняцця хрысціянства нярэдка князі мелі два імені — «хатняе», больш прывычнае, і хрысціянскае, якое давалі чалавеку пры хрышчэнні. Дарэчы, імя Барыс мае грэка-балгарскія вытокі і азначае барэц.

Нарадзіўся Барыс Усяславіч у 50-я гады XI ст. У 1067 г. Усяслаў узяў сыноў Барыса і Глеба з сабой, калі накіраваўся да Оршы для перагавораў з паўднёварускімі князямі Яраславічамі. Паводле загаду вялікага князя кіеўскага Мсціслава Усяслаў разам з двума сынамі быў вераломна схоплены і зняволены ў Кіеве, але вызвалены з турмы паўстаўшымі кіяўлянамі ў 1068 г.

Відаць, Барыс з'яўляўся пасаднікам Усяслава ў Друцку, а пасля смерці бацькі заняў прастол у стольным Полацку. У 1102 г. хадзіў на «ятвягаў» (магчыма, на славянізаваных балтаў), узяў палон, які пасяліў у Барысаве.

Дакладна невядома, калі Барысу давялося часова пакінуць пасад у Полацку. Мяркуюць, што такое магло адбыцца хутка пасля 1106 г. і даравання палачанам вольнасцей. Аднак ёсць паведамленне аб тым, што полацкі епіскап Ілья, даручоючы Ефрасінні Сяльцо, запрасіў князя Барыса як сведку. «І паклікаў тады епіскап князя Барыса, дзядзьку яе і бацьку яе, Георгія ... і пачэсных мужоў (баяр)», — гаворыцца ў «Жыцці Ефрасінні Полацкай». Тут на першае месца пастаўлены князь Барыс, які, трэба думаць, княжыў у Полацку. Адбывалася гэта значна пазней за 1106 г., бо ў той час Прадслава (Ефрасіння) была яшчэ немаўлём.

Князь, які займаў пасад у стольным горадзе, з'яўляўся военачальнікам, узначальваў ваенныя сілы Полацкай зямлі як дзяржаўнага ўтварэння. За паражэнне ў вайне, гібель полацкіх воінаў князь нёс адказнасць перад вечам. Такі лёс не мінуў Барыса.



*Полацкі князь Усяслаў з сынамі перапраўляецца цераз Дняпро і трапляе ў турму. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу. XV ст.*

Адначасова Барыс Усяславіч клапаціўся пра распаўсюджванне хрысціянства ў Полацкай зямлі, калі там існавала дваяверства, і значная частка людзей, прыняўшых новую веру, працягвала пакланяцца язычніцкім фетышам. Ён быў руплівцам духоўнай культуры, прыхільнікам пісьменнасці, новых поглядаў. Барыс заснаваў Барысаглебскі (Бельчыцкі) манастыр каля Полацка, садзейнічаў прападобнай Ефрасінні ў яе падзвіжніцтве. Паводле яго загаду былі выбіты крыжы і добразычлівыя надпісы на Барысавых камянях, аб чым будзе сказана ніжэй.

## Барысаў у падзеях 1127 г. у Полацкай зямлі

Полацкая зямля — гістарычная вобласць у басейнах Заходняй Дзвіны, Бярэзіны, Віліі (цяпер тэрыторыя Віцебскай вобласці і паўночнай часткі Мінскай з гарадамі Мінск, Барысаў і інш.). Назва «Полацкая зямля» выкарыстана ў Лаўрэнцьеўскім летапісным зводзе пры апісанні падзей 980 г. як сінонім Полацкага княства. Гэта тэрыторыя ў Іпацьеўскім летапісным зводзе пад 862 г. названа воласцю Полацка. У Лаўрэнцьеўскім летапісным зводзе тлумачыцца, што Полацкая зямля з'яўляецца «отчиной» Рагнеды Рагвалодаўны, яе сына Ізяслава, унука полацкага князя Рагвалода і іх нашчадкаў (у сэнсе бацькаўшчына, зямля продкаў). Тут склалася Полацкая зямля-дзяржава з дынастыяй Ізяславічаў (Рагвалодавічаў), якая дасягнула свайго росквіту ў часы праўлення Усяслава Чарадзея (1043—1101).

Полацкія князі былі ўласнікамі тэрыторыі, дзе ажыццяўлялася іх улада. Фарміраванне меж уладанняў полацкага князя адбывалася ў X—XI ст. Перыядычныя спробы паўднёварускіх князёў прымусіць Полацк і Менск (так называўся Мінск у старажытнасці) падпарадкавацца ўладзе Кіева прывозілі да ваенных сутычак. Гэта былі «хатнія войны», як іх называў беларускі гісторык Усевалад Ігнатоўскі. Але яны прыносілі шмат шкоды і пакут людзям. Дастаткова ўспомніць бітву на Нямізе 1067 г. Аб ёй аўтар «Слова пра паход Ігаравы» з болем у сэрцы пісаў: «На Нямізе снапы сцелюць з галоў, малоцяць цапамі булатнымі, на таку жыццё кладуць, веюць душу ад цела». У пачатку XII ст. Уладзімір Манамах, заняўшы кіеўскі прастол, імкнуўся ўмацаваць старажытную Русь у шырокім сэнсе і прымусіць іншых князёў падпарадкавацца яму. Гэтыя спробы прывялі толькі да часовага поспеху. Традыцыі жорсткай палітыкі свайго бацькі працягваў сын Манамаха вялікі князь кіеўскі Мсціслаў (1125—1132).

У 1127 г. Мсціслаў арганізаваў незвычайны паход у Полацкую зямлю «на крывічоў», як тады называлі яе жыхароў. Ён накіраваў галоўныя ваенныя сілы чатырма дарогамі з гарадоў Турава, Уладзіміра на Валыні, Гродна і з Клецка. Князі павінны былі весці свае дружыны да Ізяслаўля (цяпер Заслаўе). Чарнігаўскі князь Усевалад Вольгавіч з моцнай дружынай ішоў на Стрэжаў да Барысава. Туды ж быў пасланы ваявода Іван Вайцішыч з качэўнікамі-торкамі. Гісторыкі спрачаюцца, як разумець фразу «на Стрэжаў к Барысаву»

і з якога напрамку ішло войска на Барысаў. Застаецца невядомым, дзе размяшчаўся Стрэжаў. Мяркуюць, што гаворка ідзе пра сучасны гарадскі пасёлак Стрэшын у Жлобінскім раёне. Стрэшын знаходзіцца на значнай адлегласці ад паўднёва-ўсходняй мяжы Полацкай зямлі, як яе звычайна вызначаюць. Але ў перыяд феадалізму не выключалася міжпалоснасць уладанняў.

Велікакняжацкі полк на чале з сынам Мсціслава Ізяславам быў пасланы з Курска на Лагойск. Другі сын вялікага князя кіеўскага Расціслаў з моцным смаленскім войскам рухаўся да Друцка з усходняга боку. За ўсю гісторыю існавання Полацка гэта быў самы вялікі кааліцыйны паход кіеўскага князя супраць полацкіх князёў.

Тады на полацкім прастоле знаходзіўся князь Давыд Усяславіч. Лагойск і Ізяслаўль (Заслаўе) былі захоплены і разрабаваны. У гэты час Мінск, верагодна, знаходзіўся ў падпарадкаванні паўднёварускіх князёў Яраславічаў, бо інакш войска Мсціслава, накіраванае ў Полацкую зямлю, не абышло б горада па паўднёвай яе мяжы. Полацкія князі не маглі згадзіцца з ранейшай стратай Мінска, і гэта, мусіць, стала адной з прычын вайны.

Войска саюзнікаў набліжалася да Полацка. Палачане вырашылі за лепшае прагнаць з горада Давыда Усяславіча з сынамі, мяркуючы, што гэта будзе садзейнічаць спыненню вайны і разарэння невінаватых людзей. Застаецца невядомым, ці былі ўзяты саюзнікамі




*Полацкая зямля ў X—XII ст.: 1 — цэнтры зямель-княстваў; 2 — цэнтры ўдзельных княстваў; 3 — малыя гарады; 4 — тэрыторыя, якая ў 1116 г. адышла ад Полацкай зямлі; 5 — граніцы княстваў; 6 — сучасныя граніцы Беларусі.*

Барысаў і Друцк. У летапісе аб гэтым нічога не сказана. На полацкі прастол быў зноў выбраны друцкі князь Барыс Усяславіч. Гэта задавальняла кіеўскага князя Мсціслава, які арганізаваў паход. Аднак Барыс (Рагвалод) Усяславіч хутка памёр у пачатку 1129 г.

## Барысавы камяні

На тэрыторыі Беларусі вядомы манументальныя помнікі пісьменства XII ст., так званыя Барысавы камяні, якіх зафіксавана сем. У народзе іх называюць Барыс, Барыс Хлебнік, Пісанік і інш. На вялізных валунах ледавіковага паходжання высечаны 6-канцовыя крыжы і надпісы: «Господи помози рабу своему Борису». Усе камяні ляжаць у межах былой Полацкай зямлі-княства. У рэчышчы Заходняй Дзвіны ніжэй Полацка іх знаходзілася чатыры. Даследчыкі далі каменям свае нумары як помнікам эпіграфікі. За 5 км ад Полацка каля в. Падкасцельцы ляжаў у вадзе недалёка ад берага Заходняй Дзвіны вялізны гранітны валун каля 8 м у акружнасці. Вясной ён увесь заліваўся вадой і павольна выступаў з-пад яе ў пачатку жніўня. На валуне высечаны крыж даўжынёй 1,5 м і надпіс з імем Барыса. Існавала легенда, быццам на ім ляжаў бохан хлеба. Гэтаму каменю на картах-схемах дадзены № 1. У 1981 г. камень перавезены ў Полацк і пастаўлены на Верхнім замку побач з Сафійскім саборам.




*Схема размяшчэння камянёў з надпісамі XII ст.: 1—6 — Барысавы камяні; 7 — Рагвалодаў камень.*





*Камяні князя Барыса Усяславіча з надпісамі XII ст.*

Другі дзвінскі камень (№ 2) яшчэ большы па памерах, ляжаў за 40 км ніжэй Полацка каля в. Накоўнікі, меў у акружнасці 11 м. На ім выразна выбіты надпіс. Трэці Барысаў камень (№ 3) знаходзіўся пры ўпадзенні р. Друйкі ў Заходнюю Дзвіну. Надзвычай вялікі валун меў у акружнасці 17 м. Вышыня высечанага на ім крыжа 3 м.

Барысаў камень (№ 4) каля в. Высокі Гарадзец размяшчаўся на сушы ў раёне Друцка. На амаль квадратнай пліце высечаны 8-канцовы крыж, а па краях звычайны добразычлівы надпіс: «Господи помози рабу своему Борису», які заканчваецца яшчэ двума словамі: «многа лета». Сэнс гэтых слоў — пажаданне князю Барысу доўгага веку. Напэўна, надпіс зроблены ў 1127 г. з выпадку заканчэння вайны і вяртання ўжо хворага Барыса на прастол у Полацк.

У в. Камена Вілейскага раёна на сушы захаваўся да нашага часу камень (№ 6), на якім высечаны крыж і надпіс: «Воротишин крест, господи, помози рабу своему».

Пытанне аб паходжанні надпісаў на Барысавых камянях больш за 300 гадоў прыцягвае ўвагу аматараў старажытнасцей, краязнаўцаў, гісторыкаў, мовазнаўцаў. Адны лічылі камяні межавымі знакамі Полацкага княства, другія меркавалі, што надпісы зроблены з мэтай паляпшэння суднаходства па Дзвіне (адзначалі мелі), трэція бачылі ў іх клопат аб увекавечванні памяці князя Барыса.

Як лічыў маскоўскі вучоны Б.А.Рыбакоў, з прозвішчам Барыса асацыіравалася старажытнае аграрнае свята першых яравых усходаў, да якога у XII ст. прыстасавалі дзень святых Барыса і Глеба (2 мая). Вялізныя крыжы і надпісы заклікалі дапамогу Бога яго рабу Барысу, каб быў добры ўраджай і не здараўся голад, які спасцігнуў палачан у 1127—1128 гг.

Зусім іншыя думкі выказвае М.І.Ермаловіч, перакананы, што з’яўленне надпісаў на камянях «звязана з вайсковымі паходамі князя Барыса на ятвягаў у 1102 г. і земгалаў у 1106 г.».

У беларускіх энцыклапедычных выданнях Барысавы камяні характарызуюцца як язычніцкія старадаўнія фетышы. У 1-й трэці XII ст. у сувязі з ажыўленнем паганскіх



*Князь Барыс. Малюнак мастака М.Рыжага.*

вераванняў полацкі князь Барыс загадаў выбіваць крыжы на камянях-фетышах. Каб увекавечыць імя князя за яго пажаданы Богу ўчынак, на камянях высякаўся адпаведны надпіс.

Варта прыгадаць, што выслоўе «Господи помози рабу своему» з'яўляецца даслоўным перакладам формулы, якая шырока выкарыстоўвалася ў Візантыі на манетах, пячатках, амулетах, медальёнах. Адтуль гэта формула закліку дапамогі Божай распаўсюдзілася ва ўсходніх славян і ў Полацкай зямлі.

Надпісы на Барысавых камянях зроблены не ўсе адначасова, а з нагоды пэўных падзей у жыцці князя і ўсёй Полацкай зямлі, прычым яны мелі сакраментальны сэнс, пра што сведчыць шырока распаўсюджанае добразычлівае выслоўе.

Добрая памяць пра князя Барыса доўга захоўвалася ў Полацкай зямлі, а надпісы на камянях абяссмерцілі яго імя.

*Г.В.Штыхаў.*

# ГОРАД У СВЯТЛЕ АРХЕАЛАГІЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

## Замчышча на востраве

Доўгі час заставалася невядомым месца размяшчэння першапачатковага Барысава. Варта ўспомніць гісторыка XVI ст. Гваньіні, які пісаў, што Барысаў — горад старажытны, яго драўляны замак з вежамі і равамі абкружаны Бярэзінай. У дакументах XVI—XVII ст. неаднаразова ўпамінаецца замак у Барысаве. Ён знаходзіўся на востраве Бярэзіны і меў добрыя драўляныя (дубовыя) умацаванні: фундамент з раўнасценных зрубаў, запоўненых зямлёй і камянямі. Зверху знаходзіўся тын — агароджа з вертыкальных і папярочных бярвёнаў, «вежы» — высокія і вузкія збудаванні, зручныя для абароны. Да замка з паўночнага ўсходу прымыкаў горад, выключна драўляны, што дэталёва высветліў архівіст Дз.І.Даўгяла.



*План-схема Барысава паводле А.М.Ляўданскага, 1928 г.*

Археолаг А.М.Ляўданскі ў 1928 г. упершыню абследаваў гістарычны цэнтр Барысава. Ён карыстаўся схематычным планам горада 1845 г., дзе тэрмінам «гарадзішча» абазначаны ўчастак, які мае выгляд вострава і абкружаны з трох бакоў старыцай Бярэзіны на левым нізкім яе беразе. Больш дакладны план гэтай часткі Барысава складзены ў 1930 г. Тады замчышча («гарадзішча») яшчэ захоўвала адзнакі абкру-



*Стара-Барысаў. Агульны выгляд на гарадзішча, дзе быў заснаваны Барысаў. Фота 1969 г.*

жэння вадой. Памеры ўчастка, па форме блізкага да авалу, складалі 350 х 200 м і амаль адпавядалі звесткам аб памерах замка XVII ст. Замчышча было пашкоджана ў час правядзення праз яго дарогі.

Ляўдански зрабіў даследаванне ў трох невялікіх археалагічных шурфах. У двух выпадках зафіксаваны невыразны культурны слой таўшчынёй да 2 м. У ніжняй вугальнай праслойцы выяўлены 2 кавалкі ганчарнай керамікі. Матэрыялаў часоў Полацкага княства і Кіеўскай Русі на замчышчы Ляўдански не знайшоў, аднак, мяркуючы па курганным могільніку, які знаходзіўся недалёка на пагорках, пісаў аб зараджэнні тут Барысава ў XI ст. З гэтым пагадзіўся даследчык старажытнасцей Полацкай зямлі А.В.Аляксееў.




*Схема гарадзішча і селішча ў Стара-Барысаве (1 – 6 – раскопы і шурфы).*

У 1963 г. на замчышчы ў час земляных работ на вуліцы Гогаля на глыбіні 1 м знойдзены 10 каменных гарматных ядраў. Іх дыяметр 20—40 см. Такія ядры выкарыстоўваліся для бамбард XIV—XV ст., якія стралялі порахам. Гэта самыя старажытныя рэчы, якія вядомы дагэтуль з тэрыторыі Барысаўскага замчышча.

У 60-я гады XX ст. Г.В.Штыхаву давялося некалькі разоў абследаваць замчышча ў Барысаве, назіраць за землянымі работамі, заглядваць у канавы і ямы, аглядаць невялікія схілы пагорка, але не было заўважана нічога, што гаварыла б пра існаванне ранняга гарадзішча. Апошняя надзея звязвалася з той часткай былога

вострава, дзе захаваліся руіны позняга цаглянага будынка. На дворы быў закладзены шурф 2х2 м. Пласт чорнай зямлі складаў 0,5 м. Знойдзены кавалкі пасудзін XVIII—XIX ст. Ніякіх рэшткаў старажытнага горада не было выяўлена.

## Раскопкі ў Стара-Барысаве

Паколькі прыкмет ранняга паселішча на тэрыторыі сучаснага горада не было знойдзена, узнікала думка аб засваенні Барысава дзесьці ў іншым месцы.

Паставіць па-новаму пытанне аб узнікненні Барысава зноў дапамагла тапаніміка. Аказваецца, яшчэ нядаўна мясцовыя жыхары адрознівалі тры назвы горада: Стары Барысаў (цяпер Стара-Барысаў), проста Барысаў, дзе некалі размяшчаўся замак, і Новы




*Вырабы XII—XIII ст., знойдзеныя ў час раскопак у Стара-Барысаве: 1—3 — бронзавыя спражкі; 4—5 — бронзавыя пярсцёнкі; 6 — бронзавая бразготка; 7 — металічная дрыгавіцкая пацерка; 8 — свінцовая загатоўка для пячаткі; 9—10 — касцяныя грабеньчыкі; 11— касцяная пятля для налучча; 12—13 — каменныя ўрацкія праселкі для верацяна; 14—15 — фрагменты шкляных бранзалетаў.*



*Залатое скроневае кольца канца XII — першай паловы XIII ст. з раскопак у Стара-Барысаве.*

Барысаў (узнік у сувязі з будаўніцтвам чыгуначнай станцыі). Стара-Барысавам называецца тэрыторыя цэнтральнай сядзібы прыгараднага саўгаса, які носіць тую ж самую назву. Аб трох Барысавах пісалі аўтары грунтоўнага даследавання ў 1910 г. і адзначалі, што маёнтак Стара-Барысаў належаў раней князю Радзівілу, апошнія яго ўладальнікі — расійскія вялікія князі Мікалай Мікалаевіч і Пётр Мікалаевіч.

Звычайна старым горадам завуць месца, дзе ўзнікла першапачатковае паселішча. Так здарылася і на гэты раз.

Стара-Барысаў знаходзіцца за 5 км ад замчышча. Супрацоўнікі археалагічнай экспедыцыі з дапамогай мясцовага краязнаўца настаўніка Стара-Барысаўскай школы-інтэрната Мікалая Мікалаевіча Прохарчыка хутка знайшлі тое месца, якое шукалі амаль 40 гадоў.

У Стара-Барысаве было адкрыта ў 1968 г. тыповае мысавое гарадзішча. Яго пляцоўка авальная, плошчай прыкладна 1 га. Помнік знаходзіцца на левым беразе Бярэзіны, узвышаецца на 8—10 м над шырокай забалочанай поймай. Сляды валоў не захаваліся. Участак аддзелены ад карэннага берага штучным ровам. Побач знаходзіцца возера, з якога выцякае ручай, які ўпадае ў Бярэзіну; мабыць, раней тут быў адзін з прытокаў Бярэзіны. Магчыма, ён паказаны на карце 1595 г. пад назвай Барысы, аб чым ужо гаварылася. Гарадзішча займае крайнюю аканечнасць мыса, які агароджаны з усходу возерам і ручаём, а з захаду — доўгім ярам. З паўночнага боку гарадзішча прылягае роў, за якім знаходзіцца селішча.

Археалагічныя раскопкі праводзіліся ў 1968, 1969, 1971 гг. пад кіраўніцтвам Г.В.Штыхава. На гарадзішчы вывучана 224 кв. м, на селішчы — 96 кв. м. Памеры раскопак сціплыя, але менавіта дзякуючы ім адкрыта новая старонка ў сярэдневяковай гісторыі горада. Найбольш важныя вынікі атрыманы пры даследаванні гарадзішча. Паколькі яно цесна забудавана, раскопы закладваліся невялікія і размяшчаліся ў чатырох месцах. Магутнасць культурнага слою складала ў сярэднім 0,9 м, не ўлічваючы ям у мацерыку, глыбіня якіх дасягала 0,8 м. Дрэва не захавалася, але сустракаецца шмат вуголля. Культурны слой пашкоджаны сучаснымі перакопамі. Толькі месцамі захаваліся напластаванні XII—XIII ст. Бліжэй да цэнтра пляцоўкі гарадзішча пры зачыстцы грунту

зафіксаваны сляды пабудовы слупавой канструкцыі (3 х 3 м).

У другім месцы выяўлена незвычайная яма памерам 2,2 х 2,2 м. Яна паглыблена ў грунт на 0,8 м. У запаўненні ямы шмат закураных і абгарэлых камянёў, якія размяшчаліся хаатычна. Хутчэй за ўсё, яны былі ад разбуранай печы-каменкі. Выяўлены сляды моцнага пажару. У яме знойдзены наступныя рэчы: 5 шкляных бранзалетаў і рэшткі шклянога пярсцёнка блакітнага колеру, 2 каменныя оўруцкія праселкі для верацяна, жалезная сякера XII—XIII ст., 2 нажы, тачыльны камень, цвік, навясны замок, касцяны трапецападобны грэбень. Самая каштоўная знаходка — залатое скроневае кольца, або «трохпацеркавая завушніца кіеўскага тыпу». Вага вырабу 4,5 г, памеры 2,7 см. Такія знаходкі рэдкія для тэрыторыі Беларусі, часта сустракаюцца ў скарбах на Кіеўшчыне, у самім Кіеве і ў Старой Разані. Дата захавання скарбаў — 70-я гады XII ст. і 1240 г. Можа, знойдзеныя рэчы належалі выхадцу з Кіеўшчыны, які з'явіўся ў Барысаве ў выніку мангола-татарскай навалы.




*Паўднёвая гліняная амфара (вышыня 54 см) і налучча. XII — XIII ст. Рэканструкцыя па матэрыялах раскопак у Стара-Барысаве.*

Яма, аб якой гаварылася вышэй, падобная на рэшткі паўзямлянкі, але яе плошча — 4,4 кв. м — надта малая для жылля. Магчыма, гэта паглыблены падклет драўлянай наземнай хаты. Падклеты XII—XIII ст. у нашых гарадах рэдкія, вядомы ў Рэчыцы.

Рэчавы інвентар, выяўлены ў Стара-Барысаве, тыповы для горада XII—XIII ст. (59 шкляных бранзалетаў, 26 шыферных праселак для верацён, абломкі паўднёвых амфар і інш.). Прадметаў узбраення параўнаўча няшмат, наканечнікі стрэлаў, шпоры коннікаў. Ёсць 2 сярпы, каса-гарбуша. Знойдзены 3 падковападобныя бронзавыя спражкі (фібулы), з іх 2 арнаментаваныя належаць да лета-літоўскіх тыпаў.

Шкляныя бранзалеты (знойдзены ў фрагментах) па колеры і форме звычайныя для іншых усходнеславянскіх (старажытнарускіх) гарадоў. Аднак адзін бранзалет з Барысава належыць да ліку вельмі рэдкіх. Ён цёмна-чырвонага колеру, гладкі і тонкі. Толькі сярод смаленскіх і аршанскіх знаходак ёсць некалькі фрагментаў шкляных цёмна-чырвоных

бранзалетаў. Знойдзена фіна-угорскае ўпрыгажэнне са срэбра або білона — полая зааморфная шумячая прывеска XII—XIV ст.

Керамічны матэрыял прадстаўлены, як звычайна, абломкамі кухоннай керамікі. Амаль уся яна зроблена на ганчарным крузе. Сустракаецца кераміка спецыфічнага полацкага тыпу. Ляпная, зробленая ад рукі, кераміка, магчыма IX ст., знойдзена ў адзінкавых экзэмплярах. Гэта ж адносіцца да кругавой керамікі, якую можна аднесці да X—XI ст. Не выпадкова кавалкі ляпных і раннеганчарных пасудзін апынуліся ў напластаваннях (прытым на мацерыку) старажытнага горада. Відаць, горад засноўваўся на месцы паселішчаў больш ранняга часу.

На селішчы таўшчыня культурнага слою — 0,9 м. Унізе выяўлены чорны пласт з вугалем і тыповымі рэчамі, як і на гарадзішчы, часоў Полацкага княства. Звяртае ўвагу знаходка буйной пустацелай зярнёнай пацеркі дрыгавіцкага тыпу, а таксама маленькі шкляны кубік ад мазаікі блакітнага колеру. Якраз такія ж дробныя кубікі выкарыстаны для мазаікі Кіеўскай Сафіі XI ст. Для Полацка яна зусім не характэрна. На абломку ручкі амфары захавалася графіці — выдрапаная літара «В».

Бытавая кераміка (кавалкі гаршкоў) з селішча аналагічная глінянаму посуду з гарадзішча і датуецца, у асноўным, XII—XIII ст. Неаднаразова выяўлена кераміка, звычайная для матэрыяльнай культуры Полацка. Тут вельмі рэдкія абломкі раннеганчарных пасудзін канца X — пачатку XI ст. Аднак важна, што яны прысутнічаюць не толькі сярод старажытнасцей гарадзішча, але і пасада, пра што будзе яшчэ размова далей.

Як паказалі даследаванні, асноўнае неўмацаванае паселішча размяшчалася на поўнач ад гарадзішча і мела плошчу каля 3 га. Пасад Барысава па памерах быў параўнальна невялікі і перавышаў плошчу гарадзішча ў 3 разы. Насельніцтва Барысава ў XII—XIII ст. складала некалькі соцень жыхароў.

## Некропаль старажытнага Барысава

Істотным пытаннем археалагічнага вывучэння гарадоў лічыцца вызначэнне гарадскіх некропаляў і іх памераў, этнічнай прыналежнасці пахаваных жыхароў. Каля старажытных гарадоў узнікалі курганныя некропалі (курганныя могільнікі). Шкада, што не захаваліся і фактычна засталіся невядомымі для навукі некропалі старадаўніх Полацка і Віцебска.

У Беларусі найлепш даследаваны некропаль Ізяслаўля (цяпер Заслаўе). У бліжэйшых ваколіцах горада выяўлена 10 курганных могільнікаў (усяго 367 насыпаў X — 1-й чвэрці XII ст.). Вучонымі даследаваны 142 курганы. Храналагічна і тэрытарыяльна курганныя могільнікі звязаны з асобнымі паселішчамі і пэўнымі часткамі старажытнага горада Ізяслаўля, з чым варта было б параўнаць Барысаўскі некропаль.

Курганны могільнік — гэта месца пахавання памерлых, паводле язычніцкага звычаю. Для ўсходніх славян характэрны курганы з земляным насыпам. У Беларусі малыя курганы

маюць вышыню 0,3—0,4 м і дыяметр 3—4 м. Часта сустракаюцца сярэднія курганы вышынёй 1—2 м, дыяметрам 7—10 м. Зрэдку бываюць насыпы вышынёй да 4 м, дыяметрам 20 м.

Старажытныя людзі верылі, што быццам бы на тым свеце нябожчыку неабходна ўсё тое, чым ён карыстаўся пры жыцці. Таму ў магілу клалі розныя рэчы: упрыгажэнні, прылады працы і прадметы хатняга ўжытку, зброю, нават ежу ў гаршках. Згодна з вельмі даўнімі язычніцкімі вераваннямі, агонь быў ачышчальнай, свяшчэннай сілай. Яму і аддавалі цела нябожчыка разам з яго рэчамі, спальваючы ўсё на агні.

Царква непрыязна ставілася да язычніцкіх звычаяў пахавання ў курганах. Нягледзячы на гэта, насельніцтва, асабліва ў вёсцы, на працягу XI—XII ст. працягвала хаваць памерлых пад курганамі, аднак у хуткім часе пасля прыняцця хрысціянства іх больш не спальвалі. Рэчы, якімі забяспечвалі нябожчыка, таксама не гінулі ў полымі вогнішча, і цяпер яны з'яўляюцца каштоўнымі крыніцамі пры археалагічных даследаваннях.

Курганы даюць багаты матэрыял па гісторыі ўсходніх славян. Археолагі, вывучаючы курганы, праз многія стагоддзі вызначылі граніцы паміж усходнеславянскімі плямёнамі больш дакладна, чым гэта зрабіў старажытны летапісец. Вучоныя ўстанавілі, што граніца



*Рэчы, знойдзеныя ў час раскопак курганоў XI —XII ст.: пацеркі, бранзалет, пярсцёнкі, крыжыкі.*

паміж полацкімі крывічамі і дрыгавічамі была на поўнач ад Мінска, па лініі сучасных гарадоў Заслаўе—Барысаў—Талачын. Такім чынам, у паўночнай частцы Барысаўскага раёна сярод жыхароў, відаць, пераважалі крывічы, а ў паўднёвай — дрыгавічы.

У 1928 г. археолаг А.М.Ляўданскі дэталёва абследаваў курганны могільнік, які знаходзіцца за 2 км на поўнач ад Барысаўскага замчышча на левым беразе Бярэзіны. Цяпер гэта паўночна-заходняя частка Барысава (раён санаторыя «Бярэзіна»).

Курганы размяшчаліся ў сасновым лесе на высокіх узгорках і часткова на схілах. Значная частка курганоў парасла дрэвамі. З курганоў адкрываўся прыгожы кругагляд на шырокую даліну Бярэзіны. Фактычна тут размяшчаўся курганны некропаль Барысава, які складаўся з 6 могільнікаў (курганных груп). Да 1926 г. у 6 групах было 204 курганы. Цяпер захаваліся 2 курганныя групы з 70 насыпаў. Курганы насыпаны з пяску, у плане круглыя, некаторыя крыху падоўжаныя. Вышыня насыпаў складала 0,8—2 м, дыяметр 6—10 м. Адзін курган мае вышыню 3 м, дыяметр 20 м.

Курганы вывучалі У.З.Завітневіч, А.М.Ляўданскі (1928), Г.В.Штыхаў (1971). Даследавана 14 насыпаў. Асноўны пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце галавой на захад. Чатыры пахаванні былі змешчаны ў грунтавых ямах глыбінёй да 1 м, прычым у адным выпадку пахаваны мужчына і жанчына (маладая) без інвентару. Зафіксавана пахаванне нябожчыка, верагодна, у сядзячым становішчы, што ў Беларусі сустракаецца рэдка.

У пахаваннях знойдзены бронзавыя і сярэбраныя пацеркі тыпу дрыгавіцкіх, шматгранныя і круглыя сердалікавыя пацеркі, адна хрустальная, некаторыя пацеркі шкляныя пазалочаныя і пасярэбраныя. Выяўлены бронзавы пласціністы бранзалет, лунніца, пярсцёнкі, бронзавыя крыжыкі, вялікі жалезны серп.

Могільнік з'яўляецца некропалем старажытнага Барысава. Ляўданскі датаваў яго канцом XI—XII ст., але не выключаў больш ранніх пахаванняў.

Выказваюцца меркаванні, быццам князь Барыс заснаваў горад Барысаў, каб пасяліць тут палонных ятвягаў. Ятвягі — заходнебалцкія плямёны, якія жылі паміж Нёманам і р. Нараў (цяпер на тэрыторыі Польшчы). Асноўнымі археалагічнымі помнікамі ятвягаў лічацца каменныя курганы. Ніякіх прыкмет знаходжання ятвягаў у Стара-Барысаве не знойдзена, а курганы Барысаўскага некропаля насыпаны з пяску без усякага выкарыстання камянёў.

## Адметнасць гістарычнай тапаграфіі Барысава

Пісьмовыя крыніцы называюць на тэрыторыі Беларусі каля 35 гарадоў пры апісанні падзей, якія адбываліся ў IX—XIII ст.

Невялікія гарады ў раннесярэдневяковы перыяд праходзілі просты этап сваёй планіроўкі: умацаваны цэнтр — дзядзінец (назва ад «дзяды» — старэйшыны родаў, якія некалі збіраліся ў цэнтры паселішча), побач з умацаваннем знаходзіўся пасад — паселішча

гараджан. Недалёка размяшчаўся курганны могільнік. Такую планіроўку меў Барысаў. Больш складаную структуру размяшчэння мелі вялікія і сярэднія па памерах гарады. Побач з дзядзінцам узнікаў вакольны горад, абнесены валамі і равамі, утвараючы другую лінію абароны, неўмацаванае паселішча і курганны могільнік. Рэшткі такога тыпу планіроўкі прасочваюцца дагэтуль на беразе Друці, дзе размяшчаўся Друцк.

Гістарычны лёс усходнеславянскіх населеных пунктаў падпарадкоўваецца агульным заканамернасцям станаўлення горада і гарадской культуры. У той жа час абставіны ўзнікнення і развіцця кожнага з іх маюць свае асаблівасці, што адносіцца таксама да Барысава.

У нашай гістарыяграфіі выкарыстоўваецца тэрмін «перанос гарадоў». Вучоныя прыйшлі да высновы, што Смаленск узнік у IX ст. на месцы сучаснага сяла Гнёздава, а затым быў «перанесены» на 10 км, дзе горад размешчаны цяпер. Падобныя думкі выказваюцца адносна Вялікага Ноўгарада: спачатку ўмацаваны цэнтр горада быў на Рурыкавым гарадзішчы, а затым перамясціўся на 5 км к поўначы і атрымаў імя «Новага горада».

Даследчыкі сярод прычын пераносу гарадоў у X—XI ст. называюць змену этнічнага складу насельніцтва, знішчэнне старой родаплемяннай знаці, патрэбы гандлю, ваенныя мерапрыемствы князёў, працэс больш актыўнага развіцця феадалізму. Перанос гарадоў уяўляецца гісторыкам не як адначасовы, хуткі акт. Замена старых цэнтраў новымі поўнасцю адбываецца на працягу прыкладна 25 гадоў у перыяд змены аднаго пакалення другім.

Правамернасць пастаноўкі пытання аб змене месцапалажэння гарадоў у розныя перыяды сярэднявечча можна пацвердзіць на прыкладзе гарадоў Полацкай зямлі. Вызначэнне першапачатковага размяшчэння буйных населеных пунктаў тут не выклікала асаблівых цяжкасцей. Аднак не адразу ўдалося ўстанавіць, дзе знаходзіўся Полацк у IX — пачатку X ст. Цяпер даказана, што першапачаткова ўмацаваны цэнтр размяшчаўся на гарадзішчы на беразе Палаты. У XI ст. дзядзінец перамясціўся з гарадзішча на Верхні замак на адлегласць 0,8 км. Гораду, які рос і развіваўся, было зручней мець сваё ядро на беразе важнай артэрыі — Заходняй Дзвіны, чым на адлегласці ад яе.

У 30-я гады XX ст. выказана меркаванне аб пераносе Менска з берагоў Менкі ў вярхоўі Пцічы на 16,7 км да берага Свіслачы і вусця Нямігі. Пасля новых грунтоўных даследаванняў гэты вывад можна лічыць прызнаным у сучаснай навуцы.

Краязнавец Р.А.Друцкі-Падбярэзскі ў публікацыі 1848 г. адным з першых сцвярджаў, што Барысаў быў закладзены ў некалькіх вярстах на поўнач ад сучаснага горада. Гісторык і археолаг Р.Г.Ігнацьеў у 1877 г. надрукаваў змест мясцовага падання аб перанясенні ўстарадаўнасці Барысава «па прычыне поўнага бязводдзя». Дарэчы, у гэтых месцах рэчышча Бярэзіны ляжыць на адлегласці 1,8 км ад надпоймавай тэрасы, дзе знаходзіцца Стара-Барысаў. Шкада, што пра папярэднія цікавыя публікацыі не ведаў А.М.Ляўданскі, калі ў 1928 г. абследаваў археалагічныя помнікі Барысава.

Як сведчаць археалагічныя даследаванні, даныя тапанімікі і паведамленне В.М.Тацішчава, горад Барысаў сапраўды быў закладзены ў самым пачатку XII ст. (1102) на месцы невялікага паселішча ў цяперашнім Стара-Барысаве. Праз некалькі стагоддзяў (верагодна, у XIV—XV ст.) горад змясціўся на 4—5 км туды, дзе ў часы Вялікага княства Літоўскага быў пабудаваны новы Барысаўскі замак. Такой адметнай з'яўляецца гістарычная тапаграфія горада на Бярэзіне недалёка ад вусця Схі.

## Брылёўская знаходка — новая загадка

Кажуць, быццам адкрыцці робяцца выпадкова. Так гэта ці не, няхай спрачаюцца гісторыкі. Але ў 2000 г. каля вёскі Брылі, за 15 км на поўнач ад Барысава, зусім выпадкова быў адкрыты комплекс рэчаў і арабскіх манет, якія ўяўляюць вялікую навуковую каштоўнасць.

У забалочаным месцы недалёка ад ракі амаль на паверхні былі заўважаны і падабраны меч з металічнай ручкай і масіўным навершам (датуецца, паводле тыпалогіі, канцом IX ст.), звыш 200 арабскіх манет-дырхемаў, 10 гірак-раўнаважак для мініяцюрных (накшталт аптэчных) шаляў, тоўсты сярэбраны дрот, відаць, ад пашкоджанай шыйнай грыўні. Скарбы арабскіх манет у Беларусі знойдзены неаднаразова, аднак манеты разам з разнаважкамі і мячом такога тыпу, якія былі папулярны ў скандынаваў-вікінгаў, — упершыню.

Калі б такая знаходка была выяўлена ў Полацку, ці яго наваколлі, усё было б зразумела. Полацк упершыню названы ў Пачатковым летапісе пад 862 г. Летапісец адзначаў, што горад заснавалі крывічы, а варагі (скандынавы) у ім прышлыя.

Нічога няма неверагоднага ў меркаванні, што нейкі воін, мусіць, нават скандынаў, трапіў з Полацка на Бярэзіну. Брылёўская знаходка і бліжэйшае наваколле патрабуюць дэталёвага вывучэння. Паўстае пытанне, ці не мае яна адносін да гісторыі Барысава? Як ужо было падкрэслена, у Стара-Барысаве на гарадзішчы і суседнім селішчы-пасадзе знойдзена ляпная кераміка IX—X ст. і кругавы посуд XI ст. Прадметаў такіх мала, адпаведны культурны пласт адсутнічае. Значыць, паселішчы таго часу былі невялікія, рэдка заселеныя, ва ўсякім разе ў тых месцах, дзе праводзіліся даследаванні. Раскопкі ў Стара-Барысаве невялікія і таямніцы паселішчаў яшчэ не ўсе раскрыты.

Аднак ужо цяпер можна сцвярджаць, што князь Барыс засноўваў горад не на пустым месцы. Паселішча, мабыць, было таксама каля Брылёў і ў іншых месцах Барысаўшчыны. У Стара-Барысаве мог часова існаваць пагост, куды наведваўся княжацкі намеснік (княжы муж), які збіраў даніну з мясцовага насельніцтва і адпраўляў яе ў Полацк. Не выпадкова князь Барыс, прадстаўнік полацкай княжацкай дынастыі, выбраў менавіта тут месца для заснавання сталага цэнтра воласці — горада Барысава. Усё гэта застаецца пакуль што загадкай. Для яе раскрыцця неабходны далейшыя намаганні даследчыкаў і пэўныя праекты.

**Крыніцы:**


Алексеев Л.В.Полоцкая земля в IX—XIII вв. (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966.
Археалогія Беларусі: У 4 т. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (IX—XIII стст.). Мн., 2000.
Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1993.
Воронин Н.Н. Бельчицкие руины // Архитектурное наследство, № 6. М., 1956.
Даўгяла З.І.Барысаўскі замак // Працы археалагічнай камісіі. Т. 2. Мн., 1930.
Друцкий-Подберезский Р. Город Борисов. Исторический взгляд // Иллюстрация. 1848. Т. 6. № 22.
Ермаловіч Мікола. Старажытная Беларусь. Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.
Каханоўскі Г.А.Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984.
Ляўданскі А.Археалагічныя доследы ў Барысаве // Працы археалагічнай камісіі. Т. 2. Мн., 1930.
Очерки по археологии Белорусии. Ч. 2. Мн., 1972.
Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись. М., 1962.
Полное собрание русских летописей (Летописи и хроники). Т. 32. М., 1975.
Прохорчик Н.Н., Штыхов Г.В. Курганная группа Пчельник — Кищина Слобода // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969.
Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. СПб., 1905.
Рыбаков Б.А. Русские датированные надписи XI—XIV веков. М., 1964.
Татищев В.Н. История Российская. Т. 2. М.; Л., 1963.
Хроника Быховца. Предисловие, комментарий и перевод Н.Н.Улащика. М., 1966.
Чантурия В.А. Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии. Мн., 1986.
Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Мн., 1978.
Штыхаў Г.В. Крывічы. Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мн., 1992.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 1—6. Мн., 1993—2001.


*Г.В.Штыхаў.*

# БАРЫСАЎ У ЧАСЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Пра час уваходу Барысава ў склад Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ) дакладных звестак няма. Найбольш верагодна, што гэта адбылося пры вялікім князю Гедзіміне (1315—1341), які значна пашырыў межы дзяржавы. У адным з рускіх летапісаў прыгадваецца, што васалам Гедзіміна быў менскі князь Васіль, які ў складзе яго пасольства ездзіў у Вялікі Ноўгарад у 1326 г. Пазней, ужо пасля смерці Гедзіміна, у такой жа якасці прыгадваецца князь Сямён Свіслацкі, уладанні якога знаходзіліся на поўдні ад Барысава. Ён быў удзельнікам літоўскага пасольства ў Залатую Арду ў 1348 г. Можна меркаваць, што Барысаўская воласць, змешчаная амаль паміж Менскім і Свіслацкім княствамі, у гэты перыяд таксама ўжо падпарадкоўвалася ўладзе Гедзіміна і яго сына Альгерда.

Верагодна, у гэтыя часы адбыўся перанос Барысава з першапачатковага места (зараз — гарадзішча ў вёсцы Стара-Барысаў) на новае, 4 км ніжэй па цячэнні Бярэзіны. Драўляны замак быў пабудаваны на востраве ў пойме ракі, злева ад яе галоўнага рэчышча, прыблізна за 1,5 км на паўночны захад ад сучаснага аўтамабільнага моста. Гарадзішча на гэтым востраве пазначана яшчэ на плане Барысава ў 1845 г. Неўмацаваны гарадскі пасад прылягаў да замка з поўначы і паўночнага ўсходу. Супрацьлеглы, правы бераг Бярэзіны ў той час, напэўна, заставаўся незаселеным.

У канцы XIV ст. Барысаў разам з навакольнай воласцю падпарадкоўваўся непасрэдна вялікаму князю Вітаўту. Апошні ў 1396 г. выдаў «борысовцам» адмысловы прывілей, у якім вызначаў парадак прыёмкі і ўліку мядовай даніны. З прывілея вынікае, што сяляне Барысаўскай воласці самі прывозілі мёд у замак, дзе яго ўзважваў велікакняжацкі цівун. Для прадухілення злоўжыванняў, якія, верагодна, мелі месца раней, Вітаўт забараніў цівуну карыстацца ўласным бязменам. Мернай адзінкай павінен быў служыць «вялікі камень меньскі», а працэс узважвання належала ажыццяўляць «па старыне» прадстаўніку сялян у прысутнасці цівуна і сведак. Прыкладна ў гэты час Барысаў згадваецца сярод «літоўскіх» гарадоў у «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх», змешчаным у Васкрасенскім летапісе. Яшчэ Вітаўт выдаў грамату жыхарам Барысава, у якой вызваліў іх ад абавязку даваць падводы для транспарціроўкі дзяржаўных грузаў, пра што згадваецца ў больш познім дакуменце.

Пасля смерці Вітаўта вялікім князем стаў Свідрыгайла. У адным з дакументаў Тэўтонскага ордэна Барысаў згадваецца сярод гарадоў, якія падпарадкоўваліся Свідрыгайлу ў 1432 г. Пазней горад адыгрываў пэўную ролю ў міжусобнай барацьбе, якая разгарэлася паміж Свідрыгайлам і братам Вітаўта Жыгімонтам у 1432—1437 гг. Менавіта ў Барысаве, пры пераправе цераз Бярэзіну, войскам Свідрыгайлы ў 1433 г. быў захоплены ў палон адзін з палкаводцаў Жыгімонта — князь Міхайла Гальшанскі, затым пакараны смерцю паводле загаду Свідрыгайлы.

Міжусобіца завяршылася перамогай Жыгімонта, якому Барысаў, напэўна, падпарадкоўваўся да яго смерці ў 1440 г. У далейшым пад час доўгага панавання Казіміра Ягелончыка (1440—1492) горад не згадваецца ў пісьмовых крыніцах. Сын і пераемнік Казіміра, вялікі князь Аляксандр (1492—1506) у 1494 г. вымушаны быў разглядаць канфлікт паміж барысаўскімі мяшчанамі і сялянамі навакольнай воласці наконт выканання розных павіннасцей. Мяшчане, спасылаючыся на прывілей Вітаўта, адмаўляліся пастаўляць падводы, у сувязі з чым увесь цяжар гэтай павіннасці лажыўся на сялян. Сваім лістом Аляксандр абавязаў барысаўскіх мяшчан таксама ўдзельнічаць у выкананні павіннасцей.

*Вялікае княства Літоўскае: 1 — Жэмайція, Аукштайція, часткова ятвягі; 2 — тэрыторыя княства да 1263 г.; 3 — граніцы Вялікага княства Літоўскага да 1341 г.; 4 — граніцы іншых княстваў і дзяржаў; 5 — сучасныя граніцы Рэспублікі Беларусь.*

* * *

У 1499 г. праз Барысаў рухалася на ўсход войска ВКЛ на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім, якое ішло на вайну з Маскоўскай дзяржавай. Неўзабаве Барысаўскі замак на пэўны час зрабіў сваёй рэзідэнцыяй вялікі князь Аляксандр, які ажыццяўляў адсюль агульнае кіраўніцтва ваеннымі дзеяннямі. Вайна гэтая, аднак, была вельмі нешчаслівай для ВКЛ. У 1500 г. на рацэ Вядроша ў Смаленскай зямлі войска Канстанціна Астрожскага было разбіта, сам ён трапіў у палон, а ВКЛ у выніку страціла вялізныя тэрыторыі.

З гэтага часу пачалося доўгае ваеннае супрацьстаянне паміж ВКЛ і Расіяй. Барысаў, які знаходзіўся на галоўным шляху паміж цэнтральнымі раёнамі ВКЛ і Масквой, стаў важным пунктам у руху войскаў і пасольстваў. У 1508 г., пад час мяцяжу князя Міхаіла Глінскага, якому аказвала дапамогу маскоўскае войска, Барысаў трапіў у аблогу, але паспяхова вытрымаў яе. Калі да горада наблізілася аб'яднанае войска ВКЛ і Польшчы, узначаленае новым вялікім князем Жыгімонтам, Глінскі зняў аблогу і адышоў на ўсход.

Наступная згадка пра Барысаў датуецца прыкладна 1510—1511 гг. і тычыцца мірных падзей. У горад і воласць быў накіраваны дзяк Андрэй Бабровіч, якому было даручана зрабіць перапіс падданых і іх маёмасці. На той час намеснікам у Барысаве з'яўляўся велікакняжацкі маршалак Ян Мікалаевіч Радзівіл, а фактычна замкам і воласцю кіраваў яго даручэнец, нейкі Сава. Ён узяўся дапамагаць дзяку настолькі прытка, што барысаўскія мяшчане вымушаны былі скардзіцца Радзівілу на злоўжыванні з яго боку. Яны сцвярджалі, што Сава самавольна канфіскаваў у іх 7 коней. Жыхары навакольных сёлаў таксама паскардзіліся на ўціск з боку Савы. Пры разглядзе справы Сава адхіліў усе абвінавачанні і заявіў, што мяшчане і валашчане былі пакараны за спробы ўхіліцца ад перапісу. Да таго ж ініцыятарам пакарання быў не ён, а дзяк Андрэй Бабровіч, які «посылал слуг своих их грабити за то, иж они ему не гораздо ся вказали, как господарю служать»*.

У 1514 г. Барысаву зноў давялося быць адным з апорных пунктаў войска ВКЛ пад час вайны з Масквой. У тым жа годзе маскоўскае войска захапіла Смаленск і рушыла на захад, пагражаючы жыццёвым цэнтрам ВКЛ. Войска, сабранае вялікім князем Жыгімонтам, выйшла насустрач, і ў Барысаве працяглы час знаходзілася велікакняжацкая стаўка. Менавіта адсюль зноў выступіў супраць ворага гетман Канстанцін Астрожскі, але на гэты раз больш удала: на рацэ Крапіўна, недалёка ад Оршы, ён атрымаў бліскучую перамогу, якая адвяла пагрозу ад цэнтральных земляў дзяржавы. Аднак пазней, у 1519 г., маскоўскае войска на чале з князем С.Курбскім зноў прайшло па ваколіцах Барысава.

У 1517 і 1526 гг. праз Барысаў праязджаў пад час сваіх пасольстваў у Маскву аўстрыйскі дыпламат Сігізмунд Герберштэйн, пра што ён згадвае ў сваіх «Запісках аб маскоўскіх

---

*Русская историческая библиотека, издаваемая Императорскою Археографическою комиссией. Т. 20: Литовская метрика. СПб., 1903. Стб. 59—64.

справах», якія былі надрукаваны ў 1546 г. і карысталіся вялікай папулярнасцю ў Заходняй Еўропе. На жаль, Герберштэйн не пакінуў падрабязнага апісання Барысава. Але дзякуючы гэтай згадцы горад трапіў на карты Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, выдадзеныя Вацлавам Градзецкім у 1558 г. і Якубам Гаштальдзі ў 1567 г. Такім чынам, кожны адукаваны чалавек у Еўропе сярэдзіны XVI ст. мог ведаць пра існаванне Барысава.

У 1534 г., пад час чарговай вайны паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай, рускія войскі дасягнулі ваколіц Барысава. Аднак замак, напэўна, не быў захоплены імі. У лістападзе наступнага года маскоўскае войска з трох накірункаў яшчэ раз уварвалася ў ВКЛ. Пры гэтым той аддзел, які ішоў з боку Смаленска на чале з князем М.Гарбатым-Шуйскім, зноў «паваяваў» Барысаў і іншыя гарады на ўсход ад яго.

Магчыма, у сувязі з важным стратэгічным значэннем Барысава ў XVI ст. склалася практыка, паводле якой Барысаўскае намесніцтва стала як бы «дадаткам» да вышэйшай дзяржаўнай пасады ВКЛ — віленскага ваяводы. З 1522 г. віленскім ваяводам, канцлерам і адначасова барысаўскім намеснікам быў найбагацейшы літоўскі магнат Альбрэхт Гаштаўт. Пасля смерці Гаштаўта ў 1539 г. вялікі князь Жыгімонт не адразу назначыў яго пераемніка на пасадах віленскага ваяводы і канцлера. Напэўна, вакантнай у гэты час заставалася і пасада барысаўскага намесніка. Толькі ў 1542 г. усе тры пасады дасталіся



*Барысаў і наваколле на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г.*

пану Яну Юр'евічу Глябовічу. Пры гэтым, зацвярджаючы яго ў якасці барысаўскага намесніка, вялікі князь палічыў неабходным агаварыць, што надае Барысаў «не в обычай к воеводству Виленскому, але з особливое ласки нашое господарское». Тым не менш пераемнік Глябовіча — Мікалай Янавіч Радзівіл па мянушцы Чорны — у 1551 г. таксама стаў адначасова віленскім ваяводам, канцлерам і барысаўскім намеснікам.

У гэты час Барысаў быў, напэўна, даволі мнагалюдным паселішчам. Аб гэтым ускосна сведчыць спіс дзяржаўных гарадоў і валасцей з пазначэннем сумы іх плацяжу ў скарб, складзены ў 1551 г. Паводле яго, Барысаў мусіў плаціць 30 коп* грошаў, а ўсе астатнія паселішчы Барысаўскай воласці — 50 коп. Гэта азначае, што ў горадзе канцэнтравалася звыш трэці ўсяго насельніцтва воласці, якая цягнулася прыблізна на 80 км з захаду на ўсход і на 30 — 60 км з поўначы на поўдзень, маючы агульную плошчу каля 400 кв. км.

Віленскія ваяводы па абавязку сваёй асноўнай пасады мусілі большасць часу праводзіць у сталіцы дзяржавы — Вільні. Справамі Барысаўскага намесніцтва звычайна ведаў іх даручэнец з ліку больш дробнай шляхты, звычайна — асабісты васал («служэбнік») ваяводы. Пры Гаштаўту непасрэднае кіраванне воласцю і замкам ажыццяўляў Каспар Кунцэвіч, які ў 1524 г. прыкупіў да воласці кавалак зямлі ў суседняга пана. Хто прадстаўляў у Барысаве інтарэсы Глябовіча — дакладна высветліць не ўдалося. На пачатку ваяводства Радзівіла Чорнага ў гэтай якасці прыгадваецца Лукаш Беські. У 1552 г. ён зацвердзіў і ўпісаў у актавую кнігу Барысаўскага замка акт палюбоўнага размежавання валасных зямель з адным з суседніх маёнткаў.

* * *

У 1565—1566 гг. у ВКЛ адбылася рэформа сістэмы дзяржаўнага кіравання, паводле якой яго тэрыторыя была падзелена на паветы з дакладнымі межамі. Барысаў увайшоў у склад Аршанскага павета, мяжа якога прайшла па рацэ Бярэзіне. Пры гэтым землі на правым беразе ракі (там, дзе знаходзіцца асноўная частка сучаснага горада) засталіся ў складзе Менскага павета, хаця па-ранейшаму адносіліся да Барысаўскай воласці. Паводле гэтай жа рэформы ў Барысаве быў скасаваны замкавы суд, а яго жыхары сталі падлягаць юрысдыкцыі Аршанскага замкавага (гродскага) суда. Быў утвораны таксама Аршанскі земскі суд, які разглядаў маёмасныя справы жыхароў павета — шляхты і мяшчан. Сельскія жыхары засталіся ў юрысдыкцыі сваіх паноў, а дзяржаўныя падданыя Барысаўскай воласці — у юрысдыкцыі барысаўскага намесніка і яго служэбніка.

У гэты час Барысаў атрымаў свой герб, нададзены яму прывілеем Жыгімонта II Аўгуста 10 жніўня 1565 г. Герб уяўляў сабой у белым (сярэбраным) полі гарадскую браму а дзвюх вежах, над якой змяшчалася выява святога Пятра з ключом у правай руцэ. Гэтым гербам

Капа — лічбавая адзінка, у якую ўваходзіла 60 грошаў.

горад карыстаўся ў далейшым да канца існавання ВКЛ, ён быў пацверджаны прывілеем ад 14 чэрвеня 1792 г.

У 1569 г. адбылася дзяржаўная унія паміж ВКЛ і Польскім каралеўствам, вядомая як Люблінская унія. Паводле яе ўмоў утваралася агульная дзяржава — «Рэч Паспалітая абодвух народаў», але ВКЛ захоўвалася ў ёй у якасці федэратыўнай адзінкі, па-ранейшаму мела ўласнае войска, заканадаўства і структуру дзяржаўных пасад. Віленскі ваявода па-ранейшаму быў буйнейшым дзяржаўным саноўнікам і меў магчымасць карыстацца даходамі з Барысаўскай воласці. У 1567 г., пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага, ваяводам стаў яго стрыечны брат Мікалай Юр'евіч Радзівіл Руды, заснавальнік так званай біржайскай галіны гэтага славутага роду (ад маёнтка Біржы на поўначы Літвы). Застаючыся віленскім ваяводам да канца жыцця (1584), ён у 1579 г. перадаў Барысаўскае намесніцтва свайму сыну Крыштофу па мянушцы Пярун. Апошні пасля смерці бацькі стаў таксама віленскім ваяводам.




*План размяшчэння замчышча ў Барысаве. Схема 1930 г.*

Ад гэтых часоў засталося першае апісанне Барысаўскага замка, зробленае Аляксандрам Гваньіні — італьянскім вайскоўцам, які ў 1560-я гады праццаглы час служыў у ВКЛ, прымаў удзел у Лівонскай вайне з Маскоўскай дзяржавай і быў камендантам Віцебска. У сваёй працы «Апісанне Еўрапейскай Сарматыі», надрукаванай на лацінскай мове ў Польшчы ў 1578 г. і пазней неаднаразова перавыдадзенай, ён пісаў: «Барысаў — места драўлянае. Замак зроблены з дубовых дрэў і самым лепшым чынам умацаваны вежамі і драўлянымі чатырохрадовымі сценамі, якія ўнутры запоўнены зямлёй і каменнямі. Замак выгадна абкружаны наўкол ракой Бярэзінай. Ад Вільні знаходзіцца за 40 міляў. Ён не мае павятовай харугвы. Але ў ім заўсёды ўтрымліваецца гарнізон жаўнераў, на выпадак нападу маскоўцаў, каб затрымаць іх, калі яны пяройдуць мяжу».

Крыху пазней апісанне Барысаўскага замка склаў маскоўскі дзяк Трыфан Карабейнікаў. У 1593 г. ён паведамляў, што горад аточаны ракой і сажалкай, цераз якія ў бок Менска ішоў драўляны мост даўжынёй у 200 сажняў.

Крыштоф Пярун памёр у 1603 г., пасля чаго і ваяводская пасада, і Барысаўскае намесніцтва (прыкладна з гэтых часоў яно пачынае трывала называцца «староствам») перайшлі яго сыну — Янушу Радзівілу, які валодаў імі да сваёй смерці ў 1620 г. Такім чынам, на працягу 79 гадоў Барысаў знаходзіўся пад кантролем чатырох прадстаўнікоў роду Радзівілаў, належачых да трох паслядоўных пакаленняў.

Верагодна, пад час іх працяглага намесніцтва быў аднаўлены і ўмацаваны гаспадарчы двор на месцы першапачатковага барысаўскага гарадзішча, у сучаснай вёсцы Стара-Барысаў. Гэта паселішча ў той час мела назву Радзівілаў. Пад ёй яно змешчана на даволі падрабязнай карце ВКЛ, створанай у 1590-я гады васалам Крыштофа Перуна Тамашам Макоўскім і надрукаванай у Амстэрдаме ў 1613 г. На гэтай жа карце можна бачыць і ўласна Барысаў.

Магчыма, біржайская галіна Радзівілаў і надалей працягвала б валодаць Барысаўскім староствам, але на момант смерці Януша Радзівіла яго адзіны сын Багуслаў быў зусім маленькім. Таму вялікі князь і кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт Ваза ў 1621 г. перадаў Барысаў прадстаўніку іншага магнацкага роду — трокскаму ваяводу Аляксандру Хадкевічу. Апошні прабыў на гэтай пасадзе нядоўга, бо памёр у 1626 г. У 1629 г. староства было перададзена прадстаўніку іншай галіны Радзівілаў — канцлеру Альбрэхту



*Месца, дзе размяшчаўся Барысаўскі замак (раён вуліцы Гогаля). Фота 1973 г.*

Станіславу Радзівілу (аднаму з нашчадкаў Мікалая Чорнага). Але неўзабаве яно перайшло да паляка Адама Казаноўскага, які валодаў ім на ўмовах закладу — пазычыўшы скарбу ВКЛ вялікую суму грошай, атрымаў узамен права карыстацца даходамі з Барысаўскага староства, пакуль не выбера з яго пазычаныя грошы. Казаноўскі згадваецца на пасадзе барысаўскага старосты з 1635 г. да сваёй смерці ў 1649 г., пасля чаго закладное права на староства перайшло да яго ўдавы. У гэты час у Барысаве быў заснаваны манастыр і дзейнічалі 2 праваслаўныя царквы — Траецкая і Спаса-Праабражэнская.

Вялікія выпрабаванні выпалі на долю жыхароў Барысава пад час вайны паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, якая распачалася ў 1654 г. Да Барысава ваенныя дзеянні дакаціліся вясной наступнага года. На горад быў высланы перадавы полк расійскіх жаўнераў і драгунаў на чале з князем Юрыем Баратынскім. У бітве пад Барысавам 13 мая 1655 г. ён разбіў заслон, пакінуты гетманам ВКЛ Янушам Радзівілам. Гэтым заслонам, дарэчы, камандаваў вядомы палкоўнік Канстанцін Паклонскі, які на пачатку вайны перайшоў на бок маскоўскага цара, але потым вярнуўся да прысягі каралю Рэчы Паспалітай.

Пасля перамогі над Паклонскім полк князя Баратынскага падышоў да Барысаўскага замка і паспрабаваў захапіць яго штурмам, але мясцовы гарнізон адбіў усе напады. Тым часам 24 мая са Смаленска рушыла на Беларусь галоўнае маскоўскае войска, якім кіраваў сам цар Аляксей Міхайлавіч. Ён выслаў на дапамогу Баратынскаму ваяводу Багдана Хітраво з войскам у 4159 чалавек пяхоты і 1207 коннікаў. Супраць такой сілы барысаўскі гарнізон змагацца не здолеў. 19 чэрвеня горад быў захоплены і спалены. Рэшткі гарнізона адышлі за Бярэзіну, спаліўшы за сабой мост. Аднак гэта не спыніла пераможнага руху маскоўскага войска. Мост неўзабаве быў адноўлены, і ваенныя дзеянні перамясціліся ў цэнтральныя і заходнія раёны Беларусі. Да восені большая частка яе тэрыторыі, а таксама сталіца ВКЛ Вільня апынуліся пад расійскім кантролем.

Настаў сямігадовы перыяд панавання ў Барысаве расійскіх уладаў. Яны зрабілі горад адным са сваіх апорных пунктаў. Тут у верасні 1655 г. ваявода Чаркаскі правёў агляд войска, перад тым як распусціць яго на зімовыя кватэры. Цар часта мяняў ваявод, якіх ён прызначаў кіраваць Барысавам. Паводле маскоўскіх разрадных спісаў, у 1656 г. ваяводам быў Аўтамон Іванаў Яропкін. У чэрвені 1657 г. на яго месца быў прызначаны Івашка Ржэўскі. З канца чэрвеня 1658 г. ваяводам быў Кірашка Хлопаў.

Ужо да 1656 г. былі адноўлены спаленыя пад час аблогі драўляныя ўмацаванні замка, якія па-ранейшаму ўяўлялі сабой рады чатырохсценных зрубаў — гародняў, засыпаных унутры і звонку зямлёй і каменнем. Упоперак лінія ўмацаванняў мела таўшчыню ў 4 сажні, а яе перыметр складаў 312 сажняў. Меліся ўязная брама і 2 меншыя, якія выходзілі ў бок ракі, каб забяспечваць гарнізон вадой пад час аблогі. Адначасова быў пабудаваны астрог вакол гарадскога пасаду.

Тым часам акупацыйная палітыка расійскіх уладаў хутка выклікала моцнае расчараванне з боку беларускай шляхты і сялянства, якія спачатку спадзяваліся на тое,

што пад уладай праваслаўнага цара жыць будзе лепей. У ваколіцах Барысава разгарнулася сапраўдная партызанская вайна. Увосень 1657 г. партызанскі атрад Багровіча колькасцю ў 400 — 500 чалавек нават спрабаваў захапіць Барысаў. Гэты напад быў адбіты, але ён яшчэ раз падкрэсліў стратэгічнае значэнне горада. Не выпадкова Барысаў фактычна стаў рэзідэнцыяй Васіля Шарамецьева — галоўнага царскага намесніка на занятых беларускіх землях. Умацаванне Барысаўскага замка працягвалася. У 1659 г. паверх дрэва-земляных умацаванняў былі надбудаваны «тарасы» з тоўстага сасновага дрэва ў дзве сцяны, вышынёй у 2,5 аршына, у якіх былі прасечаны байніцы. Частка пасада («падзамак») была ўзмоцнена землянымі бастыёнамі. На той час у замку і падзамку разам налічвалася 145 жылых пабудоў.

У 1660 г. ваенная ініцыятыва перайшла да войска Рэчы Паспалітай. На захадзе Беларусі яно атрымала шэраг перамог. З пачатку таго года царскія паслы вялі ў Барысаве перамовы з камісарамі Рэчы Паспалітай, але пасля новага паражэння рускіх войскаў у бітве пад Палонкай (у Навагрудскім павеце) у чэрвені 1660 г. перамовы былі спынены. Сумеснае войска Польскага каралеўства і ВКЛ на чале з гетманамі Стафанам Чарнецкім і Паўлам Сапегам рушыла ад Палонкі на Барысаў і паспрабавала ўзяць яго. Але расійскі гарнізон, які налічваў каля тысячы ратнікаў і меў дастатковыя запасы зброі і ежы, адбіў два прыступы. Нападаючыя захапілі і спалілі толькі неўмацаваны пасад і падзамак. У войску Чарнецкага было каля 3 тысяч коннікаў і 1 тысяча пехацінцаў, у Сапегі — да 6 тысяч, з іх палова конніцы. Але ў іх быў востры недахоп артылерыі і пораху для штурму моцных барысаўскіх умацаванняў, а таксама харчовых прыпасаў. Атрады Чарнецкага пэўны час заставаліся пад Барысавам, трымаючы яго ў аблозе, а войскі Сапегі неўзабаве рушылі далей на ўсход. Пазней да яго далучыўся і Чарнецкі. Баявыя дзеянні перамясціліся на ўсходнюю частку Беларусі, пакінуўшы так і не ўзяты Барысаў у тыле.

У 1661 г. баявыя дзеянні працягваліся ў розных месцах Беларусі, але Барысаў трывала заставаўся пад расійскім кантролем. Гарадскія абарончыя збудаванні былі яшчэ раз узмоцнены: вакол астрогу пракапаны роў глыбінёй 4 сажні і шырынёй 7 сажняў, па-за ровам пастаўлены «частые честики», на высокай земляной падсыпцы ўзведзены драўляныя вежы з байніцамі і «раскатамі» для стральбы з гармат. Колькасць гармат была павялічана з 21 да 41. Але агульная перавага няўмольна хілілася на бок Рэчы Паспалітай, і летам 1662 г. для ўзяцця Барысава было выслана даволі моцнае войска: 20 харугваў конніцы і 14 пяхоты. 9 ліпеня 1662 г. рускія вымушаны былі пакінуць замак і адысці на ўсход.

Ваенныя падзеі прывялі да амаль поўнага знішчэння горада. Праз тры месяцы пасля вызвалення Барысава праз яго праязджаў барон А.Маерберг, які запісаў у сваім дзённіку: «2-га кастрычніка за 120 вёрст ад Магілёва паявіўся перад нашымі вачыма Барысаў. Ён складаецца з 2 крапасцей на левым беразе Бярэзіны, воды якой, прымножаныя водамі … рэчкі Схі, цякуць і абкружаюць яго. Пабудоў у ім няма ніякіх, акрамя ўбогага жытла

ваяводы з капліцаю, ...а горад, што прылягае да крапасцей, разбураны»*.

Пасля вайны Барысаўскае староства было аддадзена надворнаму падскарбію ВКЛ Казіміру Яну Сапегу, які ў 1670 г. стаў полацкім ваяводам, а з 1682 г. — віленскім ваяводам і найвышэйшым гетманам. Хаця староства па-ранейшаму лічылася дзяржаўнай уласнасцю, фактычна Сапега карыстаўся ім, як сваёй маёмасцю. У красавіку 1670 г. ён нават здаў яго ў арэнду дробнаму шляхціцу Даніэлю Кастравіцкаму, мечніку Лідскага павета. З гэтай нагоды быў складзены першы інвентар Барысаўскага староства, які дайшоў да нас. У горадзе тады налічвалася 256 мяшчанскіх пляцаў. У інвентары ўпершыню згадваецца таксама вёска Дымкі, якая знаходзілася на правым беразе Бярэзіны — там, дзе зараз размешчана асноўная частка горада. У гэтай вёсцы было ўсяго 3 дымы.



*Кафля канца XVII ст. з раскопак у Стара-Барысаве.*

Пасля заканчэння гэтай арэнды, у 1672 г., Сапега зноў аддаў староства ў трохгадовую арэнду, на гэты раз скарбніку Андрэю Казіміру Скарабагатаму, за 34 тысячы злотых. Магчыма, гэтая практыка працягвалася і надалей, але звесткі пра іншыя арэнды пакуль не выяўлены. А ў 1685 г. віленскі ваявода ажыццявіў зделку з Дамінікам Міхалам Служкам, набыўшы ў яго маёнтак Новы Быхаў за 300 тыс. злотых, прычым на кошт большай часткі гэтай сумы (200 тыс.) было ўлічана яго права на Барысаўскае староства, ад якога ён адмовіўся на карысць Служкі. Іншымі словамі, Сапега папросту абмяняў часова належачы яму дзяржаўны маёнтак на прыватны, які перайшоў у поўную яго ўласнасць. Усё гэта, зразумела, было абстаўлена фармальнай згодай караля і вялікага князя, але фактычна ўрад ужо страціў магчымасць кантраляваць перамяшчэнне сваіх маёнткаў, якія перайшлі пад поўны кантроль свавольных магнатаў.

Новы ўладальнік Барысава Дамінік Служка ў 1686 г. заняў пасаду полацкага ваяводы, на якой заставаўся да сваёй смерці ў 1713 г. У тарыфе падымнага падатку Аршанскага павета за 1703 г. адзначаецца, што падуладнае яму Барысаўскае староства налічвала 430 дымоў, але гэтая лічба выглядае яўна заніжанай. У гэты час «дым» ужо не адпавядаў

* Мейерберг А. Путешествие в Московию. М., 1874.

рэальнаму двару, а ператварыўся ва ўмоўную ўліковую адзінку, якая магла ахопліваць некалькі двароў.

Неўзабаве Барысаў зведаў новае ваеннае разбурэнне. Пад час Паўночнай вайны паміж Расіяй і Швецыяй, у якой Рэч Паспалітая выступіла на баку Расіі, ваенныя дзеянні закранулі і тэрыторыю Беларусі. З 1704 г. на Беларусь былі ўведзены расійскія войскі, а з 1706 г. кожнае лета яна ператваралася ў арэну баявых дзеянняў паміж рускімі і шведамі. Асабліва разбуральнай была ваенная кампанія 1708 г. Пад час яе рускі корпус генерала Гольца трымаў абарону ў Барысаве, каб прадухіліць рух шведаў з занятага імі ў чэрвені Мінска на Оршу. Сапраўды, шведскі корпус генерала Шпара спрабаваў перайсці Бярэзіну каля Барысава. Пад час жорсткіх баёў горад згарэў. Тым часам галоўныя сілы шведаў фарсіравалі Бярэзіну ніжэй па цячэнні і рушылі на Магілёў, у сувязі з чым корпус Гольца вымушаны быў адысці на ўсход (неўзабаве ён быў разбіты шведамі каля мястэчка Галоўчын).

Пасля паражэння шведаў пад Палтавай у 1709 г. кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст II аднавіў свой кантроль над тэрыторыяй Беларусі, аднак моц яго дзяржавы (якая ў 1710 г. выйшла з вайны) была моцна падарвана і на працягу XVIII ст. так і не аднавілася. Паводле апісанняў і планаў, замак у Барысаве быў умацаваны адпаведна патрабаванням фартыфікацыі таго часу. Ён меў 5 земляных бастыёнаў, быў атачаны воднымі перашкодамі.

Пасля смерці Дамініка Служкі ў 1713 г. Барысаўскае староства адышло да яго ўдавы Канстанцыі (з роду Падбярэзкіх). У 1718 г. яна саступіла яго віцебскаму кашталяну Марцыяну Міхалу Агінскаму, і з гэтага часу Барысаў надоўга перайшоў пад кантроль роду князёў Агінскіх. Марцыян (у 1730 г. ён стаў віцебскім ваяводам) двойчы саступаў староства свайму старшаму сыну Ігнацыю, але той праз непрацяглы час вяртаў яго назад. Толькі ў 1744 г. Барысаў канчаткова перайшоў да Ігнацыя Агінскага, які ў 1750 г. заняў пасаду маршалка ВКЛ, а ў 1768 г. — віленскага кашталяна.

Пры Ігнацыі праваслаўны манастыр быў ператвораны ва уніяцкі (базыльянскі). Была пабудавана таксама уніяцкая царква ў гонар Уваскрэсення Гасподня. З тых жа часоў у Барысаве быў пабудаваны драўляны каталіцкі касцёл у гонар Ушэсця Дзевы Марыі (упамінаецца з 1744 г.) з невялікім кляштарам пры ім. Паводле люстрацыі дзяржаўных маёнткаў Аршанскага павета за 1764 г., у Барысаве было 230 дамоў, а ўсё староства налічвала 1089 дымоў.

Пасля смерці ў 1775 г. бяздзетнага Ігнацыя Агінскага кароль пакінуў пажыццёвае права на валоданне Барысаўскім староствам за яго ўдавой Аленай, якая была вельмі адукаванай асобай, мела цесныя сувязі з дваром расійскай імператрыцы Кацярыны II, была добра знаёма з Кацярынай Дашкавай і іншымі дзеячамі рускага асветніцтва.

Тарыф падымнага Аршанскага павета за 1775 г. вызначае ў Барысаве 112 дымоў і 25 пляцаў, апрача таго яшчэ 17 двароў належала прэсвітэру барысаўскага касцёла. Але гэтыя звесткі, напэўна, не вельмі дакладныя. У іншых крыніцах, створаных для гаспадарчых мэт, колькасць жыхароў Барысава значна большая. Так, паводле сумарыюша за 1781 г., у

горадзе было 258 дымоў. У засценку Дымкі колькасць двароў павялічылася да 9. У рэестры выбрання падымнага за 1787 г. пайменна пералічаны 188 гаспадароў, якія мелі двары ў Барысаве. Розніца ў лічбах тлумачыцца таксама тым, што пры падліку выкарыстоўваліся розныя крытэрыі, а некаторыя катэгорыі насельніцтва маглі не ўлічвацца. Так, рэестр арэндных плацяжоў Барысаўскага староства за 1788—1789 гг. вызначае колькасць падатковых дымоў у горадзе ў 181, але крыху ніжэй на тым жа аркушы агульная сума дымоў складае 245. У Дымках па-ранейшаму было 9 дымоў, мелася карчма. Паводле афіцыйнага тарыфу падымнага за 1790 г., у Барысаве было 311 дымоў. Усё Барысаўскае староства па-ранейшаму належала Алене Агінскай, налічвала ў той момант 1468 дымоў.

Гэта былі апошнія гады Рэчы Паспалітай. Летам 1792 г. цэнтральная частка Беларусі была занята 64-тысячным расійскім войскам пад камандаваннем генерал-аншэфа М.Крачэтнікава, а ў наступным годзе адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай. З гэтага часу Барысаў апынуўся ў складзе Расійскай імперыі. Пра яго стан у гэты час сведчаць матэрыялы падворнага перапісу (рэвізіі) насельніцтва, праведзенага новымі ўладамі ў 1795 г. У горадзе налічвалася 385 двароў і 1625 жыхароў (з іх 890 мужчынскага полу і 735 — жаночага). У тым ліку 6 двароў належала купцам праваслаўнага веравызнання і 3 — іудзейскага. Сярод мяшчанскіх двароў было 229 хрысціянскіх і 137 яўрэйскіх. У 10 гарадскіх дварах жылі прадстаўнікі чыншавай шляхты. Горад меў прывілей на правядзенне штогод 2 кірмашоў, з якіх адзін адбываўся 1 студзеня, а другі — пасля Вялікадня, у 10-ю нядзелю. Асноўны гандаль заключаўся ў сплаве на плытах па Бярэзіне і далей па Дняпры, да Крамянчуга розных тавараў лясного промыслу: дзёгцю, смалы, драўнянага вугалю. Узамен з Украіны ўвозілі соль і жалеза. Істотную ролю адыгрываў таксама гандаль лесам, які адвозілі ўверх па рацэ да возера Палік, адтуль узімку перацягвалі ў раку Эсу каля мястэчка Латыголічы, каб затым вясной сплавіць у Дзвіну, да Рыгі.

**Крыніцы:**


Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. СПб., Т. 1. 1861.

Галоўны архіў старадаўніх актаў у Варшаве. Ф. AR (Архіў Радзівілаў). Аддзел XVII. Спр. 21, 23.

Даўгяла З.І. Барысаўскі замак // Працы археалагічнай камісіі. Т. 2. Мн., 1930.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.ДА. Спр. 3327, 3374, 3397.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 694. Воп. 2. Спр. 514. Л. 5.

Новгородская первая летопись. М.; Л., 1950.

Полное собрание русских летописей. Т. 35. М, 1980.

Русская историческая библиотека, издаваемая Императорскою Археографическою комиссией. Т. 27: Литовская метрика. СПб., 1910.

Сагановіч Г. Невядомая вайна 1654—1667. Мн., 1995.

Тихомиров Н.М. Список русских городов дальних и ближних // Исторические записки. Вып. 40. М., 1952.

Ткачоў М. Барысаўскі замак // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 1. Мн., 1993.

Цітоў А. Геральдыка беларускіх местаў (XVI — пачатак XX ст.). Мн., 1998.


*В.Л.Насевіч.*

# БАРЫСАЎ У СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ

## Перамены ў палітычным і грамадскім жыцці

У канцы XVIII ст. спыніла сваё існаванне дзяржава Рэч Паспалітая. Пасля яе 2-га падзелу, які ажыццявілі Расія, Аўстрыя і Прусія ў 1793 г., цэнтральная частка Беларусі адышла да Расіі. Адбылася змена дзяржаўнай прыналежнасці.

13 красавіка 1793 г. указам імператрыцы Кацярыны II была ўтворана Мінская губерня, у склад якой увайшоў Барысаў. Паводле ўказа ад 3 мая 1793 г. горад, які ў розны час адносіўся да Ашмянскага, Аршанскага і Докшыцкага паветаў, цяпер сам стаў галоўным горадам Барысаўскага павета. Але яшчэ 5 гадоў ён заставаўся ў складзе староства князёў Радзівілаў. Жыхары горада абавязаны былі выконваць кватэрныя і пастойныя павіннасці, даваць падводы для войска і перавозкі хворых вязняў, коней для праезду вядомых асоб, пастаўляць работнікаў на пракладку і рамонт дарог і іншае.

У 1796 г. Сенат зацвердзіў стары гарадскі герб, дадаўшы зверху царскага двухгаловага арла. Указ абвяшчаў: «Застаецца гэтаму гораду герб, дадзены цяперашнім польскім каралём Станіславам Аўгустам. Гэты герб уяўляе сабой дзве ваенныя вежы з варотамі паміж імі, якія пастаўлены ў серабрыстым полі, а над імі бачны святы Пётр Апостал, які на воблаку стаіць і ў правай руцэ трымае ключы». І толькі 19 студзеня 1798 г. паводле «Даравальнай граматы гарадам» Барысаў у ліку шматлікіх гарадоў і мястэчак Беларусі, якія належалі магнатам, быў выкуплены ўрадам і стаў дзяржаўным горадам. З гэтага часу ён выключаецца з Барысаўскага староства і з'яўляецца самастойным.

Гораду адвялі 2645 дзесяцін і 227 сажняў зямлі, якой мяшчане сталі карыстацца без усялякай аплаты.

Кіраванне ў горадзе стала ажыццяўляцца па расійскім узоры. Жыццё гараджан падпарадкоўвалася ўправе на чале з паліцмайстрам. Уведзены гараднічыя, прыставы, якія вялі цывільныя і крымінальныя справы. Выбіраўся прадвадзіцель дваранства, прызначалася дваранская апека, якая складалася з суддзі і судзебнага асэсара. Выбарнымі былі гарадскі савет і магістрат, сіроцкі і саслоўны суды, а таксама кватэрная і дарожная камісіі,

камітэты апякунства над зняволенымі і над продажам спіртных напояў. Камітэты і камісіі працавалі пад кіраўніцтвам гарадскога галавы.

Усё насельніцтва на працягу месяца пасля выхаду ўказа аб уключэнні горада ў склад Расіі прыводзілася да прысягі. Хто не жадаў прысягаць — страчваў маёмасць, яна пераходзіла ў казну. З гэтай нагоды ў большасці сваёй шляхта і магнаты прысягалі царскай уладзе, бо не хацелі губляць уласнасць. Да таго ж яны атрымлівалі ўсе правы расійскага дваранства.

Ад палітычнай перамены доля беларускага народа не палепшылася. Новая ўлада павялічыла падаткі мяшчан, увяла рэкруцкія павіннасці, сяляне пераводзіліся на больш цяжкую паншчыну, уніяты — у праваслаўе, праваслаўная царква атрымала статус дзяржаўнай.

Разам з новымі законамі пэўны час прадаўжалі дзейнічаць законы Статута Вялікага княства Літоўскага, якія лічыліся больш дэмакратычнымі. У Барысаўскай думе доўгі час зберагаўся прывілей, выдадзены гораду 14 чэрвеня 1792 г. каралём Станіславам Аўгустам. Ён быў напісаны на вялікім аркушы пергамента, меў вісячую пячатку Вялікага княства Літоўскага. Прывілей двойчы пацвярджаўся: першы раз у Аршанскім земскім судзе 24 кастрычніка 1793 г., другі — 22 снежня 1834 г. у Барысаўскай управе. Грамата мела пунцовы саф'янавы пераплёт з выявай залатых гербаў Польшчы і Літвы. Прывілей урачыста абвяшчаў вольнасць гораду, яго правы, свабоду дзейнасці, вызваленне ад падпарадкавання ваяводам і старастам, скасаванне павіннасцей і многае іншае. Але, як адзначае Я.П.Тышкевіч у працы «Апісанне Барысаўскага павета» ў раздзеле «Пісьмы і прывілеі горада», на справе гэтага не атрымоўвалася. Кожны з кіраўнікоў староства дзейнічаў у сваіх інтарэсах, прыгнятаў жыхароў, ушчамляў іх правы, парушаючы і абыходзячы законы. У 1840 г. Статут ВКЛ 1588 г. на тэрыторыі Расіі быў поўнасцю адменены.

Той жа граматай, па якой Барысаў стаў самастойным, землі Барысаўскага староства з 8000 душ зацвярджаліся за Міхаілам Радзівілам. Упраўленне староства размяшчалася ў в. Стара-Барысаў. Але радзівілаўская адміністрацыя вяла сябе даволі вольна і час ад часу захоплівала навакольныя землі горада. З гэтай нагоды ў 1820—1830-я гады мяшчане вялі цяжбу з Радзівілам за некалькі захопленых вёсак і фальваркаў, якія належалі гораду.

У старостве Радзівіла былыя дзяржаўныя сяляне сталі прыватна-ўласніцкімі. У 1831 г. маёнтак перайшоў у спадчыну да ўнука Міхаіла — Льва Радзівіла, у той час ён уключаў 126 населеных пунктаў. У 1857 г. маёнтак з усімі землямі быў набыты братам цара Аляксандра II вялікім князем Мікалаем Мікалаевічам і стаў называцца «Барысаўшчызна».

У часы Рэчы Паспалітай большасць паноў карысталася польскай мовай, вызнавала каталіцкую веру, справы вяліся на мове Польшчы, і толькі сяляне карысталіся роднай мовай. З 1836 г. паўсюдна на тэрыторыі Беларусі пачала праводзіцца палітыка русіфікацыі. Замест польскай уводзілася руская мова спачатку ў дзяржаўным справаводстве, а потым у навучальных установах, беларускую мову дазвалялася ўжываць толькі ў школах ніжэйшай ступені.

Паводле ўказа ад 23 чэрвеня 1784 г. устанаўлівалася мяжа яўрэйскай аселасці, куды адносіўся і Барысаў. Барысаўскія яўрэі сяліліся абшчынамі вакол цэнтра горада. Яны займаліся рамяством і гандлем. Ім не забаранялася карыстацца сваёй мовай, і ў Барысаве доўгія часы дзейнічалі малітоўныя яўрэйскія дамы і школы (у пачатку XX ст. іх было 13).

## Гаспадарчае і гандлёвае жыццё гараджан

Яшчэ з далёкіх часоў ракой Бярэзінай карысталіся людзі, якія ўступалі ў гандлёвыя зносіны па ўсім Падняпроўі. Аб гэтым клапаціліся літоўскія і польскія князі, падтрымліваючы чарнаморскі і балтыйскі гандаль. У 1631 г. на варшаўскім сойме паводле загаду караля Уладзіслава IV быў састаўлены праект аб стварэнні канала, які б звязаў Бярэзіну з Віліяй і, тым самым, з Заходняй Дзвіной. Але ж той праект застаўся на паперы.

Даўняя ідэя стварэння каналаў, якія б аб'ядналі Балтыйскае і Чорнае моры, патрабавала ўвасаблення, бо попыт на асноўнае багацце барысаўскага краю — карабельную сасну значна ўзрос не толькі на поўдні, але і на поўначы. У 1797 г. урад зацвердзіў праект сістэмы Бярэзінскіх каналаў польскага памешчыка Т.Чацкага.

Сістэма будавалася 7 гадоў і праіснавала паўтара стагоддзя. Значная частка сродкаў на яе пабудову збіралася на Барысаўшчыне. Гэта было складанае збудаванне даўжынёй у 159 км, якое ўключала дзесяткі шлюзаў, плацін, каналаў. Многія малыя рэчкі выраўноўваліся і расшыраліся ўручную прыгоннымі землякопамі. Тут працавала звыш 50 тысяч прыгонных сялян. Дрэнныя ўмовы жыцця, няякасныя харчы, голад, холад і эпідэміі суправаджалі людзей. Больш як 13 тысяч з іх палягло на будоўлі плацін і шлюзаў.

Канал быў зроблены па маршруце: рака Бярэзіна — возера Палік —Сургучоўскі канал — рака Сургуч; злучальная сістэма: азёры Манец — Плаўе — Бярэшта — Вярбінскі канал — рака Эса — возера Прота — першы Лепельскі канал — Лепельскае возера — другі Лепельскі канал — рака Верхняя Ула — Чашніцкі канал — рака Ула. Будаўніцтва Бярэзінскай воднай сістэмы мела тады вялікае значэнне — у Беларусі чыгунак яшчэ не было і галоўным сродкам транспарту служылі рэкі.

З заканчэннем будаўніцтва канала Барысаў стаў галоўным портам на Бярэзіне і цэнтрам суднабудаўніцтва. Рэзка павялічыўся перавоз тавараў у Прыбалтыку і Прусію, у Кіеў, Крамянчуг, Екацярынаслаў і Нікалаеў.

Уверх па Бярэзіне прыгонныя цягнулі волакам на працягу 10—15 дзён плыты лесу і гружаныя таварамі баркі, праводзілі іх праз сістэму каналаў, а затым спускалі ўніз па Заходняй Дзвіне да Балтыйскага мора. Здаўна расказвалі, што барысаўская сасна выкарыстоўвалася для будаўніцтва чарнаморскага і паўночнага рускіх флатоў. Лес сплаўляўся, пачынаючы ад упадзення ракі Тоні. У зімовы час ён звозіўся туды на конях, а потым улетку сплаўляўся.

Больш разнастайных тавараў сталі прывозіць і ў Барысаў, з іх асноўнымі былі соль, пшаніца, мука.

Рух па рацэ і канале ажыццяўляўся даволі інтэнсіўна. Тут хадзілі баржы водазмяшчэннем ад 65 да 165 тон. Такіх барж з хлебам і соллю толькі ў 1814 г. прыбыло ў горад каля 50. У 1821 г. з вярхоўя Бярэзіны ў г. Крамянчуг адправілася 414 плытоў з агульным коштам лесу 794 500 рублёў. У г. Рыгу — 1176 мачтаў, 38 плытоў і 18 624 калоды будаўнічага лесу на суму 589 200 рублёў. У тым жа годзе ў Барысаве з сакавіка па верасень грузілася 47 баржаў тавару цаной у 338 тысяч рублёў. У справаздачы мінскага губернатара пра становішча шляхоў зносін сказана, што ў 1840 г. з Барысава ва Украіну адплыло 110 суднаў і 49 плытоў з грузам на 2 705 100 рублёў. Паблізу Барысава ў Рыгу прайшло 360 плытоў коштам 931 500 рублёў. У тым жа годзе ў горадзе было пабудавана 11 баржаў. У 1844 г. па Бярэзіне прайшло 257 суднаў і 1101 лясны плыт.

П.М.Шпілеўскі ў працы «Путешествие по Полесью и белорусскому краю» прыводзіць параўнаўчыя лічбы прывазнога тавару па Бярэзінскай сістэме і даходу з яго. Звернемся ж да гэтых даных.

У звычайны ўраджайны год з Маларосіі, г. зн. з Украіны, да барысаўскай прыстані прыходзіла да 70 байдакоў (пласкадонныя судны з парусамі) з хлебам на 20 тысяч рублёў серабром і пераважна з соллю на 230 тысяч рублёў.

У неўраджайныя гады сума прывазных тавараў пераўзыходзіла 300 тысяч рублёў серабром. У 1845 г. прыйшло ў Барысаў байдакоў 288, на якіх было: жыта 439 135 пудоў, жытняй мукі 94 518 пудоў, пшаніцы 149 503 пуды, мукі пшанічнай-сітнай 7383 пуды, проса 14 017 пудоў, грэчкі 27 134 пуды, грэцкіх круп 20 233 пуды, ячменю 4700 пудоў, ячнай крупы 2200 пудоў, гароху 3444 пуды, солі 171 142 пуды, хлебнага віна 34 828 вёдзер. Усяго на 330 810 рублёў серабром.

Вялікім попытам у Прыбалтыцы карысталіся выробленыя на Барысаўшчыне брусы галандскія, мемельскія і англійскія, калоды, бэлькі. У Крамянчуг сплаўлялі караўкі (неабчэсаныя брусы). Гандаль лесам праводзіўся мясцовымі яўрэямі, а таксама гандлярамі з Мінска, Чашнікаў, Беразіно, Івянца. Яны мелі ў Барысаве сваіх давераных. Лясны промысел даваў магчымасць гарадскім мяшчанам, якія займаліся вырошчваннем хлеба, зарабляць грошы ў зімовы час. Такую ж магчымасць мелі і сяляне. Лесапрамыслоўцы-яўрэі наймалі плытагонаў («вадзянікаў») з вёскі Вяляцічы.

Упраўленне Днепра-Дзвінскага рачнога параходства знаходзілася ў Кіеве, а ў Барысаве дзейнічала ўпраўленне Барысаўскай дыстанцыі рачнога шляху, якое сачыла за выкананнем парадку ў гандлі і за ўтрыманнем мастоў, шлюзаў сістэмы.

Па Бярэзіне і Бярэзінскай воднай сістэме суднаходства ў Заходнюю Дзвіну праходзіла ў нармальных умовах да 1818 г. Потым яно спынілася да 1834 г. у сувязі з разбурэннем мастоў цераз рэкі. Пасля адбудовы мастоў суднаходства зноў прадаўжалася, але з вялікімі цяжкасцямі.

У сярэдзіне XIX ст. сістэма паступова разбуралася, каналы зарасталі і частковыя меры па іх перабудове не маглі спыніць гэтага працэсу. У 1842 г. быў складзены праект

рэканструкцыі Бярэзінскай воднай сістэмы, па якім уводзіўся канал ад ракі Сургуч паблізу азёр Манец, Плаўе, што значна палепшыла б суднаходства. Аднак праект быў ажыццёўлены толькі часткова — у Барысаве ўзвялі разводны мост, некалькі паглыбілі каналы і адрамантавалі шлюзы. Яшчэ некаторы час сістэма выконвала сваё прызначэнне, але паступова разбуралася, прыходзіла ў заняпад, не вытрымаўшы нарастаючай канкурэнцыі чыгункі.

Цікавае становішча ў той час склалася ў сувязі са значным гандлем соллю. Солі прывозілася шмат — да 200 тысяч пудоў. Яе асноўнымі гандлярамі былі купцы з Расіі. Менавіта яны пачалі асвойваць правы пустынны бераг Бярэзіны ў раёне прыстані (прыстань знаходзілася злева ад цяперашняга пешага моста цераз раку). Пазбягаючы залежнасці ад гарадскіх купцоў, яны пачалі на землях павета будаваць свае памяшканні. Паступова каля прыстані з'явілася вуліца, забудаваная драўлянымі дамамі, вакол якіх закладваліся сады. На процілеглым баку вуліцы размясцілася каля 50 свірнаў, дзе зберагаліся соль, хлеб, іншыя тавары. Называлі тады гэта прадмесце Слабадой. Яно было вельмі прывабным, архітэктура дамоў значна адрознівалася ў лепшы бок ад той, якой забудоўваліся вуліцы горада. Слабада пазней злілася з вёскай Дымкі, якая знаходзілася ў канцы цяперашняй вуліцы з аднайменнай назвай. У ёй налічвалася ўсяго некалькі дамоў. Здаўна жыхары вёскі займаліся саматужнай вытворчасцю смалы і выпальваннем вугалю. Прымітыўныя смалакурні існавалі да сярэдзіны XX ст. Сюды звозіліся смаляныя карчы ад хвоі, якія ўтваралі цэлыя «горы». Над вёскай заўсёды стаяў дым, які быў добра бачны з горада. Ці не таму і месца назвалі Дымкі?

Наогул, прыстань і Слабада прыцягвалі да сябе шмат людзей: падрадчыкаў, памешчыкаў, эканомаў, пісараў, купцоў, якія прыязджалі сюды з усіх канцоў губерні, з іншых месцаў, каб оптам набыць тавар. З ранняй вясны і да глыбокай восені прыходзілі да прыстані дзесяткі суднаў пад разнастайнымі сцягамі. Вабіла прыстань да сябе і жыхароў горада, якія прыходзілі сюды ў свой вольны час.

## Барысаў і ваколіцы ў час вайны 1812 г.

Летам 1812 г. у межы Расіі ўварвалася напалеонаўская армія. Горад Барысаў напярэдадні вайны як адзін з апорных пунктаў на захадзе Расіі пачаў умацоўвацца. З гэтай мэтай на правым беразе Бярэзіны перад мостам сапёры палкоўніка М.Г.Сазонава з дапамогай гараджан і жыхароў навакольных вёсак высеклі лес у паласе на паўтары вярсты і пачалі будаваць земляныя ўмацаванні паводле плана, які зацвердзіў Барклай дэ Толі. Умацаванні прызначаліся для размяшчэння артылерыйскіх батарэй і прыкрыцця 20-тысячнага войска рускай арміі. Яны складаліся з двух квадратных палявых умацаванняў (рэдутаў) і ўнутранай абарончай лініі (рэтраншаменты), займалі тэрыторыю 1700 м у даўжыню і столькі ж у шырыню. Каля падножжа вялізных насыпаў углыб былі выкапаны

«кватэры» для складоў. Да пачатку вайны будаўніцтва ўмацаванняў перад мостам скончыць не паспелі, і ў ходзе ваенных дзеянняў абарончай ролі яны не адыгралі.

Расійская армія на пабудаваных перад мостам умацаваннях утварыла прадуктовыя і фуражныя склады шляхам рэквізіцый у мясцовага насельніцтва. 25 чэрвеня (7 ліпеня)* начальнік барысаўскіх умацаванняў палкоўнік Грэсер атрымаў загад Баграціёна, у якім гаварылася, што калі вораг наблізіцца да горада на 30 вёрст, «не ожидая других повелений, заклепать пушки, бросить их в воду и с командою отступать в Бобруйск». Загад палкоўнік выканаў 30 чэрвеня (12 ліпеня) у 7 гадзін раніцы, спаліўшы пры гэтым і магазін з аўсом, сенам, крупамі і сухарамі. А ў 6 гадзін вечара Барысаў быў акупіраваны французскім войскам генерала Даву і італьянскага віцэ-караля Я.Багарнэ. Мясцовыя жыхары — чыноўнікі, большасць мяшчан і сялян — сем'ямі, а часцей і цэлымі вёскамі, пакінуўшы свае хаты і сядзібы, сыходзілі ў глыб глухіх і балоцістых лясоў, змагаліся з ворагам. Спачатку былі асобныя сутычкі з французамі, а потым супраціўленне стала паўсюдным і паклала пачатак партызанскаму руху.

Распачатая Напалеонам вайна супраць Расіі на Беларусі была ўспрынята неадназначна. У складзе расійскай арміі змагалася супраць захопнікаў шмат беларусаў-рэкрутаў. Насельніцтва, асабліва сялянскае, вяло непрымірымую партызанскую барацьбу з іншаземцамі.

Але ў захопленых раёнах французскі імператар абяцаў аднавіць Вялікае княства Літоўскае, абудзіўшы гэтым надзеі часткі беларускай шляхты, студэнцкай моладзі і мужыкоў на вызваленне ад расійскага прыгнёту, на адраджэнне незалежнасці. З гэтай мэтай у кароткі тэрмін былі сфарміраваны вайсковыя падраздзяленні, уключаныя ў французскае войска. Напалеон разлічваў на 100-тысячны атрад, але Часовы ўрад Вялікага княства Літоўскага (створаны Напалеонам для кіравання акупіраванымі тэрыторыямі) не спяшаўся выконваць абавязацельствы, бо і сам імператар так і не даў згоды на канфедэрацыю Беларусі з Польскай дзяржавай.

Акупацыйныя ўлады наводзілі ў горадзе свой парадак. Адміністрацыйны падзел праводзіўся на французскі ўзор — створаная барысаўская падпрэфектура ўключала 11 кантонаў (Зембінскі, Лошніцкі, Бярэзінскі і іншыя).

Захавалася больш за 500 дакументаў, якія адлюстроўваюць хроніку падзей на Барысаўшчыне ў час напалеонаўскай акупацыі. Нават беглае знаёмства з імі дае ўяўленне пра маштабы грабяжоў, насілля і дэспатызму, якія працягваліся 20 тыдняў. Рабавалі нават тых памешчыкаў, якія лагодна сустракалі акупантаў. Жыхароў Барысаўшчыны аблажылі непасільным падаткам. Камендант горада генерал Барбанегр выдаў распараджэнне, паводле якога да кожнага, хто не выконваў паставак у трохдзённы тэрмін, накіроўваліся 4 напалеонаўскія салдаты «для экзекуцыі». Пры гэтым ад неплацельшчыка патрабавалася

* У гэтым артыкуле даты падзей вайны 1812 г. даюцца ў 2 стылях (у дужках новы стыль).

ўтрымліваць гэтых салдат і выплачваць кожнаму ў дзень 12 злотых. Асабліва цяжкімі былі рэкруцкая, падводная, харчовая і грашовая павіннасці. Акрамя таго, у горадзе быў створаны вялікі варожы шпіталь — больш як на 2 тыс. ложкаў. Насельніцтва горада і павета павінна было ўтрымліваць гэтых параненых, як і ўсе 150 тыс. акупантаў, што навадніла мясцовасць (дарэчы, насельніцтва павета ў 1812 г. налічвала 46 590 душ). Прагная армія захопнікаў патрабавала вялікіх паставак. У журнале падпрэфектуры ад 2 ліпеня напісаны рапарт у камітэт правінцыі, дзе гаворыцца, што Барысаўскі павет паводле загаду ўрада павінен быў паставіць у пяцідзённы тэрмін арміі князя Экмюля 50 тыс. рацый (рацыя — дзённая норма фуражу), арміі генерала Грушы 7 тыс., гарнізону штодзень каля 1 тыс. рацый, корпусу, якога чакалі, да 40 тыс. рацый, у Лепель 6 тыс. цэнтнераў і ў Чашнікі 200 тыс. цэнтнераў мукі. А 25 ліпеня ваенныя ўлады загадалі жыхарам павета перадаць арміі 2306 бочак жытняй мукі, 415 — ячнай крупы, 4604 — аўса, па 52 316 пудоў сена і саломы, 875 пудоў солі, 14 526 літраў гарэлкі, 1725 валоў і інш.

Мясцовая шляхта, якая спадзявалася на адраджэнне ВКЛ, стварыла камісію па кіраванні паветам. Яна дапамагала падпрэфектуры ў выкананні новых загадаў. Аднак гэта не знаходзіла водгукаў і падтрымкі ў насельніцтва. З вялікімі цяжкасцямі ўдалося набраць у войска каля 180 чалавек замест 500, як патрабавалі французы.

Падпарадкаваць сабе мясцовае насельніцтва акупантам так і не ўдалося. Незадаволенасць народа расла з кожным днём. Непадпарадкаванне народных мас паралізавала дзейнасць варожых органаў мясцовага кіравання. А з пачаткам контрнаступлення рускіх супраціўленне французам яшчэ больш узмацнілася. Сяляне вёсак Сморкі, Студзёнка, Вялікае Стахава, Лошніца і іншых узбройваліся віламі, тапарамі, нават агнястрэльнай зброяй і ўключаліся ў вызваленчую вайну.

Пасля вядомай Барадзінскай бітвы і паражэнняў пад Таруцінам і Малаяраслаўцам Напалеон вымушаны быў адступаць па той самай Смаленскай дарозе, па якой «вялікая армія» ішла на Маскву. Літаральна па яе пятах рухаліся рускія войскі, з усіх бакоў не давалі ёй спакою народныя мсціўцы і атрады казакоў.

7(19) лістапада Напалеон са сваёй арміяй быў ужо ў раёне Оршы. Разлічваючы працягваць далейшы марш па дарозе на Мінск, ён ускладваў вялікія надзеі на Барысаў, на прыродную перашкоду — Бярэзіну. Ён хацеў тут замацавацца, атрымаць новае папаўненне і выкарыстаць тыя запасы пораху і правіянту, якія яшчэ знаходзіліся на гарадскіх базах. Але імператар не прадугледзеў адной акалічнасці.

Галоўнакамандуючы рускімі войскамі М.І.Кутузаў задумаў план стратэгічнага акружэння варожай арміі сумеснымі сіламі рускіх армій у раёне паміж Дняпром, Бярэзінай і Дзвіной. Напалеон яшчэ знаходзіўся ў Маскве, а фельдмаршал загадаў П.В.Чычагову рушыць са сваёй арміяй у Беларусь, каб прадухіліць магчымасць адыходу французаў. З боку Полацка да Бярэзіны напраўляўся 40-тысячны корпус генерала П.Х.Вітгенштэйна. Асноўныя сілы арміі М.І.Кутузава праследавалі адступаўшых французаў. У авангардзе

ішоў атрад М.А.Міларадавіча, па флангах — атрады казакоў генерала М.І.Платава. Хутчэйшага выканання загадаў настойліва патрабавалі ад Вітгенштэйна і Чычагова Аляксандр I і Кутузаў. Яны бачылі ў злучэнні армій поспех ваеннай аперацыі.

Пра становішча арміі Напалеона Кутузаў даносіў цару, што «ўся армія, можна сказаць, 12, 13 і 14 лістапада была акружаная з усіх бакоў. З гэтага становішча нашых армій у адносінах да непрыяцельскай трэба меркаваць непазбежную гібель непрыяцельскую» (Н.Ф.Гарнич. 1812 год. М., 1952. С. 204). Аднак мудрая задумка вялікага палкаводца не здзейснілася.

4(16) лістапада сіламі арміі пад камандаваннем Чычагова, якая высадзілася ў тыле французаў, быў вызвалены Мінск. Да гэтага часу Кутузаў змяніў месца нанясення Напалеону рашаючага ўдару, ім стала рака Бярэзіна. Галоўнакамандуючы загадвае адміралу Чычагову хутчэй заняць лінію абароны ўздоўж ракі, адрэзаўшы французам шлях адступлення цераз мост у Барысаве. У Чычагова ў гэты час налічвалася 20 тыс. штыкоў, 1100 шабляў і 178 гармат.

З Мінска насустрач адступаўшаму імператару Чычагоў паслаў кавалерыйскі корпус генерал-ад'ютанта графа К.В.Ламберта, узмоцнены двума пяхотнымі палкамі і ротай артылерыі. Але яго апярэдзілі войскі польскага генерала Дамброўскага, якія ўваходзілі ў склад французскай арміі. Да яго далучыліся рэшткі войскаў мінскага губернатара Бранікоўскага (пасля разгрому ў Мінску ён спяшаўся да злучэння з асноўнымі напалеонаўскімі сіламі). Заняўшы рэдуты, французскія часці размясціліся на адпачынак, але нечакана паявіліся рускія егеры А.І.Красоўскага, і завязаўся бой.

У атаку на «Батарэі» (так называюць жыхары Барысава рэдуты 1812 г.), дзе размясціўся 4-тысячны атрад праціўніка, ішлі 7, 13, 14, 38-ы егерскія палкі. Іх падтрымлівалі ўланскія і гусарскія палкі, казакі, батарэйная і конныя роты. На досвітку 9 (21) лістапада егеры 14-га палка з падтрымкай 7-га палка ачысцілі левы рэдут. Упартае супраціўленне аказаў праціўнік на правым рэдуце, 13-ы і 38-ы егерскія палкі то дабіваліся поспеху, то зноў адыходзілі. У гэтым баі загінуў генерал Энгельгарт. І тады ў штыкавую атаку павёў рускіх салдат Карл Восіпавіч Ламберт. Каля 10 гадзін раніцы абодва рэдуты дасталіся Ламберту. Граф сам быў цяжка паранены, аднак поля бою не пакінуў. Асабістай мужнасцю ён уплываў на салдацкі настрой. У 3 гадзіны дня ўмацаванні былі захоплены поўнасцю, руская пяхота па мосце ўвайшла ў горад Барысаў. Як сведчаць дакументы, было ўзята 2 штаб-афіцэры, 38 обер-афіцэраў, больш за 2 тыс. ніжніх чыноў, 7 гармат і адзін штандар. У варожым стане было каля 2 тыс. загінуўшых. Рускія страцілі 310 забітымі і 589 параненымі. Так былі сарваны планы Напалеона пераправіць армію цераз барысаўскі мост і затрымацца на правым беразе Бярэзіны, выкарыстаўшы запасы правіянту і фуражу, якія былі на «Батарэях».

Асноўныя сілы 3-й Заходняй арміі пад камандаваннем П.В.Чычагова ўступілі ў Барысаў 10 (22) лістапада, заняўшы лінію Бярэзіны ад мястэчка Зембін да Ушы і тым самым

перакрыўшы шлях адступлення французам. Сам адмірал размясціўся ў горадзе. Чакаючы Напалеона, ён нават загадаў распаўсюдзіць прыкметы французскага імператара, каб усе іх ведалі, і распарадзіўся лавіць і прыводзіць усіх маларослых. Пераправы, акрамя барысаўскай, Чычагоў загадаў спаліць, сам збіраўся выступіць насустрач Напалеону, разлічваючы першым дасягнуць мястэчка Бобр. З гэтай мэтай ён адправіў генерал-маёра Палена, прызначанага замест параненага Ламберта камандуючым авангардам арміі, у бок в. Лошніца (за 18 км на ўсход ад Барысава).

Тым часам Напалеон, заціснуты ў трохвугольніку Талачын — Чарэя —Лошніца, настойліва шукаў выхад да пераправы. Атрымаўшы данясенне аб здачы ўмацаванняў, пабудаваных перад мостам у Барысаве, Напалеон, які ўмеў захоўваць спакой пры любых абставінах, упершыню не стрымаў хвалявання і рэзка выказаў сваё нездавальненне, паколькі гэту страту ён лічыў вялікім няшчасцем для арміі. Ён загадаў маршалу Удзіно тэрмінова рухацца да Барысава, каб адцясніць войскі Чычагова і завалодаць барысаўскім мостам, а калі ён знішчаны рускімі, то адшукаць зручнае месца для пераправы.

Французскія войскі Удзіно выступілі з Лошніцы і накіраваліся да Бярэзіны. За 3 км ад вёскі авангарды армій Удзіно і Палена сутыкнуліся ў крывавым баі. Рускія неслі вялікія страты і пачалі адыходзіць. Праследуючы гусараў, войскі маршала Удзіно ўварваліся на барысаўскія вуліцы.

На жаль, застаючыся ў Барысаве, камандуючы 3-й арміяй не паклапаціўся зрабіць на левым беразе ўмацаванні, і лагер быў адкрыты, каля 3 тыс. кавалерыстаў былі адасланы на нарыхтоўку фуражу, чым быў аслаблены яго атрад. Акрамя таго, памылкамі Чычагова было тое, што ён не паслаў дапамогі Палену, які нёс значныя страты ў баі, не арганізаваў аператыўную разведку і дрэнна ведаў пра тое, як складваліся абставіны. Усё гэта прывяло да таго, што адмірал сам ледзь паспеў перабрацца на правы бераг, спаліўшы за сабой мост. Шмат коней, павозак было кінута, нават асабістыя рэчы камандуючага, у тым ліку сямейны сталовы сервіз з серабра.

Страта Барысава Чычаговым адкрыла магчымасць Напалеону вырвацца з акружэння. 12 (24) лістапада ў Барысаў уступіў французскі генерал Нэй са сваёй дывізіяй. 13 (25) лістапада сюды прыбыла гвардыя Напалеона, а за ёй і сам імператар.

Горад быў перапоўнены войскамі, галодныя людзі аднімалі ў мясцовага насельніцтва тое, што яшчэ заставалася з харчоў і адзежы. Моцныя маразы павялічвалі цяжкае становішча напалеонаўскай арміі.

Перад Напалеонам адкрылася бярэзінская панарама — паўразбураны мост і шырокая рачная пойма, залітая вадой, па якой плылі льдзіны. Ён пераканаўся ў немагчымасці пераправіць армію ў гэтым месцы. Выконваючы загад імператара, генерал Удзіно вывучыў ваколіцы Барысава і выявіў 4 брады: каля вёсак Стахава, Студзёнка, Весялова і Ухалода. Як сведчаць яго набліжаныя, Напалеон правёў над разгорнутай картай некалькі гадзін у адной з барысаўскіх хат. У выніку месцам пераправы ён выбраў Студзёнку, што за 15 км

вышэй па рацэ, і загадаў генералу Эбле прыступіць да ўзвядзення там 2 мастоў для пяхоты і для артылерыі.

Адначасова ён аддаў загад зрабіць падманны манеўр з будаўніцтвам моста ў вёсцы Вялікая Ухалода для адцягнення ўвагі Чычагова. Адмірал, уведзены ў зман, сцягнуў усе свае войскі сюды, на поўдзень ад Барысава, з мэтай перашкодзіць пераправе французаў, пакінуўшы на ўмацаваннях перад гарадскім мостам толькі корпус Ланжэрона, а ў вёсцы Брылі — невялікі атрад генерала Карнілава. Гэта і патрэбна было Напалеону.

Аддаўшы распараджэнні, Напалеон у прыцемках адправіўся ў бок Студзёнкі, зрабіўшы начны прывал у радзівілаўскім маёнтку ў Стара-Барысаве.

Тым часам прыбыўшыя ў Студзёнку французскія кавалерысты ўплаў фарсіравалі раку, а стралковы батальён пераправіўся на плытах. Яны забяспечвалі будоўлю мастоў. Пад безупыннай гарматнай пальбой і агнём рускіх стралкоў з высокага правага берага французскія пантанёры, стоячы па грудзі ў ледзяной вадзе, устанаўлівалі на дно Бярэзіны маставыя апоры (пры глыбіні ракі 1,8 м). Зверху апоры насцілалі бярвеннямі, дошкамі — усім, што мелася пад рукамі. Для гэтай мэты разабралі сялянскія хаты, хлявы, свірны, сабралі сена і салому. Студзёнка была зруйнавана, насельніцтва разбеглася па лясах і суседніх вёсках.

У сярэдзіне дня 14(26) лістапада масты даўжынёй 110 м і шырынёй 3,5 м былі гатовы. Першым перайшоў корпус Удзіно — рэшткі 2-га і 5-га пяхотных карпусоў і 3-й кірасірскай дывізіі. На правым беразе яны развярнуліся ў баявы парадак, перакрыўшы дарогу са Стахава. І толькі праз паўгадзіны да Брылёўскага поля з лесу стала выходзіць войска рускага генерала Чапліца. Разам з генералам Карнілавым ён рабіў усё магчымае, каб не даць праціўніку заняць Брылёўскія высоты і выйсці на Зембінскую дарогу. Аднак перашкодзіць пераправе поўнасцю не змаглі — французы адціснулі рускіх.

Апоўдні 15 (27) лістапада на правы бераг пераправіўся Напалеон са сваёй парадзелай гвардыяй, за ім артылерыя, пяхота і абозы. Даведаўшыся, што масты і грэблі цераз раку Гайну цэлыя, ён вельмі ўзрадаваўся: «Мая зорка зноў узышла!» — ускрыкнуў імператар і адправіўся на адпачынак у в. Занівкі.

Толькі за дзень да гэтага Чычагоў даведаўся аб сапраўдным месцы пераправы французаў і стаў перакідваць свае войскі ўверх па цячэнні Бярэзіны. Падышоў і корпус Вітгенштэйна, акружыў дывізію Партуно ў Барысаве, і яна склала зброю. У гэтай аперацыі вызначыўся авангард арміі, узначалены палкоўнікам Е.І.Уластавым. Было ўзята амаль 9 тыс. палонных, з іх 5 генералаў і 3 гарматы. Хутка ў горад уступілі казакі М.І.Платава і партызанскі атрад А.М.Сяславіна, які паланіў 3 тыс. варожых салдат. На ўмацаваннях перад мостам з'явіўся Чычагоў. Ён устанавіў сувязь з Вітгенштэйнам і дамовіўся з ім на наступны дзень зрабіць адначасовае нападзенне на непрыяцеля з абодвух бакоў пераправы, але гэтага не адбылося — кожны дзейнічаў паасобку.

Да канца дня 15 (27) лістапада войскі М.І.Платава і генерал-маёра А.П.Ярмолава ачысцілі ад праціўніка Стара-Барысаў і прыбылі да Стахава. У ноч з 15 (27) на 16 (28)

лістапада тут былі наведзены пантонныя масты, амаль уся армія Чычагова перапраўлялася на правы бераг. 16(28) лістапада бой кіпеў на берагах ракі. Рускія воіны цяснілі французаў з абодвух бакоў — напіралі на іх казакі генерала Платава, атрад Чапліца, падмацаваны часцямі графа Палена, біўся няспынна. Егерскія палкі — 7, 12, 14-ы, 22-і, 27-ы, 28-ы, 32-і пакрылі сябе нязгаснай славай. Генерал-маёр Чапліц асабіста з 2 эскадронамі паўлаградскіх гусараў кінуўся ў бой і разбіў амаль ушчэнт кавалерыйскую варожую калону. Генерал-лейтэнант Сабанееў, які ўзначаліў 9-ю і 18-ю пяхотныя дывізіі, адчайна змагаўся з французамі, што прабіваліся праз ланцуг егераў да Зембінскага тракту. У час другой атакі яны амаль поўнасцю знішчылі Віслескі легіён. Але і многія воіны Чапліца і Сабанеева загінулі ці трапілі ў палон.

З войскаў авангарда Чапліца быў створаны асобны атрад пад камандаваннем генерал-маёра П.Я.Карнілава. У гэты атрад увайшлі 2 егерскія палкі, Паўлаградскі гусарскі полк, эскадрон валынскіх уланаў, 2 казачыя палкі і 13-я конная рота. Апошняй камандаваў Арнольдзі. Ён з вялікімі цяжкасцямі размясціўся на балоцістым беразе Бярэзіны каля вёскі Брылі, насупраць Студзёнкі. Было ў яго ўсяго 4 конныя гарматы супраць 40 французскіх. Малады военачальнік трое сутак біўся і не падпускаў ворага да пераправы. У гэтых бесперапынных жорсткіх баях рускія панеслі вялікія страты — загінула каля 2 тыс. чалавек, але ж і французаў палягло больш за 5 тысяч.

У Студзёнцы зноў вызначыўся атрад Уластава: ад імгненных казачых атак, ад няспынных трапных стрэлаў гармат значна парадзела войска французскага генерала Віктора. Толькі прыцемкі астанавілі гарачы бой. Кінуўшы гарматы, салдаты Віктора штыкамі пракладвалі сабе дарогу па мосце на правы бераг. А там французскія войскі трапілі ў акружэнне, і ўсе намаганні прарваць лінію рускіх не прыводзілі да поспеху. Тады яны стварылі шчыльную калону, у якую ўвайшлі ўсе — ад генерала да радавога пехацінца, кавалерысты і артылерысты. Калона імгненна кінулася на егерскія ланцугі рускіх, разарваўшы іх і адкінуўшы ў лес. Адыход імператара прыкрывалі частка яго гвардыі і пяхота. Да гэтага часу адзін мост, па якім перапраўлялі артылерыю і конніцу, напалову абваліўся, і ўсе, хто быў на ім, трапілі ў ледзяную ваду. Тады ўся маса, што адступала, кінулася да другога моста, але і там ірваліся ядры. Ахопленыя панікай, салдаты яшчэ больш цяснілі адзін аднаго і гінулі.

Раніцай 17 (29) лістапада рускія войскі ўсё больш цяснілі французаў, спрабуючы захапіць мост. І каб гэтага не здарылася, Напалеон загадаў генералу Эбле падпаліць масты, не даўшы сваім войскам завяршыць пераправу. І тут паўтарылася жудасная сцэна ўчарашняга дня: перапоўненыя людзьмі і абозамі масты браліся штурмам, мацнейшыя прабівалі сабе шлях штыкамі і прыкладамі. У гэты момант з'явіліся ў Студзёнцы войскі Вітгенштэйна. Што рабілася тады сярод апантанага непрыяцеля, цяжка паддаецца апісанню. Салдаты ў роспачы кідаліся ў агонь, каб прарвацца на другі бераг, але падгарэлыя масты абрушваліся, і людзі кідаліся ў раку. Хутка Бярэзіна і яе берагі запоўніліся загінуўшымі. На абодвух берагах было





*Пераправа французаў цераз Бярэзіну каля Студзёнкі. Малюнкі XIX ст.*

шмат параненых і хворых, лёс іх аказаўся трагічным, бо ўжо 18 (30) лістапада адліга змянілася марозам у 20°. Тым часам імператар Францыі, кінуўшы сваіх суайчыннікаў у бядзе, імчаўся па дарозе на Зембін. А праз тыдзень, калі дабраўся да Смаргоні, пакінуў рэшткі сваіх войскаў на волю лёсу і адбыў у Парыж.

Імператар пісаў аб сваёй арміі графу Марэ: «Армія выглядае дрэнна... больш як 40 тысяч...ператварыліся ў бадзяг, дакладней, у разбойнікаў» (Харкевич В.И.Березина, 1812. СПб., 1893. С. 202).

Анры Бейль, інтэндант напалеонаўскай арміі і будучы французскі пісьменнік Стэндаль, пісаў на радзіму, што ён застаўся жывым толькі дзякуючы выпадковасці: нейкі салдат паказаў на Студзёнцы месца, дзе ён «стаў на конскі круп» і пераехаў конна Бярэзіну. У пісьме да сястры Паліны ён піша: «... Я сам выратаваўся дзякуючы сваёй рашучасці: я часта бачыў блізка перад сабой смерць». Адчуўшы на сабе ўсе цяжкасці вайны, горыч паражэнняў і адступленняў, ён быў вельмі здзіўлены, калі дабраўся да Вільні і там убачыў на сцяне Літоўскага замка лістоўку, у якой паведамлялася, што Напалеон разбіў пад Барысавам на Бярэзіне 16 (28) лістапада 2 буйныя рускія арміі і захапіў трафеі, адным словам, атрымаў перамогу. І гэта паведамлялася ў той час, калі імператар «пасля фантастычнай пераправы цераз Бярэзіну» аддаў распараджэнне аб знішчэнні ўсіх дакументаў арміі, прызнаў справу прайгранай і памчаўся ў Парыж. У сваіх дзённіках Стэндаль іранічна заўважае, што тэхніка ваенных данясенняў «моцна звязана з неабходнасцю такіх зводак і фальшывых малюнкаў, якія ў корані скажаюць ваенную сапраўднасць» (Стэндаль. Збор твораў у 15 тамах. Т. 15, М., 1959).

Нягледзячы на тое, што Вярхоўнае камандаванне дапускала памылкі, афіцэры і ніжнія чыны вялі сябе ў баях з непрыяцелем па-геройску.

У вызваленні Барысава вызначыўся бясстрашны камандзір «лятучага» атрада палкоўнік Аляксей Мікітавіч Сяславін. На Бярэзіне яшчэ раз прадэманстраваў сваё воінскае майстэрства генерал ад кавалерыі камандуючы казачымі палкамі Мацвей Іванавіч Платаў. Мужна змагаўся на Брылёўскім полі атрад генерал-маёра Пятра Якаўлевіча Карнілава. А генерал Яфім Ігнатавіч Чапліц узначаліў атаку паўлаградскіх гусараў і потым, кантужаны, не пакінуў поля бою і кіраўніцтва корпусам.

Камандзір палка падпалкоўнік В.Р.Мадатаў (пазней, за баі на Бярэзіне — генерал) на сваім удалым кані разам з салдатамі хадзіў у атаку на французскія калоны.

У самым пачатку пераправы здзейсніў свой подзвіг і радавы Фёдар Мельнікаў. У баі пад ім быў забіты конь, але салдат не разгубіўся, умомант саскочыў з яго і далучыўся да атакуючых егераў. У рукапашным баі ён знішчыў некалькі французаў і ўзяў у палон афіцэра.

У баях за горад вылучыліся і войскі графа Ламберта. Яго асаблівая мужнасць і ўмелае камандаванне спрыялі поспеху. Падымаючы воінаў у атаку, ён быў цяжка паранены.

Разам з вайсковымі часцямі да Бярэзіны прыйшлі апалчэнцы. У бітве за Барысаў бяспрыкладную адвагу паказалі ратнікі наўгародскага апалчэння. Начальнік дружыны


П.В.Чычагоў.


П.Х.Вітгенштэйн.


А.М.Сяславін.

А.А.Погрыбаў толькі пасля 8 раненняў перадаў камандаванне. У гэтых баях вылучыліся таксама воіны пецярбургскага апалчэння.

У Ваенна-гістарычным архіве ў Маскве зберагаецца матэрыял, што быў у свой час падрыхтаваны для Камісіі па будаўніцтве Храма ў імя Хрыста Збавіцеля, для напісання ў гэтым храме на мармуровых дошках прозвішчаў воінаў, якія вызначыліся ў час вайны 1812 г. У іх ліку за бой на «Батарэях» узнагароджаны: камандуючы войскамі граф К.В.Ламберт ордэнам Святога Уладзіміра II ступені, палкоўнік А.І.Красоўскі ордэнам Святога Георгія III ступені, Хрушчоў — Залатой шабляй з алмазным аздабленнем, Федарэнка — ордэнам Святой Ганны II ступені, Арнольдзі — ордэнам Святога Уладзіміра IV ступені з бантам. За баі пры Бярэзіне ўзнагароджаны: ордэнам Святой Ганны I ступені генерал-маёры Гарпе, Рудзіевіч, ордэнам Святога Георгія III ступені генерал-маёры Карпаў, Лукаў, Рахманаў, Радзіёнаў, ордэнам Святога Уладзіміра III ступені генерал-маёр Уманец, чынам генерал-лейтэнанта князь Шчарбатаў, чынам генерал-маёра палкоўнік фон Штадэн, званнем флігель-ад'ютанта палкоўнік А.М.Сяславін, а граф П.Х.Вітгенштэйн — прэміяй у 50 тыс. рублёў.

Паводле сведчання гісторыкаў, бярэзінская пераправа была самай змрочнай старонкай у гісторыі напалеонаўскай арміі. Пасля бою на Бярэзіне армія Напалеона ў ваенным сэнсе перастала існаваць. Гэта быў змучаны, галодны натоўп, які нічым не нагадваў дысцыплінаваныя ваенныя часці. З кожным днём ён змяншаўся. Ужо праз 3 дні пасля пераправы ад арміі засталося толькі 9 тыс. чалавек, якія захоўвалі яшчэ воінскае аблічча.

Згодна з журналам ваенных дзеянняў 3-й Заходняй арміі, толькі за дзень 16 (28) лістапада страты французаў склалі каля 10 тыс. чалавек забітымі, 16 300 чалавек палоннымі, узята трафеяў — 28 гармат, 6 штандараў, вялізная колькасць багажу.

У дакладзе Аляксандру I аб выніках бітвы на Бярэзіне Кутузаў указваў, што праціўнік пакінуў тут толькі палоннымі 5 генералаў, 427 штаб- і обер-афіцэраў і 23 500 салдат, а разам з загінуўшымі і тапельцамі страты праціўніка склалі каля 50 тыс. чалавек.

«... Узята было вельмі многа артылерыі, узяты былі амаль усе абозы і надзвычай вялікая здабыча. Багацці Масквы не перайшлі Бярэзіну: яны былі аплачаны ўцёкамі, сорамам і жыццём», — так піша генерал А.П.Ярмолаў у сваіх успамінах.

Вынікі маглі быць яшчэ больш пераканаўчымі, але Чычагоў і Вітгенштэйн дзейнічалі незалежна адзін ад аднаго, не ўвялі ў бой усе наяўныя сілы, марудзілі з аказаннем дапамогі ваюючым атрадам, самі не прынялі непасрэднага ўдзелу ў кіраванні баявымі дзеяннямі, а даручылі справу падначаленым генералам. У той жа час дзеянні французскай арміі падпарадкоўваліся толькі загадам Напалеона. Да таго ж, адзначае вядомы гісторык К.Клаўзевіц, «Напалеон на берагах Бярэзіны скарыстаў даўно адкладзены капітал — славу сваіх мінулых перамог». Гэта і дапамагло яму выйсці з цяжкага становішча, у якім аказалася французская армія на Бярэзіне.

Руская таксама панеслі страты. Пры штурме рэдута загінуў генерал Энгельгарт. У баях каля пераправы — капітан Сеўскага пяхотнага палка Трусаў і падпаручнік Паліванаў. 12-ы егерскі полк страціў на Бярэзіне маёраў Мацвеева і Штэберга, капітана Клакачова. Ніжнія чыны засталіся ў агульнай лічбе — іх загінула каля 6 тысяч.

Вайна спустошыла Барысаўшчыну. Рэквізіцыі напалеонаўскіх і рускіх войскаў прывялі ў заняпад горад, мястэчкі і вёскі. Шмат жыхароў загінула і памерла ад голаду, холаду і хвароб. Іншыя збеглі ў лясы і не вярнуліся дадому. Вызвалены Барысаў дыміўся ад пажарышчаў. Вось што запісаў у сваім дзённіку Фёдар Глінка, рускі афіцэр, удзельнік баёў і будучы дзекабрыст: «Мы остановились в разоренном и еще дымящемся от пожара Борисове. Несчастные наполеоновцы ползают по тлеющим развалинам и не чувствуют, что тело их горит!.. Те, которые поздоровее, втесняются в избы, живут под лавками, под печами и заползают в камины. Они страшно воют, когда начнут их выгонять. Недавно вошли мы в одну избу и попросили старую хозяйку протопить печь. «Нельзя топить, — отвечала она, — там сидят французы!» Мы закричали им по-французски, чтобы они выходили скорее есть хлеба. Тотчас же трое, черные, как арапы, выпрыгнули из печи и явились перед нами» (Глинка Ф.Н. Письма русского офицера 1812 г. Смоленск, 1946. С. 249).

Наогул, вайскоўцы і жыхары адносіліся да палонных без агрэсіі, спачуваючы іх гаротнаму становішчу.

Пасля заканчэння ваенных дзеянняў на Бярэзіне, руская армія пайшла праследаваць непрыяцеля, які кінуў на левым беразе большую частку адстаўшых (каля 10 тысяч) і шмат цывільных грамадзян, якія разам з Напалеонам пакідалі Расію. Кінуў імператар і сотні параненых, якія замярзалі на снежных бярэзінскіх прасторах. Бязвыхадны адчай няшчасных не спыніў яго — ён ратаваўся сам.

Толькі з прызначэннем падпалкоўніка Свечына камендантам Барысава пачалі

ачышчаць горад і ваколіцы ад замёрзлых цел людзей, ад трупаў коней, разбітых павозак і гармат. У лютым 1813 г. у павеце закапалі і спалілі 40 296 чалавечых трупаў і 34 511 — коней. Ф.Глінка пісаў: «Проедешь Оршу, Дубровну, Борисов, Минск и ничего не увидишь, кроме повсеместного разрушения — неминуемого следствия войны».


*І.Х.Каладзееў.*

Прайшлі гады. Адбудаваўся Барысаў, адрадзіліся вёскі.

Напярэдадні 100-годдзя Айчыннай вайны 1812 г. у Расіі і Беларусі абудзілася цяга грамадства да падзей той вайны. Даследчыкі вывучалі ўспаміны, журналы ваенных дзеянняў, распрацоўвалі і выдавалі манаграфіі. Гісторыкі, археолагі, краязнаўцы адшуквалі рэліквійныя рэчы, стваралі выстаўкі, планавалі адкрыццё музеяў.

Жыў такі апантаны чалавек і ў Барысаве — гэта памешчык Іван Хрысанфавіч Каладзееў. У пошуку матэрыялаў па вайне 1812 г. ён аб'ездзіў усю Еўропу. З розных краін свету ён выпісваў кнігі, якія друкавалі матэрыял па вайне 1812 г., на аўкцыёнах купляў карты, мастацкія творы, дакументы, успаміны — усё, што хоць неяк адносілася да тэмы гэтай вайны. Каля 15 тыс. тамоў кніг, больш за 3,5 тыс. адзінак мастацтва, прадметаў воінскай амуніцыі, зброі, штандараў, іншых рэчаў складалі яго калекцыю. І.Х.Каладзееў атрымаў грунтоўную адукацыю, ведаў некалькі замежных моў, добра ведаў сусветную гісторыю, літаратуру і мастацтва. Вучоны-калекцыянер займаўся навуковай апрацоўкай сабранага, вёў і выдаваў каталогі. Барысаўскую калекцыю добра ведалі ў Францыі, Германіі, Аўстрыі, іншых краінах, куды яна вывозілася на выстаўкі. Спецыялісты адзначалі, што яна лічылася найбагацейшай у Еўропе.

І.Х.Каладзееў — прагрэсіўны грамадскі дзеяч канца XIX — пачатку XX ст. Ён адзін са стваральнікаў Ваенна-гістарычнага згуртавання ў Расіі, стацкі саветнік, камергер двара, ганаровы міравы суддзя па Барысаўскім павеце. Займаючыся краязнаўствам, ён знайшоў месца пераправы на Бярэзіне ў 1812 г. У лістападзе 1901 г. на свае сродкі ўстанавіў у Студзёнцы 2 аднолькавыя помнікі ў тых месцах, адкуль пачыналіся французскія масты. Не застаўся ўбаку Каладзееў і пры ўзвядзенні помніка на Брылёўскім полі ў 1912—1913 гг.

Сваю калекцыю І.Х.Каладзееў завяшчаў музею 1812 г., які ствараўся ў Маскве, больш за 11 тыс. тамоў кніг перадаў сам у 1913 г., астатнюю частку музей атрымаў у 1915 г. (ужо пасля смерці мужа ў 1914 г. выканала запавет яго жонка Вольга Сяргееўна). Аднак музей 1812 г. так і не пабудавалі. Мастацкая і прадметная часткі калекцыі захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі, а кнігі — у Бібліятэцы замежнай літаратуры ў Маскве.

Памяць аб падзеях вайны 1812 г. адлюстравана ў розных відах дзейнасці людзей на працягу амаль двух стагоддзяў. Тры дзесяцігоддзі ў сярэдзіне XIX ст. баразніў воды Чорнага, Балтыйскага і Паўночнага мораў паруснік «Бярэзіна». І сёння співаюць у Швейцарыі песню аб Бярэзіне, гучыць уверцюра П.І.Чайкоўскага «1812 год». Пісьменнікі і паэты розных краін свету ў сваёй творчасці звярталіся да гераічных і адначасова трагічных бярэзінскіх падзей. Назавём толькі некаторыя творы: «Вайна і мір» Л.М.Талстога, «Чалавечая камедыя» Анорэ дэ Бальзака, «Тры колеры часу» А.К.Вінаградава.

Бадай больш за ўсіх адлюстравалі гэту тэму мастакі. Панарама «Бярэзіна» (15 х 20 м) польскіх майстроў В.Косака і Ю.Фалата была найбольш грунтоўнай працай. У 1896 г. для паказу панарамы ў Берліне ўзвялі спецыяльны будынак. Потым яе прывозілі ў Расію, экспанавалі ў Кіеве і Маскве ў 1901 г. У 1907 г. панарама «Бярэзіна» вярнулася ў Кракаў, была парэзана на фрагменты і прададзена.

Некалькі палотнаў напісаў вядомы баварскі жывапісец Пётр Хес, адна з іх — «Пераправа цераз Бярэзіну» — дэманструецца ў Эрмітажы ў Санкт-Пецярбургу.



*У дзень асвячэння помніка рускім воінам каля в. Брылі, 1913 г. Трэці злева — І.Х.Каладзееў.*

Мастакі Ян Дамель з Беларусі, Януар Сухадольскі з Польшчы, В.Верашчагін з Расіі, Дамяніка Скоці з Італіі, Ж.Ланглуа, А.Адам, Фабэр дзю Фор з Францыі і многія іншыя на сваіх палотнах адлюстравалі падзеі 1812 г. на Бярэзіне. Многія з іх экспануюцца ў музеях розных краін. Аб гэтым, як і наогул аб падзеях 1812 г., падрабязна расказваецца ў кнізе барысаўчан прафесара Г.Мазінга і журналісткі Л.Ерусалімчык «Березина, год 1812-й», выдадзенай у Мінску ў 1991 г.

Ёсць памятныя матэрыялы і ў Барысаве. У краязнаўчым музеі зберагаюцца прадметы амуніцыі рускай і французскай армій, арол з французскага штандара, зброя, ядры і карцеч, некаторыя дакументы, фотарэпрадукцыя панарамы «Бярэзіна» В.Косака і Ю.Фалата, трыпціх беларускага мастака С.М.Цуканава «Партызаны», «Подзвіг генерала Ламберта» і «Вызваленне Барысава атрадам Сяславіна».

У розныя часы на месцах былых баёў пастаўлены помнікі. Першыя, каладзееўскія ад 1901 г., прастаялі гадоў 20. Да 150-годдзя вайны ў Студзёнцы амаль на тым жа месцы на бетонным падмурку паставілі 15-тонны валун з мемарыяльнай дошкай. А на Брылёўскім полі — чыгунную стэлу скульптара М.А.Рыжанкова. Недалёка ад яе ў 1992 г. узвялі дакладную копію помніка 1913 г., разбуранага ў 1920 г. у час белапольскай акупацыі.

Быў намер паставіць помнік героям вайны 1812 г. і ў горадзе. Праект яго распрацаваў таленавіты архітэктар І.А.Фамін. Але задуме гэтай не суджана было здзейсніцца — у 1914 г. пачалася 1-я сусветная вайна.

У 1996 г. з'явіўся яшчэ адзін помнік, які паставілі французы ў памяць пра суайчыннікаў, што загінулі на Бярэзіне ў 1812 г. (скульптар І.Я.Місько).

Тут жа раскінуўся парк, у якім знаходзяцца курганы, як лічаць — брацкія магілы загінуўшых воінаў.

За амаль што два стагоддзі, якія прайшлі з той вайны, рэчышча Бярэзіны і ваколіцы Барысава падвяргаліся грунтоўным расчысткам, раскопкам у пошуку скарбаў: першы раз у 1813 г., потым у 1896, 1910, 1962 гг. Каштоўныя рэчы, у тым ліку зліткі серабра і золата, розныя мастацкія вырабы былі



*Помнік у гонар рускіх воінаў у в. Студзёнка.*

сабраны ў першыя гады пасля выгнання французаў. Пазнейшыя знаходкі складваліся з касак, цесакоў, карцечы, ядраў, ранцаў, гузікаў, асобных дэталей сундукоў, павозак і інш. Знойдзеныя рэчы зберагаюцца ў музеях Мінска, Барысава, Масквы і Пецярбурга.

## Сацыяльна-эканамічнае развіццё Барысаўшчыны

На 1825 г. у Барысаве пражывала 1125 мужчын і 963 жанчыны. Сярод іх купцоў не было. Не было заводаў і фабрык. Дамоў драўляных налічвалася 318, каменных — 1, 2 царквы, 1 богаўгодная ўстанова, 1 навучальная ўстанова, 1 баня і 1 гандлёвая лаўка. Затое бойкі гандаль ішоў у 16 пітных дамах.

У 1826—1828 гг. у Барысаве меліся 1 бальніца і 1 аптэка. У 1832 г. галоўны інспектар рускай арміі Я.В.Вілес, зрабіўшы агляд бальніцы, напісаў, што ў ёй няма ні бані, ні ванны, не хапае лякарстваў, фельчараў і санітараў, а ўрач не мае лекарскага набору. Амаль праз 25 гадоў другі інспектар, Лашкароў, адзначыў, што ў барысаўскай бальніцы няма бялізны, лекаў, у памяшканнях брудна, няма каму глядзець за хворымі, за парадкам.

Інвентарныя кнігі сведчаць, што ў 1850-я гады ў паветовым Барысаве налічвалася 2 драўляныя царквы, каменны касцёл, 2 сінагогі, 3 службовыя дамы, 2 млыны, 604 асабістыя дамы.

У сярэдзіне XIX ст. па веравызнанні насельніцтва Барысава размяркоўвалася наступным чынам: праваслаўных 2693, католікаў 997, іудзеяў 2581, раскольнікаў, мусульман і пратэстантаў 45. Паводле сацыяльнага складу налічвалася: дваран 165, духоўных асоб 11, купцоў 123, цэхавых мастраў 124, мяшчан 4203, вайскоўцаў 1498, сялян 7. Ганаровых грамадзян было 167 (Труды Минского губернского статистического комитета. Историко-статистическое описание девяти уездов. Мн., 1870. Вып. 1). З прыведзеных звестак відаць, што ў горадзе побач жылі людзі розных нацыянальнасцей і веравызнанняў. І жылі дружна.

У 1860 г. у Барысаве дзейнічала 6 заводаў (5 скураных, 1 піваварны), працаваў 201 рамеснік, даходы складалі 2467 руб. Аднак прамысловасць, якая толькі нараджалася, мела няўстойлівы характар: у «...які-небудзь год адкрыецца цагляны або ганчарны завод, але ў наступным годзе ўжо закрываецца» (Труды Минского губернского статистического комитета, 1870. Вып. 1). Найбольшым попытам у насельніцтва карысталіся рамеснікі — печнікі, цесляры, навалі.

* * *

Толькі ў сярэдзіне XIX ст. з'яўляюцца больш-менш абагульненыя звесткі аб Барысаўскім павеце. Тады ён займаў тэрыторыю больш за 10 тыс. кв. км. У павет уваходзілі горад Барысаў, 11 мястэчак, 55 сёл, 667 вёсак, хутароў, фальваркаў і засценкаў. Найбольш

буйнымі мястэчкамі з'яўляліся Беразіно, Бягомль, Докшыцы, Лагойск, Крупкі, Смалявічы, Халопенічы.

Рака Бярэзіна падзяляе павет уздоўж на заходнюю і ўсходнюю часткі. Заходняя частка ўзгорыстая, тут праходзіць шэраг невысокіх узвышшаў. Усходняя частка нізінная, часткова балоцістая раўніна, пакрытая амаль паўсюдна лесам.

У 1861г. па шчыльнасці насельніцтва павет займаў 4-е месца ў губерні, у ім пражывала 109 102 чалавекі.

Вучоны- гісторык Я.П.Тышкевіч у сваёй працы пра Барысаў і яго наваколлі пісаў, што мясцовыя сяляне сярэдняга росту, формы цела ў норме, здаровыя, іх мова, звычаі і ўклад жыцця па ўсім павеце амаль аднолькавыя.

Павет займаў у губерні 8-е месца па колькасці палёў, 7-е — па колькасці балот, апошняе — па колькасці лугоў. Па плошчы, занятай лесам, ён стаяў на 1-м месцы (71% усёй тэрыторыі). Сяляне ў асноўным жылі ў невялікіх вёсках, або ў фальварках, мелі па некалькі коней і іншую жывёлу, якая пасвілася ў лесе. Жыхары лясных тэрыторый займаліся ў асноўным паляваннем, рыбалоўствам, а таксама выганкай смалы і каніфолі. У лясах і вадаёмах было багата розных звяроў, рыбы, таму насельніцтва не баялася голаду і нястачы ў неўрадлівыя гады.

А вось жыхары заходняй часткі павета, дзе займаліся ў асноўным земляробствам, надзвычай часта ў галодныя гады хадзілі ў далёкія заробкі, бо мясцовыя землі былі не вельмі ўрадлівыя, не маглі пракарміць сялян.

Пад ворыва ў павеце падпадала ўсяго 150 тыс. дзесяцін. Збожжа і бульбы больш як у 2 разы ад пасеянага не збіралася. І толькі лён добра рос, што ставіла павет на 2-е месца ў губерні пасля Слуцка. Што ж тычыцца жывёлагадоўлі, то ў статыстычным зборніку за 1870 г. адзначана так: «Едва ли найдется другой уезд в целой империи, который был бы так же несчастен в скотоводстве, как Борисовский».

Дапаможным промыслам у павеце было шырокае развіццё пчалярства. На 100 двароў у 1846 г. прыходзіўся 251 пчаліны вулей.

Асноўнае багацце павета — лес, сплаўляўся па Бярэзіне і яе прытоках далёка за межы барысаўскай зямлі.

Другім значным відам сыравіны з'яўлялася балотная жалезная руда, якой шмат было па берагах Бярэзіны. Яна здабывалася і апрацоўвалася ў горнах на Барысаўшчыне здаўна. А ў 1850-я гады ў в. Чэрнеўка, што ўваходзіла ў маёнтак князя Радзівіла, заснавалі металургічны завод, дзе вырабляліся акрамя цвікоў і іншых прадметаў побыту нават карпусы гармат. Завод выпускаў прадукцыі на 25 тыс. рублёў і лічыўся ў 1860-я гады адным з буйнейшых у Беларусі. Але ўжо ў 1876 г. упамінаецца як «былы завод».

У той час у павеце дзейнічала 5 прыстаней: Бярэзінская, Ухалодская, Ханецкая, Арэшкаўская, Юшкевіцкая. З павета вывозіліся 87,8% лесу, 5,1% смалы і дзёгцю, чыгуналіцейныя вырабы, хлебны спірт, вугаль драўняны, косці. З прывазных тавараў асноўнымі былі збожжа (52%) і соль (12,6%).

Статыстычныя даныя сведчаць аб тым, што ў 1860-я гады ў павеце дзейнічала 70 заводаў, у тым ліку 54 вінакурныя, 6 цагляных, 4 каніфольныя, 2 смаляныя, 2 скураныя, 1 цукровы, 1 медны. Але былі яны дробныя, саматужныя, з невялікай вытворчасцю, часта закрываліся.

Гандаль праводзіўся не толькі ў Барысаве, але і на базарных плошчах іншых мястэчак, а таксама на трох кірмашах — у Халопенічах (10 кастрычніка) і Лагойску (6 жніўня і 6 снежня). Гандлявалі сяляне ў асноўным лесам, рознымі вырабамі рамёстваў, збожжам. У 1906 г. у павеце адбылося 13 кірмашоў, на якія прывезена тавараў амаль на 240 тыс. рублёў.

Калі архіўныя дакументы хоць і не так шмат, але ж захавалі звесткі аб войнах, занятках людзей, гандлі, пабудовах, то пра становішча культуры амаль нічога не гаворыцца.

У статыстычных зборніках другой паловы XIX ст. указваецца, што першае павятовае двухкласнае вучылішча адкрылася ў 1840 г. Яно размяшчалася ў прыватным доме, працавалі 4 настаўнікі. Праз 26 гадоў адкрылася яшчэ 1 аднакласнае вучылішча з жаночай зменай. Усяго навучэнцаў у той год было 21 (дзеці дваран — 12, духоўных асоб — 1, гарадскога саслоўя — 7, сельскага — 1). Крыху пазней адкрылася ніжэйшая лясная школа. Яна рыхтавала малодшых спецыялістаў для лясной гаспадаркі і лесаапрацоўкі. У 1870-я гады ў межах цяперашняга раёна было 8 павятовых школ. На іх утрыманне казна адпускала вельмі мала грошай, большую частку сродкаў збіралі бацькі і апекуны. У школах займалася небагата вучняў, асабліва дзяўчынак. У 1848 г. на 111 сялянскіх душ прыходзіўся 1 вучань. Беднасць утрымання школ, плата за навучанне, нізкая зарплата настаўніка, адсутнасць педагагічных кадраў часта прыводзілі да таго, што школы закрываліся, а настаўнікамі працавалі дзячкі ды адстаўныя салдаты.

Былі і прыватныя школы. У справаздачы мінскага губернатара апекуну Віленскай вучэбнай акругі ад 29 кастрычніка 1800 г. названы школы ў вёсках Глівін памешчыка Свіда і Кішчына Слабада памешчыка Цюндзявіцкага. Дзеці памешчыкаў вывучалі рускую, польскую, французскую, нямецкую мовы, матэматыку, геаграфію, мараль.

* * *

Рэформа 1861 г. адкрыла шлях развіццю капіталізму ў Беларусі. Многія памешчыцкія гаспадаркі павета, як усёй цэнтральнай і заходняй часткі Беларусі, сталі на капіталістычны шлях развіцця. У сваіх маёнтках яны адкрывалі вінакурныя, цагельныя, смалакурныя заводы, млыны, лесапільні, здавалі зямлю ў арэнду.

Новы штуршок у развіцці эканомікі барысаўскі край атрымаў пасля пабудовы Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. 16 лістапада 1871 г. каля Барысава ўжо курсіравалі першыя цягнікі.

Чыгунка была пракладзена праз барысаўскія землі не толькі з-за стратэгічных меркаванняў, але і з улікам інтарэсаў буйных землеўладальнікаў, якія пераводзілі сваю

гаспадарку на капіталістычны шлях развіцця. Вядома, што пра будаўніцтва чыгункі каля Барысава значны клопат праяўлялі вялікія князі з дынастыі Раманавых, у валоданні якіх былі лепшыя землі на поўнач ад горада з маёнткам у Стара-Барысаве. Яны мелі непасрэднае дачыненне да вайсковага ведамства, актыўна ўдзельнічалі ў акцыянерных таварыствах, якія будавалі чыгункі.

У дзяржаўным камітэце Расіі, дзе вырашалася пытанне аб Маскоўска-Брэсцкай чыгунцы, спрэчкі працягваліся амаль 5 гадоў. Большасць яго членаў разам з міністрам шляхоў зносін генерал-лейтэнантам Мельнікавым лічылі, што чыгунка ў той час павінна была прайсці праз Магілёў — Бабруйск — Пінск. На думку іншых, у тым ліку вялікіх князёў, праз Мінск — Слонім.

Пасля доўгіх ваганняў у журнале камітэта 11 сакавіка 1868 г. з'явілася рэзалюцыя Аляксандра II: «Исполнить по мнению меньшинства». Тым самым імператар падтрымаў асабісты інтарэс роднага брата Мікалая Мікалаевіча. Паводле загаду манарха чыгунка прайшла праз Барысаў — Мінск. Яе пракладвалі па глухіх лясных масівах, але будавалі хутка. Да яе адкрыцця, за 3 км ад горада, на правабярэжжы Бярэзіны пабудавалі 2-павярховы драўляны вакзальны будынак і невялікі пасёлак для чыгуначных служачых. Ад станцыі да горада праклалі тракт. З гэтага часу барысаўскі лес не толькі сплаўляўся па рацэ, але вывозіўся чыгункай у гарады Расіі, а таксама ў Заходнюю Еўропу.



*Дарога на Стара-Барысаў. Пачатак XX ст.*

Выгаднае размяшчэнне, блізкасць сыравіны і зручная дастаўка яе да чыгункі сплавам — усё гэта прыцягнула да станцыі Барысаў прадпрымальнікаў. Навакольны лес памешчыкі высякалі і вывозілі на продаж, а зямлю здавалі мяшчанам у арэнду пад забудову. Пачалося будаўніцтва фабрык, заводаў, жылля.

Памешчыкі Каладзеевы з'явіліся на Барысаўшчыне яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. У 1865 г. генерал-лейтэнант Хрысанф Іванавіч Каладзееў быў прызначаны часовым ваенным начальнікам Віленскага і Барысаўскага паветаў, пазней пераведзены памочнікам начальніка 3-й пяхотнай дывізіі. Вядома, што з мэтай скасавання граней паміж Беларуссю і Расіяй, царызм раздаваў беларускія землі разам з сялянамі расійскаму дваранству, вайскоўцам. Так адстаўны генерал-лейтэнант, у мінулым небагаты дваранін, з 1876 г. стаў уладаром 2400 дзесяцін зямлі з маёнткам Краснае ў Барысаўскім павеце. З часам сям'я прыдбала Упярэвічы (каля 4800 дзесяцін) і Любатоўшчыну (каля 300 дзесяцін). Яго сын, Іван Хрысанфавіч, у 1911 г. валодаў 7500 дзесяцінамі зямлі. У 1875 г. на высокім правым беразе Бярэзіны недалёка ад чыгуначнага вакзала ён пабудаваў прыгожы аднапавярховы драўляны дом, вакол разбіў парк, пасадзіў пладовыя дрэвы. Зямлю, якая яму належала, здаваў у арэнду.

Недалёка ад чыгункі ўздоўж ракі Бярэзіны сталі з'яўляцца прадпрыемствы: вялікі князь Мікалай Мікалаевіч пабудаваў лесапільны завод, прадпрымальнік Чорны — фабрыку «Папірус» па вытворчасці паперы, Лур'е і К° — запалкавую фабрыку «Бярэзіна», пачалі



*Упраўленне маёнтка ў Стара-Барысаве. Пачатак XX ст.*

дзейнічаць тытунёвая фабрыка, завод па вытворчасці лаку і палітуры, шкляная гута купца Кабанава. У старадаўнім Барысаве пачаў фарміравацца рабочы клас.

У 1899 г. у горадзе і наваколлі з'явілася тэлефонная і тэлеграфная сувязь. За 10 гадоў існавання за карыстанне паслугамі сувязі плата павялічылася ў тры разы, таму сетка абанентаў не надта пашыралася. У 1911 г. налічвалася ўсяго 50 тэлефонаў у горадзе і 4 ў павеце (маёнткі ў Стара-Барысаве, Вільянове, Глівіне і млын у в. Гара), аб гэтым сведчыў першы тэлефонны даведнік.

У даведніку сярод абанентаў значыліся запалкавая фабрыка «Вікторыя», хрустальны і лесапільны заводы, фабрыка абутковых калодак «ЛЭР», вінзавод «Літва», кафельна-ганчарны завод, хімічная фабрыка «Прагрэс», фабрыка «Папірус». Пагартаўшы яго, даведаемся, што ў Барысаве ў 1911 г. было 4 гасцініцы, хоць і маленькія, рэстаран, вакзальны буфет, некалькі магазінаў. Ёсць у даведніку нумары тэлефонаў гарадскога галавы Антона Рыгоравіча Паўлоўскага, памешчыка Івана Хрысанфавіча Каладзеева, дырэктара гімназіі Эдуарда Міхайлавіча Клейна, настаяцеля сабора Фалевіча і іншых вядомых людзей у горадзе.

У выдадзенай у той час пастанове аб грамадскім кіраванні горада гаварылася: «В г. Борисове мещанское общество для составления приговоров от имени мещанского сословия, как по раскладке повинностей, так и вообще по делам, подлежащим суждению целого общества, избирает из своей среды депутатов».



*Будынак чыгуначнага вакзала ў Барысаве. Канец XIX — пачатак XX ст.*

Развіццё ў Расіі капіталістычных адносін спрыяла хуткаму росту прамысловасці і на Барысаўшчыне. Калі ў 1901 г. у горадзе дзейнічала 11 фабрык і заводаў, то ў 1910 г. іх было ўжо 32. У асноўным яны размяшчаліся ў Нова-Барысаве, былі невялікімі, з колькасцю рабочых у большасці ад 2 да 90 чалавек і толькі на шасці з іх працавала ад 100 да 400 чалавек.

Перапрацоўка драўніны — вось з чаго пачалося развіццё прамысловасці ў горадзе. На пачатак XX ст. такіх прадпрыемстваў налічвалася каля 20, сярод іх фабрыкі абутковых калодак, смалакурныя і шкіпінарныя, папяровыя і фанерная. Але перш за ўсё гэта лесапільныя заводы. Найбольш буйныя з іх належалі вялікім князям і прадпрымальніку Гутману. На іх працавала каля 400 рабочых і вытворчасць складала больш за 150 тыс. рублёў. Заводы выпрацоўвалі будаўнічыя матэрыялы, дошкі, гонт, сыравіну для іншых прадпрыемстваў. У 1880—1890 гг. тут былі ўстаноўлены паравыя рухавікі.

Вытворчасць запалак пачалася ў Барысаве з 1890 г., калі прадпрымальнік Б.Саламонаў пабудаваў фабрыку «Вікторыя» на левабярэжжы Бярэзіны, справа пры ўездзе ў старую частку горада. Яе вытворчасць складала 900 тыс. рублёў пры колькасці рабочых у 400 чалавек. Гэта фабрыка праз 31 год перастала існаваць. На яе базе быў утвораны лесазавод,



*Запалкавая фабрыка «Вікторыя». Пачатак XX ст.*

а ў 1935 г. пачалі выпускаць піяніна, а пасля Вялікай Айчыннай вайны арганізавалі суднабудаўнічую верф. Дарэчы, барысаўскія судны і баржы на гэтым месцы будавалі здаўна. Доўгі час ад былой верфі цягнуўся штучны канал да Бярэзіны, па якім спускалі судны. Запалкавая фабрыка «Бярэзіна», заснаваная С.Лур'е з кампаніяй, аказалася больш жыццяздольнай. На ёй працавала да 400 рабочых і выраблялася прадукцыі на 300 тыс. рублёў. Акрамя запалак, тут асвоілі вытворчасць фанеры, некаторых відаў мэблі, у тым ліку гнутых венскіх стулаў. Запалкі адпраўляліся не толькі ў розныя куткі Расіі, але і ў Персію, Турцыю, Польшчу і іншыя дзяржавы. Вытворчасць запалак узрасла — калі ў 1906 г. за мяжу прадалі 1800 тысяч карабкоў, то ў 1908 г. — 13 497 тысяч. Шкляная гута, набытая В.Краеўскім, пашыралася, на заводзе ўжо працавала 160 рабочых, яе вытворчасць складала 170 тыс. рублёў. З цягам часу гута перарасла ў хрустальную фабрыку «Барысаў».

На Барысаўшчыне здаўна людзі выраблялі з цэглы посуд, іншыя хатнія рэчы, кафлю для печаў. Наш край меў добрыя запасы цэглы і лічыўся адным з цэнтраў гэтай вытворчасці на Беларусі. Толькі ў горадзе ў розныя часы працавала да 10 цагельна-ганчарных майстэрань. Былі яны невялікія і выпускалі шмат патрэбных і прыгожых рэчаў — макатры, гарлачы і глякі, кубкі і гаршкі для вазонаў, дзіцячыя цацкі, з якіх найбольшым



*Дарога да прыстані. Пачатак XX ст.*

попытам карысталіся свістулькі ў выглядзе пеўнікаў, розных птушак і звяроў. Асобны від вытворчасці з цэглы — выраб кафлі, якой абкладваліся печы. Кафля была разнастайнай па форме і колеры, часам была аздоблена ляпнінай у выглядзе фруктаў і кветак, рознымі малюнкамі.

Дражджавы, сахарынавы і мылаварны заводы, вадзяныя млыны на рацэ Сха, паравая вальцовачная млынарня дапаўнялі прамысловасць Барысава. Барысаўская прадукцыя ў той час мела добрую якасць і была таннай, карысталася добрым попытам у мясцовага насельніцтва, вывозілася ў іншыя губерні. Хрустальныя вырабы, папера і запалкі выстаўляліся на міжнародных кірмашах і атрымлівалі высокія ўзнагароды.

Умовы працы на прадпрыемствах былі цяжкія: амаль усе працэсы ішлі ўручную, памяшканні былі сырыя, з пастаяннымі скразнякамі, большасць рабочых пакутавала ад рэўматызму. Рабочыя запалкавай фабрыкі Саламонава мелі зямлісты колер твару, упалыя вочы. Шмат у каго з рабочых на руках былі адрэзаны фалангі пальцаў ад машыннай працы.

Добрая слава ішла пра барысаўскія параходы. Толькі тут у 1890-я гады на Беларусі будаваліся паравыя судны. У 1892—1896 гг. са стапеляў суднабудаўнічай фабрыкі спушчана на Бярэзіну 14 рачных параходаў, якія пастаўляліся нават у Крамянчуг.

Аб'ём валавога даходу прамысловасці горада ў 1910 г. склаў 2 млн. 131 тыс. рублёў, што на той час лічылася значным.

Рост колькасці прамыслова-гандлёвых прадпрыемстваў выклікаў ажыўленне гандлёва-крэдытных устаноў. У 1899 г. узнік грамадскі банк з асноўным капіталам у 15 тыс. рублёў, які ў 1910 г. узрос да 27,5 тыс. і меў агульны абарот амаль у 6 млн. рублёў. Акрамя таго, сталі дзейнічаць дробнагандлёвае і рамесніцкае крэдытна-ашчаднае таварыства і таварыства ўзаемнага крэдыту.

З развіццём прамысловых прадпрыемстваў павялічвалася і колькасць насельніцтва горада. Паводле перапісу 1897 г. тут пражывала 15 063, а ў 1910 г. — 19 020 чалавек. На гэты час налічвалася чыноўнікаў 124, купцоў 62, мяшчан 12 953, сялян 3 940, рамеснікаў 864. Значная большасць з іх размяшчалася ў Нова-Барысаве, дзе і працавала. На арэндных землях узнікалі рабочыя пасёлкі.

У пачатку XX ст. Барысаў меў 7 друкарняў, якія належалі прыватным асобам. Тут друкаваліся даклады, каштарысы, пастановы, справаздачы павятовай земскай управы, інструкцыі для дзеянняў апекуноў, каталогі бібліятэк, спісы выбаршчыкаў у Дзяржаўную думу, мастацкія творы. Некалькі прадпрымальнікаў займалася продажам кніг.

Шмат існавала і фотамайстэрняў, у якіх найбольш плённа працавалі фотаатэлье «Мадэрн» Разенблюмаў і «Дэкаданс» Н.Габая. Дзякуючы фотамайстрам і друкарам сёння мы можам убачыць, як выглядаў наш горад і яго жыхары ў пачатку XX ст.

Галоўныя вуліцы былі забрукаваны, для пешаходаў зроблены драўляныя насцілы, з'явіліся газавыя ліхтары, на дамах — шыльды з назвамі вуліц. На Маскоўскай вуліцы







*Жыхары горада. Здымкі пачатку XX ст.*

3. Зак. 3662.

гараджане стварылі невялікі парк, высадзіўшы каля 700 дрэў. Дрэвы пасаджаны былі і ўздоўж вуліц.

У пачатку XX ст. горад займаў плошчу крыху больш чым 2 кв. сажні, Нова-Барысаў — удвая большую. У горадзе было 38 вуліц з 1105 дварамі, у новай частцы — 24 з 418 дварамі. У Нова-Барысаве сканцэнтравалася амаль уся прамысловасць, прадпрыемствы якой цягнуліся ўздоўж ракі.

Перамяшчэнне па горадзе ажыццяўлялі рамізнікі (а іх было 15 параконных і 30 аднаконных, 30 ламавых), але высокая плата за праезд рабіла паслугу недасягальнай для простых людзей. Каб скараціць шлях жыхароў да работы са старой у новую частку горада, былі створаны драўляныя масткі даўжынёй каля 400 сажняў цераз бярэзінскую забалочаную пойму да лодачнага перавозу (ён знаходзіўся ў раёне цяперашняй фабрыкі піяніна). Па Бярэзіне хадзілі таварна-пасажырскія судны, захаваліся іх назвы: «Бярэзіна», «Усход», «Дабрадзей», «Звязда», «Лес»; буксірныя — «Пераможац», «Пушкін», «Юдзіф». Пасажырскія судны хадзілі ад Барысава да мястэчка Лоеў на Дняпры, а буксірныя — ад вярхоўя да Дняпра.

Горад пакутаваў ад бытавых пажараў, як і ў мінулыя стагоддзі. У маі 1910 г. у агні загінула 260 дамоў у паўднёвай частцы старога горада, ад Віленскай вуліцы да ракі. Пажарная каманда з 12 чалавек і вольна-пажарная дружына не мелі сіл на барацьбу з агнём.

Горад меў толькі 1 вадакачку, якая стаяла на базарнай плошчы. Яна не магла забяспечыць




*Мужчынская гімназія ў Барысаве. Пачатак XX ст.*

усіх жыхароў вадой, таму дзесяткі вадавозаў развозілі па вуліцах горада рачную ваду па 20 кап. за бочку. Выкарыстанне яе ў якасці пітной выклікала пастаяннае распаўсюджанне хвароб і эпідэмій сярод насельніцтва. Да таго ж медыцынскае абслугоўванне было нязначным: працавалі 1 земская бальніца на 15 ложкаў, 7 урачоў і 4 акушэркі.

Пашырэнне гандлёвых зносін з іншымі гарадамі, рост прамысловых прадпрыемстваў выклікалі ў горадзе і павеце абуджэнне грамадскай свядомасці, цягу да адукацыі. Таму ў 1-м дзесяцігоддзі XX ст. сталі адчыняцца новыя школы, як казённыя, так і прыватныя. Калі ў 1890 г. казённых навучальных устаноў было 3, то ў 1910 г. — 7 (2 гарадскія вучылішчы, у тым ліку чатырохкласнае, грамадская мужчынская гімназія, 3 прыходскія вучылішчы — адна- і двухкласныя; 1 царкоўна-прыходскае вучылішча для хлопчыкаў і дзяўчынак). Акрамя таго, дзейнічала некалькі прыватных устаноў: жаночая чатырохкласная прагімназія з падрыхтоўчым класам, жаночае двухкласнае вучылішча з падрыхтоўчым класам, 2 аднакласныя яўрэйскія вучылішчы, яўрэйская рэлігійная школа.

З ростам колькасці школ у горадзе і павеце расла неабходнасць у педагагічных кадрах. У 1914 г. з гэтай нагоды адкрылася жаночая семінарыя, якая рыхтавала настаўніц для пачатковых вучылішч. У той год у ёй працавала 8 служачых і навучалася 35 дзяўчат. Пры семінарыі дзейнічала ўзорнае пачатковае вучылішча, у якім семінарысткі праходзілі практыку.

У 1912 г. пры гімназіі стварылі таварыства «Школьны спорт». Да яго далучаліся гурток гарадскога вучылішча і футбольныя каманды «Гарадская», «Гімназічная», «Першая



*Пасля спектакля «Іван Сусанін» у пастаноўцы навучэнцаў Барысаўскага 4-класнага вучылішча і жаночай прагімназіі. 1913 г.*

Новабарысаўская», «Другая Новабарысаўская». Таварыства «Школьны спорт» праводзіла спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы, па футболе. У 1914 г. добрая слава ішла пра барысаўскага сілача Барыса Агеевіча Скарбэ.

На жаль, культурнае жыццё прамысловага горада было ў заняпадзе. «Мінскі лісток» у пачатку XX ст. пісаў аб Барысаве: «У горадзе — 20 000 насельніцтва. Ні народных чытальняў, ні грамадскай бібліятэкі-чытальні, ні сада, ні добрага тэатра — нічога такога ў нас не праектуецца. Людзі марнеюць у цяні». У вольны час барысаўчане гулялі па мосце цераз Бярэзіну, на «Батарэях», на вакзальным пероне. Час ад часу тут іграў духавы аркестр вольнага пажарнага таварыства. Толькі ў 1911—1913 гг. пабудавалі два кінатэатры: «Гігант» у горадзе і «Люкс» у Нова-Барысаве. Быў яшчэ прыватны кінатэатр «Ліра», але ён праіснаваў нядоўга (1910—1913). У той жа час пачалі функцыянаваць 2 грамадскія сходы (клубы). Тут наладжваліся спектаклі і канцэрты, танцы і касцюміраваныя балі, можна было пагуляць у більярд.

Прадстаўнікі інтэлігенцыі, рабочыя, якія цікавіліся пытаннямі культуры і мастацтва, арганізавалі 2 драматычныя гурткі. Спектаклі ставіліся па п'есах М.В.Гогаля, А.М.Астроўскага, А.С.Грыбаедава; выступленні адбываліся на сцэнах прыватных дамоў, грамадскіх сходаў, зрэдку ў кінатэатрах ці ў вайсковых казармах. Барысаўчане з цікавасцю сачылі за дзейнасцю гурткоў.

У пачатку XX ст. у горадзе і павеце дзейнічала некалькі грамадскіх таварыстваў: апякунства аб народнай цвярозасці, хрысціянскае, спажывецкае і прыгожага мастацтва.

## Горадабудаўніцтва

У 1800 г. па распрацаваным праекце планіроўкі Барысава горад падзялілі на прамавугольныя кварталы. У цэнтры захоўвалася рыначная плошча ў 2352 сажні, вядомая яшчэ з XVII ст. На ёй — культавыя будынкі і гандлёвыя рады. Ад плошчы разыходзіліся галоўныя вуліцы — Мінская, Полацкая, Лепельская, Маскоўская.

Знешнім выглядам Барысаў у той час нічым не адрозніваўся ад іншых мястэчак. Цэнтр засяляўся яўрэямі, у руках якіх знаходзіліся ўсе промыслы і рамёствы, гандаль харчовымі прадуктамі, мерным таварам, спіртнымі напіткамі. Гараджане беларускага паходжання ў асноўным займаліся земляробствам, рыбнай лоўляй, зрэдку кавальскай справай.

Вайна 1812 г. спустошыла горад, прывяла да заняпаду павет. У агні вайны загінула шмат людзей, кварталы гарадскіх вуліц, цэлыя вёскі, масты цераз рэкі. Абрабаванае захопнікамі насельніцтва пакутавала. Да таго ж патрэбна было карміць не толькі параненых, але і шматтысячных ваеннапалонных. Пасля выгнання акупантаў чыноўнікі мясцовых улад размяшчаліся ў прыватных дамах. Школу з-за адсутнасці будынка адкрылі ў Халопенічах, дзе яна існавала да 1830 г.

Барысаўскі павет быў у ліку тых, якія найбольш пацярпелі ад напалеонаўскага нашэсця.

Шмат сродкаў і сіл спатрэбілася, каб аднавіць разбураную гаспадарку. Расійскі ўрад для гэтых мэт выдзеліў памешчыкам павета 189 354 руб. 72 кап.

Аднак пажарышчы паступова расчышчаліся, і гараджане зноў пачыналі будаваць свае сядзібы. З-за адсутнасці памяшканняў прыйшлося нават выкарыстоўваць перадмаставыя ваенныя збудаванні (рэдуты), прыстасаваўшы падземныя казармы пад майстэрні рамеснікаў і пад склады. Але рэдуты хутка разбураліся і ў 1815 г. былі ўжо непрыгоднымі для патрэбы.

Не пашкадаваў агонь вайны ні прыватных дамоў, ні прыходскую Свята-Праабражэнскую царкву, ні першага цаглянага дома, пабудаванага ў 1807 г., што знаходзіліся на гарадской плошчы. Новую царкву зноў пабудавалі з дрэва і перайменавалі яе ў Васкрасенскую. А ў аднаўленым дваранскім доме размясцілася казначэйства.

Вяртаючыся летам 1813 г. з замежнага паходу, афіцэр рускай арміі, будучы дзекабрыст Фёдар Глінка ў «Пісьмах сябру» напісаў, што на земляных работах па аднаўленні мастоў цераз Бярэзіну і рэдутаў працавала да 1500 палонных французаў, вуліцы брукаваліся каменем. «Відаць, з Барысава хочуць зрабіць добры горад. Дай бог! У нас так мала добрых гарадоў» (С.В.Букчин. ...Народ издревле нам родной. Мн., 1984. С. 67).

Яшчэ ў 1806 г. пачаў будавацца на Мінскай вуліцы другі каменны будынак — касцёл у форме базілікі. Ён будаваўся доўга — то вайна перашкаджала, то не хапала сродкаў. Толькі ў 1823 г. над невысокімі драўлянымі будынкамі горада падняўся белакаменны храм. У 1837 г. да яго прыбудавалі званіцу. Пры касцёле мелася бальніца на 27 коек. Да 1840 г. ён утрымліваў на свае сродкі школу з адным настаўнікам і 40—80 вучнямі... Амаль стагоддзе кожную пятніцу ў касцёле адбывалася богаслужэнне, прысвечанае каралю Уладзіславу IV і старосту Адаму Казаноўскаму, якія ў 1642 г. заснавалі першы касцёл у



*Слабодка ў Барысаве. Пачатак XX ст.*

горадзе. (Службы ў касцёле адбываліся да 1936 г., потым былі спынены. У 1989 г. касцёл адроджаны. Як калісьці, тут зноў устаноўлены арган.)

У адпаведнасці з праграмай перабудовы гарадоў Расійскай імперыі ў 1834 г. распрацаваны генеральны план Барысава, паводле якога прынцыпу рэгулярнага горадабудаўніцтва падпарадкоўваліся не толькі прыватныя, але і казённыя забудовы.

Ажыўлены рачны гандаль прыцягваў у Барысаў усё больш людзей, будаваліся новыя дамы, з'яўляліся новыя вуліцы. Замест спарахнелай Васкрасенскай царквы ў 1834 г. у цэнтры плошчы пабудавалі новую драўляную ў псеўдарускім стылі. За 500 м ад яе па вуліцы Маскоўскай стаяла Свята-Андрэеўская царква, існаваўшая з XVII ст. пры Васкрасенскім манастыры. (Дзейнічала да 1960 г., зноў адрадзілася ў 1990-я гады).

У 1834 г. над Бярэзінай узняўся новы разводны мост.

Даследчык П.М.Шпілеўскі, які неаднойчы бываў у горадзе, так пісаў пра яго: «Барысаў можа пахваліцца даволі шырокімі і прамалінейнымі вуліцамі, якія амаль усе сыходзяцца да галоўнага цэнтра горада — рынкавай плошчы. Вось некаторыя з іх: Мінская, якая атрымала назву ад сталбавой дарогі з Мінска ў Барысаў; Маскоўская, якая пачынаецца ад дарогі маскоўскай і пецярбургскай; Лепельская — ад лепельскага тракта; Полацкая, што вяла да дарогі ў Полацк (цяпер няма гэтай дарогі); Палынская, бо на гэтым месцы, кажуць, быў глыбокі роў з палыном; Віленская, таму што на ёй астанаўліваліся віленскія возчыкі; Харугвеная — ад казённага дома з узнятай харугваю, што стаяў у гэтым месцы; Шведская, атрымаўшая сваю назву, відаць ад таго, што ў 1708 г. на ёй размяшчаліся абозы шведаў; Юрыдычная — расказваюць, што тут быў езуіцкі калегіум; Саўціна (у Тышкевіча—Савуціна) — ад прозвішча Савута, які жыў тут з далёкіх часоў; Млынарская,



*Вуліца Мінская. Пачатак XX ст.*

якая вяла да гарадскіх млыноў; Слабодская ці Салдацкая, заселеная адстаўнымі салдатамі-інвалідамі. Толькі Мінская, Маскоўская і Лепельская забрукаваны каменем, астатнія ў час дажджу гразныя. Так прынята ў горадзе, што летнім вечарам гараджане, з-за адсутнасці публічнага сада, гуляюць па больш чыстых і шырокіх вуліцах (П.М.Шпилевский. Путешествие по Полесью и белорусскому краю. СПб., 1857. С. 203).

Горад спакон веку быў драўляны. У шматлікіх войнах яго палілі, людзі зноў потым секлі лес і будавалі горад. Але не толькі агні войнаў руйнавалі забудовы. Неаднойчы гінуў драўляны Барысаў і ў мірны час. Пасля аднаго з моцных пажараў 10 мая 1858 г. павятовы начальнік напісаў у рапарце мінскаму губернатару: «...горад Барысаў быў...»

Барысаўскі замак з цягам часу служыў ужо не для абарончых мэт. Перабудаваны старастам Агінскім, ён выкарыстоўваўся для часовага размяшчэння старастаў і пастаяннага пражывання эканомаў. Тут размяшчалася мясцовая адміністрацыя. У сярэдзіне XIX ст., паводле назіранняў відавочцаў, замак быў драўляны, на высокім каменным фундаменце, выцягнуты ў даўжыню. Службовыя памяшканні таксама драўляныя. Праз адну драўляную браму быў зроблены ўваход. Ад замка на вуліцу Харугвеную, дзе стаяў абнесены ровам з вадой харугвены дом (у ім зберагаліся сцягі), цягнуўся вузкі мост з адным поручнем для пешаходаў. Калі адміністрацыя пакінула замак, перайшоўшы ў новыя памяшканні ў маёнтку Стара-Барысаў, ён некаторы час быў месцам выбараў дваранскіх сходаў. Але без пэўнага гаспадара замак хутка прыйшоў у заняпад. Па распараджэнні ўлад у 1861 г. на месцы паўразбуранага замка пабудавалі турму. Там, дзе былі службовыя памяшканні, зрабілі казармы, а некаторыя збудаванні прадалі мяшчанам. Вакол турмы ўзвялі высокую каменную сцяну.



*Вуліца Маскоўская. Пачатак XX ст.*

Інвентарны спіс Барысава і яго староства, складзены ў 1732 г., сведчыць, што непадалёку ад вострава, на якім стаяў стары замак, каля невялічкай рэчкі Капаніцы ў пачатку XVIII ст. існаваў гаспадарскі двор. У іншых крыніцах яго называюць другім замкам. Тут быў створаны вялікі драўляны палацавы комплекс князёў Радзівілаў. Ён меў планіроўку ў выглядзе трапецападобнага карэ, па перыметры якога размяшчаліся будынкі княжацкага двара. Зараз ад былога прыгожага месца засталося некалькі векавых дрэў, што стаяць справа на рагу вуліц Гогаля і 3-га Інтэрнацыянала.

У гэты ж час існавала яшчэ адно прывабнае месца — дача начальніка воднай камунікацыі, якая знаходзілася на правым беразе Бярэзіны недалёка ад прыстані. Драўляны дом патанаў у паркавых пасадках дрэў, кустоў і кветак, у цэнтры парка было ўтворана возера з востравам. Унутранае ўбранства дома не саступала яго знешняй прыгажосці.

Вандроўнікі, пабываўшыя ў розныя часы ў Барысаве, адзначалі, што горад ўдала размяшчаецца на ўзвышшы паміж Бярэзінай і Схой і добра праглядваецца з паўднёвага боку. Вакол горада — палі і сенакосы, што перарэзваюцца рэкамі. А на гарызонце віднеюцца лясы, якімі так багата Барысаўшчына.

У 1863 г. цераз Бярэзіну зноў пабудавалі новы мост у 260 сажняў (драўляныя масты служылі нядоўга). Ён складаўся з трох асобных частак, звязаных між сабой высока насыпанымі дамбамі. Надводная частка ў час праходу суднаў разводзілася. Ён абышоўся казне ў 15 тыс. рублёў серабром. За мостам і пераправамі ажыццяўляў надзор інжынерны афіцэр.

Са з'яўленнем у горадзе рабочага класу для падтрымання парадку наспела неабходнасць размясціць вайсковыя часці.

У 1896—1898 гг. па левым баку тракту, які вёў у горад ад чыгункі, Каладзееў з удзелам памешчыка Свіда пабудаваў казармы і штаб для двух драгунскіх палкоў асобнай



*Мост цераз Бярэзіну.*

кавалерыйскай брыгады. Двухпавярховыя дамы будаваліся з цэглы і захаваліся да нашых дзён. Непадалёку ад іх узнік драўляны гарадок для афіцэрскага саставу, склады для фуражу.

Забудоўваўся пасад па новым плане горада, зацверджаным 30 чэрвеня 1900 г. Замест драўлянага чыгуначнага вакзала ў 1903 г. узвялі мураваны будынак у стылі мадэрн са шматлікімі элементамі архітэктурнага дэкору. У ім прадугледжаны залы чакання, касы і камеры для захоўвання багажу, памяшканні для чыгуначнай службы, буфета. Побач знаходзіўся вельмі прывабны драўляны аднапавярховы дом, аздоблены дэкорам. У ім размяшчаўся рэстаран. Адначасова ўзвялі гаспадарчыя пабудовы, а за пуцямі — капітальнае дэпо, якім карысталіся амаль стагоддзе. Дарэчы, станцыя Барысаў з'яўлялася ў той час месцам транзітнай экіпіроўкі паравозаў. Тракт забрукавалі і назвалі праспектам імя мінскага губернатара М.І.Трубяцкога.

Сярод рэшткаў лесу, што заставаўся яшчэ ў наваколлі, у пачатку праспекта лесапрамысловец Кандрыян узвёў свой маёнтак. Ён знаходзіўся прыкладна на тым месцы, дзе зараз гасцініца «Бярэзіна». Крыху вышэй стаяла драўляная Юльеўская царква-школа са званіцай, прыпісаная да Васкрасенскага сабора. Недалёка ад гэтых збудаванняў паявіліся паштова-тэлеграфная кантора і тэлефонная станцыя. Новую вуліцу, якая адыходзіла ад праспекта і на якой размясцілася пошта, сталі называць Паштовай (назва гэта не мянялася з 1899). Далей па праспекце будаваліся таксама драўляныя дамы ў адзін паверх з мансардамі, прыгожымі флігелямі. Сярод іх былі сядзібы жонкі памешчыка Каладзеева, уладальніка шкляной гуты Краеўскага і многіх іншых прамыслоўцаў. Першыя насаджэнні дрэў на вуліцы Манапольнай (цяпер Ленінская) зрабіў І.Каладзееў. У цэнтры пасада на дарагіх землях сяліліся багатыя, рабочым даставаліся ваколіцы.

У 1901 г. пасад Нова-Барысаў увайшоў у гарадскую мяжу. Ён меў гандлёва-прамысловы ўхіл, тут пражывала 5765 чалавек. Асноўнымі заняткамі жыхароў былі пагрузачна-



*Праспект Князя Трубяцкога. Пачатак XX ст.*



*Мост цераз Бярэзіну з пад'ёмнай надводнай часткай.*

разгрузачныя работы на чыгунцы і прыстані, якую да таго часу перанеслі ніжэй чыгуначнага моста, а таксама праца на фабрыках і заводах. Гандлёва-прамысловых устаноў налічвалася 59. Правабярэжжа хутка забудоўвалася і ўжо ў пачатку XX ст. налічвала каля 580 дамоў, з якіх 15 было цагляных.



*Васкрасенскі сабор. Малюнак А.Ваньюра. Пачатак XX ст.*

У 1908 г. за кошт земскага капіталу пабудавалі новы капітальны мост замест старога спарахнелага. Яго надводная частка таксама ўздымалася ў той час, калі па рацэ праходзілі параходы. Мост узводзіў барысаўскі тэхнік-будаўнік Мацвей Фадзеевіч Бычкоўскі. Ён праектаваў яго, рабіў мадэль (зараз экспануецца ў музеі), складаў каштарысную дакументацыю. Акрамя моста, ён будаваў у горадзе земскую бальніцу, школы, жылыя дамы, казармы, шмат дарог і мастоў у павеце. Недалёка ад моста і прыстані на ўзвышшы, дзе крыжуюцца цяперашнія вуліцы Дымкі і Р.Люксембург, генералам М.А.Камянкоўскім пабудаваны двухпавярховы прыгожы дом, вакол якога быў разбіты парк з разнастайнымі дрэвамі, кветкамі. Яшчэ ў сярэдзіне XX ст. існавала



*Рыначная плошча ў Барысаве. Пачатак XX ст.*



*Будынак казначэйства. Пачатак XX ст.*

штучнае возера з вострававам, куды адводзілася вада бярэзінскага рукава, які жыхары называлі Расла.

Вакол рэдутаў 1812 г. на землях вялікага князя Мікалая Мікалаевіча сталі будавацца прыватныя дамы. Зямля бралася ў доўгатэрміновую арэнду, была пакрыта хвояй, якую патрэбна было спачатку выкарчаваць. Вуліцы прарэзваліся шырокія і прамыя, дамы ставіліся прасторна (раён цяперашніх вуліц Батурына, Р.Люксембург, Батарэйнай).

У канцы 1890-х гадоў змяніў сваё аблічча і цэнтр старажытнага горада. Архітэктурна-мастацкай дамінантай старой часткі горада стаў новы дзевяцікупальны Васкрасенскі сабор (арх. П.Мяркулаў), які пабудавалі з цэглы ў 1871—1874 гг. замест згарэлай драўлянай царквы. Ён выкананы ў стылі маскоўскай царкоўнай архітэктуры XVII ст. Фасады яго багата аздоблены дэкаратыўнымі элементамі, падкрэсленымі белай афарбоўкай. У 1907 г. адасоблена перад уваходам у храм пастаўлена цагляная брамазваніца (арх. В.Струеў).

Вакол сабора і рыначнай плошчы размясціліся будынкі павятовага казначэйства (зараз у ім нядзельная школа), вагамернай палаты, цераз вуліцу — будынкі 4-класнага

вучылішча, пошты, аптэкі, службовых памяшканняў. У прыватных дамах былі адкрыты цырульні, аптэкарскія і галантарэйныя крамы, розныя майстэрні.

У 1908 г. замест загінуўшых у пажары драўляных лавак на рыначнай плошчы пабудавалі мураваныя гандлёвыя рады ў адзін паверх, якія цягнуліся ўздоўж вуліц Мінскай і Савуцінскай (цяпер 3-га Інтэрнацыянала і Дзяржынскага). У іх размяшчалася 112 крам. Усе гэтыя пабудовы вылучаюцца маляўнічай муроўкай і з'яўляюцца помнікамі цаглянай архітэктуры. У гэтым жа стылі будаваліся прыватныя дамы вакол гарадскога цэнтра. Некаторыя з іх мелі невялікія балконы з прыгожай кованай агароджай, пры ўваходзе — ліхтары на ажурных штатывах. На дамах было шмат рэкламных шыльдаў, гадзіннікаў.

Адзначаючы, што Барысаў у пачатку XX ст. змяніў сваё аблічча, трэба мець на ўвазе, што датычыцца гэта толькі яго цэнтра. Тут, у асноўным, жыла гарадская знаць — купцы, духавенства, прамыслоўцы, афіцэры кавалерыйскага палка. Іншыя вуліцы, забудаваныя драўлянымі невялікімі дамамі беднага люду, заставаліся пыльнымі, у дождж — непраходнымі.

## Змагары за волю, за лепшую долю

У сярэдзіне XIX ст. менш чым 1% усіх сялян павета лічыліся вольнымі хлебаробамі. Астатнія былі прыгоннымі. Памешчыкам належала амаль 800 тысяч дзесяцін зямлі. Становішча сялян не палепшылася і пасля таго, як у 1861 г. царскі ўрад адмяніў прыгоннае права. Зямельная рэформа доўжылася некалькі гадоў. Яна яшчэ больш абяздоліла сялянскія масы і ўзбагаціла памешчыкаў, стварыла ўмовы для спекуляцыі. Так, маёнтак вялікага князя Мікалая Мікалаевіча «Барысаўшчызна» ацэньваўся ў 5 мільёнаў рублёў. Пасля адмены прыгоннага права, не жадаючы прадаваць зямлю сялянам, ён аформіў продаж маёнтка казне за 1,5 мільёна рублёў, фактычна застаўшыся яго ўладаром. Гэта дало яму немалы прыбытак. У 1898 г. яго сын, вярнуўшы казне грошы, юрыдычна зноў стаў гаспадаром сямейнага маёнтка.

Прыкладам цынічнай хлусні рэформы 1861 г. у дачыненні да народа з'яўляецца зноў жа маёнтак вялікага князя. Эканом Корф загадаў сялянам падпісваць лісты белай паперы, не гаворачы ім пра палажэнні рэформы і мэты збору подпісаў. Калі было сабрана больш за 500 подпісаў, сяляне даведаліся, што яны «пішуць» пісьмо імператару, каб пакінулі іх і іх патомкаў на «вечные времена» на паншчыне, бо жыццё іх самае «выгодное и почетное». Сяляне патрабавалі знішчэння подпісаў, якія памешчык атрымаў падманам («Колокол», 1861, 15 октября). Аўтар карэспандэнцыі адзначае, што праехаўшы Оршу, Магілёў, Барысаў, Мінск, пагаварыўшы з людзьмі ў дзесятках мястэчак і вёсак, ён пераканаўся ў нарастаючым народным хваляванні.

Незадаволеныя вынікам зямельнай рэформы, сяляне ўсё часцей выказваліся супраць палітыкі царызму, народныя агітатары прызывалі да барацьбы з памешчыкамі. А ў

Барысаве гараджане адказваліся выконваць загады паліцыі. Аб гэтым пісала газета «Колокол» у 1862—1863 гг. у карэспандэнцыях пад назвай «Из Минской губернии».

Найбольш актыўнымі змагарамі з царызмам, народжанымі на барысаўскай зямлі, з'яўляюцца Лаўрэнцій Каменскі, Міхаіл Цюндзявіцкі і Антон Трусаў.

Радзівілаўскі ляснічы Ігнацій Каменскі даў свайму сыну Лаўрэнцію добрую адукацыю. Малады хлопец шмат чытаў, прыглядваўся да жыцця, часта бываючы сярод сялян. У гутарках ён расказваў аб прычынах іх дрэннага становішча, прызываў да выступлення супраць царызму. Лёс закінуў яго ў 1851 г. у Пскоўскую, потым у Калужскую і Кастрамскую губерні. Землеўпарадчык Л.Каменскі пешшу абышоў шмат вёсак і бачыў, што сяляне ў розных кутках Расіі і Беларусі жывуць аднолькава — бедната і забітасць пануюць паўсюдна. Ён прызываў народ да масавага актыўнага супрацiўлення царызму, да барацьбы супраць неймаверных падаткаў, супраць вайсковай павіннасці. За ўзбуджэнне народных мас ён быў схоплены жандарамі ў Вятлужскім павеце, зведаў усе жахі Аляксееўскага равеліна Петрапаўлаўскай крэпасці і Шлісельбургскай турмы. Лаўрэнцій Каменскі застаўся ў гісторыі як адзін з першых рэвалюцыйных агітатараў у Расіі сярэдзіны XIX ст.

Народны агітатар Міхаіл Цюндзявіцкі нарадзіўся ў в. Вільянова Барысаўскага павета. Рэвалюцыйную свядомасць развіў у час службы ў арміі ў Пецярбургу. Пад уплывам пецярбургскіх рэвалюцыянераў вёў тлумачальныя гутаркі сярод салдат. Прыехаўшы ў водпуск на радзіму, чытаў сялянам агітацыйныя брашуры, тлумачыў іх правы на зямлю, заклікаў да барацьбы за волю. У час агітацыі ў в. Камень 6 лютага 1863 г. яго арыштавалі і адправілі ў Мінск. 16 мая віленскі генерал-губернатар М.М.Мураў'ёў, якому народ даў назву «вешальнік» за расправу над паўстанцамі, сваю першую смяртэльную рэзалюцыю налажыў на прыгаворы Міхаілу Цюндзявіцкаму: «Согласен с решением суда». 21 мая 23-гадовага барацьбіта за лепшую долю беларускага народа расстралялі на развілцы Ігуменскага і Койданаўскага трактаў у Мінску.

У барысаўскага паштовага служачага Данілы Трусава было трое дзяцей. Атрымаўшы пачатковую грамату ў Барысаве, дзеці вучыліся ў Мінску, а малодшы Антон потым паступіў на медыцынскі факультэт у Маскоўскі універсітэт. Падпольныя студэнцкія арганізацыі, нелегальныя гурткі, сяброўства з рэвалюцыйнай моладдзю прывялі іх на шлях актыўнага ўдзелу ў рэвалюцыйным руху, які разгарнуўся ў Расіі і Беларусі ў сярэдзіне XIX ст. Антон Трусаў узначаліў атрад паўстанцаў, які наводзіў жах на памешчыкаў Барысаўскага павета. Палкоўнік Рэйхар 26 кастрычніка даносіў у губерню, што Барысаўскі павет напоўнены паўстанцамі. У красавіку 1863 г. атрад А.Трусава аб'яднаўся з атрадам Ляскоўскага. Дзеянні атрада ў 300 чалавек распаўсюдзіліся па Мінскай губерні, аднак яны былі адасобленымі. У пастаянных баях паўстанцы гублялі сваіх таварышаў, і восенню рэшткі атрада кіраўнікі распусцілі. Антона Трусава мінскія ўлады прыгаварылі завочна да смяротнага пакарання, але ён эмігрыраваў у Парыж, потым у Жэневу. Там прадаўжаў

рэвалюцыйную дзейнасць, быў адным з арганізатараў друкарні часопіса «Народное дело», а ў 1870 г. прыняў удзел у стварэнні Рускай секцыі 1-га Інтэрнацыянала, выконваючы ў ёй абавязкі сакратара. У 1884 г. вярнуўся на радзіму. Памёр у 1886(?) г. У Барысаве ёсць вуліца яго імя.

Старэйшы брат Антона Трусава Баляслаў быў членам польскага падпольнага камітэта ў Маскве, які дапамагаў удзельнікам паўстання 1863—1864 гг. У 1866 г. пасля замаху на цара Аляксандра II арыштаваны і зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. На следстве высветлілася дачыненне Б.Трусава да ўцёкаў Я.Дамброўскага з-пад варты ў Маскве (1864) і да планаў арганізаваць уцёкі М.Р.Чарнышэўскага, за што кінуты ў Петрапаўлаўскую крэпасць, дзе і загінуў. Сястра Эмілія падвяргалася штрафу за рэвалюцыйную дзейнасць і доўгі час знаходзілася пад тайным наглядам паліцыі.

## Барысаў у 1905—1917 гг.

У пачатку XX ст. у Барысаве 10-ю частку жыхароў складалі рабочыя. Іх становішча было бядотным: амаль поўная непісьменнасць, нізкі ўзровень аховы здароўя, цяжкія ўмовы працы і мізэрная заработная плата. Гарадскія ўлады зусім не турбаваліся пра іх адпачынак. Адсутнасць элементарных умоў жыцця, жорсткая эксплуатацыя не маглі не выклікаць пратэсту, частых забастовак.

У 1890-я гады ў беларускіх гарадах і мястэчках узніклі рэвалюцыйныя і сацыялістычныя гурткі. Для Барысава, як і для іншых гарадоў, у той час быў тыповым «марксісцкі рабочы рух, афарбаваны ў яўрэйскі нацыянальны тон» (Ігнатоўскі У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5-е выд. 1991. С.172). Утвораныя РСДРП і Бунд займаліся арганізацыяй рабочых мас на выступленні супраць прыгнятальнікаў. 8 ліпеня 1901 г. на запалкавай фабрыцы «Вікторыя» ўспыхнула забастоўка рабочых, у якой прыняло ўдзел 575 чалавек. Яны патрабавалі павышэння заработнай платы. Паліцыя падавіла забастоўку. 15 рабочых, у тым ліку 4 жанчыны, былі арыштаваны. У дэпартаменце паліцыі на іх завялі справу па абвінавачанні ў прыналежнасці да тайнага рабочага гуртка.

Паліцэйскія меры не маглі спыніць выступленні рабочага класа. Тайныя рабочыя гурткі, якія спачатку абмяжоўваліся эканамічнымі лозунгамі, хутка перайшлі да барацьбы палітычнай.

У 1902 г. у горадзе дзейнічала іскраўская арганізацыя. У 1904 г. у Барысаве ўпершыню адсвяткавалі Першамай.

Напярэдадні, 23 красавіка, у сваім данясенні ў дэпартамент паліцыі мінскі губернатар паведамляў: «У ноч на 18-е чысло гэтага красавіка па горадзе Барысаве і пасадзе Нова-Барысава былі расклееены і раскіданы пракламацыі рэвалюцыйнага зместу пад загалоўкам «Няхай жыве 1 Мая». Такіх пракламацый знойдзена 36 экзэмпляраў».

У снежні 1904 г. у Барысаве з'явілася мясцовая група РСДРП, якая аказала ўздзеянне




*Будаўніцтва дамбы і моста.*

на рост палітычнай актыўнасці рабочых. Пасля падзей 9 студзеня 1905 г. у Барысаве, як і ў многіх іншых гарадах Беларусі, адразу ж адбылася стачка-пратэст.

25 красавіка забаставалі рабочыя запалкавай фабрыкі «Вікторыя», сярод бастуючых адразу паявіліся рэвалюцыйныя пракламацыі з заклікам выйсці 1 мая на вуліцы. 2 мая пачалася забастоўка на запалкавай фабрыцы «Бярэзіна». Яе падтрымалі рабочыя кафельных заводаў Эпштэйна, лесапільных заводаў князя Раманава, купца Горліна, буйнога фінансіста Гутмана. У гэты перыяд на фабрыках і заводах, у майстэрнях і ўстановах часта можна было бачыць Пятра Серафімскага, Пятра Вогуна, К.І.Каспяровіча, М.С.Васілеўскую, А.С.Домсут, Луцэвіча, Юрэвіча, Крэвіча, якія распаўсюджвалі бальшавіцкія лістоўкі, заклікалі барысаўчан да непадпарадкавання ўладам.

Забастовачны рух у горадзе нарастаў. У маі 1905 г., як паведаміла газета «Северо-Западный край», тут праходзіў стачачны тыдзень: «Рабочыя трымаюцца вельмі дружна: усе стаяць за аднаго і адзін за ўсіх, і, як відаць, гаспадарам прыйдзецца задаволіць іх патрабаванні...»

Баставалі мадысткі, пекары, сталяры, цырульнікі, рабочыя запалкавых, кафельных і іншых прадпрыемстваў.

Рабочыя дамагаліся 9-гадзіннага працоўнага дня, павышэння заработнай платы, іншага паляпшэння ўмоў працы.

1 ліпеня 1905 г. у дэпартамент паліцыі Пецярбурга пайшла тэлеграма: «Спраўнік тэлеграфуе: ў Барысаве цэлы дзень агульная забастоўка, 2 разы спрабавалі ўчыніць дэманстрацыю, стралялі, былі разагнаны, чакаюцца непарадкі ноччу...»

Бальшавіцкая газета «Пролетарий», якую рэдагаваў У.І.Ленін, пісала 14 верасня 1905 г. пра барысаўскую групу РСДРП: «Заснавальнікамі яе з'яўляюцца рабочыя... Цяпер ёсць пяць прапагандысцкіх гурткоў (больш за 100 чалавек). У адным гуртку з 40 чалавек было 7 сходаў... Распаўсюджаны лісткі (11 назваў), брашуры і газеты: «Вперед», «Пролетарий»,

«Искра»... Пад кіраўніцтвам групы праведзена 8 стачак з частковым поспехам, на адной папяровай фабрыцы задаволены ўсе патрабаванні, у тым ліку знялі дырэктара. У двухтрох месцах, з-за боязі забастоўкі, гаспадары самі павялічылі заработную плату».

Адным з арганізатараў барысаўскай групы РСДРП быў бальшавік А.І.Баршай. Ён падтрымліваў сувязь з мінскай групай РСДРП.

18 кастрычніка 1905 г. на шасці вуліцах Барысава з 2 да 7 гадзін вечара праводзіліся дэманстрацыі пратэсту супраць царскага маніфесту ад 17 кастрычніка. Асабліва актыўнымі выступленні рабочых былі 8 і 9 снежня. У гэтыя дні да бастуючых чыгуначнікаў далучыліся рабочыя ўсіх барысаўскіх прадпрыемстваў. У выніку гэтай палітычнай стачкі рабочыя спрабавалі стварыць органы рэвалюцыйнай улады — рэвалюцыйныя камітэты. Але выступленні былі недастаткова арганізаваны, і ў выніку іх удзельнікі маглі дабіцца толькі некаторых эканамічных уступак з боку гаспадароў.

Выступленні рабочых знаходзілі падтрымку сярод сялянства. Вось яшчэ адно данясенне выконваючага абавязкі губернатара: «Да мяне даходзяць чуткі пра паяўленне агітатараў сярод сялян, яны забяспечваюць пракламацыямі і падбухторваюць мясцовае насельніцтва супраць памешчыкаў. Пасля паяўлення гэтых агітатараў пачынаецца самавольнае высяканне лесу, захопліваюцца землі... і пагражаюць разграміць панскія сядзібы...»

У гады рэакцыі многія члены барысаўскай групы РСДРП былі арыштаваны, у тым ліку адзін з яе кіраўнікоў І.М.Вярбіцкі. Пасля масавых арыштаў барысаўскіх бальшавікоў і многіх рэвалюцыйных рабочых у канцы 1906 г. і з наступленнем потым рэакцыі рэвалюцыйны напал аслабеў.



*У вучэбных майстэрнях рэальнага вучылішча. Пачатак XX ст.*

У красавіку — маі 1912 г., у сувязі з Ленскім расстрэлам рабочых, у Барысаве зноў успыхваюць стачкі-пратэсты.

Пачатая ў 1914 г. 1-я сусветная вайна непасрэдна Барысаў баявымі дзеяннямі амаль не захапіла. Толькі ў верасні 1915 г. у перыяд варожага Свянцянскага прарыву асобныя германскія кавалерыйскія часці падышлі да горада, але адразу ж былі адкінуты.

Многія барысаўчане былі мабілізаваны на вайну, а тыя, каго не кранула мабілізацыя, прыцягваліся на прымусовыя работы. Так, у кастрычніку 1915 г. барысаўскаму спраўніку загадвалася пасылаць на фартыфікацыйныя работы 2500 рабочых і 125 падвод.

Прымусовыя работы выклікалі незадаволенасць у насельніцтва, бо людзі суткамі не атрымлівалі ежу, не было кватэр для начлегу. Да таго ж, Барысаву прыходзілася ўтрымліваць шпіталь з параненымі, які размяшчаўся ў ваенных казармах.

З заходніх паветаў, з Прыбалтыкі рухаўся на ўсход магутны паток бежанцаў, частка іх заставалася ў Барысаве і павеце. Гэта наблізіла новыя рэвалюцыйныя хваляванні.

## Даследаванне барысаўскага краю

Звесткі аб барысаўскім краі даследчыкі чэрпаюць са старажытных летапісаў, інвентарных перапісаў, са старадаўніх хронік, мемуараў, нататкаў падарожнікаў, навуковых прац, якія пісаліся і выдаваліся ў розныя часы на працягу шматвяковай гісторыі Барысава. Але найбольш грунтоўныя звесткі знаходзяцца ў кнізе Я.П.Тышкевіча «Апісанне Барысаўскага павета», выдадзенай у 1847 г. у Вільні на польскай мове.

Гэта кніга з'яўляецца першай навуковай працай пра горад Барысаў і яго наваколлі. У ёй аўтар разглядае ўсе аспекты жыцця краю — гістарычнае мінулае і геаграфічныя ўмовы, прыводзіць статыстычныя звесткі, расказвае пра гаспадарчую і прамысловую дзейнасць барысаўчан. І зусім упершыню ім сабраны песні, прыказкі, апісваюцца звычаі, характар мовы, абрады, святы, адзенне мясцовых жыхароў. Аўтар з дапамогай іншых краязнаўцаў і даследчыкаў склаў увесь цыкл гаспадарча-земляробчага календара селяніна, а таксама «Зельнік» мясцовых лекавых раслін.

Тышкевіч Яўстафій Піевіч (1814—1873), беларускі археолаг, гісторык, этнограф і краязнавец, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі. Яго бацькі валодалі землямі ў Лагойску, які ўваходзіў у Барысаўскі павет. У сямейным лагойскім замку братамі Яўстафіем і Канстанцінам адкрыты першы ў Беларусі гісторыка-археалагічны музей, які пазней склаў аснову Віленскага гістарычнага музея.

У 1840—1848 гг. Я.П.Тышкевіча абіралі прадвадзіцелем барысаўскага дваранства і апекуном школ. Ён падараваў гораду новы будынак для прыходскага вучылішча, на ўтрыманне якога кожны год рабіў грашовыя ўзносы.

У адзін час з Тышкевічам на Барысаўшчыне жыла цікавая даследчыца Ганна Цюндзявіцкая. На працягу многіх гадоў яна вывучала ў Барысаве, на тэрыторыі

Барысаўскага і Мінскага паветаў жыццё жыхароў: як вялі яны гаспадарку, як захоўвалі прадукты, гатавалі стравы і дэлікатэсы, шылі адзенне, чым карысталіся ў касметыцы, чым лячылі хворых і шмат іншае. Сабраныя і абагульненыя матэрыялы па беларускай хатняй гаспадарцы, кулінарыі і народнай медыцыне склалі карысную кнігу «Літоўская гаспадыня», якую Г.Цюндзявіцкая выдала ў 1848 г. у Вільні на польскай мове. Кніга карысталася вялікім попытам, 6 разоў перавыдавалася, сёмы раз — у 1993 г. на беларускай мове.

І яшчэ згадаем аднаго вельмі неардынарнага нашага земляка — Іосіфа Слізня з Мсціжа, выхадца з вядомага беларускага шляхецкага роду. Ён праявіў сябе як нястомны калекцыянер і збіральнік культурных каштоўнасцей. У 1845 г. яго бібліятэка налічвала больш як 7 тыс. тамоў, а нумізматычная калекцыя — больш як 2 тыс. манет розных перыядаў і дзяржаў. Уражвала і калекцыя ракавінак. Іосіф Слізень сабраў таксама выдатную галерэю твораў жывапісу і скульптуры. Быў у яго і звярынец, дзе ўтрымліваліся розныя жывёлы і птушкі мясцовай фауны. Шырокую вядомасць атрымаў і Мсціжскі батанічны сад з аранжарэяй, дзе налічвалася 35 тыс. экзэмпляраў самай разнастайнай расліннасці. Але існаванне мсціжскіх скарбаў аказалася недаўгавечным. Пасля смерці іх уладальніка ў 1856 г. калекцыі перайшлі да яго зяця Ігната Булгака, які паступова іх разбазарыў.

Нельга не ўспомніць барысаўчан, якія сталі прафесарамі Віленскага універсітэта. Гэта Жукоўскі Сымон Фелікс (1782—1834), які нарадзіўся ў Мсціжы ў беднай сям'і. Ён даследаваў старажытнасць і пакінуў шмат навуковых прац.

Другі барысаўчанін з в. Гайна Ігнацій Шыдлоўскі таксама з небагатай сям'і. Ён выдаў манаграфію па апісанні народных легенд і фальклору, быў крытыкам, надаваў увагу выданню рэпрадукцый выяўленчага мастацтва, паштовак з краявідамі прыгожых куткоў, складаў вершы, перакладаў Байрана.

* * *

З Барысавам нейкім чынам былі звязаны і лёсы асобных людзей, якія пабывалі ў горадзе і многія пакінулі аб ім свае ўражанні. А пабывалі ў Барысаве і вялікі літоўскі князь Вітаўт, і рускія цары Аляксей Міхайлавіч і Пётр І, а таксама яго паплечнік А.Меншыкаў і шэраг іншых знакамітых асоб.

У 1812—1814 гг. праз Барысаў праязджалі рускія паэты-дзекабрысты Ф.М.Глінка, К.Ф.Рылееў, паэт П.А.Вяземскі. Ф.М.Глінка пісаў у «Пісьмах рускага афіцэра»: «...Представьте себе длинное, почти беспрерывное протяжение дремучих лесов по обеим сторонам дороги, и вы будете иметь понятие о дороге к Минску. Сколько надобно времени, сколько надобно рук, чтоб превратить сию лесистую угрюмую в цветущую и

населенную сторону!..» (С.В.Букчин… Народ издревле нам родной. Мн., 1984. С. 68).

У 1820—1821 гг. адзін з кіраўнікоў Паўночнага таварыства дзекабрыстаў М.М.Мураўеў, які служыў у гэты час у Віцебску, працаваў над варыянтамі канстытуцыі будучай расійскай дзяржавы. Каб лепш уявіць сабе Беларусь, ён наведаў шэраг гарадоў і мястэчак, у тым ліку і Барысаў, дзе пабываў на некаторых прадпрыемствах, размаўляў з гараджанамі.

Быў праездам у Барысаве ў канцы 1825 г. — пачатку 1826 г. удзельнік паўстання на Сенацкай плошчы ў Санкт-Пецярбургу В.К.Кюхельбекер, які хаваўся ад арышту. Пераапрануўшыся ў сялянскую вопратку, дзекабрыст палявымі дарогамі дабіраўся ад Оршы да Барысава, адкуль адбыў у Мінск, у які прыехаў 6 студзеня.

У 1874 г. у Барысаве пабываў англійскі гісторык Уільямс Кокс, які пакінуў у сваім дзённіку запіс аб забітасці і беднасці насельніцтва ў наваколлі Барысава. А яшчэ раней, летам 1777 г., сакратар Калегіі замежных спраў у Пецярбургу, будучы аўтар «Недарасля» рускі пісьменнік Д.І.Фанвізін атрымаў службовую камандзіроўку ў Парыж. Яго вандраванне праходзіла па беларускіх прасторах. Дарожныя запісы сведчаць, што недзе 23—24 жніўня ён быў у Барысаве, пераязджаў Бярэзіну, ехаў векавым лесам, абедаў і начаваў у карчме.

Не менш цікавыя звесткі знаходзяцца і ў архівах рускага пісьменніка М.В.Гогаля. Працуючы ў 1835 г. на кафедры гісторыі ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце, ён задумаў напісаць вялікую працу ў 8—9 тамах — «Гісторыю сярэдніх вякоў». М.В.Гогаль шмат сабраў матэрыялаў, склаў канспектаў, зрабіў выпісак, у тым ліку гістарычных звестак аб Беларусі. У раздзеле «Летапісы» ён запісвае звесткі аб Полацкім княстве, аб князю Барысе, які «основал на границе своих владений на Березине город Борисов» (Букчин С.В. …Народ издревле нам родной. Мн., 1984. С.134).

**Крыніцы:**

Архітэктура Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1993.

Белоруссия в эпоху феодолизма: Сборник документов и матералов в 4 т. Т. 3. Мн., 1961; Т. 4, 1979.

Белоруссия в эпоху капитализма. Развитие капитализма в промышленности, положение промышленных рабочих и рабочее движение в Белоруссии: Сборник документов и материалов. Т. 2. Мн., 1990.

Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии. 1860—1900. Мн., 1978.

Документы и материалы по истории Белоруссии. Т.3. Мн., 1953.

Доўнар-Запольскі М.В. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.

Ерусалимчик Л.Ф., Гилевич Ж.В. Борисов. Историко-экономический очерк. Мн., 1987.

Записки Ермолова А.П. 1798—1826. М., 1991.

Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1991.

Каханоўскі Г.А., Каханоўскі А.Г. Руплівец нашай старасветчыны. Мн., 1991.

Кісялёў Г. Сейбіты вечнага. Мн., 1966.
Краснянский В.Г. Борисов и Борисовский уезд в Отечественную войну 1812 г. Гродно, 1913.
Матэрыялы да гісторыі мануфактуры на Беларусі ў часы распаду феадалізма. 1796—1840. Т. 1. Мн., 1934.
«О библиотеке и имуществе И.Х.Колодеева» // Северо-Западная жизнь. Мн., 1914. 21 мая.
Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў. Ф.ВУА. Спр. 1886(а). Л. 712.
«Слоўнік геаграфічны Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін». Варшава, 1880.
Страницы художественного наследия России XVI—XX веков. М., 1997.
Тарле Е.В. Наполеон. Мн., 1993.
Tyszkiewiez E. Opisanie nowiaty Borysowskiego. Wilno, 1847.
Харкевич В.И. Березина, 1812. СПб., 1893.
Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. 378. Воп. 44. Спр. 1376. Л. 46—56.

*Ж.В.Гілевіч.*

# БАРЫСАЎ У ЧАС КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ 1917 г. І ЗАМЕЖНАЙ ІНТЭРВЕНЦЫІ

1-я сусветная вайна прынесла народу голад, нястачу, разарэнне. Нормы выдачы харчу насельніцтву Мінскай губерні пастаянна памяншаліся. У канцы 1916 г., адносна жніўня, нормы паменшыліся ў 2 разы. Яшчэ горшым было становішча ў пачатку 1917 г., калі ў губерні на чалавека выдавалі ўсяго 2 фунты мукі на тыдзень. Панавала беспрацоўе, не было грошай, а на рынку цэны катастрафічна раслі (Игнатенко И.М. Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии. М., 1986. С. 52). Паўсюдна нарастаў рэвалюцыйны рух. 23 лютага 1917 г. пачалася Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя.

Вестку аб звяржэнні самаўладдзя і стварэнні Часовага ўрада ў Расіі свядомая частка працоўных Барысава, як і большасць беларусаў, сустрэла з энтузіязмам і надзеяй. Па прыкладзе Петраграда на месцах пачалі ствараццa Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У сакавіку 1917 г. арганізацыйна аформіўся Савет у Барысаве, куды ўвайшлі прадстаўнікі рабочых з прадпрыемстваў і салдат з 121-га запаснога пяхотнага палка. Адным з першых мерапрыемстваў павятовага Савета дэпутатаў з'явілася ўстанаўленне ў горадзе насуперак законапалажэнням Часовага ўрада 8-гадзіннага працоўнага дня. Але на гэтым рабочыя не супакоіліся. Данясенні інспектараў губернскаму начальству сведчаць, што ў сакавіку баставалі рабочыя запалкавай фабрыкі «Вікторыя», у красавіку — запалкавай фабрыкі «Бярэзіна» і швейнікі, а 22 чэрвеня пачалася самая буйная забастоўка на абутковай фабрыцы, якая доўжылася 11 дзён. Падтрыманыя Саўдэпам, рабочыя патрабавалі ад гаспадароў прадпрыемстваў павышэння аплаты працы, арганізацыі медыцынскай дапамогі, паляпшэння ўмоў працы. У выніку толькі на сухарным заводзе заработную плату павялічылі на 35%.

«Новая ўлада» ў Барысаве аказалася ў руках былых царскіх чыноўнікаў. Павятовым камісарам прызначылі рэдактара чарнасоценнай газеты І.Дз.Арскага, былога сакратара царскага міністра Пратапопава. У Савеце пераважалі меншавікі, эсэры і прадстаўнікі яўрэйскай нацыянальнай партыі Бунд. У дзейнасці адміністрацыі захаваліся старыя парадкі, і рабочыя ўсё больш актыўна выражалі сваё незадавальненне. У красавіку — маі

Арскага і іншых службовых асоб знялі з пасад. У горадзе стварылі орган па ахове грамадскага парадку і бяспекі, які называўся «народнай аховай», а пазней «народнай міліцыяй». На буйнейшых прадпрыемствах — запалкавых і папяровай фабрыках, на шклозаводзе, у пяхотным палку — узнікалі фабрычна-заводскія і салдацкія камітэты. Яны дзейнічалі на падставе рашэнняў і прызываў Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Але лютаўская рэвалюцыя не вырашыла ўсіх пастаўленых задач і не прынесла працоўным сапраўднай свабоды, прадаўжалі зачыняцца прадпрыемствы, рабочых звальнялі. Так, у красавіку спыніла сваю дзейнасць ганчарная арцель, у чэрвені — фабрыка «Папірус». У краіне паглыбляўся сацыяльна-эканамічны крызіс, а разам з ім і палітычны. Барысаўчане ўсё больш падтрымлівалі бальшавікоў, якія ўсё часцей праводзілі мітынгі, сустракаліся з рабочымі і сялянамі, тлумачылі мэты і задачы, якіх яны хацелі дасягнуць.

Фабрычны інспектар Барысаўскага ўчастка 15 красавіка 1917 г. даносіў губернскаму начальству, што на лесапільным заводзе Арановіча з рабочага асяроддзя выбраны стараста і прадстаўнік у Савет рабочых дэпутатаў Нова-Барысава; на шклозаводзе «Гута» выбраны камітэт з 5 рабочых, які займаецца санітарным становішчам на заводзе, работай школы, бібліятэкі-чытальні; на дрэваапрацоўчым заводзе Бермана выбралі старасту, які займаецца забеспячэннем рабочых харчовымі прадуктамі, а таксама прадстаўнікоў у гарадскі Савет; абраны ў Саўдэп прадстаўнікі рабочых і на запалкавай фабрыцы «Бярэзіна».

У сакавіку — красавіку 1917 г. у Беларусі ствараліся філіялы Беларускай сацыялістычнай грамады. Цэнтрам дзейнасці грамады была газета «Наша ніва», якая аб'ядноўвала



*Дзяржаўная установа. Пачатак XX ст.*

ўсе свядомыя слаі насельніцтва на барацьбу за нацыянальныя ідэалы, арыентавала іх на развіццё культурна-асветнай работы. У Барысаве газету мелі многія жыхары, але шырокага водгуку заклікі грамады не атрымалі, уплыў БСГ на гарадскіх рабочых быў нязначным.

Палкавы камітэт 121-га запаснога пяхотнага палка карыстаўся аўтарытэтам не толькі ў салдат , але і ў рабочых. Салдацкі камітэт у сваіх дзеяннях часта падмяняў гарадскую ўладу, рабочыя і сяляне ішлі ў камітэт шукаць паратунку і справядлівасці.

Пад уплывам створанага ў Мінску камітэта РСДРП(б) узніклі самастойныя арганізацыі ў Барысаве. Партячэйку РСДРП(б) 121-га запаснога палка ўзначаліў прапаршчык А.Андрэеў, гарадскую — рабочы Карнавухаў.

Хутка адбыліся перавыбары ў гарадскі Савет, куды ўвайшлі ў асноўным бальшавікі і рэвалюцыйна настроеныя прадстаўнікі ад рабочых і салдат, у тым ліку прапаршчык М.С.Бурмістраў, салдаты С.Дз.Хадасевіч і А.Ф.Варашылаў, апошняга выбралі дэпутатам ад Барысава на губернскі з'езд.

З акопаў на Румынскім фронце вярнуўся ў родны горад старшы унтэр-афіцэр, кавалер трох Георгіеўскіх крыжоў Іосіф Аляксандравіч Адамовіч і стаў служыць у сваім 121-м запасным пяхотным палку, у якім у свой час пачынаў воінскую службу. Тут ён адразу актыўна ўключыўся ў рэвалюцыйна-прапагандысцкую дзейнасць. У той час полк падтрымліваў цесную сувязь з былым аднапалчанінам бальшавіком А.Ф.Мясніковым, з якім І.А.Адамовіч сустракаўся ў Мінску, як і з В.Г.Кнорыным, І.Я.Алібегавым.

1 кастрычніка на 1-й партыйнай канферэнцыі Паўночна-Заходняга краю А.Ф.Мяснікова выбралі сакратаром Мінскага губернскага камітэта РСДРП(б). Ён неаднойчы



*Панарама прыстані і старой часткі горада. Пачатак XX ст.*

прыязджаў у Барысаў, сустракаўся з салдатамі і рабочымі, знаёміў іх са становішчам у краіне, заклікаў быць гатовымі да рашучага штурму.

Аўтарытэт бальшавікоў сярод працоўных няўхільна рос. Аб гэтым сведчыць той факт, што за дваццаць дзён у кастрычніку 1917 г. колькасць бальшавікоў падвоілася. Пазіцыі пралетарыяту ўзмацніліся, акрэп саюз рабочых і салдат.

У пачатку кастрычніка аформілася гарадская партыйная арганізацыя на чале з салдатам палка А.Ф.Варашылавым. Рэвалюцыйна настроеныя салдаты 121-га запаснога пяхотнага палка і стомленыя ад вайны, голаду і разрухі рабочыя горада і сяляне павета рашуча падтрымалі першыя дэкрэты Саветаў, якія ў кастрычніку прыйшлі да ўлады.

Але земская ўправа (старшыня І.М.Паўлоўскі), у якую ўваходзіла шмат эсэраў, катэгарычна процістаяла арганізацыі савецкай улады на тэрыторыі Барысаўскага павета, пакуль не збярэцца Устаноўчы сход. Каб вырваць з-пад улады кіраўнікоў-эсэраў работнікаў валасных зямельных камітэтаў, дэлегатаў гэтага з'езда, ад ячэйкі бальшавіцкай арганізацыі 121-га запаснога пяхотнага палка паслалі на з'езд С.Дз.Хадасевіча. Ён на працягу 2 дзён неаднаразовымі сваімі выступленнямі пераканаў дэлегатаў з'езда ў неабходнасці сумеснага пасяджэння з прадстаўнікамі гарсавета і Савета салдацкіх дэпутатаў, на якім патрэбна арганізаваць сумесны Выканаўчы камітэт рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. На рашэнне з'езда аказалі ўплыў весткі аб Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўстанаўленні 2 лістапада 1917 г. савецкай улады ў Мінску.

Такое сумеснае пасяджэнне Саветаў адбылося 18 лістапада. На ім была абвешчана савецкая ўлада на тэрыторыі горада і павета.

На пасяджэнні выбралі выканаўчы камітэт у складзе 21 чалавека. Старшынёй выканкома стаў Міхаіл Сцяпанавіч Бурмістраў, яго намеснікам — Сцяпан Дзмітрыевіч



*Гарадскі млын на р. Сха. 1918 г.*

Хадасевіч, ваенным камісарам — Сяргей Фёдаравіч Нялюбаў, якога накіраваў у Барысаў Часовы ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту. Сакратаром выканкома стаў І.А.Адамовіч.

5 — 8 снежня на аб'яднаным з'ездзе Саветаў Барысаўскага павета прынятыя рашэнні былі зацверджаны. Рэзалюцыя з'езда абвясціла, што ўся ўлада ў горадзе і павеце належыць Савету рабочых, салдацкіх, сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў, яна падпарадкавала дзейнасць камісара кантролю выканкома. Гэтай рэзалюцыяй прапанавалася ўсім камітэтам увесці сваіх прадстаўнікоў у Савет, замест судоў, якія меліся, уводзіліся рэвалюцыйныя трыбуналы, харчовым управам трэба было ўзяць на ўлік увесь хлеб, забараняўся свабодны продаж і вываз хлеба.

На працягу снежня ў Барысаве сфарміравалі з мясцовых рабочых атрад Чырвонай гвардыі.

Пачаліся рэвалюцыйныя пераўтварэнні ва ўсіх сферах жыцця. Рабочыя і сяляне ўпершыню атрымалі магчымасць вырашаць дзяржаўныя справы. Яны прымалі рашэнні, ад якіх залежала іх жыццё, будучае іх дзяцей. Але малаадукаванасць прыводзіла да перакосаў і памылак у эканамічных і палітычных справах. Таму ў органы кіравання ўваходзіла шмат вайскоўцаў, якія былі ў асноўным пісьменнымі. Кіраўніцтва савецкай улады добра разумела гэту праблему і ў адной з першых пастаноў разам з забаронай дзіцячай працы на прадпрыемствах, устанаўленнем 8-гадзіннага рабочага дня, абавязковым страхаваннем і медыцынскай дапамогай уводзілася бясплатнае навучанне дзяцей, арганізоўваліся школы ліквідацыі непісьменнасці дарослага насельніцтва.

У горадзе і павеце праводзілася нацыяналізацыя фабрык і заводаў. Землі памешчыкаў перадаваліся камітэтам беднаты. Пачала функцыянаваць біржа працы. Гэта работа была надзвычай цяжкай. Члены выканкома выязджалі ў вёскі павета з атрадамі салдат для ўстанаўлення парадку і недапушчэння сабатажу. Клопаты кіраўнікоў не абмяжоўваліся гаспадарчай і палітычнай работай. Часам актывісты браліся за зброю. У студзені 1918 г. М.С.Бурмістраў, С.Ф.Нялюбаў, І.А.Адамовіч, С.Дз.Хадасевіч асабіста прымалі ўдзел у разбройванні польскіх легіянераў генерала І.Р.Доўбар-Мусніцкага, якія паднялі мяцеж, арганізоўвалі пагромы ў павеце, рабавалі і забівалі сялян.

Адначасова пачалося наступленне нямецкіх войскаў пасля зрыву перагавораў у Брэст-Літоўску. 22 лютага савецкія войскі пакінулі Мінск, за ім і Барысаў. Фронт стабілізаваўся на ўсход ад Барысава па лініі Полацк — Сянно — Орша. Акупацыйныя ўлады ўзнаўлялі старыя парадкі, вярталі зямлю былым гаспадарам, рабавалі насельніцтва. Камандуючы гарнізонам у Барысаўскім павеце Ф.Шкоп выдаў загад, у якім пад пагрозай пакарання патрабаваў непасільных рэквізіцый. Акупанты пачалі вывозіць прамысловае абсталяванне, лесаматэрыялы, хлеб, жывёлу ў Германію.

Адказам на грабяжы і здзекі была падпольная і партызанская барацьба жыхароў Барысаўшчыны.

Паўночна-Заходнім абкомам партыі ў акупіраваных раёнах, у тым ліку і ў Барысаве, створаны падпольныя арганізацыі. Барысаўскі падпольны партыйны камітэт у складзе Э.Васілеўскага, А.Чайкоўскага, М.Матусевіча, І.Дашкевіча кіраваў падпольнай дзейнасцю ў горадзе і павеце. Падпольшчыкі збіралі звесткі аб варожых войсках, здабывалі зброю і дастаўлялі партызанам, распаўсюджвалі нелегальную літаратуру, вялі агітацыйную работу сярод насельніцтва і нават у стане ворага. Падпольная арганізацыя мела сувязі з гарадамі Смаленск, Орша, Віцебск, атрымлівала адтуль дапамогу. Так А.Чайкоўскі ездзіў у Оршу, дзе атрымаў 30 вінтовак, 2 дзесяткі гранат, грошы, літаратуру. Гэта дазволіла стварыць у горадзе атрад з 200 чалавек на чале з прапаршчыкам А.А.Вульфіусам. Рабочы друкарні Брэслаў узначаліў атрад супраціўлення на запалкавай фабрыцы Саламонава, Голуб — на фабрыцы «Бярэзіна», Свярдлоў — на папяровай, Баранскі — на лесазаводзе. Атрады ахоўвалі заводы і фабрыкі, іх задачай было недапушчэнне дэмантажу прадпрыемстваў, вывазу ў Нямеччыну матэрыялаў, драўніны. Рабочыя неслі патрульную службу, вялі барацьбу са спекуляцыяй, бандытызмам.

Адзін з атрадаў арганізаваў і ўзначаліў І.А.Адамовіч. Атрад з поспехам змагаўся супраць інтэрвентаў пад Барысавам і Магілёвам.

Партызанскія атрады ствараліся і ў розных месцах павета. У в. Пупелічы (зараз Крынічкі) Зачысцкай воласці кіраваў атрадам амаль у 300 чалавек былы балтыйскі матрос Уладзімір Захарэвіч. Паўстанцы рабілі на дарогах завалы, разззбройвалі ворага, нападалі на немцаў з засад, узарвалі чыгуначны мост цераз Бярэзіну, разбілі буйны карны атрад.

Жыхары вёсак Бараўляны, Лісіно, Карсакавічы, Скупліно, Паляны, Прусевічы падняліся на супраціўленне акупантам. Партызанскі рух стаў грознай сілай.

Газета «Известия исполнительного комитета Советов Западной области и Смоленского Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов» у жніўні 1918 г. паведаміла: «У Барысаве адбыўся ваенны бунт. Салдаты германскага палка пачалі біць сваіх афіцэраў. Дваіх забілі і некалькі паранілі». Гэта здарылася пад уздзеяннем агітацыйнай работы, якую падпольшчыкі праводзілі ў часцях акупацыйных войскаў, а таксама пад уздзеяннем вестак аб рэвалюцыі ў Германіі.

Ускладненне палітычнага і міжнароднага становішча вымусіла ўрад Германіі 27 жніўня 1918 г. падпісаць дагавор аб вывадзе войскаў на лінію на ўсход ад ракі Бярэзіны. Фронт наблізіўся да Барысава. Становішча ў горадзе і павеце яшчэ больш пагоршылася.

Арганізаванасць гарадскога рабочага класа і павятовага сялянства, стварэнне ўзброеных атрадаў дазволілі яшчэ да прыходу ў горад Чырвонай арміі адрадзіць павятовы Савет, у які ўвайшлі ў выніку выбараў прадстаўнікі розных прадпрыемстваў. 15 лістапада 1918 г. адбылося пасяджэнне Савета, якое прыняло прывітанне германскаму пралетарыяту, які ўключыўся ў рэвалюцыйны рух.

Сведкі тых дзён успамінаюць, што 16 лістапада Часовы савет упаўнаважыў Гусева, Бененсона і Сыркіна ўступіць у перагаворы з прадстаўнікамі салдат нямецкага гарнізона.

Ім было заяўлена, што ўлада ў горадзе перайшла да Савета рабочых дэпутатаў, і немцы павінны безагаворачна прызнаць гэты факт. Таксама было сказана, што Савет стварае ўзброеныя сілы, якія не дазволяць вывозіць з горада матэрыяльныя каштоўнасці, бо ўсё гэта належыць беларускаму народу.

Перагаворы мелі добры вынік, прадстаўнікі Савета салдацкіх дэпутатаў нямецкага гарнізона сустрэлі гэту заяву станоўча, нават у парадку пралетарскай салідарнасці выдзелілі гарадскому Савету 40 вінтовак з патронамі.

2 снежня 1918 г. Барысаў быў вызвалены 152-м палком 16-й арміі пры ўдзеле партызан. Сярод вызваліцеляў быў і М.С.Бурмістраў, які зноў прыступіў да выканання абавязкаў старшыні Барысаўскага павятовага выканкома.

25 — 26 снежня на з'ездзе Саветаў дэлегаты выбралі новы склад павятовага выканкома.

Адразу пачала выходзіць газета «Известия Борисовского Совдепа», пазней — «Известия Борисовского уездного Совета рабочих, крестьянских и красноармейских депутатов». Барысаўскі ваенком тэлеграфаваў Мінскаму ваеннаму савету: «Политическое настроение стойкое. Съезд Советов проходит блестяще. Депутатов 221, из них более 2/3 коммунисты». За актыўную работу па мабілізацыі працоўных на супраціўленне акупантам члена падпольнага камітэта Эдуарда Васілеўскага ўзнагародзілі ордэнам Чырвонага Сцяга.

1 студзеня 1919 г. быў апублікаваны Маніфест Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі ў сувязі са стварэннем Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Пачалося будаўніцтва новай дзяржавы.

Становішча ў горадзе пасля яго вызвалення можна прасачыць па старонках газеты «Известия Борисовского Совдепа». У першым нумары, які выйшаў 15 снежня 1918 г., рэдакцыя звярнулася да чытачоў з праграмнымі словамі: «Служыць мясцоваму насельніцтву, зрабіць для яго даступным друкаванае слова, своечасова паведамляць пра сусветныя і агульнапалітычныя падзеі, трымаць у курсе распараджэнняў цэнтральнай і мясцовай Савецкай улады, падрабязна адзначаць усе падзеі і ход савецкага будаўніцтва ва ўсіх шматлікіх галінах жыцця павета».

У гэтым нумары паведамлялася пра дзейнасць павятовага Савета, партыйную работу, настрой працоўных мас.

Нумары барысаўскай газеты насычаны паведамленнямі, якія дазваляюць меркаваць аб падзеях, што адбываліся ў горадзе і павеце. Ідзе з'езд Саветаў. Сярод чырвонаармейцаў вядзецца тлумачальная работа. З Германіі вяртаюцца палонныя, газета заклікае насельніцтва аказваць дапамогу адзеннем, прадуктамі харчавання, з працаўладкаваннем і вяртаннем да нармальнага працоўнага жыцця. Адчыняюцца бібліятэкі і чытальні для працоўных, праводзяцца народныя чытанні. Ствараюцца паштовыя ўстановы. Вырашаюцца пытанні народнай асветы і аховы здароўя. Усё гэта адбываецца ў надзвычай цяжкіх абставінах, ва ўмовах гаспадарчай разрухі. Характэрнай з'яўляецца справаздача

на пленуме Савета працоўных і салдацкіх дэпутатаў загадчыка аддзела фінансаў выканкома: «Мой даклад па аддзеле фінансаў будзе кароткі: фінансаў у мяне няма».

У цяжкіх умовах наладжвалася жыццё. Запрацавалі прадпрыемствы. Як паведамляў часопіс «Экономическая жизнь», 1919 г., № 4, для тавараабмену з Украінай маршрутнымі паяздамі з Барысава адпраўлена паперы 3646 пудоў 20 фунтаў на суму 357 руб., бочак 319 штук на суму 22 154 руб., шклянога і хрустальнага посуду на суму 169 499 руб., запалак 9305 скрынак, 16 вагонаў фанеры.

У сакавіку 1919 г. у Барысаве адкрылася аддзяленне Мінскай акружной канторы Нацыянальнага банка. Функцыі яго зводзіліся да забеспячэння горада грашовымі знакамі, якіх было няшмат.

28 красавіка 1919 г. у 2-ю брыгаду Заходняй дывізіі ўліўся Барысаўскі батальён з 219 чалавек. У чырвонаармейцаў быў рэвалюцыйны дух, высокія маральна-баявыя і дысцыплінарныя якасці — так характарызаваў барысаўчан камісар батальёна.

1 мая 1919 г. было для Барысава асаблівым: яго жыхары ўпершыню свабодна святкавалі сваё пралетарскае свята. Фасады дамоў былі ўпрыгожаны сцягамі, плакатамі, зелянінай. У 10 гадзін раніцы рабочыя і служачыя пачалі прыходзіць на пункты збору. На грудзях у іх пунсавелі банты. На плошчы К.Лібкнехта выстраіліся часці ваеннага гарнізона і атрады ўсенавуча, сюды ж прыйшлі з рэвалюцыйнымі песнямі святочныя калоны рабочых, служачых і пажарных дружын. Наперадзе ішоў атрад барысаўскіх камуністаў. Пасля мітынгу, на якім выступаўшыя заклікалі барысаўчан мацаваць пралетарскую салідарнасць, пачаўся ваенны парад. Яго прымалі ваенны камісар павета і члены Барысаўскага выканкома. Пасля таго, як уздоўж трыбун прайшлі ваенныя, пачалося шэсце працоўных горада. Дэманстранты накіраваліся да новага моста цераз Бярэзіну, а ўжо адтуль разыходзіліся па сваіх прадпрыемствах. Вечарам у розных кутках горада адбыліся народныя гулянні і святочныя канцэрты.

16 лютага 1919 г. Савет народнай гаспадаркі БССР прыняў пастанову аб нацыяналізацыі прамысловых прадпрыемстваў. Гэты працэс адбываўся і ў горадзе. На прадпрыемствах усталёўваліся органы рабочага кіравання. Барысаўскі выканком шляхам проб і памылак наладжваў сваю работу ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва.

Але перыяд мірнага жыцця аказаўся вельмі кароткім — у красавіку 1919 г. польскія інтэрвенты распачалі вайну і ўварваліся ў межы Беларусі і Літвы, захапіўшы значную частку тэрыторыі. 11 жніўня 4-я польская армія заняла Нова-Барысаў і спынілася на Бярэзіне.

У той час Членам Рэўваенсавета 16-й арміі з'яўляўся Сярго Арджанікідзе. Ён узначаліў абарону Заходняга фронту. Палявы штаб войск знаходзіўся на чыгуначнай станцыі Прыяміна. Штаб не меў дастатковых звестак аб праціўніку. Камандаванне пасылала некалькі разведатрадаў у Барысаў, але поспеху дабіцца не магло. Тады сам С.Арджанікідзе ўзначаліў атрад, у які ўваходзілі член Барысаўскага рэўкома А.І.Хацкевіч, рабочыя

гарадскіх прадпрыемстваў, некалькі чырвонаармейцаў, і адправіўся ў разведку на правы бераг Бярэзіны, дзе дыслацыраваліся польскія войскі. Разведчыкі сустрэліся з рабочымі і жыхарамі горада і наваколля, якія паказалі размяшчэнне войскаў праціўніка, дагаварыліся з імі аб плане сумесных дзеянняў.

Сабраныя звесткі дазволілі камандаванню распрацаваць план наступлення, паводле якога Нова-Барысаў быў вызвалены ад белапалякаў, але ненадоўга. Войскі 16-й арміі пад націскам праціўніка адступілі за Бярэзіну, і тут фронт стабілізаваўся на доўгія месяцы. Праходзіў ён на паўночны ўсход, на ўсход і паўднёвы ўсход ад горада, уключаючы населеныя пункты Бытча, Вялікая Ухалода, каля вёсак Гара, Аздзяцічы і далей па Бярэзіне. Праціўнік акупіраваў частку павета, у якую ўваходзіла 12 валасцей з 21. Пазіцыі палякаў былі ўмацаваны англійскімі і французскімі гарматамі, амерыканскімі кулямётамі, абнесены калючым дротам. Умацоўвалі свае пазіцыі і байцы 16-й арміі, але ж аснашчэнне яе было не такім моцным.

Для насельніцтва горада і занятых валасцей наступілі цяжкія дні, бо зноў вярнуліся на прадпрыемствы і ў памесці гаспадары, рабочы дзень стаў доўжыцца 12 — 14 гадзін, працавалі за капейкі, а многіх выкідвалі на вуліцу і яны гублялі нават гэты мізэр. Уводзілася абавязковае вывучэнне польскай мовы, на мове акупантаў вялося справаводства.

Рабочыя спрабавалі аказваць супраціўленне польскім уладам, сабаціравалі іх загады. У павеце ў вёсках Будзенічы, Карсакавічы, Мсціж і іншых ствараліся партызанскія атрады, якія нападалі на варожыя гарнізоны, хавалі хлеб і жывёлу на востраве Багун у палікоўскіх балотах. Каля станцыі Жодзіна сяляне ўзарвалі 2 польскія эшалоны з боепрыпасамі. У сваіх распараджэннях у лістападзе 1919 г. польскія ўлады патрабавалі ўзмацнення на Барысаўшчыне барацьбы з «бандытамі», абяцалі насельніцтву ўзнагароду за дапамогу ўладам.



*Помнік С.Арджанікідзе.*

Хоць выступленні рабочых і сялян мелі месца, у час польскай інтэрвенцыі партызанскі рух не быў такім моцным, як у час

германскай. На гэта былі прычыны. Створаны ў кастрычніку 1919 г. Барысаўскі павятовы рэўком (старшыня С.Дз.Хадасевіч) увесь час акупацыі знаходзіўся і дзейнічаў у м. Крупкі. Ён кіраваў толькі неакупіраванай усходняй часткай павета, займаўся пытаннямі забеспячэння войскаў 16-й арміі прадуктамі харчавання. Пакінуўшы Барысаў і заходнюю частку павета без увагі, ён не ўплываў на арганізацыю падпольнай барацьбы, і супраціўленне ўзнікала стыхійна. Да таго ж, як піша ў сваім артыкуле В.І.Ермаловіч, «...Памылкі, дапушчаныя органамі савецкай улады ў 1919 г. на тэрыторыі Беларусі ў аграрным пытанні, таксама не садзейнічалі шырокаму разгортванню партызанскай барацьбы. На базе памешчыцкіх маёнткаў, канфіскаваных савецкай уладай, ствараліся саўгасы. Бяднейшае сялянства не атрымала чаканага — зямлі. Ігнараванне Дэкрэта аб зямлі прывяло да аслаблення савецкай улады, у перыяд польскай акупацыі значная частка сялянства захоўвала нейтралітэт» (Ермаловіч В.І. Польская інтэрвенцыя. Барацьба на фронце і ў тыле// Памяць. Барысаў. Барысаўскі раён. М.,1997. С. 144).

9 з паловай месяцаў белапалякі гаспадарылі ў Барысаве.

Вясной 1920 г. войскі Пілсудскага пачалі наступленне з мэтай прабіцца ў раёне Барысава ў глыб Беларусі. Але гэта ім не ўдалося. На прапанову пачаць мірныя перагаворы палякі згаджаліся пры ўмове, што яны адбудуцца ў прыфрантавым Барысаве, які знаходзіўся ў іх руках. Такім чынам, Польшча імкнулася захаваць горад і яго наваколлі пад сваёй уладай.



*Сустрэча Чырвонай арміі ў Барысаве 25 мая 1920 г.*

На гэта савецкае кіраўніцтва, разумеючы захады ворага, адказала: любы іншы горад, акрамя Барысава. Польскія ўлады на іншы горад не згадзіліся.

Да гэтага часу камандаванне 16-й арміі падрыхтавала план баявой наступальнай аперацыі, якую распачало 14 мая.

У раёне Барысава наступала 17-я стралковая дывізія пад камандаваннем К.П.Нявежына. Амаль адначасова падняўся ў наступленне атрад, створаны адным з першых барысаўскіх міліцыянераў І.І.Левіным. Ён пераправіўся на поўнач ад старой часткі горада цераз Бярэзіну каля в. Дымкі і абстраляў з тылу войскі праціўніка, якія перапраўляліся па мосце, чым вызваў паніку ў стане ворага (Памяць. Барысаў. Барысаўскі раён. М.,1997. С. 144).

25 мая 1920 г. войскі 16-й арміі ўвайшлі ў Барысаў. Сярод байцоў быў член Рэўваенсавета гэтай арміі А.Э.Даўман.

Фота, якое захавалася, сведчыць аб тым, як барысаўчане сустракалі байцоўвызваліцеляў — яны выйшлі на вуліцы з транспарантамі, сцягамі, з чырвонымі бантамі на грудзях і з надзеяй у вачах.

Акупанты, вымушаныя адступіць, задумалі жорстка распраўіцца з горадам, які ім не ўдалося ўтрымаць. У ноч з 27 па 28 мая пачаўся варварскі артылерыйскі абстрэл з правабярэжжа, з «Батарэй», адкуль, як на далоні, добра праглядаўся стары горад.



*Будынак запалкавай фабрыкі, узарваны пры адступленні польскімі войскамі . 1920 г.*

Велізарнае вогненнае зарыва запалала над Барысавам. Вецер падхопліваў іскры і разносіў на ўцалелыя будынкі. Раніцай 28-га абстрэл яшчэ больш узмацніўся. Шмат жыхароў горада загінула, тыя, што засталіся, пачалі ўцякаць у бліжэйшы лес, да якога было 5 вёрст. Але дарога да яго ішла праз адкрытае поле і белапалякі скіравалі агонь на людзей. Толькі 29 мая скончыўся шалёны абстрэл. Затое пачалося знішчэнне прамысловага Нова-Барысава. Пад націскам Чырвонай арміі палякі, адступаючы, спалілі і ўзарвалі амаль усе буйныя прадпрыемствы, масты, жылыя дамы. За гэтыя дні на Барысаў было выпушчана 2 тыс. цяжкіх снарадаў. Толькі 5 чэрвеня 1920 г. Барысаў быў поўнасцю вызвалены ад акупантаў.

Страшэннае відовішча прадстала перад воінамі-вызваліцелямі і жыхарамі, якія засталіся ў жывых, калі яны ўбачылі, што засталося ад горада — адны галавешкі ды забітыя ці пакалечаныя людзі і жывёлы. Патрабавалася тэрміновая дапамога тым, хто выжыў.

Старшыня камісіі сацыяльнай дапамогі пры аддзеле рэўкомаў Рэўваенсавета 16-й арміі В.А.Нартыш-Блук дакладваў аб дапамозе насельніцтву Барысава: праведзена рэгістрацыя пацярпеўшых, выдзелены крэдыт у 2 млн. рублёў, выдадзена 4 тыс. пудоў мукі, адкрыты харчовыя пункты, выдающа пайкі, на асігнаваныя сродкі створанай павятовай камісіяй прынята рашэнне закупіць абмундзіраванне і мануфактуру для раздачы насельніцтву, будуюцца баракі, ставяцца палаткі, арганізаваны збор сродкаў у фонд пацярпеўшых. За кароткі тэрмін у мясцовае казначэйства паступіла каля 7 млн. рублёў ахвяраванняў ад рабочых Беларусі, Расіі, а таксама з Польшчы, Германіі, Англіі, Амерыкі, Аўстраліі.



*Чыгуначны мост цераз Бярэзіну, узарваны палякамі. 1920 г.*

Пазней, выступаючы 30 ліпеня 1923 г. на 3-й сесіі ЦВК БССР, старшыня Барысаўскага павятовага выканкома А.І.Хацкевіч, які быў сведкам разбурэння горада, прывеў падлічаныя страты: «... пажарам знішчана 400 жылых прыватных дамоў, больш за 2 тысячы пабудоў дзяржаўных і грамадскіх устаноў, складскіх памяшканняў з усімі архівамі, кнігамі, бібліятэкамі і другой маёмасцю. Ва ўсім горадзе, дзе шмат было сялян-землеробаў, засталося толькі 7 коней. Страты гарадскога насельніцтва ў выніку разбурэння Барысава па агульным падліку вызначаюцца ў сярэднім каля 25 млн. залатых рублёў».

Сесія прыняла агульны план аднаўлення горада Барысава.

У вызваленым Барысаве пачалі аднаўляць савецкую ўладу. Ужо 25 мая, улічыўшы недахопы ў рабоце павятовага рэўкома, яго старшынёй прызначылі загадчыка аддзела рэўкомаў 16-й арміі П.Ф.Рэвінскага, а С.Дз.Хадасевіч і М.Матусевіч сталі членамі рэўкома.

Адначасова ЦК КП(б)ЛіБ стварыў павятовую парттройку з ліку М.Матусевіча (старшыня), П.Рэвінскага і С.Хадасевіча.

Аформіўся і павятовы партыйны камітэт, абраны на агульным сходзе членаў РКП(б), які адбыўся ў пачатку чэрвеня 1920 г.

Важнай задачай у тыя дні было прыцягненне рабочых і жыхароў горада і павета да аднаўлення гаспадаркі. З гэтай мэтай арганізоўваліся мітынгі, беспартыйныя рабочыя канферэнцыі, масавыя суботнікі па ачыстцы тэрыторый фабрык і заводаў ад разбурэння, вуліц ад пажарышчаў, па разгрузцы і пагрузцы вагонаў на чыгунцы.

За любую работу бралася моладзь. 28 жніўня 1920 г. прайшоў першы суботнік. За люты —



*У час першага суботніка. 28 жніўня 1920 г.*

кастрычнік 1921 г. адбылося 14 суботнікаў, у якіх прымалі ўдзел 1530 камуністаў і 1250 камсамольцаў разам з масай членаў прафсаюза. Шмат працавалі барысаўчане на аднаўленні свайго горада.

Нягледзячы на галечу і нястачу, людзі цягнуліся да прыгожага, да мастацтва. Адразу пасля вызвалення ад белапалякаў аднавілі сваю дзейнасць некалькі драмгурткоў, сярод якіх вызначаўся калектыў пры агітпункце чыгуначнай станцыі Барысаў. Спектаклі ішлі кожны дзень, а то і 2 разы на дзень, для воінскіх часцей, якія па чыгунцы рухаліся на захад, каб далучыцца да войскаў, што ажыццяўлялі наступальныя аперацыі па выгнанні акупантаў з Беларусі.

Перад пачаткам спектакляў заўсёды арганізоўваліся мітынгі, на якіх тлумачылася міжнароднае становішча, расказвалася аб становішчы на фронце. Кожны спектакль, як успамінаў адзін з удзельнікаў тых падзей А.Р.Дзешавы, нязменна заканчваўся выкананнем «Інтэрнацыянала». Спявала яго ўся зала разам з артыстамі. Гэта было характэрнай рысай жыцця пачатку 1920-х гадоў.

У справаздачы Барысаўскага павятовага выканкома прыводзяцца наступныя звесткі. У горадзе 20 290 чалавек. За перыяд са жніўня па снежань 1920 г. выканкомам праведзены 3 з'езды, нарада старшынь валасных выканкомаў і загадчыкаў зямельных аддзелаў, 1 партыйная і 1 беспартыйная канферэнцыі, 2 нарады лесаводаў, з'езд інструктараў па народнай адукацыі і інш. Адбыліся 23 нарады і пасяджэнні прэзідыума, 2 пленумы.

Установамі палітасветы дадзена 65 канцэртаў і спектакляў, праведзена 29 мітынгаў, арганізаваны ў павеце 53 хаты-чытальні. Працуе 1 сельгасшкола і 10 сельгаслекторыяў.

У горадзе і павеце арганізавалі 560 школ 1-й і 2-й ступені, але школы 2-й ступені ў горадзе не адкрылі з-за адсутнасці памяшканняў. Працуе 1 бальніца і 1 заразны барак (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф.160. Спр. 1. Л. 106—113).

Выгнанне інтэрвентаў дазволіла барысаўчанам вярнуцца да мірнага жыцця. З велізарнымі цяжкасцямі знявечаны горад уздымаўся з руін і пажарышчаў.

*Ж.В.Гілевіч.*

# БАРЫСАЎ У 1921—1941 гг.

Пасля вызвалення горада і павета перад працоўнымі паўсталі цяжкія і складаныя задачы. Патрэбна было перамагчы разруху, пачаць аднаўленне і развіццё прамысловасці, рэканструяваць сельскую гаспадарку, пачаць будаваць новае жыццё.

Нялёгка даваліся першыя поспехі. Рабочы запалкавай фабрыкі М.Голуб пазней расказваў: «За час польскага панавання шмат рабочых фабрыкі загінула, людзей засталося мала, машыны разабраны ці зусім разбураны, чарцяжоў няма. Мы вылучылі брыгаду пад кіраўніцтвам Мытніка. Яна прыступіла да рамонту катлоў і бакаў. Паехалі на Баранскі завод па вырабе цвікоў. Там нам далі метал і дазволілі працаваць на станках. Праз месяц прывезлі адтуль часткі для машын, дзякуючы якім пусцілі фабрыку і пачалі рабіць запалкі».

Яшчэ 13 жніўня 1920 г. газета «Звезда» пісала, што ў Барысаве пры вялікіх намаганнях рабочых ідзе адраджэнне народнай гаспадаркі. А праз 3 месяцы павятовы рэўком у сваёй справаздачы адзначаў: «...На папяровай фабрыцы «Папірус» выпускаецца папера. Працуе запалкавая фабрыка «Бярэзіна». Пачалі даваць прадукцыю кафельна-цагельны завод, мылаварныя арцелі, майстэрні па рамонце павозак, шклозавод». Аднавіў работу млын на рацэ Сха. З выдзеленых Рэўваенсаветам 16-й арміі 2 млн. рублёў закупілі абсталяванне для фабрык і заводаў. Аднавілася праца друкарні, дзе выходзіла газета.

Мясцовыя ўлады дабіліся магчымасці выкарыстоўваць усе запасы матэрыялаў на будоўлю ў горадзе не толькі прадпрыемстваў, але і дамоў для жыхароў.

Для хутчэйшага пераадолення вынікаў вайны патрэбна было аднавіць рух на чыгунцы Мінск — Масква, пабудаваць замест узарванага новы мост цераз Бярэзіну. У тых умовах ажыццявіць такое будаўніцтва было нялёгка. Гэтым пытаннем цікавіўся сам Ленін. Ён запрасіў да сябе спецыялістаў-маставікоў і адказных работнікаў наркамата шляхоў зносін. На нарадзе высветлілася, што мост пабудаваць немагчыма — няма металу. Ленін пацікавіўся, ці ёсць паблізу Барысава лес, а калі пачуў, што паабапал Бярэзіны стаяць векавыя дрэвы, прапанаваў пабудаваць драўляны мост. Спецыялісты параіліся і вырашылі, што часовы мост можа быць і драўляны. Мабілізавалі ўсе тэхнічныя сродкі,

якія меў у той час наркамат, пачалі будаваць мост. Чыгуначнікі і рабочыя працавалі з вялікім энтузіязмам. Мост зрабілі добротна, і праслужыў ён амаль 10 гадоў.

Але гэта былі першыя і пакуль невялікія дасягненні.

Вельмі цяжкім было матэрыяльнае становішча жыхароў горада і павета, панаваў голад. Увядзенне харчовай развёрсткі здымала крайнюю напружанасць у забеспячэнні рабочых прадуктамі, але часткова. Прымаліся захады па ўтрыманні падсобных гаспадарак прадпрыемствамі і установамі, адкрываліся школьныя і рабочыя сталовыя, дзе выдаваліся бясплатныя абеды на 4 тыс. чалавек. У кастрычніку для заводскіх рабочых і служачых адмянілі плату за жыллё, многім выдаваліся грошы.

Да восені 1920 г. прайшлі выбары ў гарадскі Савет. Рэўком быў скасаваны. Створаная камісія праводзіла кадравую «чыстку» ва ўстановах. З заклікам накіраваць усе сілы на аднаўленне гаспадаркі рэспублікі звярнуўся да працоўных 2-і Усебеларускі з'езд Саветаў.

Старшынёй Барысаўскага павятовага выканкома выбралі А.І.Хацкевіча. На гэтай пасадзе ён знаходзіўся самыя цяжкія 4 гады і зрабіў многае для роднага горада. Адраджэнне гаспадаркі, нармалізацыя жыцця насельніцтва, барацьба са спекулянтамі і дэзерцірамі, з бандытызмам, удзел у рабоце павятовай рабоча-сялянскай інспекцыі — гэтымі і шмат якімі іншымі пытаннямі прыходзілася займацца Аляксандру Ісакавічу. 9 жніўня 1922 г. газета «Звезда» пісала: «Барысаў можа ганарыцца сваімі добрымі працаўнікамі, стойкімі рэвалюцыянерамі... Савецкая работа пастаўлена добра, выканком выдатны. Сувязь з масамі, з вёскай нядрэнная. Старшыню выканкома тав. Хацкевіча ведаюць, усхваляюць, любяць...» У снежні 1922 г. як член паўнамоцнай дэлегацыі БССР А.І.Хацкевіч падпісаў Дэкларацыю аб утварэнні СССР.

Аднаўленню гаспадаркі і наладжванню жыцця вельмі перашкаджаў бандытызм, які ў 1920—1921 гг. прыняў шырокі размах. Банды Булак-Балаховіча, Савінкава, Семенюка, Моніча, Бенгера і іншыя ў прыгранічным Барысаўскім павеце рабілі набегі і разбой не толькі ў вёсках, але і ў горадзе. Яны падпалілі будынак, дзе размяшчаліся органы савецкай улады і рэдакцыя газеты, забілі начальніка міліцыі А.А.Рэвута і некалькі міліцыянераў. Кіраўніцтва БССР восенню 1921 г. увяло на ўсёй тэрыторыі ваеннае становішча. На Заходнім фронце была створана Паўнамоцная камісія ЦВК РСФСР, у склад якой увайшоў намеснік старшыні ЦВК і СНК БССР барысаўчанін А.І.Адамовіч. Важную ролю ў барацьбе з бандытызмам адыгралі атрады асобага прызначэння, адзін з якіх узначальваў А.І.Хацкевіч, другі І.І.Левін. Створаная ў ліпені 1920 г. па распараджэнні Барысаўскага рэўкома акруговая рабоча-сялянская міліцыя, начальнікам якой стаў М.С.Плюйко, да восені ўжо налічвала 400 чалавек. Цаной сваіх жыццяў міліцыянеры, воіны Чырвонай арміі ліквідавалі бандытызм у павеце; у сярэдзіне 1922 г. сітуацыя стабілізавалася, ваеннае становішча было адменена.

З цягам часу станавілася ўсё больш відавочным, што зжыла сябе палітыка «ваеннага камунізму», заснаваная на прымусовай харчовай развёрстцы. У адказ насельніцтва ўсё

часцей выказвала незадаволенасць, сяляне хваляваліся і супраціўляліся, пачалі баставаць рабочыя на запалкавай фабрыцы, лесазаводзе. Савецкая ўлада бачыла выйсце ў тэрміновым пераходзе да харчовага падатку. У сакавіку 1921 г. РКП(б) абвясціла пераход да новай эканамічнай палітыкі.

Адным з важных прынцыпаў перабудовы прамысловасці ў час НЭПа з'яўляўся перавод дзяржаўных і кааператыўных, у асноўным дробных, прадпрыемстваў на гаспадарчы разлік. У горадзе 4 арцелі, млын, 6 майстэрань, некалькі магазінаў былі здадзены ў арэнду. Гэта садзейнічала павелічэнню тавараў і прадуктаў харчавання, памяншэнню беспрацоўя.

У часы нэпа палепшылася забеспячэнне гараджан харчовымі прадуктамі: сяляне атрымалі магчымасць прадаць лішкі ўраджаю пасля выплаты харчовага падатку, і рабочыя Барысава на рынку набывалі мяса, муку, зерне, бульбу, агародніну, малочныя прадукты. Немалаважнае значэнне мела грашовая рэформа, у выніку якой стабілізаваўся рубель.

Асноўная частка рабочых Беларусі , паводле статыстычных звестак, у сярэдзіне 1921 г. працавала ў трох асноўных трэстах: запалкавым, шкляным і папяровым. А паколькі ў Барысаве былі прадпрыемствы ўсіх трох трэстаў, то вялікага беспрацоўя ў горадзе не назіралася. Праўда, дзеючым прадпрыемствам не хапала сыравіны, паліва, інструментаў, дысцыпліна знаходзілася на нізкім узроўні, адбываліся частыя прагулы, заставалася нізкай прадукцыйнасць працы, таму былі разгорнуты шырокія палітыка-выхаваўчыя мерапрыемствы.




*Работнікі Барысаўскага павятовага аддзела рабоча-сялянскай інспекцыі. Пачатак 1920-х гадоў.*

Першая беспартыйная рабочая канферэнцыя, якая адбылася ў горадзе 4 верасня 1920 г., адзначала, што з-за цяжкага эканамічнага становішча назіраецца адток кваліфікаваных рабочых у вёскі, іх адмаўленне працаваць на фабрыках і заводах, што адмоўна адбіваецца на прадпрыемствах. У прынятай рэзалюцыі канферэнцыя ўказала на недапушчальнасць працоўнага дэзерцірства і прызнала неабходным шырока далучаць насельніцтва да працоўнай павіннасці, да ўдзелу ва ўсіх мерапрыемствах савецкай улады, якія накіраваны на паляпшэнне эканамічнага становішча. Заклікаўшы да абавязковага ўдзелу ў суботніках, павышэння прадукцыйнасці працы, канферэнцыя ў той жа час патрабавала для барацьбы з дэзерцірствам увесці строгую працоўную дысцыпліну і таварыскія дысцыплінарныя суды.

На сходах рабочых тлумачылася сутнасць новай эканамічнай палітыкі, неабходнасць аднаўлення і перабудовы прамысловасці, пад'ёму прадукцыйнасці працы. Былі зроблены захады па ўвядзенні сумяшчэння, па карэнным змяненні сістэмы заработнай платы, уведзена калектыўнае забеспячэнне і натуральнае прэміраванне, рабочыя ўцягваліся ў кіруючыя органы. У сакавіку — красавіку 1921 г. у горадзе прачытаны 22 даклады, праведзена 18 заняткаў па эканамічных ведах. Усё гэта садзейнічала пад'ёму рабочай актыўнасці.

У лютым 1922 г. пры аддзеле сацзабеспячэння створаны страхавыя касы, якія аказвалі дапамогу дэмабілізаваным чырвонаармейцам, інвалідам вайны, параненым, іх сем'ям. У гэты ж час адкрылі дом для інвалідаў і састарэлых, стварылі кааператыўнае аб'яднанне і некалькі арцелей для інвалідаў.

Для папаўнення кваліфікаваных кадраў рабочага класа ў горадзе атрымала развіццё прафесіянальна-тэхнічная адукацыя. У Нова-Барысаве адкрылася прафтэхшкола з трыма цэхамі: кавальскім, слясарным і сталярным. У школе навучалася 140 чалавек, яшчэ 40 займалася ў прафтэхвучылішчы абутковай вытворчасці, 20 у школе дрэваапрацоўшчыкаў.

Заметнай фігурай у павятовым камітэце таго часу быў Канстанцін Паўлавіч Ягоўдзік. Ён займаў шэраг пасад, у тым ліку сакратара і намесніка старшыні, з'яўляўся членам павятовага прафсаюзнага бюро праўлення Саюза рабочай адукацыі. Актыўны, з вялікай вытрымкай, добра адукаваны, ён паспяваў спраўляцца са службовымі абавязкамі, кіраваць асветнымі гурткамі, чытаць лекцыі на настаўніцкіх курсах і г.д. Але нечакана захварэў і хутка памёр. Як вельмі паважанага чалавека пахавалі К.П.Ягоўдзіка ў парку запалкавай фабрыкі.

Адраджэнне, рэканструкцыя народнай гаспадаркі суправаджаліся ажыццяўленнем «культурнай рэвалюцыі». Па рашэнні цэнтральных органаў пачала выходзіць мясцовая газета пад назвай «Бедняк». Стварыў газету Ц.С.Гарбуноў, які пазней стаў адным з першых беларускіх акадэмікаў.

На адным з першых пасяджэнняў павятовага рэўкома слухалі пытанне аб школьных справах. Паводле няпоўных звестак Цэнтральнай надзвычайнай камісіі па ліквідацыі непісьменнасці ў Беларусі за 1921 г. у Барысаве налічвалася 6249 непісьменных, а ў павеце

101 818. У выканкоме зроблены захады для паляпшэння становішча: рамантаваліся старыя будынкі, будаваліся новыя, збіраліся сродкі, кнігі. Педагагічных кадраў не хапала. Па распараджэнні камісарыята асветы БССР у 1920 г. на базе былой настаўніцкай семінарыі стаў працаваць Барысаўскі педагагічны тэхнікум.

Пачалі разгортвацца пункты лікбезу, школы, хаты-чытальні, клубы. Павятовы аддзел народнай асветы ў справаздачы дакладваў, што з 1 ліпеня да 20 лістапада 1921 г. у Барысаве і павеце было 11 сямігадовых школ, 10 школ 2-й ступені, на спецыяльных 2-месячных курсах 296 настаўнікаў прайшлі перападрыхтоўку. А праз 2 гады ў горадзе былі не толькі агульнаадукацыйныя школы. Тут працавалі акрамя педагагічнага і лясны тэхнікум, сельскагаспадарчая школа, якая пазней стала таксама тэхнікумам, вячэрнія школы для дарослых. Адной з галоўных задач для новай улады была ліквідацыя дзіцячай беспрытульнасці. Павятовы выканком пад дзіцячыя ўстановы абсталяваў некалькі будынкаў у в. Стара-Барысаў. Запалкавая і папяровая фабрыкі на свае сродкі адкрылі дзіцячыя дамы. Беспрытульных дзяцей на вуліцах станавілася ўсё менш. У адным з дзіцячых дамоў жылі дзеці з галоднага Паволжа. Гараджане клапаціліся аб іх, а таксама збіралі грошы, адзенне і адпраўлялі ў раёны, дзе людзі цярпелі голад і нястачу.

Шмат намаганняў павятовы выканком прыкладаў для адраджэння і далейшага развіцця сістэмы аховы здароўя. Ужо ў пачатку 1920-х гадоў у Барысаве, хоць і ў старых памяшканнях, працавалі 2 бальніцы, быў расшыраны дом груднога дзіцяці, адкрыліся першыя яслі. Усе лячэбныя ўстановы забяспечваліся бялізнай, прадуктамі, палівам.

Жнівень 1921 г. адзначаны ў гісторыі Барысава адкрыццём гарадскога беларускага культурна-навуковага таварыства. Яно займалася вывучэннем роднага краю, асабліва культуры, прапагандавала беларускія літаратурныя і музычныя творы, фальклор, спрыяла развіццю выдавецкай справы на беларускай мове. У 1923 г. рэарганізавана ў нараду беларусаў-культурнікаў пры аддзеле народнай асветы.

1924 г. у рэспубліцы адзначаны мерапрыемствамі па адміністрацыйна-тэрытарыяльным упарадкаванні. З 17.7.1924 г. Барысаў стаў цэнтрам утворанага Барысаўскага раёна і Барысаўскай акругі, у якую ўваходзіла 9 раёнаў (Барысаўскі, Бягомльскі, Бярэзінскі, Зембінскі, Крупскі, Лепельскі, Плешчаніцкі, Халопеніцкі, Чарэйскі). Акруга праіснавала да 12.4.1927 г.

Паступова жыццё ў горадзе і раёне наладжвалася. Сотні рабочых працавалі на суботніках, нарыхтоўвалі паліва, разгружалі вагоны, адбудоўвалі спаленыя вайной цэхі. Дзякуючы энтузіязму працоўных прамысловасць Барысава ў 1925 г. выйшла на ўзровень 1913 г., а ў 1926 г. перавысіла яго пры значным паляпшэнні якасці прадукцыі. З 1922 г. аднавіла сваю работу аддзяленне банка.

Да 5-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі шэраг прадпрыемстваў атрымалі новыя назвы. Так, запалкавая фабрыка «Бярэзіна» пачала называцца «Чырвоная Бярэзіна», шклозаводу «Барысаў» прысвоена імя польскага рэвалюцыянера Домбаля, лесапільны

завод і млын Гутмана перайменавалі ў завод імя Леніна, былы завод Арлоўскага стаў называцца «Пралетарскі молат», лесапільна-фанерны завод Бермана — заводам імя Камінтэрна, лесапільны завод былых вялікіх князёў — заводам імя Р.Люксембург.

Шмат увагі аддавалася пытанням рацыяналізацыі, паляпшэнню ўмоў працы, павышэнню яе прадукцыйнасці, ашчаднаму расходаванню сыравіны, паліва, матэрыяльных рэсурсаў. У гэтым руху ўдзельнічала на шклозаводзе 50 рабочых, на запалкавай фабрыцы 48, на іншых прадпрыемствах 91. Пэўных поспехаў дабіліся рабочыя запалкавай фабрыкі «Чырвоная Бярэзіна»: калі ў 1921 г. яна вырабіла 47 552 умоўныя скрынкі запалак, то ў 1923 г. 84 468.

1927 — 1928 гг. для Барысава адзначаны расшырэннем і рэканструкцыяй многіх фабрык і заводаў: на шклозаводзе пусцілі новую лінію па выпуску посуду, на заводзе «Пралетарскі молат» пабудавалі новы цэх ліцця, правялі рэканструкцыю на камбінаце імя Камінтэрна, пабудавалі цэх на лесазаводзе.

Пачалося будаўніцтва новага корпуса запалкавай фабрыкі коштам у 1,8 млн. рублёў. Адначасова рос рабочы пасёлак для дрэваапрацоўшчыкаў. Былі пабудаваны 64 кватэры за кошт фонду паляпшэння быту рабочых. Па новым калектыўным дагаворы заработная плата дрэваапрацоўшчыкаў павялічана на 5%.

У 1926 г. у параўнанні з 1923 г. прамысловыя фонды «Чырвонай Бярэзіны» павялічыліся ў 2,6 раза, фабрыкі «Прафінтэрн» у 2 разы, шклянога завода ў 3,7 раза.

У 1929 г. пачаў даваць прадукцыю першы ў Беларусі Барысаўскі каніфольны завод, шклозавод стаў экспартаваць штомесяц 500 шклянак.

На прадпрыемствах шырылася спаборніцтва, ствараліся ўдарныя і скразныя брыгады. У 1929 г. на «Чырвонай Бярэзіне» было 479 ударнікаў (40% ад працуючых), на шклозаводзе 357 (35%).

За кошт эканоміі і павышэння рэнтабельнасці вытворчасці атрымлівалі дадатковыя сродкі на індустрыялізацыю прамысловасці. Дрэваапрацоўчыя заводы горада ў 1926 г. атрымалі эканоміі 100 тыс. рублёў.

Акрамя таго, сродкі на абсталяванне прамысловасці паступалі ад продажу насельніцтву аблігацый дзяржаўных пазык «індустрыялізацыя», «Пяцігодку — за чатыры гады» і інш. (Хоць трэба адзначыць, што купляць аблігацыі часта абавязвалі пад прымусам.)

Значна палепшылі працу ўдарныя брыгады на шклозаводзе, быў зніжаны працэнт браку і бою, а таксама сабекошт прадукцыі, вырасла прадукцыйнасць працы. Так, калі брыгада вязальшчыц з 13 чалавек упакоўвала 693 489 адзінак тавару за месяц, то ўдарная брыгада з 11 чалавек 717 612 адзінак.

Прамысловы Барысаў часта наведвалі кіраўнікі беларускага ўрада, вучоныя, што таксама спрыяла рабочай актыўнасці. 22 сакавіка 1925 г. на пленуме гарсавета, дзе вырашалі прамысловыя пытанні, прысутнічаў старшыня СНК БССР зямляк барысаўчан І.А.Адамовіч.

Неаднойчы на радзіму прыязджаў член урада А.І.Хацкевіч, сустракаўся з насельніцтвам, вёў прыём разам з вядучымі спецыялістамі, адказваў на шраг пытанняў, дапамагаў на месцы.

23 — 24 лістапада Барысаў наведаў старшыня ЦВК БССР А.Р.Чарвякоў. Ён пазнаёміўся з работай шклозавода і запалкавай фабрыкі. Выступаючы перад працоўнымі, звярнуў увагу на ролю мясцовага Савета ў справе развіцця гаспадаркі, а таксама на месца горада ў прамысловасці Беларусі.

У красавіку 1926 г. на 1-й Нова-Барысаўскай раённай канферэнцыі КП(б)Б была афіцыйна сфарміравана партыйная арганізацыя прамысловага правабярэжжа горада. У яе ўвайшлі 10 партыйных ячэек, у якіх налічвалася больш за 400 чалавек. Канферэнцыя абрала першы Нова-Барысаўскі раённы камітэт партыі. Створаная арганізацыя ўзяла на сябе ўсю палітычную работу, кіраўніцтва дзейнасцю партыйных, савецкіх і гаспадарчых органаў. Мерапрыемствы, якія праводзіліся партыйнай арганізацыяй, сустракалі падтрымку ў большай частцы рабочага асяроддзя. Рабочыя давяралі партыі, мясцоваму кіраўніцтву, і гэта садзейнічала іх самаадданай працы.




*Спартыўны гурток фабрыкі «Чырвоная Бярэзіна». 1926 г.*

У час адраджэння народнай гаспадаркі Барысава шмат добрых спраў зрабілі камсамольцы і моладзь горада. Яны першымі выходзілі на суботнікі, удзельнічалі ў пошуку непісьменных, самі вучыліся ў школах, гуртках, старанна працавалі, удзельнічалі ў спаборніцтвах, бралі шэфства над адстаючымі. Асабліва вызначаліся камсамольцы буйных прадпрыемстваў — шклозавода, запалкавай фабрыкі, лесазавода імя Р.Люксембург, чыгуначнай станцыі. Свой уклад яны зрабілі і ў абарону краіны. Камсамольцы Барысава разам з мінскай моладдзю ў 1924 г. прынялі сумеснае пастанаўленне: адлічваць кожны месяц дзённы заробак у фонд абароны. Гэты пачын падхапіла ўся моладзь рэспублікі, на сабраныя грошы было пабудавана некалькі самалётаў.

Значнай падзеяй у жыцці маладой рэспублікі быў дэкрэт ЦВК БССР, выдадзены ў лютым 1921 г., які надаў дзяржаўны статус беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай мовам. Насельніцтва Барысава было шматнацыянальным, і цяпер кожны мог размаўляць, звяртацца ва ўстановы і атрымліваць адказы на адной з гэтых моў. У горадзе працавалі 2 рускія, 2 яўрэйскія і 1 польская школы.

У канцы 1920-х гадоў тэмпы развіцця прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці прыкметна знізіліся, пачаўся эканамічны крызіс, асабліва ў сацыяльнай сферы, — паменшыліся даходы насельніцтва, пачаліся масавае беспрацоўе і незадаволеннасць гэтай сітуацыяй. НЭП паступова пачаў згортвацца, уступіўшы месца цэнтралізаванаму планаваму спосабу кіравання гаспадаркай.

У 1930 г. у краіне разгарнуўся рух за паскарэнне тэмпаў сацыялістычнай індустрыялізацыі пад лозунгам «Пяцігодку — за 4 гады». Рабочыя фабрык і заводаў Барысава выказаліся за падтрымку гэтага пачыну. «Гэты разлік з'яўляецца зусім рэальным, але мы ведаем, што выкананне яго патрабуе ад кожнага пралетарыя максімуму энергіі ў выкананні даручанай работы...» — да такога рашэння прыйшлі дэлегаты 2-й канферэнцыі ўдарнікаў Барысаўшчыны (Советская Белоруссия. 1930. 14 студз.).

Прамысловасць станавілася на трывалую аснову, народная гаспадарка ўзбройвалася новай тэхнікай, пачалася рэканструкцыя чыгуначнага транспарту. Рабочыя фабрык «Чырвоная Бярэзіна», «Пралетарская перамога», «Камінтэрн», чыгуначнікі і іншыя вырашылі арганізаваць ударныя брыгады, павесці рашучую барацьбу з прагуламі, дрэннай якасцю, глыбей вывучаць тэхніку, перавыканаць прамфінплан 3-га года пяцігодкі. Дзякуючы ўвядзенню ў 1931 г. навукова абгрунтаваных працоўных нормаў і расцэнак толькі на запалкавых фабрыках горада эканомія склала 30,8 тыс. рублёў.

У 1932 г. на Барысаўшчыне дзейнічалі 37 дзяржаўных, 52 каапературўныя прадпрыемствы і арганізацыі, 8 таварыстваў. Найбольш буйныя з іх: электрастанцыя імя Леніна, запалкавая фабрыка «Чырвоная Бярэзіна», шклозавод імя Домбаля, фанерны завод «Камінтэрн», торфазаводы «Камунар» і «Чырвоны Кастрычнік», шэраг цагельных заводаў, абутковая і дахавая арцелі, панчошная фабрыка «Праца».

Аб'ём прамысловай прадукцыі горада ў 1932 г. перавысіў больш як удвая паказчыкі

1927 г. і склаў 27,2 млн. рублёў, сабекошт прадукцыі знізіўся на 20 — 30%, брак зменшыўся амаль на 60%, прадукцыйнасць працы ўзрасла на 32%.

На прадпрыемствах горада працавалі гурткі, курсы тэхнічнай вучобы. У пачатку 1930-х гадоў на іх займаліся 1383 чалавекі. У гэтай справе ініцыятыву праяўляла моладзь, у першую чаргу камсамольцы. Толькі на фабрыцы «Пралетарская перамога» здалі тэхмінімум 320 чалавек, з іх 240 з перадавога скрыначнага цэха.

У тыя гады была традыцыя выконваць гадавы план да гадавіны кастрычніка. У 1934 г. на 102% выканалі свой план да 7 лістапада фабрыка «Пралетарская перамога», завод імя Домбаля, «Камінтэрн», імя Р.Люксембург. На гэтых прадпрыемствах шмат увагі ўдзялялася ўмовам жыцця працоўных: былі пабудаваны 4 жылыя дамы, адрамантаваны 42 кватэры лепшым рабочым.

З ростам прамысловасці ў пачатку 1930-х гадоў з'явілася магчымасць прыступіць да рэканструкцыі і добраўпарадкавання горада. На гэтыя мэты ў 1931 г. было выдзелена 45 тыс. рублёў: на будаўніцтва водаправода на вуліцах Працы і Ганчарнай, 36-кватэрнага дома на 60 сямей, лазні, упарадкаванне вуліц, акружных дарог.

У гады 1-й і 2-й пяцігодак у Барысаве было пабудавана некалькі буйных прадпрыемстваў. Увод у дзеянне ў 1929 г. новай запалкавай фабрыкі «Пралетарская перамога» даў магчымасць інтэнсіўнаму развіццю запалкавай вытворчасці рэспублікі.

У 1930 г. у горадзе з'явілася свая цеплаэлектрастанцыя, якая разам з запалкавай фабрыкай і новым фанерным заводам у сярэдзіне 1930-х гг. увайшла ў фанерна-запалкавы камбінат. Ён выпускаў запалкі, фанеру, спінкі і сядзенні для крэслаў, упаковачную тару. Запалкі з поспехам канкурыравалі на міжнародным рынку са знакамітымі шведскімі запалкамі.

Дарэчы, новыя карпусы запалкавай і папяровай фабрык, а таксама хрустальнага завода былі першымі ўзорамі прамысловай архітэктуры Беларусі.

У 1934 г. на былым лесазаводзе пачалі вырабляць піяніна. Праз год выпушчаны 2 першыя інструменты, якія дэманстраваліся на рэспубліканскай прамысловай выставе і атрымалі высокую адзнаку. Адначасова ішло будаўніцтва новай фабрыкі па вытворчасці піяніна, разлічанай на 5 тыс. інструментаў у год.

На базе трох дрэваапрацоўчых заводаў малой магутнасці вырас камбінат «Камінтэрн». Яго прадукцыя — піламатэрыялы, мяккая мэбля, крэслы — была вельмі патрэбна насельніцтву, народнай гаспадарцы.

Невялікі драждажавы завод у гады 1-й пяцігодкі рэканструяваны ў макаронную фабрыку імя Леніна. Хлебазавод і мясакамбінат, заводы «Чырвоны металіст», «Пралетарскі молат» — таксама дзецішчы 1-х пяцігодак.

Да лютага 1936 г. закончылася пабудова 2 пячэй для выплаўкі высакаякаснага шкла, усталяваны механізаваныя лініі, пабудаваны складскія памяшканні шклозавода. Па сутнасці гэта быў новы завод, у ім амаль нічога, акрамя пляцоўкі, не засталося ад

дарэвалюцыйнага. Прадпрыемства вырабіла на 50 тыс. рублёў па-мастацку афармленых хрустальных набораў, графінаў, фужэраў, іншага посуду з хрусталю і каляровага шкла. За гады даваенных пяцігодак завод увайшоў у пяцёрку мацнейшых шклозаводаў рэспублікі. Яго асартымент складаўся з 320 найменняў.

У чэрвені 1936 г. закончыліся работы па пераабсталяванні і пашырэнні каніфольнага завода. Асноўны хімічны цэх перайшоў з драўлянага ў новы мураваны будынак, які быў абсталяваны найноўшай апаратурай. Гэта дало магчымасць павялічваць перапрацоўку смалы-жывіцы да 25 т за суткі замест 12 т. На сродкі лесазавода пабудавалі новы будынак друкарні імя 1 Мая коштам 150 тыс. рублёў.

Пабудаваныя і рэканструяваныя прадпрыемствы абсталёўваліся найноўшай тэхнікай, уводзілася новая тэхналогія, паляпшаліся ўмовы працы.

На індустрыялізацыю гаспадаркі патрэбна было шмат сродкаў. Вырашальную ролю ў гэтым адыгралі рэжым эканоміі, барацьба за рэнтабельнасць прадпрыемстваў, беражлівыя адносіны да абсталявання. У выніку павялічыўся прыбытак. Рэспубліка мэтанакіравана выдзяляла бюджэтныя сродкі, а таксама сродкі насельніцтва ад рэалізацыі дзяржаўных пазык.

Дапамагаў Беларусі і рабочы клас іншых рэспублік краіны. Так, у Ленінградзе бескарыслівa распрацавалі праект запалкавай фабрыкі «Чырвоная Бярэзіна», з Урала прыйшло ў Барысаў абсталяванне коштам 68 тыс. рублёў.

Працоўныя гарадскіх прадпрыемстваў горача падтрымлівалі стаханаўскі рух за павышэнне прадукцыйнасці працы. Газета «Звязда» 15 красавіка 1935 г. пісала: «Здабыча торфу на заводзе «Камунар» з кожным днём павялічваецца. Калі 9 красавіка было здабыта 40 000 цаглін, то 10 красавіка — 45 200. 13 красавіка толькі адна брыгада тав. Мяшкова (28 чалавек) здабыла 30 700 цаглін пры заданні 30 000».

Калектыў шклозавода абавязаўся выпусціць гатовых вырабаў на 345 тыс. рублёў замест 285 тыс. рублёў па плане, знізіць на 5% сабекошт прадукцыі. Рабочыя фанернага завода зэканомілі 5% сыравіны і клеявых матэрыялаў. Камсамолец камбіната «Камінтэрн» Пётр Дзятко выконваў норму на 170%, а лепшая стаханаўка Марыя Вярсоцкая павялічыла прадукцыйнасць працы больш як у 2 разы.

Рух «Пяцігодку — у 4 гады» меў і адмоўныя бакі: перагляд аліся прынятыя нормы працы, павышаліся заданні, перагрузак не вытрымлівала абсталяванне, пагоршылася харчовае забеспячэнне, заработная плата не паспявала за ростам цэн на прадукты і прамысловыя тавары. Былі ўведзены карткі, якія адмянілі толькі ў 1935—1936 гг. Рабочыя хваляванні адбыліся на запалкавай і папяровай фабрыках, шклозаводзе. Людзі выходзілі на вуліцы, патрабавалі хлеба, выступалі супраць змяншэння харчовых нормаў.

Голад, які ахапіў краіну ў 1932 — 1936 гг. у выніку дапушчаных памылак у эканамічнай палітыцы, не абышоў і Барысаўшчыну. Даследчыкі лічаць, што ў гэты час ён быў значна цяжэйшы, чым у 1921 г.

Але барысаўчане, як і ўсе савецкія людзі, жылі з верай у лепшае будучае. Перадольваючы цяжкасці, яны працавалі, вучыліся, аваладвалі новай тэхнікай, удзельнічалі ў стаханаўскім руху, дух энтузіязму лунаў у працоўных калектывах.

Сотні стаханаўцаў перадавалі свой вопыт іншым. Іх імёны добра ведалі ў горадзе. Гэта М.С.Шчуцкая, С.Я.Арцюховіч, А.А.Патаповіч, Б.А.Фрэйндорф, Э.І.Ліхадзіеўская з запалкавай фабрыкі, чыгуначнік Рыгор Каспяровіч, механік шклозавода І.В.Шчатніковіч, цеплаэнергетык Д.М.Капуцкі, работніца шклозавода Н.І.Ляўданская і многія іншыя. Усе яны былі ўзнагароджаны граматамі «Герой пяцігодкі».

У 1937 г. валавая прадукцыя прамысловасці павялічылася больш як у 2 разы ў параўнанні з 1932 г. і ў 8 разоў у параўнанні з 1913 г. Стаханаўцы бралі шэфства над адстаючымі, дзяліліся вопытам і перадавымі прыёмамі ў працы.

Газета «Звязда» ў 1937 г. неаднойчы пісала аб дасягненнях прамысловасці Барысава. Адзначала, што калектыў дрэваапрацоўчага камбіната «Камінтэрн» выканаў свае гадавыя абавязацельствы. Цэх шырспажыву гадавую праграму закончыў да 20 верасня і да канца года абавязаўся выпусціць прадукцыі звыш плана на 130 тыс. рублёў. Калектыў цэха піяніна на лесазаводзе выканаў гадавы план да 10 снежня і да канца года яшчэ выпусціць 15 піяніна. Прадукцыйнасць працы рабочага мэблевага цэха павялічылася да 169%. Стаханаўцы завода «Чырвоны металіст» Станкевіч, Ягоранкава, Сачук, Зялёнка, Шэфтар, Бабіцкі і іншыя выконвалі нормы на 150—180%.

У 1938 г. у Барысаве працавала 28 прадпрыемстваў, з іх 3 саюзнага падпарадкавання і 14 рэспубліканскага.

За гады 2-й пяцігодкі прамысловасць горада мела такія паказчыкі: калі ў 1932 г. валавой прадукцыі выпушчана на 27 167 тыс. рублёў, то ў 1938 г. на 62 796 тыс. рублёў, прырост за пяцігодку склаў 131,1%. Асноўныя фонды ў канцы 1932 г. складалі 13 589,2 тыс. рублёў, а ў 1938 г. 27 129,6 тыс. рублёў, што дало прырост фондаў на 99,6%. Фактычныя капіталаўкладанні за гады 2-й пяцігодкі па прамысловасці горада склалі 16 857,6 тыс. рублёў.

У канцы 1930-х гадоў Барысаў быў адным з буйнейшых цэнтраў запалкавай прамысловасці Савецкага Саюза. Адным з лепшых у СССР па тэхнічным узбраенні лічыўся камбінат імя Кірава. Тут усе працэсы былі механізаваны, штогод выпускалася прадукцыі на 9,6 млн. рублёў — гэта ў 4,5 раза больш, чым давала да рэвалюцыі ўся прамысловасць горада. На камбінаце працавала каля 3 тыс. чалавек, што значна больш, чым на ўсіх прадпрыемствах горада у 1913 г. Тут былі свае торфаапрацоўшчыкі, здабывалася каля 45 тыс. т торфу ў год. Электрастанцыя імя Леніна, якую пабудавалі на тэрыторыі камбіната, забяспечвала энергіяй усе прамысловыя прадпрыемствы горада.

Макаронная фабрыка імя Леніна мела даволі шырокі асартымент і пастаянна павялічвала колькасць вырабаў 1-га гатунку. У 1940 г. яна выпускала за суткі 50 т макаронных вырабаў і 20 т гатунковай мукі. Яе прадукцыя карысталася попытам ва ўсёй вялікай краіне.



*Стаханаўкі з камбіната імя Кірава Ф.Храмая (злева) і Б.Блох.*

З кожным годам павялічваўся выпуск піяніна: калі ў 1938 г. было выпушчана 76 інструментаў, то ў 1940 г. — 276.

У 1939 — 1940 гг. стаханаўскі рух набываў новыя формы спаборніцтва — шматстаночнікаў, сумяшчэнне прафесій, іх было на запалкавай фабрыцы 67, на макароннай — 4, на фанерным заводзе — 6.

На камбінаце імя Кірава ў спаборніцтва за атрыманне пераходнага Чырвонага сцяга Наркамлеса БССР і ЦК прафсаюза рабочых запалкавай і фанернай прамысловасці першым уключыўся скрыначна-этыкетачны цэх, кожная з работніц якога (58 шматстаночніц) свой план выконвала на 5 станках. Кіравала цэхам стаханаўка дэпутат Вярхоўнага Савета СССР К.С.Журанкова. Вызначыліся ўдарнай працай Ф.Храмая, Б.Блох.

У адказ на прызыў маскоўскіх інструментальшчыкаў калектыў завода «Пралетарскі молат» абавязаўся перавыканаць план па забеспячэнні калгасаў, саўгасаў і МТС запаснымі часткамі для сельскагаспадарчай тэхнікі. Толькі за студзень1940 г. прамысловае заданне выканана на 112,5%, выраблена 4110 запасных частак.

Калектывы камбіната «Камінтэрн» і завода імя Р.Люксембург прадукцыйнасць працы павялічылі на 2 — 5% і выканалі гадавыя планы на 103%. У 1940 г. камбінат вырабіў 37 тыс. штук гнутых крэслаў.

Шмат увагі надавалася падрыхтоўцы і павышэнню кваліфікацыі працоўных. У вячэрнім тэхнікуме пры запалкавай фабрыцы без адрыву ад вытворчасці навучаліся майстры, рабочыя, рыхтаваліся тэхнікі-тэхнолагі запалкавай прамысловасці. Пры камбінаце «Камінтэрн» з 1 верасня 1940 г. працавала школа фабрычна-заводскага навучання (ФЗН). Яна рыхтавала кваліфікаваных сталяроў, цесляроў, мэбельшчыкаў. Школы ФЗН былі на шклозаводзе, запалкавай фабрыцы, у металістаў.

Для партактыву Барысава і раёна адкрываліся тыднёвыя камуністычныя універсітэты, дзе заняткі вяліся прафесарскім складам Мінскага тыднёвага камвуза. У гэты ж час пачаў дзейнічаць у горадзе вячэрні універсітэт, які абслугоўваўся прафесарамі і выкладчыкамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта (Звязда. 1928. 10 лют.).

У пачатку 1941 г. пленум Барысаўскага ГК КП(б)Б намеціў мерапрыемствы па развіцці мясцовай прамысловасці. Было запланавана будаўніцтва двух камбінатаў — прамыс-

ловага і харчовага. У прамкамбінаце намячалася арганізаваць майстэрні па вырабе металічных інструментаў. Харчкамбінат павінен быў выпускаць каўбасныя, кандытарскія, булачныя і іншыя вырабы. Планавалася асвоіць некалькі рыбных вадаёмаў, а таксама будаўніцтва цэхаў па перапрацоўцы крухмалу, выпрацоўцы гаспадарчага мыла і канцылярскага клею.

У 1941 г. Барысаў займаў 2-е месца ў вобласці па развіцці і канцэнтрацыі прамысловасці. У ім было 20 буйных прадпрыемстваў і 16 арцелей.

У сярэдзіне 1930-х гадоў у сувязі з пад'ёмам сельскай гаспадаркі, стварэннем індустрыяльнай базы крыху палепшылася матэрыяльнае становішча гараджан. У 1937 г. у параўнанні з 1927 г. даходы на аднаго рабочага павялічыліся на 20%. З адменай картачнай сістэмы павялічыўся асартымент і колькасць прадуктаў харчавання. Значную ролю ў матэрыяльным забеспячэнні рабочых і служачых мела сацыяльнае страхаванне. На працягу 1929 — 1936 гг. колькасць застрахаваных у горадзе павялічылася на 4 тыс. чалавек. Газета «Бальшавік Барысаўшчыны» 16 лютага 1940 г. пісала: «Працоўныя горада ўнеслі ў ашчадную касу 14 142 рублі. Выплачана выйгрышаў у суме 16 027 рублёў 50 капеек. Паступіла 60 000 рублёў ад рабочых і служачых у лік пагашэння падпіскі на пазыку 3-й пяцігодкі».

Значныя сродкі расходаваліся на выплаты пенсій па інваліднасці, часовай непрацаздольнасці, на медыцынскае абслугоўванне. У канцы 1920 — 1930-х гадоў пабудаваны 2 бальніцы, адкрыты 2 новыя паліклінікі, працавалі дом груднога дзіцяці, 6 амбулаторый, некалькі дзіцячых ясляў.

У Стара-Барысаве, у былым маёнтку, з 1925 г. працаваў санаторый на 80 месцаў. За летнія месяцы ў ім адпачывала да 400 працоўных, пераважна рабочых. Санаторый дзейнічаў і ў Нова-Барысаве, а ў в. Блонь дом адпачынку.

У 1925 г. у Барысаве адкрыўся аўтобусны рух. Газета «Звязда» ў № 103 паведамляла: «Пакуль прыбыла адна машына, будзе курсіраваць са старога горада ў Нова-Барысаў і назад, у бліжэйшы час намячаецца адкрыццё руху паміж Барысавам і Зембінам. Плата за праезд агульнадаступная, члены прафсаюза карыстаюцца скідкай». У гэтай жа газеце ёсць паведамленне, што ад Барысава да Бабруйска і назад пачаў курсіраваць адрамантаваны параход «Пераможац», мяркуецца адкрыццё навігацыі ад Барысава да Лепеля па Бярэзіне і Бярэзінскай сістэме.

У канцы 1930-х гадоў па Барысаве ўжо курсіравала 5 аўтобусаў. За дзень яны перавозілі 3 тыс. пасажыраў. Шафёр-стаханавец Сідорык рабіў па 35 рэйсаў, выконваючы заданне на 144%. Але маршрут быў адзін — з цэнтра старой часткі горада да чыгуначнага вакзала.

Завяршылася асфальтаванне аўтамагістралі Мінск — Орша, якая праходзіла праз горад.

Пашыралася сетка гарадскіх вуліц — з'явіліся вуліцы Вакзальная, Камунальная, Працы, Дымкі, Заводская і іншыя. На вуліцы Арджанікідзе, праспекце Рэвалюцыі былі






*Жыхары горада. 1930-я гады. На здымку ўверсе злева сям'я настаўнікаў Нікіфаровічаў: Сцяпан Піліпавіч — вядомы краязнавец, Марыя Фёдараўна — дырэктар СШ № 1 у 1919 — 1953 гг.*

ўзведзены шматпавярховыя дамы, гасцінна адчыніў дзверы для барысаўчан Дом афіцэраў, які размяшчаўся ў раёне сучаснай вуліцы Ватуціна. У дамах гараджан загаварыла радыё, з'явіліся тэлефоны. Па вечарах горад ззяў электрычнымі агнямі. Правінцыяльны Барысаў мяняў сваё аблічча.

У канцы 1920-х гадоў у Барысаве пабудавалі арыгінальную воданапорную вежу (праект архітэктара У.І.Шухава) вышынёй 27 м. Яна прызначалася для водазабеспячэння чыгуначнай станцыі.

У гэты ж час павялічылася сетка дарог, якія звязвалі горад з вёскамі: дарога Барысаў — Зембін была падоўжана на 30 км у бок Плешчаніц, на 75 км у бок Бягомля і Мінска.

Бурнае развіццё культуры ў маладой рэспубліцы, цяга людзей да ведаў бадай ярчэй за ўсё адлюстроўваюцца ў друкаваным слове. Многія прадпрыемствы мелі свае друкаваныя органы. У 1920 — 1930-я гады толькі газет у горадзе выдавалася каля 20 назваў: на шклозаводзе «Гута», на запалкавай фабрыцы «Чырвоны Бярэзінец», на камбінаце «Камінтэрн» — «Ударнік», у дарожнікаў «Чырвоны шашэйнік», рабочы камітэт саюзу лесу і сплаву друкаваў газету «За лес». Цікавую газету «У бой за прамфінплан» выпускалі друкары горада. Гартаючы старонкі газеты пабудкома № 21 «Штурмавік», бачыш, як бурна развівалася будаўніцтва ў горадзе, раслі новыя мураваныя дамы, фабрыкі, бальніца, клуб.

«Моцным пралетарскім цэнтрам, горадам фабрык і заводаў» называў Барысаў пісьменнік Сяргей Знаёмы (Сяргей Змітравіч Клопаў). У 1920 — 1930-я гады ён тут жыў, працаваў спачатку на запалкавай фабрыцы, потым настаўнікам у 11-й сярэдняй школе. Але любоў да літаратурнай працы прывяла яго ў журналістыку, і ён стаў працаваць у рэспубліканскай газеце «Рабочий», затым рэдактарам Беларускага радыё. Многа ездзіў, бачыў, як мяняецца жыццё людзей, шмат пісаў. У 1930 — 1933 гг. выйшлі кнігі нарысаў Сяргея Знаёмага пра Барысаў: «Дом № 31», «За дамбаю», «Ганчары», «Плытагоны» і іншыя. У іх аўтар расказваў аб бурным будаўніцтве ў



*На праспекце Рэвалюцыі. 1930-я гады*

горадзе жылых дамоў, прадпрыемстваў, электрастанцыі, аб рабочым энтузіязме людзей, якія будавалі новы горад, з любоўю апісваў яго наваколлі, прыгажуню Бярэзіну, лугі і пушчы Барысаўшчыны. На жаль, жыццё таленавітага чалавека абарвалася на Калыме.

Адметнай рысай міжнароднага становішча ў гэты час было пашырэнне фашысцкай агрэсіі. У Іспаніі ішла нацыянальна-рэвалюцыйная вайна. Працоўныя Барысаўшчыны праводзілі збор сродкаў у дапамогу іспанскім рабочым. На гарадскім мітынгу 20 кастрычніка 1936 г. прынялі рэзалюцыю аб адлічэнні 1% месячнай зарплаты ў фонд іспанскіх рэспубліканцаў. Былі сярод жыхароў горада і раёна добраахвотнікі на іспанскую вайну.

Безліч праблем паўстала перад дзяржавай у сацыяльнай сферы. Шмат увагі патрабавалі пытанні народнай асветы. У 1926 — 1927 гг. па Барысаўскай акрузе стварылі 14 апорных і 35 надзвычайных пунктаў па ліквідацыі непісьменнасці, а таксама 14 школ для непісьменных. На патрэбы асветы адпускалася 940 тыс. рублёў, што складала 35% усіх сродкаў па бюджэце.

Прынятая ў маі 1929 г. пастанова «Аб рабоце па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці» ставіла задачу перад прафсаюзам, камсамолам, таварыствам «Далой непісьменнасць» узначаліць рух па ліквідацыі непісьменнасці ў краіне.

1932 год. Сетку адукацыі на Барысаўшчыне складалі педтэхнікум з педагагічнымі курсамі, запалкавы тэхнікум, тэхнікум свінагадоўлі, 6 фабрычна-заводскіх прафшкол, 112 чатырохкласных школ, 25 школ працоўнай моладзі. У спецыяльных установах навучалася 20 тыс. студэнтаў.

Значную ролю ў павышэнні адукацыйнага ўзроўню працоўных адыгралі рабфакі, у пачатку 1930-х гадоў іх у Барысаве было 3.

Ліквідацыя непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослых у значнай ступені залежала ад развіцця сістэмы навучання дзяцей. Па меры таго, як адраджалася і развівалася народная гаспадарка, набірала сілу школьнае будаўніцтва.

Газета гарадскога аддзела народнай асветы «За камуністычнае выхаванне» ў 1933 г. пісала аб поспехах барысаўчан у ліквідацыі непісьменнасці: «За гады першай пяцігодкі ў горадзе і раёне пабудавана 25 новых планавых школ, усе кулацкія дамы перабудаваны пад школы. Барысаўскі раён у ліку першых раёнаў Беларусі перайшоў да ўсеагульнай абавязковай адукацыі на базе сямігодкі». Газета расказвала аб вопыце паходу за пісьменнасць лепшых школ горада пад кіраўніцтвам выдатных настаўнікаў А.М.Васільева і Г.І.Катлінскага.

У канцы 1930-х гадоў у горадзе працавала 11 сярэдніх, 3 няпоўныя сярэднія, 4 пачатковыя школы, у якіх навучалася больш за 10 тыс. дзяцей. Працавалі 2 школы працоўнай моладзі, 11 дзіцячых садоў, 3 тэхнікумы, 2 рабфакі, 1 школа медсясцёр. Амаль 270 настаўнікаў вучылі каля 8 тыс. дзяцей і дарослых.

Значны ўклад у культурныя пераўтварэнні зрабілі заслужаная настаўніца БССР К.М.Крычэўская, настаўнікі В.А.Самцэвіч, Я.Д.Кушнір, П.С.Стрыгуцкі, Я.М.Зомерфельд,

М.Ф.Нікіфаровіч, С.П.Нікіфаровіч, У.К.Уладзіміраў, Ю.Я.Мазінг, М.Г.Мазінг і многія іншыя.

3 красавіка 1925 г. у Барысаве існавала акруговае аддзяленне літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Яго аснову складалі настаўнікі і навучэнцы педтэхнікума. Сярод іх вылучаліся Р.Мурашка, М.Аляхновіч, М.Гаеўскі, Х.Паўлоўскі, Р.Хацкевіч, С.Фамін. Кіраваў маладнякоўцамі Мікола Аляхновіч.

У 1926 г. выдадзены часопіс «Маладняк Барысаўшчыны», у якім змешчаны апавяданні «Два і адна» Р.Мурашкі і «Пачулі» Х.Паўлоўскага, вершы В.Жызнеўскага, Р.Івашкаўца і інш. Літаратурнае згуртаванне ў сярэдзіне 1927 г. спыніла сваю дзейнасць.

Вялікая ўвага надавалася спартыўна-фізкультурнай рабоце. Пад рубрыкай «Спорт» газета «Звязда» 9 верасня 1923 г. пісала: «Барысаўская арганізацыя па спорце знаходзіцца ў падпарадкаванні павятовага камітэта КСМ, аб'ядноўвае 16 футбольных камандаў, дзве лёгкаатлетычныя і адну групу цяжкай атлетыкі. Усяго зарэгістравана 220 спартсменаў. У гэтым сезоне ёсць надзея аднавіць зборную каманду для міжгарадскіх матчаў. Футбольны сезон быў адкрыты 27 мая».

У школах горада праводзілася масава-аздараўленчая і спартыўная работа. Для гэтай мэты стваралася матэрыяльная база, набываўся неабходны інвентар. Аддзелы народнай асветы арганізоўвалі пры школах гурткі. Пры 1-й школе г. Барысава ў сакавіку 1924 г. быў створаны гурток фізічнага развіцця, у якім займалася 60 чалавек, з іх 25 жанчын. Школьны савет забяспечваў гурток спартыўным інвентаром, акрамя гэтага членам гуртка быў адведзены агарод, які імі апрацоўваўся. Гурток меў сваю насценную спортгазету. Колькасць членаў павялічвалася з кожным днём. Быў яшчэ канькабежны гурток — 28 чалавек.

17 жніўня 1924 г. у Мінску адбылося 1-е Усебеларускае свята фізічнай культуры, у якім прынялі ўдзел спартсмены Барысаўшчыны і занялі 3-е месца. У гэты ж перыяд у Барысаве праводзіліся паказальныя выступленні спартсменаў, шэсці фізкультурнікаў па вуліцах горада, праходзілі спаборніцтвы па розных відах спорту. Камсамольцы і моладзь наладжвалі суботнікі па будаўніцтве і добраўпарадкаванні пляцовак і спартыўных збудаванняў.

Спартыўна-аздараўленчай работай займаліся і клубы. Так, у заметцы «Хроніка» газета «Звязда» 20 чэрвеня 1925 г. паведамляла: «У Барысаве пры клубе «Інтэрпол» арганізавана лыжная секцыя выключна з камсамольцаў і рабочай моладзі. Членаў секцыі 120. Пры рабочым клубе працуюць гімнастычны і цяжкаатлетычны гурткі, адкрыты запіс у члены лыжнай секцыі. Культаддзел акрпрафбюро выпісаў 100 пар лыж. Закончана абсталяванне спартклуба «20-годдзе РКП(б)». Штодзённа займаюцца 2 гурткі, арганізавана лыжная секцыя — 200 чалавек. Працуе шахматна-шашачны гурток».

У зімовы сезон 1925 — 1926 гг. праведзены першыя спаборніцтвы ў акрузе па цяжкай атлетыцы, лыжны прабег Барысаў — Мінск, камандзіравана каманда на рэспубліканскія

спаборніцтвы па веласіпедзе і футболе. На міжнародным веласпаборніцтве барысаўская каманда заняла першае месца. (Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці. Ф. 6. Воп. 1. Спр. 880. Л. 225.)

У пачатку 1930-х гадоў барысаўская арганізацыя фізкультуры налічвала 9 гурткоў, у якіх займалася 266 чалавек, створаны каток, дзе займалася хакейная каманда, працавалі семінары па падрыхтоўцы інструктараў фізкультуры. У канцы 1930-х гадоў акрамя спартыўных гурткоў ужо працавалі школы спартыўнага майстэрства. Значных поспехаў у спорце дасягнулі Мікалай Шатаў, Антон Самковіч, браты Віталь і Генадзь Буцвілоўскія, браты Гольдбергі.

Мікалай Шатаў пазней стаў вядомым спартсменам па цяжкай атлетыцы, заслужаным майстрам спорту СССР, заслужаным трэнерам СССР.

Надавалася значная ўвага і ахове здароўя насельніцтва. Але медыцынскіх установ для горада (49 тыс. чалавек у 1939) было не так многа, тым больш што бальніцы Барысава абслугоўвалі і вясковае насельніцтва.

З ростам дабрабыту і адукацыі людзей расла неабходнасць далучэння іх да культуры. Важную ролю ў гэтым займалі ўстановы культуры. У горадзе працавалі 2 гарадскія бібліятэкі, клубы пры шклозаводзе імя Ф.Э.Дзяржынскага, камбінаце «Камінтэрн», чытальні на макаронңай фабрыцы і заводах «Пралетарскі молат», «Чырвоны металіст». Тут чыталіся лекцыі, праводзіліся дыспуты, вечары пытанняў і адказаў, наладжваліся канцэрты. Толькі за студзень — сакавік 1930 г. у горадзе прачытана 34 лекцыі, арганізавана 19 сустрэч, вечароў. Прафсаюзныя клубы размяшчаліся ў прыстасаваных памяшканнях, а ў 1929 — 1930 гг. пабудавалі новы клуб хімікаў, які на доўгія часы стаў цэнтрам культурнага жыцця горада. Пры ім былі створаны гурткі сінеблузнікаў, музычны і драматычны, а з 1933 г. тэатр рабочай моладзі (ТРАМ). Рэжысёрам тэатра працаваў Сямёнаў. Рэпертуар фарміраваўся з драматургіі малых формаў, складаліся канцэртныя праграмы з папулярных твораў. Вялікім поспехам у жыхароў горада і навакольных вёсак карысталіся п'есы «Новы горад» І.Гурскага, «Цудоўны сплаў» У.Кіршона, «Шторм» У.Біль-Белацаркоўскага, «Гармонік» паводле М.Жарава, інсцэніроўка паводле рамана М.Шолахава «Узнятая цаліна».

У 1935 г. на яго базе створаны Барысаўскі калгасна-саўгасны тэатр пад кіраўніцтвам П.Данілава. Акцёры прайшлі курс студыйнага навучання ў БДТ-1, які вёў акцёр У.Крыловіч. У рэпертуары тэатра «Партызаны» К.Крапівы, «Сваты» І.Гурскага, «Бацькаўшчына» К.Чорнага, «Слава» В.Гусева, «Праўда добра, а шчасце лепш» А.Астроўскага, «Пагранічнікі» У.Біль-Белацаркоўскага. У 1939 г. тэатр пераведзены ў Заслаўе.

Да барысаўчан часта прыязджалі на гастролі прафесійныя тэатры з Мінска, у т. л. трупа У.Галубка (дарэчы, маці яго родам з Барысаўшчыны). У 1925 г. тут гастраляваў МХАТ, у 1932 г. на сцэне кінатэатра «Люкс» чытаў творы А.С.Пушкіна вядомы артыст У.М.Яхантаў.

Вабілі да сябе барысаўчан кінатэатры «Люкс», «Зорка» і глядзельная зала Дома афіцэраў. Кожны дзень тут давалася па 6 — 8 кінасеансаў, на якіх бывала да 2500 гараджан.

Недалёка ад прывакзальнай плошчы, на праспекце Рэвалюцыі, значную частку лесу абнеслі агароджай пад парк, які стаў любімым месцам адпачынку барысаўчан. У пачатку 1930-х гадоў у ім адкрылі бібліятэку з чытальнай залай, цір, летні тэатр, пакой смеху, спартыўныя і дзіцячыя пляцоўкі.

Значнымі падзеямі для барысаўчан былі прыезды ў горад і вёскі раёна народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Сустрэчы адбываліся на працягу 1930-х гадоў. У 1932 г. з ім прыязджалі беларускія пісьменнікі У.Хадыка, С.Баранавых, С.Ліхадзіеўскі. З 1 па 27 ліпеня 1934 г. у творчую групу ўваходзілі І.Гурскі і В.Кавалёў. Сустрэчы са студэнтамі сельгастэхнікума і з рабочымі запалкавай фабрыкі «Пралетарская перамога», з піянерамі ў летнім лагеры, з калгаснікамі, выступленні на пашыраным пасяджэнні РК ЛКСМБ і партыйна-камсамольскім сходзе, удзел у сустрэчы чэхаславацкай рабочай дэлегацыі і літаратурныя вечары надоўга запомніліся і літаратарам і барысаўчанам. Пад уражаннем працоўных поспехаў жыхароў Барысаўшчыны Янка Купала напісаў паэму «Барысаў». Паэт прысвяціў яе адкрыццю ў горадзе перад уваходам у парк помніка У.І.Леніну (1934). На прыкладзе Барысава аўтар раскрыў у паэме карэнныя змены ў жыцці краіны, перадаў настрой людзей, якія будавалі новае жыццё. На Барысаўшчыне Янка Купала напісаў вершы «Я — калгасніца...», «Абвілася краіна», «На нашым полі», «Выпраўляла маці сына», «Хвалююцца марскія хвалі», «Песня трактарысткі», «Калгасу «Чырвоны баец» і іншыя.

У краіне адбываўся працэс калектывізацыі. Важкі ўклад у стварэнне калгасаў і саўгасаў зрабілі дваццаціпяцітысячнікі, якіх накіравалі ў вёскі з ліку лепшых гарадскіх рабочых і служачых. У Барысаве вылучылі 150 лепшых рабочых на абнаўленне савецкага апарату раёна, і гэта дало станоўчы вынік. Упершыню ў 1932 г. на палях раёна пачалі працаваць трактары, але іх былі адзінкі. Свой уклад у тэхнічнае абсталяванне сельскай гаспадаркі ўнеслі барысаўчане. Пачынаючы з 1929 г. на прадпрыемствах збіраліся сродкі ў фонд калектывізацыі, праводзіліся суботнікі, адлічваліся дзённыя заробкі на стварэнне трактарнай калоны ў Беларусі.

У 1935 г. калектывізацыя ў асноўным завяршылася. Барысаўскі раён займаў адно з першых месцаў у вобласці па ўтрыманні ў добрым стане тэхнікі, вывучэнні і выкарыстанні аграмтэхнікі, вывазе на палі ўгнаення. У сакавіку 1936 г. у Барысаве праведзена нарада, у якой прынялі ўдзел навукоўцы Інстытута біялогіі АН БССР. На нарадзе разглядаліся пытанні і мерапрыемствы па забеспячэнні ўраджаю бульбы па 500 ц з 1 га. Рух за высокі ўраджай бульбы ахапіў увесь раён, у асобных калгасах атрымлівалі нават па 556 — 635 ц з 1 га. Горш было з ураджаем зерня. Але калгас «Маяк сацыялізму», уключыўшыся ў спаборніцтва за 100-пудовы ўраджай, у 1940 г. з плошчы ў 235 га атрымаў па 102 пуды збожжа з гектара. З узмацненнем гаспадарак узрос дабрабыт вёскі, палепшылася жыццё

калгаснікаў. У вёсках адкрываліся школы, клубы, у многіх гаспадарках з'явіліся электрычнасць, радыё, з кожным годам пашыралася гандлёвая сетка. У 1938 г. у раёне налічвалася 118 калгасаў, якія аб'ядноўвалі 10 129 сялянскіх двароў (з 12 260). Плошча пашы складала 30 815 га, яе апрацоўвалі 105 трактароў, мелася 40 адзінак складанай тэхнікі і 13 аўтамашын. Да паслуг сельскіх жыхароў працавала 50 школ, 45 клубаў, 42 бібліятэкі, было 50 гурткоў фізкультуры. Над сельскімі гаспадаркамі шэфствавалі гарадскія прадпрыемствы — рабочыя добраўпарадкоўвалі школы, яслі, арганізоўвалі бібліятэкі, рамантавалі тэхніку, наладжвалі канцэрты, паказы кіно і іншае.

На жаль, пашырэнне колькасці ўстаноў культуры і школ у раёне часцяком ішло за кошт закрыцця цэркваў, адабраных дамоў святароў. Разгарнулася антырэлігійная барацьба.

Нягледзячы на тое, што ў 1930-я гады адзначаны шэраг станоўчых працэсаў — працоўны ўздым, пэўныя дасягненні ў сельскай гаспадарцы, — сёння мы ведаем і адмоўныя бакі тагачаснага жыцця.

Рост гарадскога насельніцтва апярэджваў павелічэнне жыллёвага будаўніцтва. Узровень жыцця быў невысокім. Праўда, малыя даходы насельніцтва ў пэўнай ступені згладжваліся кампенсацыямі, якія рабочыя, служачыя, калгаснікі атрымлівалі ад дзяржавы ў выглядзе выплат па сацыяльным страхаванні, затрат на народную адукацыю, медыцынскае абслугоўванне, бясплатныя пуцёўкі ў санаторыі і дамы адпачынку.

На працягу 1924 — 1929 гг. у рэспубліцы адбываўся ўздым беларускай культуры, што садзейнічала магутнаму росту нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, пошуку сваіх каранёў, вывучэнню нацыянальнай гісторыі. Пры ўрадзе стварылі спецыяльную камісію па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі на чале з земляком барысаўчан А.І.Хацкевічам. У гэты час павялічылася цікавасць грамадскасці да вывучэння гісторыі і прыроды свайго краю. Уплывала на развіццё краязнаўства ў Барысаве і рашэнне ўрада аб стварэнні на поўначы раёна Бярэзінскага запаведніка. Выкладчыкі В.А.Самцэвіч і У.К.Уладзіміраў адкрылі краязнаўчы музей на базе 2-й сярэдняй школы, які быў спачатку акруговым, а потым стаў раённым. Перад вайной яго перавялі ў памяшканне педтэхнікума. Мясцовае таварыства краязнаўцаў, у склад якога ўваходзіла больш за 50 прадстаўнікоў інтэлігенцыі горада і раёна, праводзіла канферэнцыі, выпускала часопіс «Наш раён». Яго разавы тыраж дасягаў 100 экзэмпляраў. У часопісе друкаваліся матэрыялы выключна на мясцовыя тэмы. Актыўнымі аўтарамі былі В.А.Самцэвіч, С.П.Нікіфаровіч, П.С.Стрыгуцкі. Краязнавец і літаратар Язэп Шпэт (1891—1955) з мястэчка Зембін сабраў шмат краязнаўчых матэрыялаў для музея, пісаў для часопісаў «Наш край», «Наш раён», «Наша ніва». У сваіх апавяданнях ён расказваў аб тагачасным жыцці Барысаўшчыны, вызначаўся прастатой аўтарскай манеры, народнасцю мовы.

У гады здзяйснення палітыкі беларусізацыі ў Барысаве амаль усе газеты, а іх выдавалася ў 1920 — 1930-я гады каля 20, друкаваліся на роднай мове. Пераходзілі на родную мову дзяржаўныя ўстановы, школы, дзіцячыя сады, прадпрыемствы. Імёны вядомых

беларускіх дзеячаў прысвойвалі ўстановам, вуліцам, школа № 1 стала насіць імя Янкі Купалы.

Цікава, што ў 1927 г. ініцыятарам стварэння варыянта беларускага герба, упрыгожанага не суцэльнай чырвонай, а чырвонай стужкай з каймой у беларускім стылі, быў барысаўчанін І.А.Адамовіч, які на той час займаў пасаду старшыні СНК БССР.

Але гэта быў даволі кароткі перыяд у гісторыі адраджэння. У 1930-я гады ўсякая дзейнасць на карысць беларускіх нацыянальных інтарэсаў разглядалася ўжо як нацыяналізм і з'яўлялася падставай для рэпрэсій з боку НКУС. Пачалася «чыстка» грамадства ад іншадумцаў, у першую чаргу інтэлігенцыі. Былі прад'яўлены абвінавачванні Янку Купалу, які паказваў у сваіх творах жыццё сялян не «з лепшага рэвалюцыйнага боку». У Барысаве памятаюць, як мінскі чыноўнік сарваў з будынка 1-й сярэдняй школы шыльду з імем паэта, кінуў на зямлю і затаптаў яе нагамі.

1930-я гады ў жыцці савецкага грамадства былі вельмі супярэчлівыя, з аднаго боку, поўныя працоўнага гераізму, уздыму актыўнасці народа, з іншага — поўныя трагізму.

За гады пабудовы сацыялізму ў краіне ўдалося ажыццявіць індустрыялізацыю, калектывізацыю сельскай гаспадаркі, правесці некаторыя пераўтварэнні ў сацыяльнай сферы, але ўсё гэта было дасягнута цаной вялікіх ахвяр. Вытворчасць спачатку трымалася на рэвалюцыйным энтузіязме, а потым — на жорсткай дысцыпліне і прымусе. Пасля XVI з'езда КП(б)Б і пленума ЦК КП(б)Б у 1937 г. пачаліся працэсы масавага пошуку «ворагаў народа», ад якога пацярпелі тысячы ні ў чым не вінаватых людзей. Спачатку былі сфармуляваны тэарэтычныя абгрунтаванні, а потым пачыналіся масавыя палітычныя працэсы супраць тых, хто хоць як-небудзь выказваў незадаволенасць антыгуманнай палітыкай. На партыйных і камсамольскіх сходах па атрыманых тэзісах з цэнтра падвяргаліся рэзкай крытыцы так званыя антыпартыйныя блокі Бухарына, Троцкага, Зіноўева, іншых апазіцыянераў. Такія сходы ў Барысаве праводзіліся амаль на кожным прадпрыемстве. Да 15 лістапада 1937 г. у Мінску і Барысаве за тэзісы ЦК ВКП(б) прагаласавалі 4124 чалавекі, або 98,4% усіх камуністаў. (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 4. Воп. 19. Спр. 642. Л. 75.)

Штатныя і няштатныя супрацоўнікі НКУС збіралі звесткі, на падставе якіх складалі характарыстыкі «ворагаў народа». Лічылася, што ў іх выяўленні дастаткова было мець «класавае чуццё».

Рэпрэсіі спачатку былі накіраваны супраць рэшткаў палітычных партый, пасля закранулі сялянства, іншыя слаі насельніцтва. Не былі выключэннем і камуністы. Сярод людзей панавалі страх, недавер, паклёпы. Рэпрэсіі станавіліся інструментам кіравання грамадствам.

Сярод тых, хто загінуў у засценках НКУС у тыя трагічныя гады — старшыня Савета нацыянальнасцей ЦВК СССР А.І.Хацкевіч, 1-ы сакратар Барысаўскага райкома КП(б)Б Л.А.Майсееў, калгаснікі І.І.Бярозка, С.Э.Мяржвінскі, браты Аляксандр і Мікалай Гаўрыльчыкі, рэдактар мясцовай газеты А.Сцефановіч, урачы А.П.Анікейчык,


Сяргей Знаёмы.


І.А.Адамовіч.


А.І.Хацкевіч.

Н.Ф.Вевель, А.І.Сабалеўскі, рабочыя С.І.Мартыяк, М.І.Нішчанка, М.К.Варывоцкі, паэт Ізі Харык, пісьменнік Сяргей Знаёмы і многія іншыя. У 1937 г. скончыў самагубствам буйны дзяржаўны дзеяч І.А.Адамовіч. Шмат людзей з Барысаўшчыны загінула ў турмах і ў ГУЛАГу. Мы яшчэ не ведаем усіх іх прозвішчаў, аднак вядома, што яны сталі ахвярамі неабгрунтаваных рэпрэсій.

У 1930-я гады з шэрагу прадпрыемстваў і ўстаноў Барысава вылучыліся асобныя іх прадстаўнікі, якія займалі адказныя пасады, выбіраліся ў дзяржаўныя органы рэспублікі. Сярод іх шмат жанчын: жаночы арганізатар райкома партыі Э.І.Ляўданская стала членам ЦК саюза харчавікоў, выкладчыкам камвуза імя Мархлеўскага; старшыня фабкома запалкавай фабрыкі Н.І.Ляўданская — загадчыцай аддзела Наркампрацы БССР, міжсаюзным арганізатарам па рабоце сярод жанчын, выбіралася членам Рэвізійнай камісіі ЦК КП(б)Б; перадавая работніца фабрыкі «Чырвоная Бярэзіна» А.А.Патаповіч выбіралася 3 разы членам ЦВК БССР; Н.Ф.Мархель была членам ЦБ савета прафсаюзаў Беларусі. Сакратар партыйнай арганізацыі фабрыкі запалак І.І.Рыжыкаў займаў пазней адказныя партыйныя і дзяржаўныя пасады, у 1941 г. сакратар ЦК КП(б)Б, у вайну адзін з кіраўнікоў партызанскага руху. Выдатнымі арганізатарамі і кіраўнікамі праявілі сябе І.А.Адамовіч і А.І.Хацкевіч.

Іосіф Аляксандравіч Адамовіч (1897 — 1937), былы рабочы гліняна-посуднай фабрыкі Барысава, у верасні 1920 г. стаў народным камісарам па ваенных справах БССР, з 1921 г. народны камісар унутраных спраў і адначасова намеснік старшыні ЦВК і СНК БССР, член ваеннага савета па барацьбе з бандытызмам. У 1924 —1927 гг. старшыня СНК БССР, у

1924 — 1925 гг. член Рэўваенсавета СССР, з 1927 г. член прэзідыума ВСНГ СССР і старшыня праўлення Цукратрэста СССР, з 1932 г. працаваў на Далёкім Усходзе, быў начальнікам Камчацкага акцыянернага таварыства, кіраўніком цукровых і рыбакансервавых прадпрыемстваў. Яго імем названа вуліца ў Барысаве.

Аляксандр Ісакавіч Хацкевіч (1895 — 1937), былы рабочы Барысаўскага лесапільнага завода, затым старшыня Барысаўскага выканкома, у красавіку 1925 г. быў прызначаны народным камісарам унутраных спраў Беларусі. У 1926 — 1931 гг. пастаянны прадстаўнік урада БССР пры ўрадзе СССР, сакратар ЦВК БССР. З сакавіка 1931 г. нарком фінансаў БССР, з 1935 г. сакратар Савета нацыянальнасцей ЦВК СССР.

**Крыніцы:**

Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. Мн., 2000.
Борьба за советскую власть в Белоруссии: Документы и материалы. Мн., 1971.
В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте. Мн. 1957.
Гісторыя Беларусі. Ч. 2. Мн., 1998.
Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 4. Мн., 1954.
Завалеев Н.Е. Рабочий класс Белоруссии в борьбе за социализм. 1917—1932 гг. Мн., 1967.
Игнатенко И.М. Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии. Мн., 1992.
Иностранная военная интервенция в Белоруссии. 1917—1920. Мн., 1990.
Казлоў Л., Цітоў А. Беларусь на сямі рубяжах. Мн., 1993.
Кастрычнік на Беларусі: Зб. артыкулаў і дакументаў. Мн., 1927.
Луцкевіч А. Дзённік // Беларусь. 1990. № 9.
Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 2. Мн., 1995.
Памяць. Барысаў. Барысаўскі раён. Мн., 1997.
Тепцов Н.В. Аграрная политика: на крутых поворотах 20 — 30-х годов. Мн., 1990.
Экономическая жизнь. Мн., 1919. № 4.

*Ж.В.Гілевіч.*

# ВОГНЕННЫЯ ГАДЫ

## Абарона Барысава

На 22 чэрвеня 1941 г. быў прызначаны сход актыву раёна. З дакладам аб падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў павінен быў выступіць 1-ы сакратар райкома І.А.Яраш. Але гаварыць на гэту тэму не давялося. Паўстала іншае пытанне: арганізацыя ўсіх сіл і сродкаў на адпор ворагу. У першы тыдзень вайны вырашаліся такія пытанні, як мабілізацыя насельніцтва на стварэнне лініі абароны, на вываз з МТС тэхнікі і грамадскага статка, адпраўка на ўсход прызыўнікоў і параненых байцоў Чырвонай арміі. З горада эвакуіраваліся дакументы ваенкамата, Дзяржбанка, пошты, іншых устаноў і прадпрыемстваў. Адначасова ствараліся абарончыя ўмацаванні. Рубеж на Бярэзіне будаваўся з улікам танкавых баёў. За трое сутак гараджане і жыхары ваколіц выкапалі сямікіламетровы роў, прынялі ўдзел ва ўмацаванні акопаў, агнявых кропак. На прадпрыемствах Барысава рабочыя напаўнялі бензінам тысячы бутэлек. На дарогах рабіліся завалы. Узброеныя атрады, якія ствараліся для знішчэння і абясшкоджвання дыверсантаў, дзейнічалі ў горадзе, на станцыі Навасады, у бродаўскіх лясах.

Амаль за некалькі гадзін да акупацыі горада пад бамбёжкай і артылерыйскім агнём І.А.Яраш з групай адказных работнікаў выехаў у в. Зачысце.

Праз паштовыя аддзяленні Лошніца і Янчына была наладжана тэлефонная сувязь з паўночна-ўсходняй часткай раёна, даваліся парады вясковаму актыву, што і як неабходна рабіць цяпер і ў выпадку акупацыі мясцовасці ворагам. Старшыня Зембінскага сельсавета Зароўскі прывёў у Зачысце вялікую групу ваеннаабавязаных. Калі вораг захапіў большую частку раёна, І.А.Яраш выехаў у напрамку Халопеніч, адтуль — на Віцебск.

Тым часам са станцыі Барысаў адпраўляліся апошнія паязды на ўсход. Вывозілі дакументы, абсталяванне, іншыя каштоўнасці, але галоўнае — людзей. Старшы лейтэнант Васіль Ціханавіч Тарэеў апынуўся на станцыі ў пошуках магчымасці паехаць у Мінск, дзе стаяла яго 100-я стралковая дывізія. Аднак паязды на захад не хадзілі. На вакзале стаяў састаў з жанчынамі і дзецьмі. Камендант станцыі прызначыў Тарэева старшым гэтага

поезда і адправіў на ўсход. Але як толькі поезд выйшаў за межы горада, наляцелі фашысцкія самалёты і разбілі цягнік. Тарэеў вывеў людзей лесам на аўтамагістраль Мінск — Масква, спыняў машыны, усаджваў людзей і адпраўляў на ўсход. Па гэтай дарозе ланцугом цягнуліся бежанцы. Час ад часу над імі з'яўляліся фашысцкія самалёты і расстрэльвалі з кулямётаў.

Барысаўскі шпіталь быў перапоўнены параненымі. Іх адпраўлялі на ўсход машынамі ў суправаджэнні сандружынніц. Ваенфельчар І.Фішалевіч ад'язджала апошняй. Яе машына, здавалася, імчалася па мёртвым горадзе. Не было відаць ніводнага чалавека. Дамы і вуліцы Барысава прытаіліся ў чаканні бяды.

У цяжкіх абставінах пачатку вайны гараджанам не хапала інфармацыі і яшчэ больш каардынацыі дзеянняў. Таму сярод некаторых слаёў насельніцтва назіралася паніка, іншыя займаліся марадзёрствам у кінутых дамах, магазінах і на прадпрыемствах.

Штаб Беларускай ваеннай акругі паслаў у Барысаў для арганізацыі абароны начальніка аддзела кадраў М.І.Аляксеева. Войскаў у горадзе, акрамя танкавага вучылішча, не было. Затое тут шмат апынулася байцоў і камандзіраў з розных воінскіх часцей, бо 26 чэрвеня чыгунка на захад ад Барысава была перарэзана, і цягнікі далей не ішлі.

Абарону ўзначалілі І.З.Сусайкоў, карпусны камісар, начальнік Барысаўскага танкавага тэхнічнага вучылішча; палкоўнік А.І.Лізюкоў, намеснік камандзіра адной з заходніх дывізій; афіцэры Р.П.Белавусаў і М.Д.Грышын. У цяжкіх умовах першых дзён вайны гэтыя военачальнікі змаглі наладзіць ачаговую абарону на заходніх ускраінах горада, замацаваўшыся на шашы і чыгунцы.

Праз Барысаў праходзяць 2 важнейшыя стратэгічныя камунікацыі — чыгунка і аўтамабільная дарога Брэст — Масква, а таксама шашэйныя дарогі, якія звязваюць Барысаў з многімі гарадамі Беларусі. Значную ролю ў якасці транспартнай артэрыі адыгрывае і рака. Таму гітлераўцы надавалі вялікае значэнне захопу горада,ірваліся да Бярэзіны, сцягвалі сюды вялізныя вайсковыя фарміраванні.

Палкоўнік А.І.Лізюкоў быў адазваны ў першы дзень вайны з водпуску. Энергічны, вялікай волі і выдатных здольнасцей камандзір, апынуўшыся ў прыфрантавой паласе, хутка стварыў і аб'яднаў баявыя групы, падпарадкаваў атрады апалчэнцаў, здолеў іх узброіць і арганізаваць абарону перапраў у горадзе і наваколлі.

Канстанцін Сіманаў пазней успамінаў: «У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны пад Барысавам у цяжкіх абставінах няўпэўненасці і неразбярыхі я запомніў на ўсё жыццё палкоўніка Лізюкова... Менавіта Лізюкоў узяў тады ў свае рукі імправізаваную абарону на Бярэзіне і з таго часу стаў для мяне адным з узораў не толькі ваеннай, але, шырэй кажучы, — грамадзянскай мужнасці».

За мужнасць, праяўленую у баях за Барысаў, А.І.Лізюкоў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Крыху пазней, за баі на Бярэзіне і Салаўёўскай пераправе, ён удастоены

звання Героя Савецкага Саюза. Яго сын Юра быў разам з бацькам на Бярэзіне, дапамагаў воінам як мог. У тыя дні ён стаў курсантам танкавага вучылішча.

Яшчэ ў лютым 1941 г. загадам народнага камісара абароны СССР Маршала Савецкага Саюза С.К.Цімашэнкі Барысаўскае ваеннае вучылішча, якое размяшчалася ў пасёлку Печы, было перапрафілявана ў танкавае тэхнічнае вучылішча. Яно складалася з 2 дывізіёнаў і абслуговых падраздзяленняў. 1-ы дывізіён — курсанты 2-га (выпускнога) курса. Амаль усе яны прыбылі ў вучылішча з кавалерыйскіх часцей, якія ўдзельнічалі ў 1939 г. у вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. У асноўным гэта былі былыя малодшыя камандзіры, выдатнікі баявой і палітычнай падрыхтоўкі, звыштэрміновыя служачыя, якія былі накіраваны на вучобу камандаваннем. 2-і дывізіён складаўся з курсантаў 1-га года навучання, што прыйшлі ў вучылішча са школ. Камандаваў вучылішчам спачатку генерал-маёр В.Ц.Абухаў, а потым карпусны камісар І.З.Сусайкоў. Начальнікам палітаддзела быў брыгадны камісар П.А.Міхееў.

На пачатак Вялікай Айчыннай вайны вучылішча знаходзілася яшчэ ў стадыі перафарміравання. Курсанты былі добра падрыхтаванымі да баявых дзеянняў кавалерыстамі, але не мелі коней. Абучанымі танкістамі яны яшчэ стаць не паспелі, да і танкаў, танкетак, аўтамашын і матацыклаў было мала.

На 22 чэрвеня 1941 г. у Барысаве заставаліся толькі танкавае вучылішча, работнікі райваенкамата, камендатуры і каравульныя падраздзяленні. Усе баявыя часці выехалі на летнія кватэры на рубеж Негарэлае — Старыца. 24 чэрвеня па распараджэнні І.З.Сусайкова вучылішча вывелі ў лес.

На захад ад Барысава ў міжрэччы Бярэзіны і Плісы І.З.Сусайкоў стварыў абарону ачаговага тыпу. 26—27 чэрвеня курсанты займалі абарону на лініі Стахава — Прудок — Стаі — Ельніца, перакрыўшы на гэтым напрамку ўсе шляхі магчымага руху праціўніка, асабліва па аўтамагістралі і чыгунцы Масква — Мінск. Баі з перадавымі часцямі праціўніка, які меў вялікую перавагу ў жывой сіле і асабліва ў тэхніцы, былі ўпартыя і кровапралітныя. 29 чэрвеня курсанты вымушаны былі адысці на заходнія ўскраіны Нова-Барысава, сканцэнтраваўшы асноўныя намаганні на ўтрыманні чыгуначнага і аўтамабільнага мастоў цераз Бярэзіну і стварэнні лініі абароны на яе ўсходнім беразе.

Адначасова з абаронай Барысава былі пасланы атрады курсантаў і ваеннаслужачых зводных часцей у раён Плешчаніц, Зембіна і Беразіна для прыкрыцця пераправаў. Па ўсёй лініі абароны, якую трымалі курсанты І.З.Сусайкова і зводныя часці А.І.Лізюкова, 27—29 чэрвеня 1941 г. праціўнік арганізоўваў атаку за атакай, каб фарсіраваць Бярэзіну і высадзіцца на ўсходні бераг. Атакі ворага суправаджаліся моцным артылерыйскім агнём і бамбардзіроўкамі. Курсанты і байцы зводных часцей, праяўляючы мужнасць і гераізм, неаднаразова адбівалі атакі танкаў і мотапяхоты. У гэтых баях прымяняліся бутэлькі з гаручай сумессю супраць танкаў. Толькі за дзень 28 чэрвеня было падпалена некалькі дзесяткаў танкаў.


*А.І.Лізюкоў.*


*І.З.Сусайкоў.*


*Я.Р.Крэйзер.*

Г.П.Белавусаў успамінаў пазней: «Ад світання і да поўнай цемнаты над мостам цераз Бярэзіну і над нашымі пазіцыямі віселі варожыя самалёты. Адна за адной цэлымі серыямі падалі бомбы, ўзнімаючы вадзяныя слупы, вываточваючы з карэннямі дрэвы. Кіпела вада ў Бярэзіне, неба змешвалася з зямлёй, а людзі стаялі на сваіх месцах, абараняючы мост цераз раку».

У баях за Барысаў курсанты і камандзіры Барысаўскага танкавага тэхнічнага вучылішча паказалі сябе доблеснымі і мужнымі воінамі, уменне смела змагацца супраць пераўзыходзячых сіл праціўніка. Многія курсанты і афіцэры былі ўдастоены ўзнагарод. І.З.Сусайкоў і П.А.Міхееў атрымалі ордэны Чырвонага Сцяга. У першых кровапралітных баях многія курсанты загінулі, іншыя зложылі свае галовы пазней. Мала хто застаўся жывым.

Пасля вайны І.З.Сусайкоў расказваў, што ў дні абароны Барысава вялікую арганізаванасць і стойкасць праявіла мясцовае насельніцтва, якое дапамагала капаць акопы, напаўняць бутэлькі гаручай сумессю. Сумленна выконваў свае абавязкі начальнік раённага аддзялення міліцыі і падпарадкаваны яму асабовы склад, а таксама начальнік раённай канторы сувязі, які ўсімі магчымымі сродкамі пастаянна падтрымліваў сувязь з Масквой і іншымі гарадамі краіны.

Камандзір 30-га аўтатранспартнага палка, які размяшчаўся ў Барысаве, маёр К.Зарубіцкі аператыўна стварыў 2 аўтакалоны па 60 палутарак на чале з С.Лімасавым і У.Калымагай. Ім было загадана адправіцца ў акруговыя склады каля Лепеля, загрузіцца там снарадамі, патронамі, гранатамі і хутка даставіць іх абаронцам Барысава. Шафёры дзейнічалі бясстрашна. Нягледзячы на бамбёжкі і абстрэлы, яны зрабілі ўсё, каб захаваць

баявы груз. Зенітчыкі і артылерысты сустракалі іх воклічамі «ўра», і прама з машын снарады пускаліся ў ход. Прывезеных боепрыпасаў хапіла на некалькі сутак абароны.

З 29 на 30 чэрвеня да Барысава падышла 1-я Маскоўская мотастралковая дывізія, на ўзбраенні якой ужо мелася навейшая зброя, больш за 200 танкаў, з якіх 40 Т-34 і КВ. Камандаваў дывізіяй палкоўнік Я.Р.Крэйзер. Дывізія падпарадкавала сабе курсантаў вучылішча, зводныя часці палкоўніка Лізюкова і атрады барысаўскіх апалчэнцаў.

Раніцай 30 чэрвеня танкавыя і матарызаваныя дывізіі фашыстаў падышлі да Барысава.

На ўсходнім беразе абаронцы пачалі акопвацца, арганізоўвалі сістэму артылерыйскага і ружэйна-кулямётнага агню. Дывізія Я.Р.Крэйзера расцягнулася на 50-кіламетровым фронце ад Весялова да Чэрнеўкі. Таму камдыў прымяніў тактыку рухомай абароны: ноччу байцы скрытна займалі зручны рубеж, а днём вялі бой, потым зноў пераходзілі на новы рубеж. Тым самым планы праціўніка парушаліся, ён нёс страты, і яго наступленне стрымлівалася.

У раён в. Весялова камандзір дывізіі накіраваў батальён Шэпелева і артылерыйскі дывізіён старшага лейтэнанта Жбанава. Раніцай ён пабываў тут сам, агледзеў рубеж абароны, загадаў поўнасцю разбурыць 70-метровы мост, які фашысты спрабавалі аднавіць. Разам з артылерыстамі П.А.Грaзноўскага з 575-га артпалка, масквічы стаялі тут да апошняга снарада, стрымліваючы наступленне праціўніка.

Асабліва цяжкія баі вяліся за масты цераз Бярэзіну па шашы Мінск — Масква. У 2-й палове дня 2 ліпеня фашысты абрушылі на ўсходні бераг артылерыйскі і мінамётны агонь, дзесяткі «юнкерсаў» скідвалі на нашы пазіцыі смяротны груз. Неба было чорным ад дыму. У бітве за Барысаў удзельнічала да 300 танкаў з абодвух бакоў.

Праціўнік быў сустрэты шквальным агнём. Камандзір 175-га палка маёр Новікаў супраць танкаў, якія рваліся па мосце, выкарыстаў бутэлькі з гаручай сумессю. Яго воіны спалілі такім чынам 15 варожых машын. У гэты дзень загінулі разведчыкі Пачапцоў і Галенаў. Іх бронемашына на адной з вуліц Нова-Барысава была падбіта. Яны да апошняй кулі, да апошняй гранаты адбіваліся ад фашыстаў.

Ад гарматных і бомбавых выбухаў гула зямля. Па мосце імчаліся нямецкія танкі, якія рассеклі батальён Барадзіна на 2 часткі. Паранены лейтэнант Гомельскі вёў прыцэльны агонь з пашкоджанай гарматы. Артылерысты старшага лейтэнанта М.Цыпкіна падбілі 4 танкі, лейтэнанта М.Рэвутава — 2. У час абароны мастоў вызначыўся камандзір кулямётнага ўзвода лейтэнант Рубен Ібаруры, сын лідэра іспанскіх камуністаў Далорэс Ібаруры. Шэсць гадзін змагаўся ён са сваім падраздзяленнем супраць ворага, які насядаў, быў цяжка паранены. За гэты бой Рубен узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

Такога жорсткага супраціўлення танкі Гудэрыяна яшчэ не сустракалі. Савецкія салдаты адбівалі атаку за атакай. Але вораг кідаў у бой усё новыя сілы. Вечарам яму ўдалося перакінуць частку падраздзяленняў на ўсходні бераг па чыгуначным мосце і пашырыць плацдарм перад мостам па фронце на 2 км і ўглыб на 8. Маскоўская дывізія

заняла новы рубеж па лініі Пчэльнік — Стайкі — Вялікая Ухалода. Выконваючы загад камандуючага 20-й арміяй генерала П.А.Курачкіна, раніцай 3 ліпеня Я.Р.Крэйзер павёў сваю дывізію ў контратаку. Асноўны ўдар наносіў 12-ы танкавы полк. Бой быў неверагодна цяжкім. Мост пераходзіў некалькі разоў з рук у рукі. Гітлераўцы ўзнімалі ў паветра адначасова каля 70 самалётаў, якія знішчалі гарматы, машыны, людзей. Апошні загад — узарваць мост — не было каму выконваць — сапёры загінулі ў баі. Маскоўская дывізія панесла значныя страты, асабліва 12-ы танкавы, 13-ы артылерыйскі палкі, а таксама дывізійны аўтатранспарт. І толькі тады, калі праціўнік увёў у бой 2-і эшалон — 4-ю танкавую армію — яму ўдалося фарсіраваць Бярэзіну.

У ноч на 4 ліпеня 1-я Маскоўская дывізія пакінула Бярэзінскі рубеж і адступіла да ракі Нача. Адыходзячыя, знясіленыя часці Чырвонай арміі ўпартай абаронай сваіх рубяжоў і контратакамі наносілі ворагу значныя страты. Прыклады мужнасці і гераізму, воінскай адвагі, умення і храбрасці паказалі многія салдаты і афіцэры. Сярод іх намеснік камандзіра 57-га танкавага батальёна І.А.Кадучэнка, які разбіў варожую танкавую калону, знішчыў 9 танкаў. За гэты ўчынак ён удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Камандзір пяхотнага батальёна старшы лейтэнант А.Шчаглоў узнагароджаны ордэнам Леніна. Камандзіру дывізіі Я.Р.Крэйзеру за ўмелы контрудар на Бярэзіне прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Абарона Бярэзіны вялася з такой жа мужнасцю і гераізмам і ў небе. Але сілы авіяцыі былі нязначнымі, і яна не змагла ў поўнай меры дапамагчы наземным войскам. У першых баях над Барысавам удзельнічаў вядомы лётчык, камандзір 401-га знішчальнага авіяпалка Герой Савецкага Саюза, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР 1-га склікання С. П.Супрун. Яго імем зараз названа адна з вуліц Барысава. 4 ліпеня ў раёне Барысава вызначыўся лётчык-знішчальнік К.Я.Анохін. Яго машына была пашкоджана, але лётчык працягваў ахову савецкіх бамбардзіроўшчыкаў. 6 ліпеня Анохін пачаў бой супраць 5 варожых самалётаў. У гэтым баі ён збіў нямецкі самалёт, але і сам загінуў. Пасмяротна К.Я.Анохіну прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

5 ліпеня 1941 г. экіпаж самалёта 53-га далёкабамбардзіровачнага палка пад камандаваннем лейтэнанта М.Булыгіна атрымаў заданне знішчыць пераправу цераз Бярэзіну ў раёне Барысава. Але скінуць бомбы не ўдалося — самалёт быў падбіты. Члены экіпажа — пілоты Мікалай Булыгін і Мікалай Калеснік, авіямеханік Нічыпар Кусянкоў і стралок-радыст Пётр Цітоў — цаной свайго жыцця выканалі загад. Пылаючы самалёт урэзаўся ў пантонны мост, па якім ішла калона нямецкіх танкаў. Пераправа была разбурана.

У той жа дзень каля гэтай пераправы ў паветраным баі вызначыўся стралок бамбардзіроўшчыка ІЛ-4 малодшы сяржант Мікалай Субота. Ён збіў самалёт праціўніка, а потым, цяжка паранены, змог знішчыць яшчэ адзін. За гэты подзвіг М.М.Субота ўзнагароджаны ордэнам Леніна.

У цяжкіх баях на пераправе цераз Бярэзіну прымалі ўдзел і летчыкі 213-га і 214-га бамбардзіровачных палкоў.

Цяжкі лёс выпаў на долю 50-й стралковай дывізіі генерал-маёра В.П.Еўдакімава, якая з упартымі баямі адыходзіла на Плешчаніцы — Бягомль. Асабліва напружаныя баі разгарэліся 3 ліпеня ў раёне вёсак Мсціж, Загор'е, Сабалёўка, Ніўкі. Нягледзячы на пераўзыходзячыя сілы праціўніка, воіны 2-га і 202-га стралковых палкоў мужна трымаліся.

З-пад Мінска з вялікімі стратамі адыходзіла 100-я стралковая дывізія пад камандаваннем І.М.Русіянава. Яна зноў паказала сябе на Бярэзіне каля в. Чэрнеўка, утрымліваючы пераправу да апошняй магчымасці. Цяжкія абарончыя баі каля Барысава вялі воіны зводных атрадаў 4-й арміі.

Абарона Барысава і пераправаў цераз Бярэзіну сарвала гітлераўскі загад з ходу фарсіраваць Бярэзіну і авалодаць горадам. 5 дзён ішлі баі ў раёне Барысава. Вораг страціў тут больш за 2 тыс. забітымі, 70 танкаў, 120 аўтамашын і 12 самалётаў. Але, маючы значную перавагу ў сіле і тэхніцы, працягваў рвацца на ўсход.

Сведкай цяжкіх абарончых баёў у Барысаве стаў савецкі ваенны карэспандэнт Канстанцін Сіманаў. Тое, што ён убачыў і перажыў, адлюстравана ў яго вершы:

Ты помнишь, Алеша: изба под Борисовом,
По мертвому плачущий девичий крик,
Седая старуха в салопчике плисовом,
Весь в белом, как на смерть одетый старик.
Ну что им сказать, чем утешить могли мы их?
Но, горе поняв своим бабьим чутьем,
Ты помнишь, старуха сказала: Родимые,
Покуда идите, мы вас подождем.

Спалучэнне горычы і аптымістычнай веры ў перамогу, што так глыбока адлюстраваў аўтар у вершы, тады валодала ўсімі — і тымі, хто пакідаў родную зямлю, і тымі, хто тут заставаўся.

## Акупантам не скарыліся

1 ліпеня 1941 г. часці 47-га танкавага нямецкага корпуса захапілі правабярэжную частку горада і раёна, 2 ліпеня левабярэжную, 3—4 ліпеня — усю тэрыторыю раёна. Акупіраваўшы Барысаў, фашысты размясцілі ў ім шматтысячны гарнізон, вялікія склады з боепрыпасамі, нафтапрадуктамі, харчаваннем, абмундзіраваннем. Летам 1941 г. тут дыслацыраваўся штаб фронту групы армій «Цэнтр» на чале з генерал-фельдмаршалам Тэадорам фон Бокам.

Нечаканае ўпартае супраціўленне Чырвонай арміі, вялікія страты нямецкай арміі, зрыў «Бліцкрыга» ў Беларусі прывялі да парушэння планаў гітлераўцаў. У штаб-кватэры генерал-фельдмаршала фон Бока пачаліся спрэчкі аб ходзе далейшых дзеянняў.

4 жніўня 1941 г. у в. Стара-Барысаў, дзе размяшчаўся штаб, прыляцеў Гітлер. Мясцовыя жыхары расказвалі, што ў 2-й палове ліпеня фашысты ўсіх жыхароў з гэтай і суседніх вёсак павыганялі — каго вывезлі ў іншыя вёскі, хто ўладкоўваўся сам дзе мог. А ў сярэдзіне жніўня дазволілі вярнуцца ў свае хаты. Толькі ў 1950-я гады, калі былі выдадзены ўспаміны Гудэрыяна, стала вядома, што сюды ў той час прылятаў фюрэр: каля Стара-Барысава знаходзіўся аэрадром, у вёсцы размяшчаўся былы маёнтак вялікага князя Мікалая Мікалаевіча, дзе ў 1812 г. жыў 2 дні імператар Напалеон, пакуль будавалі масты ў в. Студзёнка. Усё гэта спрыяла выбару месца для правядзення ваеннага савета, на якім прысутнічалі камандуючыя танкавымі групамі Гудэрыян і Гот. Гітлер патрабаваў ад военачальнікаў хутчэйшага выканання яго загадаў па захопе важных стратэгічных гарадоў Савецкага Саюза.

Згодна з дырэктывай Герынга ад 27 ліпеня 1941 г., Барысаў выбралі адным з галоўных цэнтраў размяшчэння нямецкага гандлёвага таварыства «Ост». Горад быў цэнтрам Барысаўскай акругі — адной з тых 10, на якія гітлераўцы падзялілі Беларусь. Прыдаўшы Барысаву стратэгічнае значэнне, яны размясцілі тут гебітскамісарыят, эсэсаўскія войскі, паліцыю бяспекі, акруговую жандармерыю, палявую і гарадскую камендатуры, СД (служба бяспекі), паліцэйскія ахоўныя атрады, атрады дапаможнай паліцыі, якія складаліся са здраднікаў на акупіраванай тэрыторыі, тайную палявую паліцыю (ГФП), абвергрупы для барацьбы з савецкімі разведчыкамі і падпольшчыкамі, школу абвера «Сатурн», дзе рыхтавалі дыверсантаў для ўкаранення ў партызанскія атрады і ў савецкі тыл.

Чыгункі і аўтамабільныя дарогі гітлераўцы імкнуліся ператварыць у непрыступныя аб'екты. Яны паўсюдна зрабілі шмат дзотаў, дотаў, бункераў. Паабапал дарог на 500 м высеклі не толькі лес, але і кусты. На ўзвышшах усталявалі пражэктары, падыходы да пуцей замініравалі. Усё гэта ўскладняла абставіны ў горадзе і акрузе.

Пасля вайны фашысты збіраліся пасяліць у горадзе 5 тыс. немцаў-каланістаў, пакінуўшы пры іх у якасці рабочай сілы 15 тыс. мясцовых жыхароў. Астатніх намячалася фізічна знішчыць, асабліва дзяцей як сацыяльна-біялагічную аснову народа. Ажыццяўляючы гэтыя планы, акупанты рабавалі, расстрэльвалі жыхароў горада і раёна. Былі закрыты школы, бібліятэкі, кінатэатры, устаноўлена каменданцкая гадзіна. Пачаліся масавыя аблавы, арышты і расстрэлы. Смерць чакала кожнага, хто падазраваўся ў малейшых адступленнях ад патрабаванняў «новага парадку». Першыя рэпрэсіі абрушыліся на савецкіх актывістаў і камуністаў: у цэнтры Нова-Барысава фашысты расстралялі 60 чалавек, а потым пакідалі ў машыну і вывезлі на палігон. На тэрыторыі горада акупацыйныя ўлады стварылі 6 буйных лагераў для насельніцтва. У былых ваенных казармах на праспекце Рэвалюцыі ўтрымлівалася больш за 40 тыс. чалавек

ваеннапалонных. Камандаванне лагера здзекавалася над савецкімі людзьмі, марыла іх голадам. У лагеры была з'едзена ўся трава, і фашысты надумаліся прывозіць спілаваныя сукі дрэў, з якіх вязні абіралі лісце, здзіралі кару і з'ядалі. Рацыён вязняў складаў усяго 200 грамаў баланды. Кожны дзень паміралі сотні чалавек ад голаду, дызентэрыі і тыфу, многіх забівалі. Акрамя савецкіх ваеннапалонных тут утрымліваліся і італьянскія, якія адмаўляліся ваяваць на баку фашыстаў.

Пасля вызвалення Барысава Надзвычайная камісія выявіла, што ў гэтым лагеры загінула больш за 10 тыс. чалавек. У лагеры побач з папяровай фабрыкай «Прафінтэрн» загінула больш за 2,5 тыс. барысаўчан. Каля 8 тыс. чалавек было расстраляна на былым артпалігоне, куды вывозілі ў асноўным пасля жудасных здзекаў на допытах у турме, у засценках гестапа і паліцыі. На паўночнай ускраіне горада, у раёне вуліцы Чырвонаармейскай, фашысты сагналі ў гета каля 10 тыс. яўрэяў з Барысава і наваколля, а таксама прывезеных з Польшчы.

20 — 21 кастрычніка 1941 г. усіх вязняў гета расстралялі, дзяцей, старых і параненых кідалі ў выкапаныя равы жывымі і потым засыпалі зямлёй. 2 дні не змаўкалі за горадам крыкі і стогны, не сціхалі стрэлы.



*На месцы расстрэлу гітлераўцамі вязняў канцлагера, які размяшчаўся каля фабрыкі «Прафінтэрн». 1 ліпеня 1944 г.*

Гэтыя дзеянні яскрава гавораць аб тым, што фашысты метадычна выконвалі план Гітлера ўсіх «знішчаць да той пары, пакуль мы не будзем здольнымі самі запоўніць усю тэрыторыю».

Але ніякія рэпрэсіі не змаглі стрымаць сілу народнага гневу, які акупанты адчулі з першых дзён.

У ліпені 1941 г. у раённым цэнтры Лёзна Віцебскай вобласці ЦК КП(б)Б сфарміраваў некалькі груп камуністаў і камсамольцаў для арганізацыі падпольнага і партызанскага руху ў тыле ворага. Адну з такіх груп узначаліў сакратар Барысаўскага райкома КП(б)Б І.А.Яраш. У яе ўваходзілі былыя кіруючыя работнікі раёна: К.І.Акуліч — старшыня райвыканкома, А.Г.Хадаркевіч — пракурор раёна, Р.В.Кучынскі — работнік гарсавета, Ласкін — дырэктар дома адпачынку «Блонь», А.М.Сляпцоў — сакратар райкома камсамола. Было ў групе некалькі віцебскіх камсамольцаў-добраахвотнікаў — Гарадзецкі, Ханін, Маханоўскі і інш. 8 ліпеня 1941 г. атрад быў ужо на Барысаўшчыне. Ён дыслацыраваўся ў лесе каля в. Пупелічы (цяпер Крынічкі) Зачысценскага сельсавета. У першыя дні асноўнай задачай атрада было ўстанаўленне сувязі з мясцовымі патрыётамі і з іх дапамогай узнімаць на барацьбу з ворагам усё насельніцтва акупіраванага горада і раёна.

Першым сувязным І.А.Яраша стаў жыхар в. Зачысце Іван Лявонавіч Ермаковіч. Ён здабыў печ для зямлянкі, прывозіў прадукты, адзенне, боепрыпасы, дастаўляў урача Макарэвіча да хворага Яраша.

Другім сувязным стаў Дзмітрый Ціханавіч Канашэвіч з в. Пупелічы. Ён першы пайшоў у Барысаў на разведку і для наладжвання сувязі з патрыётамі.

З дапамогай І.Я.Паўловіча, М.С.Шчуцкай, І.Л.Ермаковіча, Д.Ц.Канашэвіча, Н.В.Бялковай і іншых патрыётаў была ўстаноўлена сувязь з членамі даваеннага райкома Т.Н.Крывушам і У.А.Качаном, камуністамі Дз.К.Курачкіным, Дз.М.Карнелюком, А.І.Казлоўскім, А.Н.Карнеевым, Л.В.Арловым, В.М.Старадзеткам.

І.А.Яраш наладзіў сувязь з галоўным інжынерам шклозавода У.У.Лазоўскім і загадчыкам сталовай І.П.Даўгалавым. Яны ўладкаваліся на свой завод, дзе працавалі да вайны, і стварылі падпольную групу, якая садзейнічала з'яўленню ў горадзе новых груп. Некаторыя групы ствараліся самастойна, незалежна ад дзейнасці падпольнага райкома, але ж потым сувязі ўстанаўліваліся, дзеянні іх каардынаваліся.

Аднавясковец Даўгалава І.Ермачэнка, які вярнуўся з эміграцыі з фашыстамі, дапамог па старой дружбе ўладкавацца на работу надзейным сябрам Іосіфа. Так ва ўправе пачалі працаваць загадчыкам зямельнага аддзела Д.В.Яшчанка і яго супрацоўнікам І.І.Хадасевіч.

Да 1939 г. Д.В.Яшчанка працаваў у Барысаве дырэктарам лесазавода, многіх добра ведаў і цяпер, карыстаючыся службовым становішчам, раз'язджаў па вёсках і прызываў насельніцтва хаваць ад фашыстаў збожжа, жывёлу, раздаваў муку, што засталася на млынах, сем'ям франтавікоў і загінуўшых.

На адным са сходаў на кватэры У.А.Качана на вуліцы Чырвонаармейскай, 10, І.А.Яраш выказаў думку, каб падпольшчыкі знайшлі магчымасць увайсці ў давер да кіраўнікоў нямецкіх устаноў і не адмаўляліся ісці на працу да фашыстаў, а потым выкарыстоўвалі службовыя магчымасці ў барацьбе з імі. У гэты час бургамістр горада С.Станкевіч прапанаваў былому дырэктару гарпрамгандлю П.Ф.Парабковічу пасаду загадчыка аддзела ўправы. На іншыя пасады бралі людзей, за якіх новы загадчык мог паручыцца. Хутка загадчыкам аддзела аховы здароўя стаў Б.К.Замбржыцкі, загадчыкам пашпартнага стала настаўнік А.С.Федарынчык, рэгістратарам у аддзеле запісу актаў грамадзянскага стану настаўнік Я.М.Зомерфельд, намеснікам бургамістра — М.В.Карнюшка, яго сястра Вольга — машыністкай камендатуры, перакладчыцай управы — Л.М.Галынец, следчым паліцыі бяспекі СД — В.І.Казыра.

Неўзабаве Д.В.Яшчанка, чалавек настойлівы і рашучы, арганізаваў падпольную групу, у якую ўвайшлі вышэйназваныя супрацоўнікі ўправы. Усе яны, кожны на сваім месцы, рабілі ўсё магчымае, каб вораг адчуваў няскоранасць беларускага народа. Ад іх падпольшчыкі і партызаны атрымлівалі бланкі пашпартоў і прапускоў, яны змянялі ўзрост, прыпісвалі колькасць дзяцей, перадавалі пашпарты памёршых і закатаваных людзей майстру па падробцы дакументаў і пячатак капітану Чырвонай арміі Пятрэнку, атрымлівалі звесткі аб размяшчэнні варожых вайсковых часцей, сакрэтных загадах, карных экспедыцыях, аблавах, дапамагалі дастаўляць прадукты, соль, іншыя тавары.

Да пачатку кастрычніка 1941 г. у горадзе дзейнічала 18 падпольных груп, якія былі створаны ў нямецкіх установах, на фабрыках і заводах, у медыцынскіх установах, у Стара-Барысаве і іншых месцах.

Па даручэнні Мінскага абкома камсамола на акупіраванай тэрыторыі застаўся член ЦК ЛКСМБ, сакратар Барысаўскага гаркома камсамола Р.Х.Крупкін, які ў хуткім часе быў арыштаваны і загінуў. Стварэнне маладзёжных падпольных груп пачаў А.М.Сляпцоў, але і ён хутка загінуў. Выканаў гэта былы вучань 8-й сярэдняй школы Барыс Качан. Ён быў прызнаным атаманам мясцовай дзетвары, нязменным арганізатарам маладзёжных гульняў, заядлым футбалістам. Перад вайной Барыс ужо працаваў на рамонтнай базе слесарам-інструментальшчыкам. Менавіта ён згуртаваў вакол сябе былых аднакласнікаў Мікалая Капшая, Артура Ржэвуцкага, Івана Баравулю, Мікалая Галкоўскага, Мечыслава Карнеева, Іосіфа Зялёнку, Люсю Чалоўскую, а таксама сваякоў і сяброў Леанору Шапчыц, Уладзіміра Кавалёва, Васіля Кудраўцава, Мікалая Гайдука. Сюды ўваходзілі дырэктар школы заслужаны настаўнік Кацярына Максімаўна Крычэўская, настаўнік Аляксандр Андрэевіч Карнееў. Да гэтай групы далучыліся маладыя настаўнікі і студэнты педагагічнага вучылішча Ліна Рыгораўна Філіповіч, Ірына Рыбалтоўская, падтрымлівала з імі сувязь лабарантка інфекцыйнай бальніцы Марыя Комар і інш. У сваю чаргу Барыс Качан цесную сувязь трымаў з У.У.Лазоўскім, які працаваў дырэктарам шклозавода, а праз сувязную М.С.Жукоўскую з атрадам І.А.Яраша.


І.А.Яраш.


Л.І.Чалоўская.


Віктар Пашкевіч.

Маладыя падпольшчыкі жылі ў прыватных дамах у раёне «Батарэй», а ў той час гэта было недалёка ад лесу. Збіраліся то ў І.Зялёнкі на вуліцы Батарэйнай, то ў Люсі Чалоўскай каля «ліманадкі», ці ў Барыса Качана на вуліцы Спартыўнай.

Душой маладзёжнага згуртавання была Люся Чалоўская. Весёлая, спартыўная, яна не расставалася з гітарай, з песняй і калі вучылася ў школе, і цяпер, сярод сяброў-падпольшчыкаў. Ёй асабліва ўдавалася збіраць звесткі аб размяшчэнні і перадыслакацыі нямецкіх войскаў, аб планах фашыстаў. Люся разведала, што акупантамі створаны нацыянал-працоўны саюз новага пакалення для моладзі. На самай справе гэта была замаскіраваная фашысцкая арганізацыя, якая рыхтавала лазутчыкаў для дыверсій у тыле нашай арміі. Верхаводзіў гэтым саюзам мацёры фашыст, які выдаваў сябе за ваеннапалоннага. Дзякуючы Люсі шмат моладзі ўдалося адвесці ад гэтага саюзу.

На працягу года маладыя падпольшчыкі разам са старэйшымі ўдзельнічалі ў агітацыйнай рабоце, слухалі на кватэры ў Б.Качана і Л.Шапчыц радыёпрыёмнік, запісвалі зводкі Саўінфармбюро і потым распаўсюджвалі сярод жыхароў, сабралі 265 гранат, шмат вінтовак, пісталетаў, кулямётных стужак, даставалі даныя аб сакрэтных фашысцкіх аб'ектах і збудаваннях, аб войсках і іх планах, аб перавозках па чыгунцы і аўтамабільных дарогах, выводзілі людзей у партызаны, выяўлялі дыверсантаў, здабывалі бланкі пашпартоў і пропускаў, рабілі дыверсіі ў гітлераўскіх гарнізонах. Яны кожны раз рызыкавалі сваім жыццём, але іх вялі на гэта пачуццё высокай чалавечай годнасці, адданасць радзіме, мэтанакіраванасць.

Пасля няўдалых спроб выйсці з акружэння ў горадзе засталося шмат ваеннаслужачых Чырвонай арміі. Сярод іх партыйны работнік С.М.Ігумнаў (Дзед), камандзіры




*Мемарыяльная дошка на будынку гасцініцы «Бярэзіна».*

П.В.Яхантаў, А.К.Саламацін, Ф.П.Падалян, Павел Церахаў, Дзмітрый Іаселіяні, Іван Татаркін, Іван Максімаў, Іван Мірукоў, Васіль Кузічкін (Бярэзін), Аляксандр Ашмянскі (Дрон), Міхаіл Мармулёў, Яўген Шадрын і інш. Да іх далучыліся барысаўчане Эдуард Бутвілоўскі, Мікалай Ермаловіч.

С.Ігумнаў праз Карла Ржэвуцкага, на кватэры якога на вуліцы Індустрыяльнай, 32, жыў пад выглядам шаўца абутку, устанавіў і падтрымліваў сувязь з групай Лазоўскага і Даўгалава, з падпольшчыкамі цывільнай бальніцы, з асноўнай групай, у якую ўваходзіў Л.В.Арлоў. Прыёмны сын Арлова Віктар Пашкевіч арганізаваў падпольную групу піянераў, у якую ўваходзілі яго школьныя сябры Саша Клімковіч, Мелік Бутвілоўскі, Валя Сакалова і іншыя. Духоўным настаўнікам іх быў былы палітрук Андрэй Саламацін. Дзеці шмат чаго зрабілі, яны маглі прайсці там, дзе дарослым хадзіць было небяспечна. Яны сабралі для партызан 263 вінтоўкі, 25 аўтаматаў, 21 кулямёт, шмат патронаў, узарвалі 3 эшалоны, спалілі 30 аўтамашын, 2 нямецкія склады з харчаваннем, абмундзіраваннем і 20 тысячамі вайсковых палатак, узарвалі бензацыстэрну з 800 тонамі бензіну; здзяйснялі сувязь паміж падпольшчыкамі і партызанамі, вялі разведку, распаўсюджвалі лістоўкі.

На чыгуначнай станцыі дзейнічала група, у якую ўваходзілі Даніла Вярэка, Анатоль Альшэўскі, Фёдар Валёк, Аляксандр Зайцаў, Дзяніс Лебедзеў, бацька і дачка Токаравы, Цімафей Юбкоў. Галоўнай задачай іх было сачыць за рухам воінскіх эшалонаў, выводзіць са строю паравозы, рабіць іншыя дыверсіі. Зімой 1941—1942 гг. падпольшчыкі паралізавалі на некалькі дзён работу вадакачкі, узарвалі тэлеграфную калонку «Бокс», праз якую ажыццяўлялася сувязь гітлераўскага цэнтра з фронтам. Гэта група вырабляла вугальныя міны ў доме № 96 на праспекце Працы, дзе жыў Міхаіл Іосіфавіч Несцяровіч. Піянеры-падпольшчыкі даставалі тол і капсулі на нямецкіх складах, перадавалі дарослым, а тыя рабілі міны, і дзеці адносілі іх на вугальны склад. Так было ўзарвана некалькі паравозаў.

Значную ролю ў барацьбе з ворагам адыгралі медыцынскія работнікі. З дапамогай падпольшчыка загадчыка аддзела аховы здароўя Б.К.Замбржыцкага медыцынскія ўстановы горада і раёна былі ўкамплектаваны патрыятычна настроенымі людзьмі. Яны выдавалі фіктыўныя дакументы аб непрацаздольнасці грамадзян, перадавалі партызанам медыкаменты і перавязачныя матэрыялы, лячылі мясцовае насельніцтва, змагаліся з

эпідэміямі, дапамагалі параненым актывістам і падпольшчыкам, наладжвалі дыверсіі, ставілі дыягназы цяжкага захворвання, чым ратавалі людзей ад вывазу ў Германію.

У памяшканні радзільнага дома быў арганізаваны падпольны шпіталь, які ўзначальваў урач П.М.Вусцін. Тут лячылі параненых байцоў і камандзіраў Чырвонай арміі, народных мсціўцаў. Працавалі ў шпіталі ўрачы муж і жонка Старжынскія, М.І.Жарынава, Г.Я.Татарская, хірург А.Бахішаў, медсёстры Г.Астроўская, Г.Хоміч, М.Чайкоўская, Марыя і Вера Баранавы, А.Малевіч і іншыя. Медсястры Астроўскай было даручана заводзіць фіктыўныя дакументы на параненых пад выглядам мясцовых жыхароў. На дзвярах шпіталя вывесілі загад каменданта, які забараняў немцам наведваць бальніцу, бо ў ёй ёсць хворыя на тыф. Аб гэтым паклапацілася Вольга Карнюшка, якая працавала ў камендатуры. Зімой 1942 г. са шпіталя пайшла ў 208-ы партызанскі полк першая група ў складзе 41 чалавека былых параненых. Медперсанал забяспечваў медыкаментамі і перавязачнымі матэрыяламі партызан брыгад імя Панамарэнкі і «Дзядзькі Колі».



*М.М.Комар.*

Санэпідстанцыю горада ўзначальвала К.Сяляўская. Разам з М.Прырызам, Г.Пушкінай, Т.Галавачовай яны выводзілі з горада савецкіх байцоў, слухалі прыёмнік, запісвалі звесткі аб падзеях на фронце, друкавалі іх на пішучай машынцы і распаўсюджвалі ў горадзе і ваколіцах. Медыкі санэпідстанцыі падтрымлівалі цесную сувязь з атрадамі І.А.Яраша, І.Папова і М.Мядзеля.

У падпольнай рабоце актыўна ўдзельнічаў і медперсанал інфекцыйнай бальніцы: урачы Н.І.Цыгановіч, Е.М.Белая, медсястра А.І.Сталярова, лабарантка М.М.Комар. Дзевятнаццацігадовая Марыя Комар, студэнтка сельскагаспадарчай акадэміі, на працягу 2 гадоў бясстрашна здзяйсняла дыверсіі на варожым аэрадроме, у санаторыі для нямецкіх франтавікоў, у сталовай лётнага складу. Ёй дапамагалі Н.Кучынская, М.Гігель, Л.Якаўлева, В.Хадасевіч. Заданні падпольшчыкаў актыўна выконвалі ўрачы В.Ц.Бакун, І.Л.Бардушка, А.К.Лапцёнак, медсёстры В.Клімковіч, М.Карнеева і іншыя.

У фашысцкім канцлагеры № 382 для ваеннапалонных груп ўрачоў-патрыётаў узначаліў хірург А.Н.Мацяшын. Лазарэт лагера быў надзейным месцам для тых, каму пагражала расправа гітлераўцаў. Была наладжана сувязь з гарадскімі падпольшчыкамі, праз якіх удалося пераправіць частку ваеннапалонных, урачоў і фельчараў у партызанскія атрады. Барысаўскія медыкі-падпольшчыкі на працягу 3 гадоў фашысцкай акупацыі выратавалі жыцці сотням людзей.

У падпольную групу камбіната «Камінтэрн» уваходзіла шмат мясцовай моладзі, а

таксама былых ваеннаслужачых. Сярод іх Іван Субоцін (кіраўнік), Віктар і Ванда Андрыеўскія, Паліна Зуева, Лёля Пігулеўская. Разам з дырэктарам камбіната І.Н.Дэмскім яны палілі піламатэрыялы, якія гітлераўцы рыхтавалі для адпраўкі ў Германію, распаўсюджвалі лістоўкі, назіралі за рухам саставаў па чыгунцы, збіралі даныя аб вайсковых часцях для партызан.

Шмат добрых спраў зроблена групай падпольшчыкаў на чале з Казімірам Нанісам. Але летам 1942 г. ён загінуў. Групу ўзначаліў Аляксандр Мухін. У яе склад уваходзілі Ксенія Муха, Р.І.Бакун, А.Я.Сталярова, Броня Сапега, Міша Азека, Міхаіл Клачкоў і іншыя. Патрыёты выконвалі заданні брыгады імя Шчорса і спецатрада «Актыўныя».

Акупіраваўшы Барысаўшчыну, гітлераўцы загадалі жыхарам горада і акругі здаць усе радыёпрыёмнікі. За невыкананне загада — расстрэл. Многія загад не выканалі. П.Г.Паўлавец, В.Л.Мароз, Г.Н.Стракалава, Ю.Е.Фіндэзіна, Г.П.Пушкіна слухалі перадачы з Вялікай зямлі, пісалі лістоўкі, расказвалі сваякам і знаёмым аб падзеях на франтах і ў савецкім тыле.

У пачатку восені 1941 г. на Барысаўшчыне дзейнічала некалькі партызанскіх атрадаў: І.Папова і М.Мядзеля, А.Е.Васілеўскага, В.В.Шчарбіны, М.Ф.Калуцкага, І.М.Кузіна, «Буравеснік», які арганізавалі М.В.Балан і М.Г.Мармулёў, «Разгром» пад кіраўніцтвам Г.А.Гардзюкова і І.Л.Сацункевіча; вясной 1942 г. былі створаны атрады М.М.Джагарава, К.І.Аўтушкі. Яны падтрымлівалі сувязь з патрыётамі горада і навакольных вёсак. Іх сувязныя сустракаліся з М.І.Прырызам, Г.П.Пушкінай, М.С.Жукоўскай, М.І.Галавачовым, І.Л.Бардушка і інш.

Падпольшчыкі перадавалі ў атрады зброю, медыкаменты, звесткі аб войсках і агентуры праціўніка, выводзілі ў лес жыхароў горада і ваеннапалонных, праводзілі работу па разлажэнні варожых гарнізонаў, выконвалі дыверсіі па заданні партызан.

Падполле расло, народныя мсціўцы дзейнічалі. Гэта вельмі непакоіла бургамістра горада, вернага фашысцкага памагатага Станкевіча, які 18 лістапада 1941 г. дакладваў у палявую камендатуру: «У апошні час у раёне Барысава з'явіліся партызанскія банды, якія наносяць шкоду нямецкім узброеным сілам. Неабходна правесці акцыю, каб знішчыць партызан у гэтым раёне».

Акцыі праводзіліся. Але ж падпольшчыкі, ведаючы аб іх, прымалі неабходныя меры. У сувязі з гэтым Станкевіч настойвае перад акупантамі, каб тыя значна павялічылі колькасць гарнізонаў вакол горада, а тым, хто змагаецца супраць партызан, устанавіць грашовую аплату і забяспечыць іх пайком. У адным са сваіх распараджэнняў ён загадваў: «Работа па зборы кажухоў і валёнак дае дрэнныя вынікі. Вінаватых у несвоечасовай здачы прадставіць да суровага пакарання. Адзначаю, што па горадзе Барысаве і Нова-Барысаве павінна быць здадзена на 22.01.42 г. 2600 кажухоў і такая ж колькасць пар валёнак».

Тое, што фашыстам удалося сабраць у час вобыскаў, бо сам ніхто не нёс свой апошні кажух, яны здалі на адзін са складоў, а перад адпраўкай на фронт, двое рабочых-

барысаўчан замест загаданай дэзінфекцыі, апрацавалі ўсё салянай кіслатой, пагрузілі ў вагоны і запячаталі. На фронт фашысты прывезлі адны шматкі.

Барацьба з акупантамі на працягу 1942 г. набывала ўсё большы накал. Падпольшчыкі змагаліся ўсімі даступнымі сродкамі. Дырэктарам прыгараднай гаспадаркі «Стара-Барысаў» згадзіўся працаваць Трафім Навумавіч Крывуш, ён прызначыў агароднікам В.У.Дайнеку. З ім была ўзгоднена дамоўленасць сарваць план сяўбы агародніны для нямецкай арміі. Васіль Уладзіміравіч ранняй вясной 1942 г. насенне сталовых буракоў змяшаў з кармавымі, замест сталовай морквы на двух гектарах пасеяў кармавую. Агуркі пасеяў глыбока і яны не ўзышлі. Гітлераўцы пасадзілі Дайнеку ў турму, кожны дзень білі, але дырэктар заступіўся, як за нявопытнага агародніка, і яго выпусцілі.

На заводзе «Чырвоны металіст» пад кіраўніцтвам памочніка дырэктара Аляксандра Хаўстава падпольшчыкі вывелі са строю 3 маторы і пашкодзілі шмат запасных частак, спалілі ў гаражы 5 машын, а 6-ю загналі ў лес.

На шклозаводзе патрыёты пад кіраўніцтвам У.У.Лазоўскага і І.П.Даўгалава раз за разам рабілі дыверсіі і выводзілі абсталяванне са строю.

На электрастанцыі І.Л.Півавараў, А.Ф.Самарадаў, А.Д.Хацкевіч і іншыя спалілі электраматоры, узарвалі вадапомпавую трубу.

Вольга Васільеўна Карнюшка, якая працавала ў камендатуры, здабывала для ваеннапалонных неабходныя дакументы, пропускі. З яе дапамогай А.К.Саламацін і Ф.П.Падалян вывелі з Лядзішчанскага лагера 40 ваеннапалонных, Р.Ф.Чарноў — 60. Усяго да вясны 1942 г. у партызаны было адпраўлена з горада больш за 200 савецкіх салдат і афіцэраў. Вольга здабыла карту горада з агнявымі кропкамі і перадала праз Бардушку ў атрад Яраша, шмат разоў папярэджвала падпольшчыкаў аб аблавах, карных акцыях.

Шмат добрых спраў зрабіў барысаўчанін П.Ф.Парабковіч, які працаваў бургамістрам з 1943 г. Ён многім дапамог пазбегнуць вывазу ў Германію, дабіўся таго, каб фашысты не расстрэльвалі сем'і партызан, разам са сваім падначаленым А.С.Федарынчыкам забяспечваў сувязных пропускамі і бланкамі пашпартоў, перадаваў важныя звесткі аб праціўніку, аб іх карных планах, агентах, дапамагаў партызанам у здзяйсненні многіх дыверсій.

У той час, калі па заданні падпольшчыкаў многія гараджане ішлі свядома працаваць у нямецкія ўстановы, асноўная частка насельніцтва ўсімі сродкамі пазбягала працаваць на акупантаў, хавалася ад вывазу ў Нямеччыну, фашыстам прыходзілася рабіць аблавы, хапаць працаздольных людзей і сілай вывозіць на работу. У справаздачы гаспадарчай службы на тэрыторыі тылу групы армій «Цэнтр» у жніўні 1942 г. паведамлялася: «...У сельскай мясцовасці планаваму ўліку рабочай сілы... перашкаджае бандыцкая пагроза... Работнікі біржаў працы могуць наведваць раённыя гарады толькі пад узмоцненай узброенай аховай. У Барысаве не занята 1200 працоўных месцаў. Недахоп у спецыялістах і кваліфікаванай рабочай сіле, асабліва будаўнічых спецыяльнасцей, назіраецца

паўсюдна». (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 655. Воп. 1. Спр. 3. Л. 122—132.)

Барацьба актывізавалася. Фашысты збіваліся з ног у пошуках падпольшчыкаў. Вядомы 2 выпадкі, калі з Берліна напраўлялі контрразведчыкаў высокіх чыноў для разбору абставін актыўнай падпольнай дзейнасці ў Барысаве. Адзін з іх, палкоўнік Борк, дамоў не вярнуўся. Аб гэтым паклапаціліся П.Парабковіч, Б.Замбржыцкі і непасрэдны выканаўца акцыі М.Прырыз.

Вясной 1942 г. акупанты расклеілі па ўсёй Барысаўскай акрузе загады і аб'явы, у якіх паведамлялася, што ў апошні час з'явілася шмат людзей, дзеянні якіх не адпавядаюць патрабаванням нямецкай улады, яны сабатуюць загады, робяць дыверсіі. Усе, хто будзе заўважаны ў гэтым, будуць расстраляны. Фашысты вымушаны былі публічна прызнаць актывізацыю супраціўлення.

За пагрозамі пачаліся пагромы. Сярод многіх карных органаў, якія лютавалі на Барысаўшчыне, сваімі дзеяннямі асабліва вызначалася раённая паліцыя. Яе ўзначаліў немец з Паволжа Д.Д.Эгоф, які перад вайной выкладаў нямецкую мову у Зембінскай школе. У сваю крывавую арганізацыю ён падбіраў тых, у каго нічога святога ў душы не было. Адзін з аддзелаў паліцыі спецыяльна займаўся выяўленнем савецка-партыйнага актыву, падпольных арганізацый і асобных патрыётаў. У горадзе і раёне дзейнічала шырокая сетка тайных агентаў паліцыі як раённай, так і гарадской. Яны назаўсёды заплямілі свае імёны здрадай і карнай дзейнасцю супраць суайчыннікаў. Часта фашысты менавіта з іх дапамогай даведваліся пра дзейнасць і месцазнаходжанне партызан і падпольшчыкаў.

22 лютага 1942 г. атрад І.А.Яраша быў разбіты фашыстамі, камандзір і многія байцы ў няроўным баі загінулі. Падпольны райком перастаў існаваць.

У тую страшную вайну лёгкіх перамог не было. Былі памылкі, пралікі ў дзейнасці падпольшчыкаў і кіруючых органаў, звязаныя з нявопытнасцю і слабай падрыхтоўкай да ўмоў нелегальнай барацьбы, а таксама пранікненне правакатараў у рады падпольшчыкаў, злачынная роля здраднікаў, на чыіх руках кроў многіх патрыётаў.

У засценкі гестапа кінуты і пасля жорсткіх катаванняў расстраляны Л.В.Арлоў, Т.Н.Крывуш, У.А.Качан, І.Я.Паўловіч, Дз.К.Курачкін, В.М.Старадзетка, Д.В.Яшчанка, Дз.М.Карнялюк, У.У.Лазоўскі, І.П.Даўгалаў, А.І.Казлоўскі. На базарнай плошчы павесілі 18-гадовую Кіму Кламбоцкую, а потым кіраўнікоў аднаго з першых партызанскіх атрадаў І.Папова і М.Мядзеля. Два разы прывозілі да шыбеніцы Вольгу Карнюшка і Алімпіяду Філіповіч, але кожны раз пакаранне адкладвалі. І толькі пасля неймаверных здзекаў іх расстралялі. Былі расстраляны муж і жонка Старжынскія, сям'я Рамана Міклушына. Ад страшэнных катаванняў загінула Марыя Комар, яна была чвартавана фашыстамі. У гэты час загінулі П.Ф.Парабковіч, А.С.Федарынчык, быў схоплены Б.К.Замбржыцкі, яго бацькі, жонка з дваімі дзецьмі, родныя жонкі з дзецьмі.

Гітлераўцы натрапілі на след членаў групы камбіната «Камінтэрн», якія спалілі вялікі

цэх. Амаль уся група загінула. Жывой засталася толькі Ванда Мацвееўна Андрыеўская, якая прайшла жахі канцлагера Асвенцім. Яе маці і брат таксама загінулі.

У канцы 1943 г. Пётр Токараў і яго дачка Надзея заклалі 40 кг толу з магнітнай мінай на чыгунцы. Узрывам былі знішчаны 2 паравозы, 3 платформы з запчасткамі для танкаў, забіта 16 гітлераўцаў. Пасля арышту бацькі Надзея ўзарвала базу, выявіла некалькі агентаў гестапа і паведаміла іх імёны ў партызанскую брыгаду імя Кірава. Фашысты высачылі яе і расстралялі разам з бацькам.

Ад рук фашыстаў загінулі настаўнікі К.М.Крычэўская, Т.П.Гук, У.К.Бранавіцкі, Н.Ф.Бярозка і іншыя.

Для падполля насталі цяжкія дні. Патрэбна было прымаць тэрміновыя меры. Частка людзей улілася ў партызанскія атрады, іншыя яшчэ больш заканспіраваліся. Падтрымлівалі гарадскіх патрыётаў падпольныя групы і атрады ў розных кутках раёна. Яны дзейнічалі ў вёсках Жыцькава, Вялікае Стахава, Бараўляны, Карсакавічы, Бродаўка, Лошніца, Навасёлкі, Чарневічы і ў многіх іншых.

Народным мсціўцам даводзілася дзейнічаць у надзвычай складаных умовах. Размяшчэнне ў Барысаве вялікага фашысцкага гарнізона, бесперапыннае перамяшчэнне войскаў праціўніка ў напрамку да Масквы, жорсткі акупацыйны рэжым значна ўскладнялі барацьбу падпольшчыкаў і партызан. Да складаных аператыўных абставін трэба дадаць і тое, што тэрыторыя горада і раёна перасякалася стратэгічнымі дарогамі, якія добра ахоўваліся. Неспрыяльнымі былі і геаграфічныя ўмовы. На поўдні раёна партызаны не мелі дастаткова надзейных прыродных укрыццяў, бо там адсутнічалі вялікія лясныя масівы. Такая спецыфіка раёна наклала своеасаблівы адбітак на ўвесь працэс станаўлення і развіцця партызанскай барацьбы паблізу Барысава.

На пачатку вайны некаторыя партызанскія атрады ўзнікалі пад уплывам падпольнага райкома партыі, але ў асноўным стыхійна. І каб падпольная і партызанская барацьба стала больш арганізаванай, Беларускі штаб партызанскага руху на акупіраваную тэрыторыю Барысаўшчыны накіраваў некалькі атрадаў, у склад якіх



*І.Папоў і М.Мядзель, павешаныя гітлераўцамі ў Барысаве восенню 1942 г.*

уваходзілі кадравыя разведчыкі, спецыялісты па абсталяванні аэрадромаў, сувязісты, радысты, падрыўнікі, іншыя спецыялісты. Яны вучылі мясцовае насельніцтва граматна весці барацьбу з фашыстамі, аб'ядноўвалі разрозненыя групы, каардынавалі дзеянні партызан з камандаваннем Чырвонай арміі.

Зімой 1942 г. на поўнач раёна з-за лініі фронту прыбыла група «Бывалыя» на чале з П.Р.Лапаціным, бліжэй да вясны — групы С.Н.Далганава, К.В.Сідзякіна. Дзейнічалі таксама мясцовыя атрады, створаныя восенню 1941 г.

У жніўні 1942 г. у паўночнай частцы раёна сфарміраваліся 2 партызанскія брыгады «Дзядзькі Колі» і «Стары». Іх камандзірамі становяцца адпаведна Пётр Рыгоравіч Лапацін (Дзядзька Коля) і Васіль Сямёнавіч Пыжыкаў (Стары).

Сотні барысаўчан уліліся ў створаныя брыгады, сталі актыўнымі змагарамі з фашысцкімі захопнікамі.

11 жніўня 1942 г. ЦК КП(б)Б зацвердзіў Барысаўскі міжраённы партыйны цэнтр у складзе барысаўчаніна палкоўніка П.А.Жуковіча (кіраўнік), В.С.Пыжыкава і П.Ф.Смірнова. Партцэнтр дыслацыраваўся каля возера Палік на хутары Старына і кіраваў партызанскім рухам у паўночных частках Барысаўскага і Смалявіцкага раёнаў, а таксама ў Бягомльскім, Лагойскім, Крупскім, Плешчаніцкім, Халопеніцкім раёнах. Барысаўскія партызаны мелі сваю радыёстанцыю, якая звязвала іх са штабам партызанскага руху.

На поўдні раёна значную работу па разгортванні партызанскага руху з пачатку вайны праводзілі тыя, хто застаўся ў падполлі: сакратар Мінскага абкома КП(б)Б І.Л.Сацункевіч, інструктар Барысаўскага райкома партыі М.П.Прусак, а таксама Н.Л.Гайдук, А.І.Сярмяжка, Ф.В.Юданаў, В.К.Дзяруга, А.М.Базілевіч. Яны стварылі сетку падпольных



*Удзельнікі Барысаўскага падполля ў час традыцыйнай сустрэчы. 1964 г.*


П.А.Жуковіч.

груп у гэтым рэгіёне. Партыйнае кіраўніцтва ў паўднёва-ўсходняй частцы Мінскай вобласці, куды ўваходзіла частка Барысаўскага раёна, ускладалася на Мінскі міжрайком КП(б)Б, які таксама быў зацверджаны 11 жніўня 1942 г. Але з-за складанасці становішча распачаў работу толькі ў кастрычніку 1942 г. Падпольная і партызанская барацьба супраць акупантаў набыла цяпер больш арганізаваны і мэтанакіраваны характар.

Летам 1942 г. на тэрыторыі Барысаўскага раёна дзейнічала 16 добра аснашчаных атрадаў, у якіх налічвалася каля 1500 чалавек, а да восені іх было ўжо 22, і ў іх налічвалася 2300 узброеных байцоў. Акрамя таго, шмат патрыётаў знаходзілася ў рэзерве.

У кастрычніку 1942 г. створана першае буйное фарміраванне на поўдні раёна — брыгада «Разгром».

Кіраўніцтва партызанскім рухам ставіла перад партызанамі і падпольшчыкамі задачы вялікай аператыўнай важнасці: паралізоўваць работу транспарту праціўніка на чыгунцы Мінск — Масква, узмацняць удары па аўтадарозе, якая праходзіць паралельна, а таксама на камунікацыях, якія звязваюць Барысаў з Беразіном, Чэрвенем, Бягомлем, Халопенічамі, Плешчаніцамі, Лепелем, зрываць перавозкі ваенных грузаў.

І народныя мсціўцы адказвалі справамі. Толькі ў 1942 г. у раёне здзейснена больш за 300 нападаў з засад, спалена і ўзарвана 185 мастоў, неаднаразова пашкоджвалася чыгунка.

Да восені 1942 г. склаліся зоны партызанскага дзеяння: на поўначы раёна Барысаўска-Бягомльская, на поўдні Мінска-Чэрвеньская.

Барысаўска-Бягомльская зона займала плошчу каля 6 тыс. км², яна ўключала ў асноўным вызваленыя ад акупантаў Барысаўскі, Бягомльскі, Крупскі, Лагойскі, Плешчаніцкі, Халопеніцкі, частку Смалявіцкага і іншых раёнаў.

На яе тэрыторыі дзейнічала 10 брыгад і 8 самастойных атрадаў, у якіх налічвалася 10 500 партызан. Недалёка ад возера Палік, каля хутара Старына, размяшчаліся кіруючыя партыйныя і камсамольскія органы, штабы некаторых брыгад.

Тэрыторыя Мінска-Чэрвеньскай зоны складала каля 4 тыс. км². Тут дзейнічалі 46 атрадаў (9513 партызан).

Ужо ў 2-й палове 1942 г. пад самым Мінскам і Барысавам стварылася велізарная зона, якая поўнасцю кантралявалася 80 партызанскімі атрадамі колькасцю больш за 24 тыс. чалавек. З іх у межах Барысаўскага раёна пастаянна дзейнічалі 24 атрады, якія налічвалі 5650 партызан, каля 3 тыс. знаходзілася ў баявым рэзерве.

Інтэнсіўныя баявыя дзеянні партызан на стратэгічных камунікацыях праціўніка ў

шырокім маштабе пачалі разгортвацца з 2-й паловы 1942 г. Гэта выцякала са спецыфічных цяжкасцей і асаблівасцей развіцця партызанскага руху ў зонах, асабліва на поўдні раёна. Па-першае, з 1941 г. да вясны 1942 г. ішоў працэс станаўлення партызанскіх фарміраванняў. Па-другое, у гэты час ішла барацьба па ачышчэнні тэрыторыі ад гітлераўскіх гарнізонаў і іх акупацыйнай адміністрацыі. Па-трэцяе, баявую дзейнасць партызан стрымліваў востры дэфіцыт узрыўчаткі і падрыхтаваных кадраў падрыўнікоў. Партызаны атрада І.А.Яраша, напрыклад, варожыя эшалоны скідвалі пад адхон шляхам разбору чыгуначнага палатна інструментамі, якія выкоўваліся ў кузні Стара-Барысава.

Створаныя партызанскія атрады і брыгады ў 1942 г. набраліся вопыту, загартаваліся ў барацьбе з ворагам, пачалі дзейнічаць больш рашуча, здзяйснялі ўсё больш дзёрзкіх аперацый супраць акупантаў. Групы падрыўнікоў усё часцей выходзілі на чыгунку і дасягалі поспеху. Восеньскай парой 1942 г. партызаны брыгады «Дзядзькі Колі» і імя Кірава паспяхова правялі аперацыі па разгроме варожых гарнізонаў у мястэчках Зембін, Плешчаніцы, у вёсках Рагатка, Забашавічы, Вяляцічы, Глівін, Кішчына-Слабада, Жыцькава, Вялікае Стахава і ў іншых населеных пунктах, ачышчаючы паступова паўночную тэрыторыю раёна ад фашыстаў. Да восені 1942 г. народныя мсціўцы адваявалі ў захопнікаў амаль 80% усёй тэрыторыі раёна, як і ў сумежных Бярэзінскім і Чэрвеньскім раёнах. Гарнізоны праціўніка змаглі ўтрымацца толькі ў Барысаве, Беразіне і Чэрвені.

Гітлераўцы не маглі змірыцца з тым, што паблізу Барысава стварыліся 2 партызанскія зоны, а ў большасці населеных пунктах па сутнасці аднавілася савецкая ўлада. Яны напраўлялі супраць партызан дзесяткі карных экспедыцый, дарогі аб'яўлялі забароннымі зонамі, на трасах размяшчалі воінскія гарнізоны, будавалі фартыфікацыйныя ўмацаванні (доты, дзоты і г.д.). Толькі ў 1941—1942 гг. супраць барысаўскіх партызан было праведзена 6 буйных карных экспедыцый «Прыпяцкія балоты». Тым не менш народныя мсціўцы з кожным днём нарошчвалі ўдары па стратэгічных камунікацыях ворага. На працягу 1942 г. барысаўскія партызаны скінулі пад адхон больш за 100 чыгуначных эшалонаў, узарвалі каля 250 аўтамашын і разбурылі 96 км тэлеграфна-тэлефоннай лініі сувязі. У 1943 г. партызанскія фарміраванні правялі больш за 100 значных баёў з карнікамі і не далі гітлераўцам магчымасці замацавацца ў сельскай мясцовасці раёна. Асабліва моцная ўзброеная барацьба вялася ў жніўні—верасні 1943 г., калі фашысты імкнуліся захапіць сабраны сялянамі ўраджай. Сумеснымі дзеяннямі народных мсціўцаў і насельніцтва былі сарваны намеры акупантаў. Гітлераўцы не здолелі вывезці з вёсак ні збожжа, ні мяса, ні агародніны.

У Барысаўска-Бягомльскай зоне каля м. Бягомль дзейнічаў адзін з буйнейшых у Беларусі партызанскі аэрадром, які прымаў самалёты і планеры. З Вялікай зямлі дастаўляліся зброя, боепрыпасы, адзенне, медыкаменты для брыгад і атрадаў Мінскай, Віцебскай і Вілейскай абласцей. Сюды прыбывалі многія партызанскія групы, якія напраўляліся з-за лініі фронту ў розныя раёны Беларусі. Менавіта тут вядомы лётчык-

выпрабавальнік Герой Савецкага Саюза С.І.Анохін, укараціўшы трос да мінімуму, першы пачаў выкарыстоўваць планеры для вывазу параненых партызан з зоны.

Яшчэ некалькі пляцовак для прыёму самалётаў было абсталявана ў Мінска-Чэрвеньскай зоне, адкуль брыгады «Разгром», імя Шчорса, «За Савецкую Беларусь» і іншыя атрымлівалі розныя грузы. Брыгада «Разгром», напрыклад, з сакавіка па чэрвень 1944 г. атрымала з-за лініі фронту 17 ПТР, 22 кулямёты, 70 аўтаматаў, 218 тыс. штук патронаў, 320 мін, 1200 кг толу.

Партызанскія фарміраванні Барысаўшчыны пастаянна ўплывалі на стварэнне новых атрадаў у іншых раёнах і абласцях. Так, брыгады «Дзядзькі Колі», «Стары», імя Кірава некалькі разоў выдзялялі групы ў Вілейскую і Баранавіцкую вобласці.

Інтэрнацыянальнасць — характэрная рыса партызанскіх фарміраванняў. Разам з беларусамі ў іх змагалася з фашыстамі 20% прадстаўнікоў розных нацый. Так, у атрадзе «Іскра» былі байцы 26 нацыянальнасцей, у атрадзе «Штурм» — 28. Сярод народных змагароў былі антыфашысты паляк Баляслаў Рудкоўскі, іспанец Мараліс, галандзец Херыт Мульдэр, француз Жан Рабер. У брыгаду «Дзядзькі Колі» цалкам перайшла рота славакаў на чале з В.Шатарам.

Міжраённыя партыйныя цэнтры ў сярэдзіне 1943 г. свае задачы выканалі — стварылі сетку падпольных райкомаў, і рашэннем ЦК КП(б)Б былі расфарміраваны ў ліпені Барысаўскі, а ў верасні Мінскі партцэнтры. У далейшым партыйнае кіраўніцтва на Барысаўшчыне здзяйснялі ў паўночнай частцы раёна сакратар Мінскага падпольнага абкома КП(б)Б Р.Н.Мачульскі (ён жа камандзір Барысаўска-Бягомльскай зоны) і Барысаўскі гаррайком, у паўднёвай — упаўнаважаны Беларускага штаба партызанскага руху І.П.Паромчык і Чэрвеньскі РК КП(б)Б.

У партызанскіх атрадах былі створаны пярвічныя партыйныя і камсамольскія арганізацыі. На 1 студзеня 1944 г. толькі ў Барысаўска-Бягомльскай зоне налічваліся 104 партыйныя (1285 камуністаў) і 303 камсамольскія (3101 камсамолец) арганізацыі.

У атрадах і населеных пунктах рэгулярна праводзіліся сходы. Так, у 1943 г. у 100 населеных пунктах раёна прайшло 1200 сходаў. Быў арганізаваны збор сродкаў у фонд абароны: паступіла 400 тыс. руб. грашыма і аблігацыямі, 612 залатых рублёў, а таксама розных залатых і сярэбраных рэчаў.

Значную ролю ў пашырэнні партызанскай барацьбы адыграла друкаванае слова. На тэрыторыі раёна дзейнічалі 2 падпольныя друкарні, дзе выдаваліся лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, газеты «Бальшавіцкая трыбуна», «Сталинское племя», «Большевистская правда», «Народный мститель». Кіравалі друкарняй Барысаўскага міжраённага камітэта КП(б)Б і брыгад «Стары» і імя Панамарэнкі В.М.Бачароў, а друкарняй Барысаўскага гаррайкома КП(б)Б і брыгады «Дзядзькі Колі» Д.Ф.Капыткоў.

У друкарнях выходзілі таксама газеты партызанскіх брыгад з суседніх раёнаў. Падпольныя газеты і лістоўкі карысталіся ў насельніцтва папулярнасцю, яны пранікалі

ва ўсе населеныя пункты, у гарады Барысаў і Мінск. Сувязныя з гэтых гарадоў дастаўлялі паперу, фарбы, шрыфты.

Да сакавіка 1943 г. партызаны пабудавалі гарбарны завод, лазню, пральню і шавецкія майстэрні. На востраве Багун размясціўся шпіталь, начальнікам якога была Вольга Ціханаўна Бакун. З красавіка 1943 г. дзейнічала тэлефонная сувязь у радыусе 30 км.

Партызанскі рух нельга ўявіць без дапамогі яму ўсяго насельніцтва. Устанаўленню кантактаў партызан з насельніцтвам значна садзейнічала тое, што яны аказвалі сялянам дапамогу ў правядзенні палявых работ, абаранялі іх ад грабяжу і знішчэння. Таму сяляне добраахвотна здавалі сельскагаспадарчыя прадукты на партызанскія базы. У атрадзе «Бальшавік», напрыклад, было каля 20 схованішчаў, у кожным з іх знаходзілася каля 70 пудоў збожжа або бульбы. У сувязі з хуткім колькасным ростам брыгады імя Кірава ў ёй да 1 сакавіка 1943 г. былі створаны атрадныя харчовыя базы з разліку на 200 чалавек.

Многія жыхары раёна з'яўляліся сувязнымі, разведчыкамі, праваднікамі, удзельнічалі ў збудаванні абарончых умацаванняў. Восенню 1943 г. сяляне вёсак Будзенічы, Карсакавічы, Бараўляны, Сялец разам з партызанамі разбурылі каля 60 км дарог, зрабілі завалы і процітанкавыя равы.

За перыяд з 1941 г. па 1944 г. насельніцтва перадало народным мсціўцам 3 гарматы, 10 мінамётаў, 137 кулямётаў, 35 аўтаматаў, 1370 вінтовак, 193 пісталеты, 174 тыс. патронаў, каля 1000 снарадаў, шмат іншага ваеннага рыштунку, які быў схаваны жыхарамі раёна ў перыяд адступлення Чырвонай арміі.

Абапіраючыся на падтрымку падполля і мясцовага насельніцтва, а таксама на матэрыяльна-тэхнічную дапамогу, якую аказваў савецкі тыл праз 3 аэрадромы ў Бягомльскім, Чэрвеньскім і Смалявіцкім раёнах, партызанскія злучэнні пастаянна нарошчвалі ўдары па ворагу. У пачатку 1943 г. іх дзеянні значна актывізаваліся. Удары партызан па аўтамабільных і грунтавых камунікацыях ворага былі настолькі адчувальныя, што нямецкае ваеннае камандаванне забараніла сваім вайсковым часцям карыстацца дарогамі Барысаў — Беразіно, Барысаў — Чэрвень. На шашы паміж Жодзінам і Барысавам партызаны атрада «Смерць фашызму» брыгады «Стары» 12 снарадамі буйнога калібру знішчылі аўтакалону, 2 танкі, забілі каля 80 фашыстаў. 19 студзеня на шашы Барысаў — Мінск падрыўнікамі з атрада «Бура» ўзарваны 2 масты.

Буйная аперацыя па разгроме нямецкага палка, што размясціўся на адпачынак у вёсках Пруды і Барань, была выканана атрадамі брыгад імя Кірава, «Беларусь» і «Дзядзькі Колі» ў лютым 1943 г. 23 красавіка дыверсійная група атрада імя Сталіна на чыгунцы Барысаў — Мінск каля раз'езда Перамога спусціла пад адхон варожы эшалон, які ішоў на фронт. У выніку разбіта 27 вагонаў са зброяй, тэхнікай і абмундзіраваннем, забіта некалькі дзесяткаў гітлераўцаў.

У справаздачы сакратара Барысаўскага гаррайкома КП(б)Б Белісава за перыяд з 3 мая па 25 ліпеня 1943 г. гаварылася, што пад уздзеяннем партызанскіх атрадаў і з улікам

адмоўных адносін мясцовага насельніцтва да немцаў асобныя валасныя ўправы перасталі працаваць, як, напрыклад, Карсакаўская, Хаўхоліцкая. А валасныя ўправы Бродаўская, Касцюкоўская амаль кожны тыдзень мянялі сваё месцазнаходжанне.

Пад націскам партызан і ўздзеяннем прапагандысцкага слова пачалі развальвацца фашысцкія фарміраванні, якія былі створаны з мясцовага насельніцтва і ваеннапалонных, што паддаліся на варожую прапаганду. Так, з гарнізона в. Вялікая Трасцяніца ў партызанскі атрад «Буравеснік» перайшлі 12 узброеных паліцаяў, у атрад імя Кірава — неманіцкі гарнізон. У выніку работы па разлажэнні войскаў праціўніка распаўся 601-ы батальён, у брыгаду П.Р.Лапаціна перайшла група чэхаў і славакаў, у брыгаду «Разгром» — група польскіх, у брыгаду імя Шчорса — французскіх і бельгійскіх антыфашыстаў, група чэхаў і славакаў, а таксама больш за сотню стралкоў з так званай Рускай вызваленчай арміі і іншых фашысцкіх фарміраванняў.

Значную дапамогу партызанам аказвалі падпольшчыкі. Яны трымалі цесную сувязь з народнымі мсціўцамі брыгад «Дзядзькі Колі», «Разгром», імя Шчорса, імя Кірава, «Стары», імя Панамарэнкі, са спецгрупамі «Актыўныя», «Чацвёртыя», «Артур», «Жнівень», «Адважныя» і інш. Падпольшчыкі разам з партызанамі правялі шэраг буйных аперацый і дыверсій.

Рэзультатыўна дзейнічала група разведчыкаў пад кіраўніцтвам У.А.Рудака з брыгады «Дзядзькі Колі». Уладзімір Рудак вызначаўся асаблівым талентам у распрацоўцы аперацый. Адну з іх бліскуча правяла разведчыца Галіна Фінская, у выніку быў вывезены ў Маскву начальнік сувязі ВПС групы армій «Цэнтр» палкоўнік Карл Круг. Ад яго да партызан трапілі чарцяжы, сакрэтныя ўказанні і інструкцыі па радыётэлеграфнай службе гітлераўскіх войскаў (у Мінску ў 1943 г. упершыню праведзена карэкціроўка палётаў па радыёсігналах), ваенна-стратэгічныя карты, у т.л. Германіі, спісы ўсіх аэрадромаў германскай арміі, якія дзейнічалі і будаваліся, захапіў з сабой новыя канструкцыі кулямёта і праціўгаза, а таксама расказаў аб падрыхтоўцы аперацыі «Цытадэль» пад Курскам і Арлом. Карл Круг расказаў, што з 5 красавіка 1943 г. немцы сцягваюць войскі ў раён Арла, дзе будзе праведзена буйная аперацыя, было падрыхтавана каля 1000 баявых самалётаў, вялікая колькасць тэхнікі. Ён паведаміў падрабязныя звесткі аб 17 аэрадромах, якія дзейнічалі, і 15, якія будаваліся. Матэрыялы і звесткі, якія Карл Круг перадаваў савецкім разведчыкам, былі настолькі важнымі, што іх адразу ж даставілі ў Дзяржаўны камітэт абароны. Гэта было за паўтара месяца да пачатку бітвы на Курскай дузе, і савецкія войскі паспелі добра падрыхтавацца. (К.Круг застаўся жывым, напісаў кнігу «Я нашел правильный путь. — В лесах Белоруссии».)

Разведчыкі Б.П.Качан, М.А.Капшай, А.І.Ржэвуцкі пад кіраўніцтвам У.А.Рудака знішчылі каменданта Барысава палкоўніка Керынга, выкралі начальніка штаба Вільдэнмаера і начальніка 93-й дыверсійна-разведвальнай школы «Сатурн» палкоўніка Нівелінгера.


*Б.П.Качан.*


*М.А.Капшай.*


*В.І Казыра.*

Падпольшчык А.К.Бінкус, які працаваў шафёрам у шэфа камбіната «Камінтэрн» Гольдмана, заманіў яго на вечарынку, а потым захмялеўшага вывез у партызаны, за што атрымаў падзяку ад камандавання.

Партызаны атрада імя Варашылава разам з падпольшчыкамі Валянцінай Марозавай і Віктарам Шыбалкам правялі буйную аперацыю ў фашысцкай фельдкамендатуры, што размяшчалася ў памяшканні 1-й школы Барысава. Побач былі склады са зброяй, абмундзіраваннем, боепрыпасамі. Яны наладзілі сувязь з ваеннапалоннымі, якія працавалі на складах, і з іх дапамогай падклалі міны. Выбух знішчыў склады і фельдкамендатуру. Загінула каля 200 гітлераўцаў, у т.л. генерал.

Спецыяльнае заданне ваеннай разведкі Заходняга фронту выконвала падпольная група, што была арганізавана масквічкай-дэсантніцай Ганнай Куліковай. Група мела 3 рацыі, з дапамогай якіх сама Ганна або радысты Алена Францэвіч і Мікалай Фірсаў выходзілі на сувязь з Вялікай зямлёй.

Падпольшчыкі і партызаны наносілі ворагу вялікі ўрон. У выніку адной з дыверсій, якую ажыццявіў С.М.Кніга, быў узарваны ў Барысаве стратэгічны мост на аўтамабільнай магістралі. Нялёгка было знішчыць старому дарожніку, які ў 1930-я гады па пуцёўцы райкома прыйшоў на будаўніцтва шашы, тое, што ствараў сваімі рукамі. Але дзеля перамогі Сямён Мікітавіч выканаў заданне: на 2 тыдні перашкодзіў ворагу падцягваць жывую сілу і тэхніку да фронту.

Неацэнную інфармацыю атрымлівала савецкае камандаванне Заходняга фронту ад сваіх разведчыкаў, якія ўкараніліся ў фашысцкія органы ўлады. У паліцыі бяспекі працаваў сакратаром барысаўчанін Варфаламей Іванавіч Казыра. Уладкаваў яго сюды падполь-




*Былы савецкі разведчык А.І.Казлоў (на першым плане) і партызан брыгады «Дзядзькі Колі» М.С.Яраш у час традыцыйнай сустрэчы барысаўскіх партызан і падпольшчыкаў. 1984 г.*

шчык В.А.Данілаў. Шмат шыфровак пад мянушкай Сокал даслаў ён у цэнтр. Сціплага сакратара паліцыі хутка прызначылі следчым па палітычных пытаннях — магчымасці ў падпольшчыкаў пашырыліся. Праз сувязных В.Данілава і В.Тарасёнак ён перадаваў партызанам спіскі тайных агентаў паліцыі, час і месца аблавы, імены тых, хто трапіў пад падазрэнне, іншыя сакрэтныя дакументы. Яго шыфроўкі ішлі за лінію фронту да самага вызвалення. Трагічным з'явілася тое, што пасля вызвалення горада тыя, хто ведаў аб яго патрыятычнай дзейнасці, загінулі, іншыя пайшлі на фронт, а непрызыўны В.І.Казыра падвергся сталінскім рэпрэсіям. Ён быў асуджаны на 5 гадоў лагернага жыцця за «службу» ў немцаў.

Камсамолец, падпольшчык і разведчык брыгады «Дзядзькі Колі», мастак па прызванні Мікалай Капшай, выкарастаўшы ўменне пісаць партрэты і тым самым прываблiваць да сябе немцаў, устанавіў, што ў прыгарадзе Барысава, у Печах, размяшчаецца разведвальная школа абвера «Сатурн». Мэта «Сатурна» — падрыхтоўка лазутчыкаў і дыверсантаў для засылкі ў тыл Чырвонай арміі і партызанскія атрады. У школу быў укаранёны савецкі кадравы афіцэр з моцнай воляй, уменнем кантактаваць з людзьмі, распазнаваць чалавечыя характары, добра арыентавацца ў складаных умовах. Ён быў адукаваным камандзірам, добра ведаў нямецкую мову, бо рос у Паволжы сярод дзяцей паволжскіх немцаў. Некалькі імён было ў гэтага чалавека: па савецкіх дакументах — Аляксандр Іванавіч Казлоў, па дакументах, выдадзеных яму кіраўніцтвам школы «Сатурн», — Аляксандр Меншыкаў, а калі выходзіў у эфір ці перасылаў звесткі савецкаму камандаванню, называў сябе «Байкал-61». Пасля заканчэння школы А.Казлова прызначылі выкладчыкам, а з 1943 г. — намеснікам начальніка школы па вучэбнай частцы. Два гады ён знаходзіўся ў фашысцкім

логаве сярод хітрага і каварнага ворага. Выходзіць на сувязь з падпольшчыкамі было небяспечна. Да таго ж тыя самі хацелі знішчыць Казлова як здрадніка (гэта было даручана зрабіць Івану Баравулю), але на шчасце ім не ўдалося ажыццявіць свой план. Аляксандр Іванавіч знайшоў выйсце ў гэтай няпростай сітуацыі. Яму дапамагла Люба Матусевіч, маладая жанчына з в. Печы, якая працавала ў разведшколе поварам. Яна адносіла шыфроўкі, перадавала каштоўную інфармацыю ў надзейныя рукі патрыётаў. А.Казлову ў школе даводзілася перавярбоўваць людзей, шукаць тых, каму можна было даверыцца, хто змог бы перадаваць на Вялікую зямлю звесткі аб школе, аб яе дзейнасці. У гэтым была вялікая рызыка, аднак усе ж удавалася знайсці такіх людзей. Двойчы як нямецкі рэзідэнт пабываў у тыле Чырвонай арміі; звязваўся з чэкістамі, перадаваў важныя звесткі. За гады службы ў «Сатурне» ім было нейтралізавана 127 фашысцкіх агентаў. Выдатна заканспіраваны, ён даслужыўся да звання обер-лейтэнанта, быў узнагароджаны крыжам мечаносцаў I ступені. За заслугі перад сваёй радзімай А.І.Казлоў удастоены савецкім камандаваннем некалькіх дзяржаўных узнагарод. Ён ганаровы грамадзянін Барысава.

Былыя ваеннаслужачыя А.Варыгін, А.Іваноў, барысаўчанін Дз.Кішкурна працавалі ў арганізацыі, дзе афармлялі шыльды. Яны пабывалі там, дзе не кожнаму даводзілася быць: у ваенных гарадках, на палігоне, аэрадроме, у воінскіх часцях. Яны бачылі нямецкія пражэктарныя ўстаноўкі, склады з гаручым і боепрыпасамі, перадыслакацыю воінскіх часцей і г.д. Вечарамі падпольшчыкі састаўлялі данясенні, малявалі планы і перадавалі праз М.Прырыза і Г.Пушкіну ў аператыўную групу 2-га Беларускага фронту.

Зімой і вясной 1943 г. партызаны вялі жорсткія баі з акупантамі за выхад да чыгункі. З гэтай мэтай яны грамілі варожыя гарнізоны і ачышчалі подступы. Так, з поўдня партызанская зона падыходзіла да Барысава, пад кантролем партызан знаходзіліся нават прыгарадныя вёскі Глівін, Дубовы Лог, Вераскі, Перасады і інш. У перыяд бітвы пад Курскам партызаны Барысаўшчыны сваімі трапнымі дзеяннямі на чыгунках аказалі значную дапамогу Чырвонай арміі. Пад час аперацый «Рэйкавая вайна» і «Канцэрт» у жніўні — верасні 1943 г. барысаўскія партызаны ўзарвалі больш за 6 тыс. рэек, разбурылі 30 км палатна, паралізавалі рух чыгуначнага транспарту ворага на тэрмін ад 2 да 10 сутак амаль на 100-кіламетровым шляху. Яшчэ больш адчувальнымі ўдары па чыгуначных камунікацыях праціўніка наносілі партызаны Барысаўшчыны перад наступленнем Чырвонай арміі: рух транспарту на лініі Мінск—Барысаў быў амаль поўнасцю паралізаваны да вызвалення Мінскай вобласці.

Партызаны Барысаўска-Бягомльскай зоны ў сваім рапарце 6-й сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі пісалі: «... толькі за апошнія 5 месяцаў пусцілі пад адхон 201 варожы эшалон, пры гэтым разбіта 166 цягнікоў, 443 вагоны з жывой сілай, 337 вагонаў з розным ваенным грузам».

Ні ноччу ні днём не было фашыстам спакою. У адной са справаздач СД напісана: «У Барысаўскім раёне партызаны поўнасцю кантралююць становішча і ўстанавілі ўсе

савецкія парадкі на вялікай тэрыторыі ў раёне возера Палік. Пранікненне немцаў у гэтыя раёны без буйных узброеных сіл немагчыма». У справаздачы ад 19 лютага 1943 г. канстатавалася: «У апошні час бандыты актывізавалі дзейнасць на шашы Мінск — Барысаў, праезд па дарозе стаў небяспечным. Напады адбываюцца паблізу ад Барысава. Паводле звестак, бандыцкае злучэнне пад кіраўніцтвам савецкага генерала рухаецца на захад, дзе рыхтуецца вялікая акцыя ў Барысаве».

Тройчы фашысцкія акупанты спрабавалі пранікнуць у партызанскія зоны і насадзіць там свае гарнізоны, пазбавіць партызанскія брыгады аператыўнай прасторы, паралізаваць іх дзеянні, а потым загнаць у балоты і знішчыць. «Малым Ленінградам» называлі гітлераўцы партызанскі край каля возера Палік на поўнач ад Барысава.

Рыхтуючыся да наступлення на Арлоўска-Курскім напрамку, фашысцкае камандаванне патрабавала ад акупацыйных і ахоўных фарміраванняў любымі сродкамі навесці «парадак» у сваім тыле. У сувязі з гэтым у сакавіку — красавіку, а затым у маі — чэрвені 1943 г. супраць партызан Барысаўска-Бягомльскай зоны была выстаўлена 40-тысячная ўзброеная армія, танкі, артылерыя, самалёты для правядзення карных аперацый з цынічнымі назвамі «Вясна», «Вясна — Поўдзень», «Вясна — Поўнач» і «Котбус». Але партызанская разведка і на гэты раз добра спрацавала, і камандаванне пазбегла франтальных баёў, рабіла абыходныя манеўры, партызаны нападалі на карацеляў з флангаў і тылу. Дзякуючы такой тактыцы за 2 месяцы баёў партызаны пры нязначных стратах знішчылі каля 2 тыс. гітлераўскіх салдат і афіцэраў, 15 танкаў, 70 аўтамашын, 2 самалёты, 2 бронемашыны. Дыверсійныя групы за гэты перыяд падарвалі 43 варожыя эшалоны.

У самы напружаны перыяд падрыхтоўкі і пачатку вясенне-летняга наступлення Чырвонай арміі ў Беларусі партызаны Барысаўшчыны разам са злучэннямі абедзвюх зон адцягвалі на сябе звыш 100 тыс. салдат і афіцэраў праціўніка, значную колькасць авіяцыі, артылерыі, танкаў.

Мужна змагаліся партызаны паўночнай зоны, але не здолелі стрымаць шматтысячнае варожае войска, якое ўдзельнічала ў аперацыі «Баклан». У пачатку чэрвеня карнікі пачалі цясніць брыгады ў балоты каля возера Палік. На невялікай тэрыторыі апынуліся ў блакадзе партызанскія брыгады «Жалязняк», «Народныя мсціўцы», «Смерць фашызму», імя Панамарэнкі, «Дзядзькі Колі», імя Кірава і многія іншыя, а таксама атрады, спецгрупы. З 7 на 8 чэрвеня 1944 г. ударныя групы брыгад «Народныя мсціўцы», «Жалязняк» і спецатрада Іванова прарвалі блакаду паміж вёскамі Жардзяты і Акалова, выйшлі ў свае раёны, наносячы ўдары па тылах ворага.

15 чэрвеня ў раёне вёсак Макаўе і Холмаўка пайшлі на прарыў партызаны брыгад імя Калініна, імя Кутузава, «Бальшавік», імя Фрунзе, «Смерць фашызму», спецатрад І.Ф.Залатара і інш. Народныя мсціўцы вырваліся з блакады, хоць і панеслі значныя страты. У блакадзе заставаліся брыгады «Дзядзькі Колі», імя Кірава, імя Панамарэнкі, 2 атрады


*П.Р.Лапацін.*


*М.Г.Мармулёў.*

брыгады «Смерць фашызму» і некалькі брыгад з іншых зон. Там жа быў штаб Барысаўска-Бягомльскай зоны. Становішча было вельмі цяжкае: людзі суткамі сядзелі ў балоце, канчаліся запасы прадуктаў і медыкаментаў. Але партызаны ўпарта супраціўляліся адборным фашысцкім падраздзяленням.

23 чэрвеня 1944 г. пачалася наступальная аперацыя Чырвонай арміі пад кодавай назвай «Баграціён», і фашысты знялі блакаду. За 37 дзён гераічнага змагання паводле звестак, якія накіроўваліся ў БШПР, партызаны Барысаўска-Бягомльскай зоны знішчылі 6300 і ранілі каля 5 тыс. гітлераўцаў, падбілі і спалілі 27 танкаў і бронетранспарцёраў, 6 гармат, 9 мінамётаў і 125 аўтамашын. Але ў гэтых жорсткіх баях загінулі тысячы нашых людзей — партызан і партызанак, іх родных і блізкіх, жыхароў навакольных вёсак, у тым ліку дзяцей.

Больш за месяц адбіваліся ад 35-тысячнай варожай групоўкі народныя мсціўцы паўднёвай зоны. Актыўна дзейнічала брыгада «Разгром». 1 ліпеня яе камандаванне радзіравала БШПР і штабу 3-га Беларускага фронту аб тым, што атрады брыгады не дапусцілі праціўніка ў партызанскую зону і перарэзалі ўсе дарогі да адыходу фашыстаў. Партызаны гэтага злучэння знішчылі 133 гітлераўцаў і захапілі ў палон 122.

У ліпені 1944 г. скончылася партызанская вайна — прыйшло доўгачаканае вызваленне. За гады гераічнага змагання з гітлераўскім нашэсцем было ўсё: і горыч паражэння, і радасць перамог.

За трохгадовы перыяд партызанскай барацьбы толькі тымі брыгадамі і атрадамі, якія дыслацыраваліся пастаянна ў Барысаўскім раёне («Дзядзькі Колі», «Стары», імя Кірава, імя Панамарэнкі, імя Шчорса, «Разгром», імя Суворава, «Артур»), узарвана 570

чыгуначных эшалонаў, 4 бронепаязды, 322 масты, разбурана амаль 60 км чыгуначнага палатна, разгромлена 28 варожых гарнізонаў, падарвана і спалена каля тысячы аўтамашын, знішчана некалькі дзесяткаў тысяч гітлераўцаў.

Урад высока ацаніў дзейнасць партызан Барысаўшчыны. Камандзіры брыгад «Дзядзькі Колі» і «Буравеснік» Пётр Рыгоравіч Лапацін і Міхаіл Глебавіч Мармулёў, разведчыца брыгады «Дзядзькі Колі» Надзея Віктараўна Траян, камандзір атрада «Гром» Фёдар Фёдаравіч Азміцель і камандзір спецатрада НКДБ «Дапамога» Барыс Лаўрэнцьевіч Галушкін сталі Героямі Савецкага Саюза. Сотні народных мсціўцаў узнагароджаны баявымі ордэнамі і медалямі.

Але ж шмат барысаўчан не дажылі да радасных дзён перамогі. Загінулі ў партызанах П.А.Жуковіч, Л.І.Чалоўская, Б.П.Качан, А.І.Ржэвуцкі, І.М.Зялёнка, М.С.Галкоўская, браты Вікенцій і Канстанцін Драніцы, У.В.Самцэвіч і многія іншыя.

## Вызваленне

У канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1944 г. савецкія войскі ў час правядзення Мінскай наступальнай аперацыі (састаўная частка аперацыі «Баграціён») вызвалілі Барысаў і Барысаўскі раён ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

28 чэрвеня сваімі перадавымі часцямі войскі 3-га Беларускага фронту выйшлі да Бярэзіны. Фарсіраванне ракі і вызваленне Барысава, які быў ператвораны фашыстамі ў моцны цэнтр абароны, з'яўляліся важным этапам аперацыі па вызваленні Мінска.

Камандаваў 3-м Беларускім фронтам генерал арміі Герой Савецкага Саюза І.Д.Чарняхоўскі, членам ваеннага савета фронту быў генерал В.Е.Макараў, начальнікам штаба фронту генерал А.П.Пакроўскі. Маршал Савецкага Саюза А.М.Васілеўскі ад імя Стаўкі Галоўнакамандуючага каардынаваў дзеянні 3-га Беларускага і 1-га Прыбалтыйскага франтоў.

Асноўны цяжар у вызваленчых баях на бярэзінскім рубяжы лёг на 11-ю гвардзейскую (камандуючы генерал-лейтэнант К.М.Галіцкі), 5-ю (камандуючы генерал-лейтэнант М.І.Крылоў) і 31-ю (камандуючы генерал-лейтэнант В.В.Глаголеў) арміі.

Наперадзе гэтых войскаў ішлі 5-я гвардзейская танкавая армія маршала бранятанкавых войскаў П.А.Ротмістрава, 2-і гвардзейскі Тацынскі танкавы корпус генерал-маёра А.С.Бурдзейнага, а таксама конна-механізаваная група генерал-лейтэнанта М.С.Аслікоўскага. З паветра дзеянні наземных войскаў прыкрывала 1-я паветраная армія генерал-палкоўніка Ц.Ц.Хрукіна.

Барысаўшчыну вызвалялі 3 танкавыя, 1 механізаваны, 1 кавалерыйскі і 9 стралковых карпусоў, у якія ўваходзілі 10 танкавых, 5 мотастралковых брыгад, 8 асобных самаходна-артылерыйскіх палкоў, 3 кавалерыйскія і 28 стралковых дывізій, усяго больш за 50 дывізій і брыгад. Ім дапамагалі некалькі дзесяткаў партызанскіх атрадаў і брыгад. І хоць

колькасць савецкіх войскаў была значнай, не так проста было адбіць у гітлераўцаў нашу зямлю. Вораг сканцэнтраваў у раёне Барысава шмат сваіх войскаў і тэхнікі.

Нямецкае камандаванне надавала вялікае значэнне Бярэзіне як важнаму рубяжу абароны пасля Дняпра і Заходняй Дзвіны. Планавалася адвесці на правабярэжжа свае сілы, замацавацца і аднавіць цэласнасць фронту. Гітлераўцы загадзя зрабілі на правым беразе ракі ўглыб на 8—10 км 2—3 лініі траншэй, пляцоўкі для кулямётаў, мінамётаў і гармат, прыкрыўшы іх міннымі палямі і 2—3 радамі калючага дроту. Пойма ракі прастрэльвалася ўсімі агнявымі сродкамі, якія асабліва шчыльна размяшчаліся на ўчастках, дзе былі пераправы ці зручныя падыходы да ракі. Улічваючы надзвычай важнае стратэгічнае значэнне Барысава, Гітлер сваім загадам абвясціў яго разам з іншымі гарадамі Беларусі крэпасцю з асобым статусам. Сюды падцягнулі некалькі дывізій, у бой уводзіліся ахоўныя, тылавыя, паліцэйскія і спецыяльныя часці. Барысаў і яго ваколіцы — Зембін, Весялова, Вялікая Ухалода, Чэрнеўка і іншыя пункты — былі ператвораны ворагам у апорныя вузлы абароны. У раёне Нова-Барысаў — Глівін на дзотах былі ўстаноўлены бронекаўпакі з таўшчынёй брані 7 см.

Становішча ўскладнялася тым, што савецкім войскам трэба было наступаць па адкрытай мясцовасці, а праціўнік засеў ва ўмацаваных збудаваннях. Выкарыстоўваючы зручны і добраўмацаваны рубеж, ён разлічваў спыніць тут наступленне савецкіх войскаў і таму быў гатовы ўпарта супраціўляцца. Савецкае камандаванне ўсё гэта ўлічвала і вяло старанную падрыхтоўку. Было прынята рашэнне аб аднačасовым наступленні на ўсім участку фронту ад возера Палік да в. Чэрнеўка. Спешна рыхтаваліся падручныя сродкі, адпрацоўваўся план фарсіравання ракі і навядзенні пераправаў.

У паўночнай частцы Барысаўскага раёна, каля возера Палік, паспяхова дзейнічаў механізаваны корпус гвардыі генерал-маёра танкавых войскаў В.Ц.Абухава: ужо 28 чэрвеня ён фарсіраваў водную перашкоду і рушыў на Маладзечна. За гэтыя баі В.Ц.Абухаву было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Вялікую дапамогу савецкім воінам аказвалі мясцовыя жыхары і партызаны. Яны паказвалі перадавым часцям найбольш зручныя шляхі наступлення, паведамлялі важныя звесткі аб размяшчэнні атрадаў ворага. Партызаны скавалі рэзерв гітлераўскага камандавання. 391, 201, 221-я ахоўныя дывізіі вымушаны былі весці баі з народнымі мсціўцамі, раскідаўшы свае часці на вялікай тэрыторыі. Спробы нямецкага камандавання арганізаваць сіламі гэтых дывізій контрудар праваліліся. Войскі Чырвонай арміі знішчалі іх па частках. Для захопу пераправаў былі высланы перадавыя атрады савецкіх войскаў у складзе ўмацаваных батальёнаў. Ад 35-й гвардзейскай танкавай брыгады ў перадавым атрадзе дзейнічаў 1-ы танкавы батальён з ротай аўтаматчыкаў. Да зыходу дня вызвалілі вёскі Масцішча і Траянаўка. Раніцай 28 чэрвеня атрад фарсіраваў Сергучоўскі канал і выйшаў да Бярэзіны. Бронетранспарцёр капітана С.Г.Прохарава сустрэўся з партызанамі брыгады «Жалязняк», салдаты і партызаны разам пачалі будаваць пераправы. Усімі работамі асабіста кіраваў камандзір

35-й брыгады Герой Савецкага Саюза генерал-маёр А.А.Асланаў. У якасці маставых апор былі затоплены 3 танкі. Такая пераправа аказалася трывалай, і тэхніка прайшла без затрымак, а затопленыя танкі потым выцягнулі з ракі і ўвялі ў бой. Камандзір брыгады з невялікай групай аўтаматчыкаў на машынах з дзвюма процітанкавымі гарматамі і з трыма танкамі, не затрымліваючыся на пераправах, працягвалі наступленне на заходнім беразе ракі. Арганізаваўшы ўзаемадзеянне з партызанамі брыгад «Дзядзькі Колі» і «Народныя мсціўцы», Асланаў павёў наступленне ў напрамку вёсак Мсціж і Прылепы, а раніцай 30 чэрвеня нечаканым ударам вызваліў Плешчаніцы.

А тым часам перадавы атрад 8-й гвардзейскай механізаванай брыгады вызваліў Зембін, куды потым ноччу прыбылі галоўныя сілы брыгады і стварылі пагрозу выхаду ў тыл барысаўскай групоўкі немцаў. Ва ўзаемадзеянні з брыгадамі 3-га гвардзейскага механізаванага корпуса палкі 144-й стралковай дывізіі і 5-й арміі 28 чэрвеня ў в. Клетнае сустрэліся з партызанамі брыгады імя Панамарэнкі і ўжо разам выйшлі зручнымі сцежкамі, якія ведалі партызаны, да возера Палік, навялі пераправу і паспяхова фарсіравалі возера і Бярэзіну, развіваючы наступленне на Мсціж і перакрыўшы вельмі важную для гітлераўцаў ракаду (дарогу ўздоўж лініі фронту) на Барысаў. У той жа час 8-я гвардзейская механізаваная брыгада з корпуса В.Ц.Абухава сумесна з 371-й стралковай дывізіяй 5-й арміі авалодала ўмацаванымі пунктамі Бараўляны, Лісіно, Завіднае.

5-я кавалерыйская дывізія 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса з ходу ўрэзалася ў рады праціўніка. Немцы баяліся ўдалых кавалерыйскіх атак. Разгубіўшыся пад націскам коннагвардзейцаў, яны не паспелі арганізаваць абарону. І як вынік — разгромлена адборная часць гітлераўцаў.

У в. Весялова бяспрыкладны подзвіг здзейснілі кавалерысты 121-га палка 32-й гвардзейскай кавалерыйскай дывізіі, якой камандаваў генерал Калюжны. Каля ракі камандзір процітанкавай гарматы старшы сяржант М.М.Нарган сустрэў моцнае супраціўленне ворага. На яго пазіцыю рухалася 6 нямецкіх танкаў. Разгарэўся няроўны жорсткі бой, у якім загінуў увесь баявы разлік. Двойчы паранены камандзір працягваў упарта змагацца. Артылерысты падбілі 4 танкі і спынілі націск фашыстаў: стала магчымым фарсіраваць Бярэзіну асноўнымі сіламі палка. За гэты подзвіг М.М.Наргану прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Такога ж звання быў удастоены і камандзір узвода коннагвардзейцаў лейтэнант Аляксандр Герман. У гэтыя дні вызначылася ў баях рота самаходных установак 328-га цяжкага палка 5-й танкавай арміі. Камандзір роты старшы лейтэнант Аляксандр Касмадзям'янскі быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны I ступені.

На поўдзень ад Барысава, ад в. Вялікая Ухалода да в. Чэрнеўка, вялі наступленне войскі 31-й арміі. Разам з танкістамі 3-га гвардзейскага Кацельнікаўскага корпуса воіны 192-й і 331-й стралковых дывізій (камандзіры А.М.Кавалеўскі і П.Ф.Берастаў) вялі баі па захопе плацдармаў на заходнім беразе ракі і навядзенні пераправаў для танкаў і тэхнікі. У адным з баёў праціўнік страціў 19 танкаў. На гэтым участку вызначыўся камандзір батальёна

самаходных установак 192-й стралковай дывізіі П.Ф.Кляпач. Выйшаўшы ў тыл праціўніка на паўднёвых ускраінах Нова-Барысава яго батальён захапіў шашу Мінск — Масква ў раёне пасёлка Печы, зрабіў затор з падбітых машын, рассеяў адступленне фашыстаў па лесе, адбіў некалькі атак, знішчыў сотні фашыстаў. Камандзір агнявога ўзвода артылерыйскай батарэі з гэтай жа дывізіі старшына І.Н.Кудзін, перабраўшыся на правы бераг, карэкціраваў артылерыйскі агонь, а калі пераправілі яго гармату, сам знішчыў некалькі дзесяткаў гітлераўцаў, некалькі танкаў і агнявых кропак праціўніка. У гэты ж час вызначыліся яго аднапалчане — аўтаматчык С.А.Федарэнка і стралок С.Р.Саннікаў. Пераплыўшы раку, кожны з іх агнём забяспечваў пераправу сваіх таварышаў. Гэтыя байцы сталі Героямі Савецкага Саюза.

У в. Навасёлкі вызначыліся воіны 220-й стралковай дывізіі 31-й арміі. Пад моцным агнём праціўніка яны на падручных сродках уплаў фарсіравалі раку, замацаваліся на правабярэжжы, а затым адкінулі гітлераўцаў на значную адлегласць.

Напружаная абстаноўка склалася каля вёсак Малая і Вялікая Ухалода, на маршруце руху 19-й гвардзейскай танкавай брыгады і 1436-га самаходна-артылерыйскага палка. Узначальваў передавы атрад, у якім налічвалася 10 сярэдніх танкаў, 3 самаходна-артылерыйскія ўстаноўкі і 3 палявыя гарматы, камбрыг гвардыі палкоўнік Г.А.Пахадзееў. Раніцай 29 чэрвеня яго атрад заняў кругавую абарону ў лесе на поўнач ад в. Вялікая Ухалода. Хутка пачаўся абстрэл пазіцый атрада немцамі. Па сігнальных ракетах, якія вораг стаў часта пускаць, гвардзейцы зразумелі, што знаходзяцца ў самым логаве фашыстаў. На працягу ўсяго дня і ночы пахадзееўцы адбілі шмат атак праціўніка, сілы якога былі значна большымі.

Баі былі жорсткія, немцы не адступалі, а ў перадавога атрада канчаліся боепрыпасы. Рокат матораў, выстралы гармат, стракатанне кулямётаў, лязганне гусеніц — усё злівалася ў гэтай напружанай бітве. У няспынных схватках немцы страцілі 13 баявых машын, гвардзейцы — 3 танкі і 2 самаходкі. Асабліва вызначыліся ў гэтай бітве Г.А.Пахадзееў, старшы лейтэнант Лугавы, капітаны Кудзінаў і Буліч, лейтэнанты Дарашэнка і Абанін.

Калі падаспелі аўтаматчыкі да пераправы, мост фашысты ўзарвалі, і Бярэзіну прыйшлося фарсіраваць на плытах і ўплаў. Пры гэтым вызначыліся камсорг батальёна М.Касалапаў, Абахін, Ходыраў і іншыя. Яны захапілі плацдарм на левым беразе і нечакана атакавалі ворага. Фашысты не вытрымалі, здалі свае пазіцыі і не затрымаліся ва ўмацаваных траншэях. Аўтаматчыкі пайшлі далей. А на Бярэзіне каля в. Ухалода пачалася пераправа артылерыі, мінамётаў і танкаў.

Напружаныя абставіны склаліся каля пераправы побач з в. Чэрнеўка. Тут змагаліся 1-ы асобны гвардзейскі матацыклетны полк 5-й гвардзейскай танкавай арміі на чале з маёрам С.І.Штольбергам, часці 2-га гвардзейскага Тацынскага танкавага корпуса і 352-я стралковая дывізія 31-й арміі. Вечарам 29 чэрвеня яны выйшлі да Бярэзіны. 600-метровы мост фашысты абаранялі на абодвух берагах. Ён быў замініраваны, на ім стаялі бочкі з

гаручым. Галаўныя танкі завязалі бой з усходняй аховай і знішчылі яе. Убачыўшы, як хутка наступаюць савецкія часці, немцы ўзарвалі заходнюю частку моста. Аддзяленне сапёраў сяржанта Я.В.Анісімава кінулася ў агонь, патушыла яго і ўзялося рамантаваць мост. У гэты час аддзяленне сяржанта Я.А.Бікбава, пераабраўшыся на процілеглы бераг, выбіла праціўніка з дотаў. Пад кіраўніцтвам капітана Б.В.Аўчыннікава сапёры за кароткі час аднавілі мост. Па пойме праклалі каляіну з падручнага матэрыялу, і баявая тэхніка пайшла далей на захад. Усім тром камандзірам за выратаванне моста было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

28—29 чэрвеня 1944 г. на поўнач і на поўдзень ад горада савецкія войскі фарсіравалі Бярэзіну і хутка развівалі наступленне на Мінскім напрамку.

Генерал А.С.Бурдзейны ўспамінаў, што паспяховаму наступленню корпуса праз лясіста-балоцістую мясцовасць ад Бярэзіны да Смалявіч садзейнічалі партызаны брыгад 1-й Мінскай і імя Шчорса, а таксама мясцовае насельніцтва. Яны разміціравалі ўсе дарогі, расчысцілі завалы, аднавілі разбураныя масты і гаці, ад іх танкісты атрымалі звесткі аб праціўніку.

Цэнтральную частку раёна і горад Барысаў вызвалялі войскі 11-й гвардзейскай і 31-й агульнавайсковых армій, а таксама 5-й гвардзейскай танкавай арміі. Часці 11-й гвардзейскай арміі займалі 50-кіламетровы фронт ад возера Палік да в. Навасёлкі. Перадавыя атрады 1, 26, 31, 83-й гвардзейскіх стралковых дывізій, зламаўшы супраціўленне ворага на сваіх участках, з баямі выйшлі да Бярэзіны. Інжынерна-сапёрныя падраздзяленні хутка навялі пераправы. У 17 гадзін 29 чэрвеня армейскія часці пачалі фарсіраванне ракі. Гітлераўцы ўсімі сіламі імкнуліся сарваць пераправу. Яны паднялі ў паветра каля 100 самалётаў, аднак савецкая авіяцыя збіла 22 і не прапусціла іх да пераправы. Многія палкі позна вечарам былі ўжо поўнасцю на заходнім беразе і працягвалі наступленне. Часці 16-га гвардзейскага стралковага корпуса фарсіравалі р. Гайна і да 2 гадзін 1 ліпеня авалодалі моцным апорным пунктам в. Ляхаўка. Адной з першых фарсіравала Бярэзіну 1-я гвардзейская Пралетарская Маскоўская дывізія, якая гераічна змагалася на бярэзінскіх рубяжах яшчэ ў пачатку вайны. У вызваленчай аперацыі камандаваў дывізіяй барысаўчанін Павел Фёдаравіч Тоўсцікаў, які пазней, за штурм Кёнігсберга, быў удастоены звання Героя Савецкага Саюза.

Мужна змагаліся на бярэзінскім рубяжы воіны 29-га танкавага корпуса генерал-маёра Я.І.Фаміных, якія наступалі ў паласе 11-й арміі. Каля в. Ігрушка савецкія танкісты сустрэліся з разведвальным атрадам танкавай нямецкай дывізіі. У кароткім баі 12 варожых машын з 20 былі падбіты. Нечаканай атакай на в. Жыцькава танкісты пераблыталі ўсе карты нямецкага камандавання: у гарачым баі было знішчана некалькі дзесяткаў варожых танкаў, машын і гармат, шмат жывой сілы праціўніка. Але гэты поспех дастаўся цяжкай цаной. Гітлераўцы аказалі ўпартае супраціўленне, не даючы магчымасці танкістам 32-й брыгады прарвацца да Бярэзіны. І тады камандзір галаўнога ўзвода малодшы лейтэнант Чубар вырашыў выклікаць агонь на сябе, каб раскрыць непрыяцельскую сістэму

процітанкавай абароны. Адкрыўшы агонь па ледзь прыкметных месцах маскіроўкі ворага, танкісты ў адказ атрымалі шквальны агонь. Чубар хутка наносіў на карту агнявыя кропкі ворага, якія ўдалося выявіць, і потым карэкціраваў агонь сваіх танкаў. У гэтым цяжкім і няроўным баі згарэлі 3 «трыццацьчацвёркі», некалькі танкістаў загінулі, сярод іх санінструктар Антаніна Бабкова, якая выцягнула з бою шмат параненых байцоў і тым самым зберагла ім жыцці.

Цяжэй ішлі справы ў раёне Барысава, які быў добра ўмацаваны немцамі. На ўскраінах горада меліся акопы, доты і дзоты. У цэнтры горада ўсе каменныя будынкі былі прыстасаваны да працяглай абароны. На карысць ворагу былі і ўмовы мясцовасці, асабліва забалочаныя даліны Бярэзіны і Схі, што ўпадае ў Бярэзіну каля самага горада.

Уздоўж шашы Масква — Мінск развівалі наступленне 3-я гвардзейская танкавая і 2-я гвардзейская мотастралковая брыгады 3-га Кацельнікаўскага корпуса. Авалодаўшы мостам цераз раку Сха, танкі пачалі бой за галоўны мост на Бярэзіне. Аднак толькі дзвюм машынам — гвардыі капітана І.Г.Сіліна і гвардыі лейтэнанта Паўла Рака — удалося праскочыць па замініраваным мосце ў Нова-Барысаў. Але як толькі танк І.Г.Сіліна сышоў з моста, фашысты яго падпалілі. А машына Паўла Рака, знішчыўшы зенітную ўстаноўку і падавіўшы ахову моста, на вялікай скорасці ўварвалася ў правабярэжную частку горада. Гэта адбылося 29 чэрвеня ў 23 гадзіны. Танк імчаўся па вуліцах і завулках, граміў нямецкую тэхніку, расстрэльваў варожую пяхоту. Ён знішчыў самаходную артылерыйскую ўстаноўку «фердынанд», бранявік і 3 гарматныя разлікі, разбіў штаб воінскай часці, камендатуру, калону мотапяхоты ворага, падпаліў бензасклад, узарваў склад боепрыпасаў. У адным з баракаў гітлераўцы закрылі каля 200 савецкіх ваеннапалонных і збіраліся іх спаліць жывымі, аблажыўшы барак саломай. Танкісты расстралялі ахову і вызвалілі людзей. Днём 30 чэрвеня фашысты кінулі супраць «трыццацьчацвёркі» сваіх «тыграў» і «пантэр». Савецкі танк падбіў некалькі машын ворага, але і сам быў падпалены. 17 гадзін доўжыўся няроўны паядынак з ворагам.

Члены экіпажа Павел Мікалаевіч Рак, Аляксандр Акімавіч Пятраеў, Аляксей Ільіч Данілаў загінулі. Танкіст-разведчык Ю.Назараў ужо пасля вайны ўспамінаў, як камандуючы фронтам генерал арміі І.Д.Чарняхоўскі, ведаючы аб подзвігу трох танкістаў, разам з ім па ўзарваным мосце перабраўся на правы бераг у Нова-Барысаў і наведаў месца трагедыі. З пярэдняга люка апаленай «трыццацьчацвёркі», высунуўшыся па грудзі, павіс абгарэлы чалавек. Каля правай гусеніцы ляжаў другі танкіст і побач з ім 2 аўтаматы і дыскі. Было відаць, што танкісты не здаваліся да апошніх хвілін свайго жыцця. Камандуючы цяжка ўспрыняў убачанае, доўга стаяў у смуце, а вярнуўшыся ў размяшчэнне сваіх войскаў, прыказаў падрыхтаваць матэрыялы на прысваенне ўсяму экіпажу пасмяротна звання Героя Савецкага Саюза. Іх імёнамі названы вуліцы ў Барысаве. Пахаваны героі на гарадскіх могілках, а паблізу моста цераз Бярэзіну, дзе яны здзейснілі свой подзвіг, стаіць у іх памяць баявая машына на п'едэстале.



*П.М.Рак.*



*А.І.Данілаў.*



*А.А.Пятраеў.*

Барысаў штурмавала 5-я гвардзейская стралковая дывізія пад камандаваннем палкоўніка М.Л.Волкава. Разведка данесла аб умацаванні сіл праціўніка дадатковымі свежымі палкамі, аб жалезабетонных збудаваннях, сталёвых каўпаках-«крабах», закапаных у зямлю танках на ўсходнім беразе. Было зразумела, што горадам з ходу авалодаць немагчыма. Патрабавалася адпаведная падрыхтоўка. За ноч з 29 на 30 чэрвеня гвардзейцы перагрупавалі баявыя парадкі, падцягнулі артылерыю, падрыхтавалі сродкі для пераправы. Цяжкасці былі ў тым, што пяхоту не маглі падтрымаць танкі 5-й гвардзейскай танкавай арміі з-за адсутнасці пераправаў. Галоўнай зброяй пяхоты былі аўтамат і граната, а таксама батальённыя і палкавыя гарматы.

Для авалодання Барысавам камандаванне дывізіі прыняло наступнае рашэнне: галоўны ўдар нанесці на правым флангу ў напрамку безыменнай вышыні і паўночна-ўсходняй ускраіны старой часткі горада, дзе занялі зыходныя рубяжы гвардзейцы 12-га палка падпалкоўніка М.П.Цітова і воіны падпалкоўніка Банкузава. Левафланговаму гвардзейскаму палку падпалкоўніка Прыладышава загадвалася падтрымаць наступленне на паўднёвай ускраіне старой часткі горада; 2 фланговыя палкі павінны былі авалодаць левабярэжнай часткай. Агульная наступальная задача дывізіі — фарсіраваць р. Бярэзіна і ўдарам з поўначы авалодаць горадам.

Увесь дзень 30 чэрвеня вяліся гарачыя і ўпартыя баі. Яны асабліва ўзмацніліся пасля таго, як воіны Цітова і Банкузава авалодалі першай траншэяй. Вораг некалькі разоў пераходзіў у контратакі, але беспаспяхова. Увечары падаспела дывізіённая артылерыя і агнём падтрымала гвардзейцаў. К зыходу 30 чэрвеня яны авалодалі безыменнай вышыней

і Стара-Барысавам. У рукапашным баі ўдзельнічаў увесь асабісты склад двух стралковых батальёнаў 12-га гвардзейскага палка, у т. л. ездавыя і повары. Мужна дзейнічалі ў гэтых баях намеснік камандзіра палка падпалкоўнік Н.Ф.Борыс, камандзір 2-га батальёна капітан В.В.Самовіч разам са сваім сувязным радавым Перапёлкай, аддзяленне сяржанта Строева, 2-я стралковая рота пад камандаваннем старшага лейтэнанта Осіпава, камандзір стралковай роты гвардыі старшы лейтэнант І.М.Сыпала, які быў удастоены звання Героя Савецкага Саюза, і іншыя.

Вось што расказвала разведчыца 2-га батальёна Я.М.Елісюціна: «Калі камандзір палка М.П.Цітоў убачыў, што на наш батальён гітлераўцы кінулі значныя сілы, ён прыняў рашэнне стварыць «шумавы аркестр» у 1-м батальёне і адцягнуць увагу немцаў. Білі ва ўсё, што грымела. Хітрасць камандзіра была ўдалай, вораг перанёс агонь на левы фланг, а наш батальён у гэты час прарваўся ў самы цэнтр старой часткі горада. Падышлі да турмы, вызвалілі больш за 350 вязняў. Людзі, змучаныя, знясіленыя, цалаваліся, плакалі. Гэта адбылося каля 23 гадзін 30 чэрвеня. Было страшна. Усё грымела, ірваліся снарады і бомбы, гарэлі на набярэжнай дамы, ад дыму ў нас пачаўся кашаль — дыхаць не было чым. На нашых вачах драўляны мост цераз Бярэзіну, на якім было шмат фашыстаў, узляцеў у паветра».

Так змагаўся ўвесь полк. Імклівымі і ўмелымі дзеяннямі яго падраздзяленняў варожы атрад, які колькасна перавышаў нашы сілы, быў разбіты. Вораг страціў 900 чалавек забітымі, 105 былі ўзяты ў палон. Да 24 гадзін 30 чэрвеня старая частка горада была ачышчана ад акупантаў, якія, адышоўшы на правы бераг Бярэзіны, адкрылі па левабярэжжы моцны агонь з пушак і мінамётаў. Пылалі дамы, ад зарыва пажараў было светла, як днём.

У сувязі з зацяжнымі баямі ў горадзе камандзір 8-га гвардзейскага стралковага корпуса генерал-лейтэнант М.М.Завадоўскі змяніў першапачатковы напрамак наступлення 83-й гвардзейскай стралковай дывізіі генерал-маёра А.Р.Маслава, нацэліўшы яе на паўднёвыя ўскраіны Барысава. Камандзір дывізіі разумеў, што вырашальную ролю ў гэтай сітуацыі павінна адыграць імклівасць дзеянняў, і ўвёў у бой усе свае рэзервы. На гэтым участку мост каля в. Вялікая Ухалода быў разбураны. Камандзір дывізійнай артылерыі палкоўнік І.Ф.Тамілін прапанаваў перацягваць гарматы па дне Бярэзіны тросамі ў конных запрэжках. Нягледзячы на шквальны агонь гітлераўцаў з бліжэйшай вышыні, артылерысты паспяхова справіліся з гэтай задачай. Да 18 гадзін 30 чэрвеня Бярэзіна была фарсіравана на 5-кіламетровым фронце асноўнымі сіламі 83-й дывізіі. Першымі ішлі гвардзейцы падпалкоўніка В.М.Яблыкава з 252-га гвардзейскага палка. Фашысты супраціўляліся ўпарта, але ўстаяць перад націскам нашых войскаў не змаглі. Бясстрашна дзейнічаў механік самаходнай устаноўкі С.Д.Давыдаў. Ён уварваўся ў размяшчэнне праціўніка і падавіў гусеніцамі 5 варожых агнявых кропак. За гэты подзвіг ён быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

Артылерысты-самаходчыкі малодшага лейтэнанта Н.Р.Балахова падбілі варожы танк, разбілі 5 гармат, знішчылі і падавілі 15 агнявых кропак. Старшына 2-й стралковай роты

248-га гвардзейскага стралковага палка А.Бажэнаў у крытычную хвіліну бою падняў роту ў атаку і штурмам авалодаў варожай пазіцыяй. Крок за крокам у жорсткіх схватках гвардзейцы выбівалі фашыстаў з паўразбураных дамоў на ўскраінах горада.

Важную ролю ў вызваленні барысаўскай зямлі адыгралі лётчыкі 1-й паветранай арміі. Яны падтрымалі пераправу наземных войскаў і не дапускалі да іх гітлераўскіх бамбардзіроўшчыкаў, вялі разведку і выяўлялі скопішчы фашысцкіх часцей, бамбілі камунікацыі ворага. На Бярэзіне вызначыліся летчыкі 125-га і 127-га гвардзейскіх бамбардзіровачных авіяцыйных палкоў, 86-га гвардзейскага знішчальнага і 47-га асобнага гвардзейскага разведвальнага авіяцыйных палкоў, якім было нададзена ганаровае найменне «Барысаўскіх».

Каб падавіць авіяцыю праціўніка, яшчэ 26 чэрвеня быў нанесены моцны ўдар па нямецкім аэрадроме ў Барысаве. У гэтай аперацыі ўдзельнічалі 32 бамбардзіроўшчыкі.

26 чэрвеня недалёка ад Барысава бамбіў фашысцкую пантонную пераправу цераз Бярэзіну лётчык Жак Гастон з французскага авіяпалка «Нармандыя», які таксама ўдзельнічаў у вызваленні барысаўскай зямлі. У гэты дзень група лётчыкаў збіла 7 варожых самалётаў, але загінуў і Жак Гастон. Імем палка названа адна з вуліц горада.

У 18 гадзін 50 хвілін 28 чэрвеня ў раёне станцыі Прыяміна 6 самалётаў ЯК-9 66-га гвардзейскага знішчальнага авіяпалка пад камандаваннем штурмана палка гвардыі маёра



*Ветэраны 125-га гвардзейскага бамбардзіровачнага авіяпалка ў Барысаве. Май 1998 г.*

І.К.Галавацюка на вышыні 2 тыс. метраў сустрэлі 2 вялікія групы варожых бамбардзіроўшчыкаў, якія накіроўваліся на танкавы клін 5-й гвардзейскай танкавай арміі. Разгарэўся цяжкі бой. Нашы самалёты рашуча атакавалі праціўніка зверху, строй іх парушыўся, а трапны агонь савецкіх знішчальнікаў зрабіў сваю справу: бамбардзіроўшчыкі праціўніка не дайшлі да цэлі, скінулі бомбы куды папала і павярнулі назад. Нягледзячы на тое, што нямецкіх самалётаў было ў 5 разоў больш, савецкія лётчыкі збілі 7 самалётаў, а самі не панеслі страт. У гэтым баі вызначыўся гвардыі маёр Галавацюк, які збіў 3 машыны, гвардыі лейтэнант А.П.Замула знішчыў 2 ФВ-190, гвардыі старшы лейтэнант Казлоў і гвардыі лейтэнант В.А.Антонаў збілі па адным «фоке-вульфу».

1 ліпеня ў небе над барысаўскай зямлёй лётчыкі 1-га гвардзейскага знішчальнага корпуса правялі 4 баі, у якіх вораг страціў 3 бамбардзіроўшчыкі Ю-87 і 6 знішчальнікаў ФВ-190.

Праціўнік з усіх сіл імкнуўся ўтрымаць Барысаў, аднак наступленне савецкіх войскаў ужо нічым нельга было спыніць. Часці 5-й і 83-й гвардзейскіх стралковых дывізій у ноч на 1 ліпеня ўварваліся ў горад і пасля жорсткіх вулічных баёў, якія працягваліся 4 гадзіны, поўнасцю вызвалілі Барысаў.

Выхад на рубеж Бярэзіны і яе фарсіраванне былі паспяхова выкананы 11-й гвардзейскай арміяй за 8 сутак замест 10, якія былі прадугледжаны планам аперацыі. Гэтаму садзейнічала ўзаемадзеянне ўсіх часцей і злучэнняў 3-га Беларускага фронту на ўчастку ад возера Палік да в.Чэрнеўка.

Раніцай 1 ліпеня Маршал Савецкага Саюза А.М.Васілеўскі і генерал арміі І.Д.Чарняхоўскі прыбылі ў вызвалены Барысаў.



*Савецкія танкі з дэсантам у вызваленым Барысаве. Пачатак ліпеня 1944 г.*

Суботнім вечарам 1 ліпеня Масква салютавала дваццаццю артылерыйскімі залпамі войскам 3-га Беларускага фронту, якія фарсіравалі Бярэзіну і авалодалі буйным вузлом камунікацый горадам Барысаў, а таксама 150 іншымі населенымі пунктамі. 2 ліпеня 1944 г. усе цэнтральныя газеты надрукавалі загад Вярхоўнага галоўнакамандуючага І.В.Сталіна, у якім гаварылася: «У азнаменаванне атрыманай перамогі злучэнні і часці, якія найбольш вызначыліся ў баях пры фарсіраванні Бярэзіны і за авалоданне Барысавам, прадставіць для прысваення наймення «Барысаўскіх» і да ўзнагароджання ордэнамі...».

Ганаровага наймення «Барысаўскіх» былі ўдастоены 13 вайсковых часцей і злучэнняў, 16 узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Суворава II ступені і Чырвонай Зоркі.



*Маршал Савецкага Саюза А.М.Васілеўскі і генерал арміі І.Д.Чарняхоўскі.*



*Шэсце ўдзельнікаў вызвалення Барысава ў час святкавання ў горадзе 40-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 1984 г.*



*Е.С.Бялявін.*



*М.Р.Вайнруб.*



*М.І.Марозаў.*

За баі на Барысаўшчыне 24 воінам прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Тысячы чалавек былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Дзесяткі тысяч барысаўчан змагаліся з фашысцкай навалай у радах Чырвонай арміі, многія з іх адзначаны ўзнагародамі. Шасці ўраджэнцам горада прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Гэта камандуючы бранятанкавымі і механізаванымі войскамі 8-й гвардзейскай арміі генерал Мацвей Рыгоравіч Вайнруб, камандзір танкавай брыгады падпалкоўнік Яўсей Рыгоравіч Вайнруб, камандзір эскадрыллі бамбардзіроўшчыкаў Евель Самуілавіч Бялявін, камандзір артылерыйскай батарэі старшы лейтэнант Міхаіл Ільіч Марозаў, камандзір звяна знішчальнага авіяпалка гвардыі старшы лейтэнант Міхаіл Яўсеевіч Рабцаў, камандзір 1-й гвардзейскай Пралетарскай Маскоўска-Мінскай дывізіі генерал-маёр Павел Фёдаравіч Тоўсцікаў.



*Я.Р.Вайнруб на адкрыцці свята горада. 1987 г.*

Героямі Савецкага Саюза сталі яшчэ 4 ураджэнцы Барысаўскага раёна: камандзір стралковага палка гвардыі палкоўнік Павел



М.Я.Рабцаў.



П.Ф.Тоўсцікаў.

Канстанцінавіч Казакевіч, камандзір перадавога атрада механізаванай брыгады падпалкоўнік Уладзімір Рыгоравіч Рыжоў, разведчык старшына Аляксандр Карнеевіч Харчанка, камандзір дывізіі генерал-маёр Сцяпан Іванавіч Чарняк.

Аналізуючы падзеі вайны 1812 г. і Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гг. на Барысаўшчыне, напрошваецца паралель паміж дзеяннямі Гітлера і Напалеона: не выпадкова Гітлер выбраў месцам правядзення нарады сваёй ваеннай стаўкі ў в. Стара-Барысаў, дзе Напалеон правёў ноч у 1812 г., не выпадкова на «Батарэях» зноў былі абсталяваны «кватэры», куды ў час бамбёжак савецкімі самалётамі немцы хавалі параненых са



*Ветэраны вайны з г. Барысава каля Сцяга Перамогі ў Маскве. 1995 г.*

шпіталя і дзе ўтрымлівалі склады правіянту. Усе гэта не выпадкова, як і тое, што вайну Гітлер распачаў у канцы чэрвеня, як і французскі імператар. Як вядома, ваенныя лаўры Непалеона не давалі спакою Гітлеру. І зусім не выпадковым, а заканамерным быў фінал абедзвюх агрэсій, распачатых супраць нашага народа. У абодвух выпадках гэта была справядлівая вайна супраць чужаземнага захопніка ў абарону свабоды і незалежнасці Бацькаўшчыны, таму гераізм і мужнасць воінаў былі масавымі. І хоць цяжкім і кровапралітным быў шлях да перамогі над ворагам, гэты дзень усё ж быў непазбежны.

За ўклад, зроблены барысаўчанамі ў агульную перамогу над ворагам, Барысаў у 1984 г. быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І ступені.

## Аднаўленне Барысава

Вызвалены Барысаў ляжаў у руінах. За 3 гады гаспадарання нямецка-фашысцкія захопнікі знішчылі і разрабавалі 20 прамысловых прадпрыемстваў, 7 сярэдніх школ, 1407 будынкаў, разбурылі ўсе культурна-асветныя ўстановы, разрабавалі 70 тыс. кніг гарадской бібліятэкі, спалілі кінатэатры, клубы, Дом культуры імя Горкага, запалкавы тэхнікум; знішчылі радзільны дом, дзіцячыя сады, 2 дыспансеры, прывялі ў непрыгоднасць гарадскую тэлеграфна-тэлефонную сетку, электразабеспячэнне і каналізацыю. Матэрыяльныя страты горада склалі 126 млн. рублёў. Але ж самыя цяжкія страты — людзі, якіх фашысты закатавалі, расстралялі, спалілі. Надзвычайная ўрадавая камісія ўстанавіла, што толькі ў месцах масавага знішчэння людзей загінула 32 740 чалавек, на катаргу ў Германію вывезена 7,5 тыс., у брацкіх магілах на палях раёна пахавана каля 4,5 тыс. партызан і воінаў, сярод якіх было шмат барысаўчан, на франтах вайны загінула каля 15 тыс. жыхароў горада і раёна.

Дашчэнту фашысты знішчылі і разрабавалі ўсе калгасы і саўгасы раёна, забілі 5200 жыхароў, часта разам з дзецьмі.

У першыя пасляваенныя дні аднавілі сваю дзейнасць кіруючыя органы горада. Першым сакратаром гарадскога камітэта КП(б)Б стаў Герой Савецкага Саюза былы камандзір партызанскай брыгады «Беларусь» Мікалай Пракоф'евіч Пакроўскі, старшынёй гарвыканкома Іван Кудзіновіч, які быў прызначаны на гэту пасаду яшчэ ў даваенны час. Вярнуўся да сваёй працы адказнага сакратара Ісак Гуцін, намеснікам старшыні стаў франтавік Іван Вярбіцкі.

Ва ўмовах разбурэння былі частымі выпадкі крадзяжу, разбою, таму першыя крокі кіраўнікоў былі накіраваны на наладжванне парадку, дысцыпліны, уліку наяўных рэсурсаў. Першачарговай задачай ставілася хутчэйшае адраджэнне разбуранай гаспадаркі, стварэнне ўмоў для нармальнага жыцця насельніцтва.

З ініцыятывай хутчэй вярнуць да жыцця прамысловасць і гарадскую гаспадарку выступілі камуністы і камсамольцы дрэваапрацоўчага камбіната «Камінтэрн». «Мы павінны ў кароткі тэрмін адрадзіць усё. Няхай зноў нас клічуць гудкі заводаў і фабрык.



*Руіны дамоў на Прывакзальнай плошчы ў Барысаве. 1944 г.*



*Дом культуры імя М.Горкага, які быў спалены гітлераўцамі пры адступленні.*

Хутчэй дадзім гораду ваду і свет. Аднавім работу пякарань, магазінаў, школ, клубаў. З попелу і руін адродзім родны горад! Да самаадданай аднаўленчай працы, таварышы!» (Бальшавіцкая трыбуна. 1944. 18 ліп.)

У першую чаргу пачалі аднаўляць электрастанцыю камбіната «Камінтэрн». Сюды збіраліся сотні гараджан, якія разбіралі руіны, выцягвалі больш-менш прыгоднае абсталяванне, спецыялісты рамантавалі яго, устанаўлівалі ў адноўленых памяшканнях. 1 жніўня частка прадпрыемстваў і ўстаноў атрымала электраэнергію, а праз 10 дзён быў запушчаны другі генератар і энергію атрымалі іншыя аб'екты.



*Разбураны мост цераз Бярэзіну і ўзведзеная побач пантонная пераправа. Ліпень 1944 г.*



*Аднаўленне фанерна-запалкавага камбіната. 1944 г.*

На прызыў камінтэрнаўцаў адгукнуліся ўсе барысаўчане — рабочыя і служачыя, старыя і дзеці. Яны расчышчалі завалы, засыпалі варонкі і траншэі, закладвалі першыя камяні ў фундаменты новых дамоў. Гарсавет распрацаваў перспектыўныя мерапрыемствы па адраджэнні, устанаўліваліся нормы працоўнага часу для кожнага гараджаніна, пачынаючы са школьнікаў. У першы год было адпрацавана звыш 114 тыс. чалавека-дзён.

Першымі пачалі ўздымацца фанерна-запалкавы камбінат, папяровая і макаронная фабрыкі. Пабудавалі часовыя драўляныя чыгуначны і транспартны масты цераз Бярэзіну. Рамантаваўся ўзарваны фашыстамі жалезабетонны мост на шашы Мінск — Масква. Трэба

адзначыць, што асноўны цяжар у аднаўленні гаспадаркі лёг на плечы жанчын, падлеткаў, старых. Таму на цяжкіх работах выкарыстоўвалася праца ваеннапалонных.

Шмат зроблена было па забеспячэнні горада палівам. На працягу жніўня — верасня барысаўчане нарыхтавалі 6 тыс. м³ дроў, з іх 1,6 тыс. м³ было аддадзена школам. Да пачатку навучальнага года бацькі, настаўнікі і старэйшыя вучні зрабілі 488 партаў, 80 класных дошак, 512 стулаў і табурэтак, 268 сталоў, адрамантавалі класныя пакоі і дахі, зашклілі вокны і сабралі каля 2 тыс. кніг, паперы. Школы прынялі 3280 вучняў.

Намаганні гарсавета па аднаўленні горада прыносілі плён. За першы год пасля вызвалення ў жыллёва-камунальным будаўніцтве было асвоена звыш 625 тыс. рублёў. У горадзе пачалі працаваць 3 школы, 2 бальніцы, 2 амбулаторыі, санітарная станцыя, 2 дзіцячыя і жаночыя кансультацыі, аптэка, дзіцячы дом дашкольнага ўзросту, 2 ясляў. Аказвалася дапамога сем'ям інвалідаў і франтавікоў. Сталі дзейнічаць пошта, тэлеграф, радыёвузел, адбудоўвалася жыллё. Паступова рашэнні сесій гарсавета выконваліся, прадпрыемствы вярталіся да жыцця. Адноўлены камбінат «Камінтэрн» і лесазавод імя Р.Люксембург пастаўлялі будоўлям піламатэрыялы. Фанерна-запалкавы камбінат штодзень выпускаў да 5 тыс. скрынак запалак, на шклозаводзе выраблялі аконнае шкло. Пачаў працаваць аўтарамонтны завод, будаваўся млынкамбінат. Значную ролю ў падняцці актыўнасці людзей у адбудове гаспадаркі адыграла спаборніцтва пад дэвізам: «Усё для фронту, усё для перамогі!» Многія калектывы выконвалі планавыя заданні ў кароткі тэрмін і ўносілі дадатковыя сумы ў фонд аднаўлення. Брыгады У.Казыры з фанерна-запалкавага камбіната выконвала заданні на 396%, А.Аўсіевіч на 375%, Н.Навіцкай на 359%, А.Бярыла на заводзе «Пралетарскі молат» на 450—460%. Такіх брыгад было шмат на барысаўскіх прадпрыемствах. Сваімі працоўнымі падзвігамі барысаўчане паскаралі адраджэнне роднага горада. Дзякуючы іх самаадданай працы аб'ём выпушчанай прадукцыі дасягнуў узроўню сярэдзіны 1920-х гадоў. І гэта было зроблена на працягу аднаго года. Як і ўся Беларусь, Барысаў атрымліваў значную дапамогу з розных рэгіёнаў Савецкага Саюза: метал, зерне, жывёлу станкі і абсталяванне і інш.

Неймаверна цяжка было, але барысаўчане жылі надзеяй на перамогу, рабілі ўсё магчымае, каб яе наблізіць. У 1944 г. разгарнуўся рух па зборы сродкаў на будаўніцтва эскадрыллі самалётаў «Народны мсцівец Барысаўшчыны». Барысаўчане сабралі 87 547 рублёў, а разам з жыхарамі вёсак 238 042 рублі.

Безліч праблем прыходзілася вырашаць кіраўніцтву горада і, вядома, не абыходзілася без хібаў і памылак. На гэта ўказвала пастанова ЦК КП(б)Б ад 19 снежня 1944 г., дзе разглядалася работа Барысаўскага гаркома партыі і выканкома. Шмат заўваг было зроблена. Яны ляглі потым у аснову мерапрыемстваў па выпраўленні памылак і недахопаў. Далейшыя планы па аднаўленні гарадской гаспадаркі зацвердзіў сход савецка-партыйнага актыву, што адбыўся 25 студзеня 1945 г.

**Крыніцы:**

Андрющенко Н.К. Народное ополчение Белоруссии. Мн., 1980.
Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны: Энцыклапедыя. Мн., 1990.
Борисов И.С. «Сатурн» на ладони. О разведке и разведчиках. Мн., 1994.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1. Мн., 1983.
Всенародное партизанское движение в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1. Мн., 1967; Т. 2, ч. 2, 1978; Т. 3, 1982.
Галицкий К.Н. Годы суровых испытаний: Записки командарма. М., 1973.
Дамарад К.И. Партийное подполье и партизанское движение в Минской области. 1941—1944. Мн., 1992.
Жуков Г.К. Воспоминания и размышления. М., 1995.
Корнилов П. Останутся в памяти. М., 1985.
Лемяшонак У.І. Вызваленне без грыфа «Сакрэтна». Мн., 1996.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 3954. Воп. 1. Спр. 1. Л. 4; Ф. 3500. Воп. 4. Спр. 129. Л. 34.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—1944). Мн., 1995.
Пашкевич В.Г. Партизанское движение на Борисовщине в годы Великой Отечественной войны. Мн., 1977.
Раманоўскі В. Саўдзельнікі ў злачынстве. Мн., 1964.
Пономаренко П.К. Всенародная борьба в тылу немецко-фашистских захватчиков (1941—1944). М., 1986.
Тимохович И.В. Битва за Белоруссию (1941—1944). Мн., 1994.
Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мн., 1993.

*Ж.В.Гілевіч.*

# БАРЫСАЎ У 1945 —1990-я ГАДЫ

З небывалым уздымам сустрэлі барысаўчане дзень перамогі над фашысцкай Германіяй. Сканчэнне вайны вызвала новы прыліў сіл і энергіі ў жыхароў горада. На прадпрыемствы і ўстановы пачалі вяртацца землякі з эвакуацыі і фронту. У дзяржавы з'явілася магчымасць павялічыць грашовыя выдаткі на адраджэнне народнай гаспадаркі.

Першы пасляваенны план развіцця гарадской гаспадаркі быў зацверджаны сесіяй гарсавета ў 1946 г. Як і ва ўсёй краіне, у горадзе разгортвалася і пашыралася спаборніцтва, быў падтрыманы пачын ленінградцаў выканаць пяцігодку за 4 гады. Працоўныя намаганні барысаўчан ужо ў 1948 г. далі вынікі: у горадзе былі адноўлены і працавалі ўсе прамысловыя прадпрыемствы і арцелі. Як сведчаць архіўныя даныя, план пяцігодкі быў выкананы за чатыры гады на 78,4%. Выпуск валавой прадукцыі павялічыўся ў 4 разы ў параўнанні з 1941 г. У ліку перадавых ішлі фабрыка піяніна, камбінат імя Кірава, заводы імя Р.Люксембург, лесахімічны, «Чырвоны металіст», мясакамбінат і іншыя. За гэты перыяд на запалкавай фабрыцы ўсталявалі новы аўтамат, штодзённа выпускалася каля 2 тыс. скрынак запалак. На «Камінтэрне» акрамя піламатэрыялаў у новых цэхах пачалі выпускаць гнутую, мяккую і сталярную мэблю. Уступіў у дзеянне крухмальны завод. На металаапрацоўчым заводзе «Пралетарскі молат» пабудавалі механазборачны цэх і кацельню, завод пераведзены на паравое ацяпленне. На шклозаводзе зроблена шасцігаршковая печ, створаны новы ўчастак па вырабе каляровага посуду, прадукцыйнасць працы ўзрасла ў 1,5 раза. У 1945 г. тут выпускалася ўсяго 14 відаў самых простых прадметаў з зялёнага шкла, а ў канцы пяцігодкі — больш за 100, многія з якіх упрыгожваліся алмазным аздабленнем. Прадукцыя рэалізоўвалася не толькі па гарадах краіны, але адпраўлялася і за мяжу. На фабрыцы піяніна рэканструявалася сушыльная гаспадарка, укаранёны механізаваныя працэсы, выпускалася штогод 300 інструментаў, што перавышала перадваенны ўзровень.

У канцы 1940-х гадоў шырокі размах у горадзе, як і ў рэспубліцы, набыў рух за хутчэйшы абарот сродкаў, эканомію сыравіны і матэрыялаў. Толькі ў 1949 г. для патрэб гаспадаркі вызвалілася 7100 тыс. рублёў.

У ходзе спаборніцтва праявіла сябе таленавітая група рацыяналізатараў. На шклозаводзе ў 1950 г. за першыя 6 месяцаў пададзена 27 рацпрапаноў, з якіх 13 было адразу ўкаранёна, усяго за год рацыяналізатары дабіліся эканоміі на 250 тыс. рублёў. На запалкавым камбінаце толькі ў лютым 1950 г. сэканомлена матэрыялаў на 288 тыс. рублёў і за кошт гэтага выпушчана 2640 умоўных скрынак запалак. А за 11 месяцаў 1951 г. ад зніжэння сабекошту прадукцыі прамысловасць горада атрымала эканомію ў суме 3678 тыс. рублёў.

Колькасць рацыяналізатараў з кожным годам павялічвалася. У 1955 г. яны ўнеслі 576 прапаноў, умоўны эканамічны эфект ад укаранення якіх складаў 1579 тыс. рублёў у год. Лепшымі рацыяналізатарамі ў той час былі слесары шклозавода І.Ф.Казлоўскі, І.В.Шчатніковіч, П.Ю.Лабзо, на фабрыцы піяніна Б.Ф.Ржэвуцкі, на заводзе «Чырвоны металіст» Л.І.Шведаў, на «Камінтэрне» П.Ф.Манкевіч, на макароннай фабрыцы П.К.Глушакоў і многія іншыя.

Вытворчасць цярпела вялікі недахоп у абсталяванні і рабочыя-рацыяналізатары браліся за рамонт зусім безнадзейных станкоў, рабілі новыя механізмы і прыстасаванні, уводзілі іх у строй дзеючых.

Спаборніцтва ахапіла ўсе вытворчыя калектывы. Газета «Бальшавіцкая трыбуна» 7 лістапада 1950 г. паведамляла, што майстар-алмазчык шклозавода Л.Н.Цімафееў працуе ўжо ў лік 1956 г., штодзённа выконваючы норму на 200—220%, майстры Лабзо, Хмара,




*Святочная дэманстрацыя ў горадзе ў дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. 7 лістапада 1951 г.*

Райкевіч і інш. працуюць у лік 1951—1953 гг. Такіх поспехаў дабіваліся многія працаўнікі горада. Азначаўся не толькі працоўны энтузіязм, але і жаданне вучыцца, павышаць сваю прафесійную кваліфікацыю ў гуртках тэхнічнага мінімума, якія існавалі на кожным прадпрыемстве, у кожнай установе. Так, на «Камінтэрне» ў такіх гуртках займалася больш за 600 чалавек, на фанерна-запалкавым камбінаце амаль столькі ж. Лекцыі чытаў навуковы супрацоўнік Інстытута народнай гаспадаркі Гусеў.



*На Барысаўскай макароннай фабрыцы. Тэхнолаг Лілія Бутвілоўская (справа) і перадавая рабочая, стаханаўка Вольга Сталярчук. 1951 г.*

Акрамя 20 буйных прадпрыемстваў у Барысаве працавала 10 арцелей прамысловай кааперацыі. Галоўная іх задача заключалася ў тым, каб задаволіць бытавыя патрэбы насельніцтва горада і раёна. У пачатку 1950-х гадоў арцелі выпускалі прадукцыі амаль на 50 млн. рублёў. Іх паслугі пастаянна пашыраліся. Арцель «Чырвоны воін» адкрыла цэх варкі мыла з штодзённым выпускам 50—60 кг. Цэх па выпрацоўцы тавараў шырокага спажывання выпускаў з адходаў лесаматэрыялу этажэркі, дзіцячыя крэслы, карнізы для акон, вешалкі



*У аддзеле гатовага дзіцячага адзення магазіна № 50 на праспекце Рэвалюцыі. 1955 г.*

для ручнікоў, кушэткі. Ліцейны цэх, які пачаў дзейнічаць з 1948 г., выпускаў чыгункі і скаварodкі, шавецкі спецыялізаваўся на дзіцячым адзенні. У Нова-Барысаве пачала дзейнічаць майстэрня па рамонце гадзіннікаў і г.д. Агульны аб'ём прамысловай вытворчасці ў 1950 г. вырас да 42,9 млн. рублёў супраць 11,9 млн. рублёў у 1945 г.

Горад адбудоўваўся, паўсюдна ўздымаліся рыштаванні 8 арганізацый, якія ў агульным аб'ёме будаўнічых работ перавышалі 20 млн. рублёў.

Мала было тэхнікі, нават цэглу і раствор падымалі ўручную на паверхі. Але ж жаданне хутчэй адрадзіць свой горад, даць гараджанам добрыя ўмовы жыцця патрабавала ад будаўнікоў з дня ў дзень нарошчваць тэмпы.

Значная ўвага надавалася выхаваўчай рабоце сярод дзяцей і моладзі. Дзецям, чые бацькі загінулі ў вайну, выдаваліся бясплатна адзенне, гарачае харчаванне, падручнікі. У 1949 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову «Аб усеагульным абавязковым сямігадовым навучанні», і гарадскі аддзел адукацыі на чале з В.А.Самцэвічам, гарком камсамола мабілізавалі настаўнікаў, старшакласнікаў, камсамольцаў на выяўленне і прыцягненне да навучання маладых людзей, у якіх не была закончана сямігодка. Да гэтага часу быў адноўлены даваенны ўзровень агульнаадукацыйных устаноў. У 1951 г. у горадзе працавала 18 школ, з іх 8 сярэдніх, 6 сямігадовых і 4 пачатковыя, у якіх займаліся 9072 вучні, у 3 сярэдніх школах рабочай моладзі — 568 чалавек.

На 5-ы дзень пасля вызвалення ў Барысаве адкрылі 1-ы дзіцячы дом для дзяцей загінуўшых воінаў і партызан. Але сірот было шмат, і прыйшлося адкрыць яшчэ 3. Усяго ў іх выхоўвалася 650 дзяцей. Дырэктар 1-га дзіцячага дома Р.Д.Пятрышча (1949—1968) ўспамінае: «Нягледзячы на тое, што горад быў разбураны, ляжаў у руінах, ён здолеў узяць на сябе вялікія клопаты аб дзецях-сіротах. На выдзеленых выканкомам зямельных



*На рагу праспекта Рэвалюцыі і вуліцы Ленінскай. 1956 г.*

участках выхаванцы разам з педагогамі садзілі бульбу, буракі, закладвалі сады, трымалі кароў, свіней, коней. У тыя цяжкія гады не лічыліся з часам, даводзілася шмат працаваць. Вялікая ўвага надавалася навучальнаму працэсу. Многія выхаванцы, што былі 3 гады адлучаны ад школы, за адзін год заканчвалі па 2 класы. Педагагічныя калектывы дзіцячых дамоў і школ, дзе вучыліся дзеці, рабілі ўсё, каб адагрэць іх сэрцы, акружыць іх клопатамі і мацярынскай ласкай. Для хлопчыкаў і дзяўчынак, асірацелых у час вайны, словы «Радзіма-маці» мелі асаблівае, зусім канкрэтнае значэнне. Ім Радзіма сапраўды замяніла бацькоў. Ніводнае дзіця не засталося без увагі, не было кінута на волю лёсу. Шмат выханцаў-пераросткаў пайшлі працаваць на фабрыкі і заводы горада. Многія паступілі ў рамесныя вучылішчы, іншыя ў тэхнікумы і вышэйшыя навучальныя ўстановы».

У аднаўленчы перыяд былі вылучаны дзяржавай значныя грашовыя сродкі на паляпшэнне умоў работы культурна-асветных, лячэбных і фізкультурна-аздараўленчых устаноў. У жніўні 1948 г. у Нова-Барысаве адкрыўся дзіцячы санаторый на 120 чалавек. На гарадскім стадыёне імя 1 Ліпеня адбылася 4-я гарадская Спартакіяда на першынство па лёгкай атлетыцы, велагонцы, іншых відах спорту, у ёй удзельнічала больш за 100 чалавек. У футбольным матчы на кубак Мінскай вобласці барысаўскія спартсмены перамаглі каманду з Пухавіч з лікам 11:1. У гарадскім Доме культуры ў чэрвені 1950 г. на працягу 19 дзён выступалі артысты Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы — кожны вечар глядзельная зала была перапоўнена, гараджане і жыхары раёна з захапленнем сачылі за сцэнічнымі дзеяннямі. Сіламі грамадскасці горад азеляняўся: у парку адпачынку пасаджана 248 дэкаратыўных дрэў, на гарадскім стадыёне — 256, на вуліцы 30-годдзя ВЛКСМ моладзь горада выкапала больш за 300 ям для пасадкі дрэў. Зелянгасам рэалізавана 6,5 тыс. пладовых дрэў і 3,5 тыс. кустоў чорных парэчак.



*Вуліца 3-га Інтэрнацыянала ў час паводкі на Бярэзіне. Красавік 1957 г.*

У 1955 г. барысаўчане выступілі ініцыятарамі агульнарэспубліканскага руху за добраўпарадкаванне гарадоў і дасягненне высокай санітарнай культуры. За кароткі тэрмін горад стаў чыстым і зялёным. Ён некалькі разоў выходзіў пераможцам гэтага спаборніцтва, узнагароджваўся пераходнымі сцягамі і грашовымі прэміямі.

Значна палепшылася становішча рабочых клубаў. Адным з цэнтраў культурна-масавай работы сярод моладзі быў клуб камбіната «Камінтэрн». Пабудаваны рукамі камсамольцаў на чале з Мікалаем Алейнікавым і Іосіфам Арцюховічам, ён збіраў вечарамі і маладых, і старых. У бібліятэцы клуба налічвалася 1600 кніг, меліся падшыўкі газет, шашкі і шахматы, у глядзельнай зале дэманстраваліся кінафільмы, працавалі гурткі самадзейнасці і інш.

Пры гарадскім Доме культуры дзейнічалі драматычны калектыў (кіраўнік М.В.Ільічоў, потым рэжысёр Ф.М.Міхайлаў), студыя выяўленчага мастацтва (кіраўнік А.П.Крычэўскі, пазней С.А.Мірзаян), аркестр народных інструментаў (кіраўнік А.Г.Барадзін), хор (кіраўнік У.С.Хрэнаў), танцавальны гурток (кіраўнік М.Леўчанка). Калектывы былі масавымі, мелі добрыя праграмы, спецыяльныя сцэнічныя касцюмы, што спрыяла росту іх майстэрства. Не дзіўна, што барысаўскія самадзейныя артысты займалі вядучыя месцы не толькі ў вобласці, але і ў рэспубліцы.

З кожным годам папаўняўся фонд гарадскіх бібліятэк.

Творчасць барысаўчан прадстаўлялася на выстаўках у Барысаве, Мінску, Маскве. У 1955 г. у залах Маскоўскай акадэміі мастацтваў на выстаўцы выяўленчага мастацтва і народнай творчасці Беларусі былі прадстаўлены работы вышывальшчыц барысаўскай арцелі «Новае жыццё» С.К.Абрамовіч, К.І.Кукінай, І.Е.Фурман, якія ўдала выкарыстоўвалі беларускі арнамент на ручніках і мужчынскіх сарочках. Мастак і настаўнік



*На перакрыжаванні вуліц Камсамольскай і Лапаціна. Пачатак 1950-х гадоў.*

А.П.Крычэўскі выстаўляў свае пейзажы. Пазней, ужо ў 1964 г., барысаўскі народны тэатр са спектаклем «Глыбокая плынь» па рамане І.Шамякіна выступаў на крамлёўскай сцэне і быў узнагароджаны граматай Міністэрства культуры СССР.

У 1955 г. Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР зацвердзіў Дзяржаўны гімн БССР. Для барысаўчан гэта падзея была ўдвая значнай, таму што аўтарам тэксту стаў наш знакаміты зямляк, беларускі пісьменнік Міхась Клімковіч.

На 11-й сесіі гарадскога Савета адзначалася, што з кожным годам усё больш сродкаў адпускаецца на жыллёвае будаўніцтва. Так, у 1950 г. для гэтай мэты выдзелена 17 млн. рублёў, што ўдвая больш, чым за ўвесь пасляваенны перыяд. Толькі ў гэтым годзе пабудавалі 25 дамоў на 204 кватэры, устаноўлена каля 100 кропак для асвятлення горада, узведзена воданапорная вежа, пракладзена 2334 м$^2$ асфальтавых тратуараў, пабудавана чытальная зала ў парку, адрамантавана 165 жылых дамоў, індывідуальныя забудоўшчыкі атрымалі крэдытаў на 1550 тыс. рублёў. На той час у горадзе дзейнічалі ўзнятыя з руін Дом культуры, 3 кінатэатры, адкрыўся краязнаўчы музей, 3 прафсаюзныя клубы, 3 гарадскія, 12 прафсаюзных і 16 школьных бібліятэк. Значна вырасла гандлёвая сетка, перавысіўшы даваенны ўзровень.

Творчы энтузіязм работнікаў розных сфер гаспадаркі і культурна-асветных устаноў рабіў цуд, адраджаючы разбураную вайной гаспадарку. Але плён гэтага энтузіязму не заўсёды выкарыстоўваўся кіраўнікамі, сустракалася безгаспадарчасць, дрэнная арганізацыя і нізкая аплата працы, слаба ўкараняліся новыя тэхналогіі і механізацыя вытворчых працэсаў, на асобных прадпрыемствах нізкай заставалася прадукцыйнасць працы. Цяжкімі былі ўмовы адраджэння. Абставіны ўскладняліся яшчэ і тым, што калгасы і саўгасы раёна ў большасці сваёй былі стратнымі, ураджаі нізкімі, жывёлагадоўля толькі



*На гарадскім стадыёне. Канец 1950-х гадоў.*

адраджалася, і забеспячэнне гарадскога насельніцтва харчовымі прадуктамі было вельмі дрэнным. Але ж паступова, пераадольваючы ўсе гэтыя цяжкасці, жыццё наладжвалася. У снежні 1947 г. у краіне была адменена картачная сістэма забеспячэння насельніцтва харчовымі прадуктамі і прамысловымі таварамі. Надзея на лепшае будучае не пакідала барысаўчан. У 1-ю пасляваенную пяцігодку барысаўчане адрадзілі разбураную вайной гаспадарку, адбудавалі свой горад і пачалі рабіць новыя крокі, якія планаваліся наступнымі пяцігодкамі. Паступова Барысаў ператвараўся ў важны індустрыяльны цэнтр. Змяніўся кірунак вытворчасці горада. Калі да вайны тут вядучымі былі дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы, то цяпер з'явіліся хімічная і машынабудаўнічая галіны (заводы гумавых тэхнічных вырабаў і бытавой хіміі, філіял Мінскага трактарнага — завод агрэгатаў, пашыраўся аўтарамонтны завод, з'явіўся інструментальны завод, пабудаваны малаказавод на 7,5 т малака ў суткі).

Расла прамысловасць, якая патрабавала новых энергетычных магутнасцей. Па рашэнні ўрада рэспублікі ў 1951 г. пабудавалі паніжальную падстанцыю і лінію электраперадачы Жодзіна—Барысаў. Электрасеткі горада значна расшырыліся, увайшлі ў строй новыя падстанцыі на млынкамбінаце, шклозаводзе, папяровай фабрыцы і іншых. У 1947 г. энергамагутнасць горада складала 1 тыс. кілават, у 1957 г. — 10 тыс. кілават.

У 1947 г. горад спажываў 3,2 млн. кілават-гадзін электраэнергіі, у 1957 г. — 45 млн. кілават-гадзін. Працягласць паветраных электраліній у 1947 г. складала 65 км, у 1957 г. — 193 км. За гэты ж перыяд сабекошт кілават-гадзіны знізіўся з 99 да 41 капейкі.

Значныя зрухі ў савецкім грамадстве пачалі адбывацца пасля XX з'езда КПСС і пастановы ЦК КПСС ад 30 чэрвеня 1956 г. «Аб пераадоленні культу асобы і яго вынікаў». У кіруючых органах пачаўся працэс дэмакратызацыі, абнаўлялася работа з кадрамі,



*Будаўніцтва жылога дома для работнікаў дрэваапрацоўчага камбіната «Камінтэрн». Канец 1950-х гадоў.*

паляпшаліся стыль і метады кіраўніцтва. Гэты працэс у грамадстве атрымаў назву «хрушчоўская адліга». Прыкладам такіх змен быў у горадзе першы сакратар ГК КПБ А.Я.Кійкоў.

У гэты час пачаўся перагляд спраў палітычных зняволеных, якія былі рэпрэсіраваны ў 1930—1940-я гады. Сотні тысяч жыхароў Беларусі былі рэабілітаваны. Сярод іх шмат барысаўчан: дзяржаўныя дзеячы І.А.Адамовіч, А.Ф.Кавалёў, Л.А.Майсееў, А.І.Хацкевіч, урачы А.П.Анікейчык, Н.Ф.Вевель, А.І.Сабалеўскі, рабочыя М.К.Варывоцкі, сям'я Ленартовічаў, Ф.С.Тамаровіч і многія іншыя.

Але распачатая дэмакратызацыя не прывяла да карэнных змен.

Цэнтралізавана-планавы метад кіравання гаспадаркай працягваў дзейнічаць. Тым не менш пошук і творчасць прысутнічалі ў кожным калектыве. Рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі, служачыя працавалі самаахвярна, разумеючы, што ад іх працы залежыць дабрабыт горада, краіны. У 1966—1970 гг. на прадпрыемствах павысілася прадукцыйнасць працы на 37%, аб'ём рэалізацыі таварнай прадукцыі ўзрос на 84,8%, асвоена звыш 900 новых вырабаў, сярод якіх драўнінна-валакністыя пліты, эмаліраваны і шкляны посуд, піяніна светлага колеру, дрэнажныя пластмасавыя трубы, вырабы палімернай тары для мясной і малочнай прамысловасці і іншыя.

Будаўнікі ўвялі ў строй дзеючых 56 прамысловых і культурна-бытавых аб'ектаў.

У Барысаве на той час знаходзілася адна з буйнейшых у рэспубліцы аўтатранспартная кантора. Апрача грузавога парка машын насельніцтва горада абслугоўвалі 33 легкавыя, 7 грузавых таксі і 27 аўтобусаў. Штогод яны перавозілі каля 15 тыс. пасажыраў.

У сярэдзіне 1960-х гадоў у горадзе было 108 харчовых і прамтаварных, 4 кніжныя магазіны, 23 сталовыя, 36 буфетаў. У 1962 г. жыхарам горада прададзена цукру больш, чым у папярэднім годзе на 221 т, кандытарскіх вырабаў на 180 т, шаўковых тканін на 500 тыс. рублёў, хлебабулачных вырабаў на 3400 т.

На ахову здароўя і фізкультуру на год выдаткоўвалася каля 8 млн. рублёў. У горадзе дзейнічалі 4 бальніцы на 675 ложкаў, 3 паліклінікі, 10 рэнтгенакабінетаў, іншыя медустановы. У параўнанні з 1946 г. колькасць медработнікаў павялічылася амаль утрая, працавалі 156 урачоў і 455 медсясцёр.



*Праспект Рэвалюцыі. 1960 г.*

У пасляваенны час добрая слава ішла аб стаханаўцах Ніне Хацкевіч, Надзеі Бары-

сёнак, Антоне Валасецкім, Фёкле Назаравай з запалкавай фабрыкі; Эміліі Янушкоўскай, Клаўдзіі Вішнеўскай, Ліліі Кац з фабрыкі піяніна, шматстаночніцах Вользе Шарковай і Паліне Кадэр з макароннай фабрыкі; майстрах па шкле гравіроўшчыцы Таццяне Дашкевіч і майстру прэсу дэпутату гарадскога і Вярхоўнага Саветаў Беларусі Пятру Лабзо; слесарах завода «Пралетарскі молат» Сцяпане Шкарубу і Сцяпане Налётаву. Усе яны адзначаны дзяржаўнымі ўзнагародамі, карысталіся павагай у горадзе, іх вопыт вывучаўся і пашыраўся сярод рабочых. А рамшчык лесацэха камбіната «Камінтэрн» Эдуард Анісовіч, механік набівачнага цэха Аляксандр Бакун і многастаночніца Ніна Гладкевіч з запалкавай фабрыкі, многастаночніца Яніна Прымакова і механік Максім Вышэдка з макароннай фабрыкі ўдастоены вышэйшай адзнакі — ордэна Леніна.

З сярэдзіны 1950-х гадоў пачаліся новабудоўлі ў розных кутках краіны, у т.л. і ў Беларусі, а таксама асваенне цалінных і абложных зямель. Шмат маладых барысаўчан прыняло ў іх удзел і паказала сябе з лепшага боку. Брыгада з фабрыкі піяніна прывезла ў Барысаў сцяг Какчэтаўскага элеватара, заваяваны ў нялёгкім спаборніцтве па ўздыме цаліны.

Хутка расло насельніцтва горада. Калі ў 1945 г. яно налічвала 34 тыс. жыхароў, то ў 1960-я гады гэта лічба падвоілася. Адноўленыя прадпрыемствы мелі абмежаваную колькасць рабочых месцаў, і ў горадзе ўзнікла вострая праблема з уладкаваннем на працу, асабліва моладзі. Таму гарадскі Савет, гарком партыі і іх кіраўнікі Дз.К.Гаўручонак і А.Я.Кійкоў прыкладалі шмат намаганняў, каб распачаць у Барысаве будаўніцтва новых заводаў і фабрык. Дарэчы, Аляксей Якаўлевіч Кійкоў пакінуў аб сабе ў горадзе добрую славу. У Барысаў ён быў накіраваны на камбінат «Камінтэрн» як спецыяліст па дрэваапрацоўцы, у 1949—1960 гг. працаваў галоўным інжынерам, потым дырэктарам, праявіў сябе здольным арганізатарам, выбіраўся дэпутатам гарсавета, быў старшынёй гарвыканкома, першым сакратаром гаркома КПБ. У 1965 г. міністр лясной і дрэваапрацоўчай гаспадаркі.

Паводле пастановы ўрада, у жніўні 1958 г. пачалося будаўніцтва буйнога завода аўтатрактарнага электраабсталявання (БАТЭ). З яго ўводам у горадзе значна скарацілася колькасць беспрацоўных.

За 1959—1965 гг. аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся ў 1,8 раза. Звыш плана выпушчана прадукцыі на 100 млн. рублёў, а гэта амаль сярэднегадавы выпуск тавараў усімі прадпрыемствамі горада.

У 1960—1970-я гады Барысаў істотна змяніўся. Ён стаў буйным індустрыяльным цэнтрам за кошт пабудовы новых заводаў машынабудаўнічай і хімічнай галіны. За гэты перыяд пабудаваны і сталі дзейнічаць такія прадпрыемствы, як завод аўтатрактарнага электраабсталявання, аўтарэмзавод, завод пластмасавых вырабаў, хіміка-фармацэўтычны завод, мясакамбінат, заводы палімернай тары, «Аўтагідраўзмацняльнік», пачалося будаўніцтва завода па выпуску дакладных прыбораў. Акрамя таго, былі пашыраны, рэканструяваны і мадэрнізаваны фабрыка піяніна, камбінат другаснай перапрацоўкі

сыравіны Белспажыўсаюза, завод гідраапаратуры, шклозавод, хлебазавод, атрымалі сваё далейшае развіццё камбінат прыкладнога мастацтва, фабрыка мастацкіх вырабаў, швейная фабрыка і камбінат надомнай працы.


Ідзе зборка 200-тысячнага піяніна. Канец 1968 г.

Аб прамысловым узроўні Барысава гавораць лічбы: штомесяц з прадпрыемстваў горада адпраўлялася 96 вагонаў піламатэрыялаў, 100 вагонаў запалак, 160 вагонаў макаронных вырабаў, 90 вагонаў шклавырабаў, 140 вагонаў піяніна, 30 вагонаў эмаліраванага посуду, сотні адзінак мэблі, медпрэпаратаў, вагоны фанеры, рэле, гуматэхнічных вырабаў, гербіцыдаў, тавараў бытавой хіміі, драўнінна-валакністых і драўнінна-стружкавых пліт, шмат іншых відаў прадукцыі. Барысаўскія музычныя інструменты, эмаліраваны і шкляны посуд, стартэры і вышываная бялізна, іншыя вырабы адпраўляліся амаль у 80 замежных краін. Гадавы аб'ём прамысловай вытворчасці склаў у 1975 г. 333 млн. рублёў. У 1977 г. ён быў у 4 разы большы,чым у 1963 г.

У гэты перыяд склалася інфраструктура Барысава. Важную ролю ў яе развіцці адыгралі кіраўнікі горада — першы сакратар гаркома КПБ Віктар Лявонцьевіч Арлоўскі і старшыня гарсавета Пётр Рыгоравіч Мартысюк.

Хуткімі тэмпамі вялося жыллёвае будаўніцтва. Калі ў 1946 г. было здадзена 480 м$^2$ жылля, то за 1971—1974 гг. больш за 126 тыс. м$^2$, добраўпарадкаваныя кватэры атрымалі амаль 6 тыс. барысаўчан. Грамадскі жылы фонд за пасляваенны перыяд павялічыўся ў 19 разоў, пракладзены падземныя камунікацыі для водаправода, гарачага водазабеспячэння, цэнтральнага ацяплення, каналізацыі; працягласць водаправода ў 1975 г. складала 130 км.

Нельга не сказаць аб суботніках, якія праводзіліся тады пастаянна да свят і грамадска-палітычных падзей. Яны прыносілі значны плён народнай гаспадарцы. Так, у красавіку 1970 г. у суботніку прынялі ўдзел больш за 50 тыс. гараджан, якія зарабілі амаль 400 тыс. рублёў. Многія аб'екты ўзводзіліся метадам ударнай будоўлі. Да іх можна аднесці клубы лесахімзавода, «Камінтэрна», гарадскі Палац культуры, іншыя аб'екты.

Істотныя змены адбыліся ў рабоце транспартных арганізацый. У 1945 г. амаль усе перавозкі на прадпрыемствах ажыццяўляліся гужавым транспартам, пасажыраў зусім не перавозілі, а ў 1974 г. аўтакалонай № 2421 было перавезена 4550 тыс. т гаспадарчых грузаў, аўтакалонай № 2433 — 35 492 пасажыры. Штогод павялічваліся перавозкі грузаў па чыгунцы. Прыёмаздатчыкі станцыі А.Г.Хвясько, П.Н.Ніколенка, З.С.Буркіўская,

С.А.Бурмістраў выступілі са слушнай ініцыятывай па паляпшэнні выкарыстання грузападымальнасці і змяшчальнасці рухомага саставу. Толькі ў 1976 г. чыгуначнікі Барысава перавезлі звыш задання 1824,5 тыс. т народнагаспадарчых грузаў. Пачын быў падтрыманы на ўсёй беларускай чыгунцы.

У 1974 г. быў электрыфікаваны участак чыгункі Мінск—Барысаў. Цяпер у сталіцу рэспублікі барысаўчане сталі ездзіць электрычкай.

З кожным годам гаспадарка Барысава станавілася больш трывалай. Перажыўшы самі шмат пакут, барысаўчане са спачуваннем ставіліся да гора і нястачы іншых. Менавіта таму Барысаў адным з першых у рэспубліцы прыняў перасяленцаў з разбуранага землетрасеннем Ташкента. Людзі атрымалі на барысаўскай зямлі жыллё і работу.

У сярэдзіне 1970—1980-х гадах у народнагаспадарчым комплексе Беларусі акумуляваліся вялікія матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы, навукова-тэхнічныя дасягненні ўсяго СССР, былі добра развіты інтэрнацыянальныя сувязі. З упэўненасцю можна сказаць, што гэтыя працэсы ўплывалі і на стан развіцця Барысава. Дзякуючы падтрымцы кіраўнікоў рэспублікі і намаганням барысаўчан у горадзе ўведзены ў дзеянне вытворчае аб'яднанне «Экран», домабудаўнічы камбінат, новыя плошчы заводаў аўтатрактарнага электраабсталявання, «Аўтагідраўзмацняльнік», медпрэпаратаў і пладова-агароднінны, друкарня, памяшканне для рэдакцыі газеты, рэстаран «Спатканне», 2 кафэ, 15 магазінаў, прадпрыемства «Барыфорг» па выпуску сінтэтычнай пражы, вытворчая база Будаўнічага трэста № 21 і новы малаказавод, аўтобусны парк № 3 і станцыя тэхабслугоўвання «АўтаВАЗ», здадзены тысячы квадратных метраў жылля, зроблены прыбудовы да 1-й і 2-й паліклінік, пабудаваны 2 дзіцячыя сады, дом дзіцяці, 3 сярэднія школы, стаматалагічная паліклініка. Аб'ём бытавых паслуг дасягнуў 36 рублёў, або на 22,4% больш, чым у 1975 г., распрацавана больш за 130 новых відаў паслуг. За 10-ю пяцігодку ўкаранёна 2084 рацпрапановы з эканамічным эфектам 3757 тыс. рублёў, пры гэтым умоўна вызвалены 600 працуючых. Аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся ў 1981—1985 гг. на 34,5% пры заданні 25,8%, звышпланавы выпуск прадукцыі склаў больш чым 105 млн. рублёў. За кошт росту прадукцыйнасці працы атрымана каля 66% усёй прыбаўкі прадукцыі супраць 38% у папярэдняй пяцігодцы. Асвоена вытворчасць 575 новых відаў вырабаў, з іх 9 упершыню ў краіне. У 1978 г. у Барысаў прыйшоў прыродны газ.

У 1970-я гады атрымала сваё далейшае развіццё унікальнае прадпрыемства — камбінат прыкладнога мастацтва. Значна пашырылася яго матэрыяльная база, пабудаваны новыя шматпавярховыя карпусы, ад старой «ганчаркі» застаўся невялічкі цэх, які з'яўляецца напамінам аб былым. З майстрамі камбіната супрацоўнічаюць лепшыя беларускія мастакі. Тут выпускаюцца высокамастацкія керамічныя і трыкатажныя вырабы, абрусы, ручнікі і дэкаратыўныя тканіны з ільну, сцэнічныя касцюмы (для калектываў «Песняры», «Харошкі» і інш.) і разнастайныя сувеніры. Але сапраўдным цудам можна назваць яго габелены. Менавіта ў Барысаве адрадзілі старажытнае беларускае габеленавае

майстэрства. На камбінаце вырасла плеяда майстрых-габеленшчыц. Сярод якіх Ж.У.Бакалінская, З.І.Глінік, Т.П.Сініца, Н.І.Палякова, Л.П.Слабкоўская, В.А.Цецерава, Н.Р.Шаркова, якія ў 1980 г. удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР. Барысаўскія габелены прадстаўлены ў лепшых залах і тэатрах Мінска, выконваліся заказы для Полацка, Кіева, Варонежа, Масквы. Барысаўчане добра ведаюць цудоўную тэатральную заслону памерам 16х7,5 м у гарадскім Палацы культуры (мастакі Г.Гарбуноў і А.Грашэнка). У аснову сюжэту габелена ляглі эпізоды з гісторыі горада. Прадстаўлены габелены ў будынку Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку, у памяшканні Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

У пачатку 1990-х гадоў створаны «Габелен стагоддзя» (мастак А.Кішчанка) памерам 266 м$^2$, які ўдастоены Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996) і занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса. Прадпрыемства ўзнагароджана міжнародным дыпломам «За камерцыйны прэстыж — 98» і інш.

Пазітыўныя змены ў развіцці народнай гаспадаркі, у вырашэнні сацыяльных пытанняў садзейнічалі росту насельніцтва.

1975 год стаў для Барысава адметным — зарэгістраваны 100-тысячны жыхар горада. Ім аказаўся Барыс Звонаў, які нарадзіўся ў сям'і будаўнікоў.

Ад самага вызвалення Барысаў пастаянна добраўпарадкоўваўся. Гараджане шмат часу аддавалі і аддаюць яго ўпаратковванню, азеляненню. Першая ліўневая каналізацыя і вадапровод былі ажыццёўлены на праспекце Рэвалюцыі і вуліцы Арджанікідзе. І першым пасля вайны праспект стаў забудоўвацца, тут і зараз стаяць 2—3-павярховыя дамы, пабудаваныя ў той час. З 1963 г. пачалася забудова і добраўпарадкаванне вуліцы Чапаева. Пакрытая каўром зялёных газонаў яна напамінае бульвар, забудавана ў асноўным 5—9-павярховымі дамамі, сярод якіх удала размясціліся магазіны, спартыўныя комплексы, дзіцячыя ўстановы, будынкі ашчаднага банка, пошты, аптэкі, цырульняў. Тут пражывае каля 20 тыс. барысаўчан. Даўжыня вуліцы складае 2 км, і цягнецца яна ад Цэнтральнай плошчы ў паўднёвы прамысловы раён, і нічога цяпер не напамінае аб былых зыбучых пясках, праз якія яшчэ не так даўно нялёгка было перабрацца.

Цэнтральная плошча сфарміравалася ў канцы 1970-х гадоў на месцы былога стадыёна. Вакол плошчы размясціўся шэраг адміністрацыйных будынкаў: гарвыканком, дамы сувязі і быту, корпус Цэнтральнай бібліятэкі з выставачнай залай, некалькі магазінаў. У 1986 г. на плошчы паставілі новы помнік У.І.Леніну (скульптар А.Анікейчык, архітэктары Л.Левін і Ю.Градаў). Тут збіраюцца гараджане і госці горада на мітынгі і святочныя шэсці, на канцэрты майстроў мастацтва і самадзейных артыстаў, на кірмашы і спартыўныя спаборніцтвы. А на зімовы час яна ператвараецца ў лядовую пляцоўку з ёлкай-красуняй у цэнтры, многія барысаўчане тут сустракаюць Каляды і Новы год.

Ад плошчы ўніз на праспекце Рэвалюцыі, у бок Бярэзіны, пабудаваны 9-павярховы жылы дом, дзе размяшчаецца Палац рэгістрацыі шлюбу, за ім — Дом спорту з басейнам

і гімнастычнай залай, насупраць — дзіцячая музычная школа. А ў 1980 г. гасцінна адчыніў дзверы новы Палац культуры з дзвюма глядзельнымі заламі на 1240 месцаў. Малая зала — рабочая пляцоўка Народнага тэатра.

На былых пустэчах паўднёва-заходняй ускраіны правабярэжнага Барысава пабудаваны 3 жылыя мікрараёны. У гэты перыяд барысаўчане атрымалі 25 тыс. кватэр. Гандлёвыя цэнтры, рынкі і рэстаран, аптэкі і паліклініка, гімназія, школы і дзіцячыя сады, кінатэатр, магазіны і майстэрні робяць жылыя раёны зручнымі для яго жыхароў. Амаль 10 аўтобусных маршрутаў звязваюць «спальны» масіў з цэнтрам і іншымі раёнамі горада.

У раёне вуліц імя Гагарына і 50-годдзя БССР сфарміраваўся вучэбны гарадок, дзе пабудаваны палітэхнікум, 2 прафтэхвучылішчы (№ 85, з 2001 політэхнічны ліцэй, і № 121, металістаў) з інтэрнатамі, новы корпус 205-га вучылішча, новы будынак старэйшага ў Беларусі медвучылішча, закладзены сквер, пасаджаны сотні дрэў, пастаўлены помнік воінам-інтэрнацыяналістам. Сюды ж у пачатку 1960-х гадоў з цэнтра горада быў вынесены стадыён. Адсюль пачынаецца новы жылы масіў. Сучасныя шматпавярховыя дамы ўзвышаюцца сярод рэштак хваёвага лесу. Больш за 40 тыс. барысаўчан атрымалі кватэры ў гэтых мікрараёнах. Забудоўваюцца вуліцы Горкага, Гагарына, Арджанікідзе, Працы і іншыя, зносяцца старыя прыватныя дамы і фарміруюцца забудовы цэнтральных раёнаў Барысава. І яшчэ 2 новыя жылыя масівы з'явіліся ў паўночнай частцы горада ў 1976—1990-я гады — паўночны (каля завода «Экран») і на вуліцы імя авіяпалка «Нармандыя — Нёман». Яны істотна змянілі аблічча старой часткі Барысава, зрабілі больш зручным пражыванне людзей.

З мэтай зберажэння каштоўных сельскагаспадарчых і лясных зямель вакол горада з



*Завод «Аўтагідраўзмацняльнік». Участак механічнай апрацоўкі чыгунных дэталей цэха насосаў. 1980-я гады.*

канца 1970-х гадоў пачалі асвойваць абшырныя пойменныя тэрыторыі рэк Бярэзіна, Сха і Пліса ў межах горада. У асноўным яны забудоўваюцца дамамі сядзібнага тыпу.

Агульны жылы фонд горада ў 1991 г. складаў 2379 тыс. $м^2$ пры сярэдняй забяспечанасці 15,8 $м^2$ плошчы на 1 жыхара.

Асаблівая ўвага гарадскімі ўладамі заўсёды надавалася развіццю бытавога абслугоўвання насельніцтва: пабудаваны Дом быту, камбінат бытавога абслугоўвання на вуліцах Будаўнікоў і імя авіяпалка «Нармандыя — Нёман», тэлеатэлье, адкрыты розныя майстэрні, пральні, хімчысткі, больш за 10 магазінаў, сярод якіх «Будматэрыялы», «Тавары для дома», «Электратавары» і іншыя. Пастаянна павялічвалася колькасць магазінаў, але трэба адзначыць, што не заўсёды там можна было набыць патрэбныя рэчы і прадукты, за «дэфіцытам» збіраліся чэргі. У сярэдзіне 1980-х гадоў увайшла ў строй новая АТС на 5 тыс. нумароў. Шмат сіл, умення, любові да сваёй прафесіі прыклалі будаўнікі, каб родны горад з кожным годам прыгажэў, каб жыць у ім станавілася зручней. Сярод іх лаўрэат Дзяржаўнай прэміі В.К.Мацвееў, ардэнаносцы А.П.Круглік, Я.К.Сімановіч, кіраўнік будтрэста № 21 заслужаны будаўнік Беларусі М.І.Папоў і яго памочнікі Г.А.Абрамовіч, П.Р.Гарасцюк, кіраўнікі будаўнічых упраўленняў Б.Н.Бараноўскі, А.І.Марцынкевіч, С.І.Рашэўскі, І.П.Рудкоўскі; прарабы, брыгадзіры, сярод якіх заслужаны будаўнік Беларусі М.А.Хомчанка і многія іншыя.

Па сутнасці ў 1970—1980-я гады горад Барысаў атрымаў сваё сапраўднае станаўленне, стаў буйным прамысловым цэнтрам Беларусі, а такія прадпрыемствы, як БАТЭ, «Экран», «Аўтагідраўзмацняльнік», макаронная фабрыка, шклозавод мелі ўсесаюзнае значэнне. У шмат разоў павялічыўся жылы фонд. І ў гэтым вялікая заслуга кіраўнікоў горада і прадпрыемстваў Ю.Г.Блінова, М.Дз.Бусла, А.П.Гайдука, В.В.Драніцы, У.Дз.Жыгальскага, Э.І.Івашкевіча, Н.Дз.Карабейнікава, Л.П.Козіка, Л.С.Краўцова, М.А.Кудзіна, М.І.Лобача, П.Р.Мартысюка, А.С.Мардзвінава, П.І.Фурсава і многіх іншых.

Добрая слава ішла аб працаўніках горада Э.Г.Анісовічу, С.В.Бяляеве, Я.Г.Белякову, А.І.Зелянеўскім, В.М.Кармілевіч, В.К.Нялюбіне, Я.П.Сяліцкім, М.А.Сцяпанаве, І.Ц.Цярэшкіну, А.А.Шэрсценю і многіх іншых. Сотні працаўнікоў горада былі адзначаны ўзнагародамі, прэміямі, ім прысвоены ганаровыя званні, яны карысталіся павагай у грамадстве. За паспяховае выкананне прадпрыемствамі і будоўлямі народнагаспадарчага плана, а таксама плана па жыллёвым, культурна-бытавым будаўніцтве і добраўпарадкаванні Барысаў у 1970-я гады 5 разоў адзначаўся ўрадам Беларусі.

У сваёй шматграннай рабоце гарвыканком абапіраўся на грамадскасць, выкарыстоўваючы розныя формы самакіравання.

Кіраўніцтвам Мінскай вобласці адзначалася, што гэты від дзейнасці ў 1960—1970-я гады лепш за ўсё ажыццяўляўся ў Барысаве. Створаныя 46 квартальных камітэтаў, якія ўзначальваліся вопытнымі і аўтарытэтнымі гараджанамі, былі, па сутнасці, звяном, якое звязвала выканком з жыхарамі. Разам з дэпутатамі ўсіх узроўняў, прадстаўнікамі

санэпідстанцыі, участковымі міліцыянерамі і кварткомамі праводзіліся сустрэчы з жыхарамі мікраараёнаў, вырашаліся пытанні санітарнага парадку, праводзілася выхаваўчая работа па месцажыхарстве з «цяжкімі» дзецьмі і іх бацькамі, вырашаліся пытанні сацыяльнай дапамогі і г.д. На спецыяльна абсталяваных пляцоўках, якія былі ў кожным мікраараёне, чыталіся лекцыі па культурна-асветных, прававых і краязнаўчых пытаннях, праводзіліся сустрэчы з цікавымі людзьмі, выступалі артысты. Усё гэта станоўча адбівалася на «клімаце» мікраараёна, на ўзаемаадносінах людзей і не толькі ў гэтым раёне, але і ў горадзе. Дэпутаты дапамагалі гарвыканкому вырашаць шмат пытанняў у сферы фінансавання, будаўніцтва, бытавога абслугоўвання і г.д. Сярод тых народных абраннікаў, хто асабліва шмат зрабіў для гараджан, назавём хоць бы некалькіх: дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР П.Ю.Лабзо, М.П.Сіліч, І.І.Трусаў, а таксама дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР Н.П.Шустоўская і В.П.Нялюбін.

Разам з тым у канцы 1970—1980-х гадоў у жыцці савецкага грамадства сталі праяўляцца сур'ёзныя недахопы, якія адбіліся на сацыяльна-эканамічным развіцці горада.

Даволі складаная і экалагічная сітуацыя ў горадзе. Не ажыццявіўся вынас некаторых прадпрыемстваў за межы горада, не пабудавалі пуцеправоды цераз чыгунку, падземныя пераходы на вуліцы Гагарына. Пакуль яшчэ ў планах агульнагарадскі цэнтр адпачынку, пад які пачалі асвойваць рачную пойму.

І хоць пабудавана шмат жылых дамоў, але існуе вострая праблема з забеспячэннем гараджан жыллём. Праблема ўзнікла ў сувязі з шырокім будаўніцтвам прамысловых прадпрыемстваў, што прыцягнула ў горад шмат сельскага насельніцтва.

Існуе і транспартная праблема — у горадзе высокі ўзровень аўтамабільнага руху. Новая траса Брэст—Мінск—Масква зняла з горада патокі транзіту, але ж засталіся ўнутраныя цяжкасці. У марах барысаўчан пакуль яшчэ застаюцца і тралейбусы на вуліцах горада.

У апошнія гады гарадскімі ўладамі прыкладвалася шмат намаганняў па добраўпарадкаванні Барысава: пабудаваны зручны пешаходны мост цераз Бярэзіну і адрамантаваны



*Забудова вуліцы Чапаева. 1970 г.*

транспартны мост, адкрыты буйны універмаг, прыведзены ў сучасны выгляд магазіны, увайшла ў строй 2-я чарга ачышчальных збудаванняў, праводзяцца работы па асушэнні Залінейнага раёна, замест старых дрэў высаджваюцца маладыя, мяняецца дарожнае пакрыццё і многае іншае.

* * *

У 1970—1980-я гады значныя сродкі затрачаны дзяржавай на народную адукацыю. На пачатку 1990-х гадоў у горадзе працавала 17 сярэдніх школ, з іх 2 са спецыяльным і паглыбленым вывучэннем англійскай і іспанскай моў, 3 гімназіі, у якіх навучаліся 24 тыс. школьнікаў, меліся 4 пазашкольныя установы, 5 ПТВ, палітэхнікум (з 2001 політэхнічны ліцэй), педагагічнае (зараз педагагічны каледж) і медыцынскае вучылішчы. У 38 дашкольных установах выхоўвалася каля 7 тыс. дзяцей (для параўнання: у 1945 г. не было ніводнай пазашкольнай установы, дзейнічалі толькі 3 дашкольныя). Сетка навучальных устаноў у пасляваенны перыяд значна павялічылася, але на іх адбіўся агульны стан навучання ў Беларусі — паступова ўсе школы пераводзіліся на рускую мову выкладання.

Ужо ў 1960-я гады ў горадзе не было ніводнай беларускамоўнай школы. У дзіцячых садах дзяцей навучалі размаўляць толькі па-руску, у спецыяльных сярэдніх установах таксама. Беларуская мова выкладалася як прадмет, ад якога нават можна было адмовіцца. Толькі пад уздзеяннем грамадскіх працэсаў, накіраваных на беларускае нацыянальнае адраджэнне, адносіны да роднай мовы сталі мяняцца. У горадзе з'явілася беларускамоўная гімназія № 2.

Шмат выдатных настаўнікаў, выкладчыкаў і выхавацеляў працавала і працуе ў гарадскіх навучальных і дашкольных установах. 18 чалавек атрымалі званне заслужанага настаўніка, дзесяткі сталі выдатнікамі народнай адукацыі. Вось толькі некаторыя з іх: Л.Ф.Белая, Г.І.Біцюкова, Дз.Я.Гусінцаў, І.М.Ермаловіч, Я.В.Жалязнова, Г.Г.Іода, І.М.Клыбік, А.А.Малінка, А.І.Нарэйка, І.К.Паляруш, Г.І.Палонская, Л.В.Рассвяталава, Е.В.Шавель, В.М.Хоціна, Л.М.Янчык, Н.К.Янчык.

Каларытнай фігурай у народнай асвеце Барысава з'яўляўся Васіль Андрэевіч Самцэвіч (1889—1973). Сорак гадоў ён аддаў справе выхавання і навучання дзяцей: быў настаўнікам, завучам, інспектарам, загадчыкам гарана, дырэктарам 6-й сярэдняй школы. Аўтар трох падручнікаў па беларускай мове, некалькіх метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў. Выдатны спецыяліст, метадыст і даследчык В.А.Самцэвіч у ліку першых у горадзе атрымаў званне заслужанага настаўніка. Ён шмат увагі ўдзяляў развіццю краязнаўства ў Барысаве, цесна супрацоўнічаў у даваенны час з часопісам «Наш край». Як педагог-даследчык з'яўляўся кіраўніком эксперыментальнай работы настаўнікаў па новых праграмах, якія распрацоўваліся з яго ўдзелам Навукова-даследчым інстытутам педагогікі Беларусі.

У апошнія гады створаны комплекс педагагічнай рэабілітацыі, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Працуюць цэнтры юных турыстаў, тэхнічнай творчасці, эколагаў-натуралістаў. Яны вядуць шырокую работу сярод дзяцей і падлеткаў, займаючы іх у вольны час. Іх выхаванцы ўдзельнічаюць у рэспубліканскіх спаборніцтвах, займаюць прэстыжныя месцы.

Грунтоўнае развіццё за 1976—1990 гг. атрымала ахова здароўя: былі пабудаваны цэнтральная раённая бальніца, хірургічны корпус гарадской бальніцы, 2 паліклінікі для дарослых і дзяцей, санэпідстанцыя, памяшканне хуткай дапамогі, інфекцыйная бальніца. У пачатку 1990-х гадоў да паслуг барысаўчан былі 4 бальніцы, 7 паліклінік, 5 дыспансераў, станцыі пералівання крыві, хуткай дапамогі і іншыя. Заводы БАТЭ, «Аўтагідраўзмацняльнік», фабрыка піяніна пабудавалі лячэбна-аздараўленчыя ўстановы, іншыя прадпрыемствы — базы адпачынку, летнія дзіцячыя лагеры. На паўночнай ускраіне горада размясціўся санаторый «Бярэзіна», у якім лечацца і адпачываюць ветэраны вайны і працы. Доўгія гады працавалі ў медыцынскіх установах горада і заслужылі павагу жыхароў Барысаўшчыны ўрачы П.С.Астроўскі, Ф.А.Гельфанд, Н.І.Голева, М.І.Жарынава, Ф.А.Забалуеў, Л.Ф.Казак, З.І.Карасік, Л.У.Казлоўскі, А.Н.Куляшоў, А.К.Лапцёнак, А.Р.Ліхадзіеўская, А.П.Левачоў, Б.М.Мардзвінаў, С.К.Максімовіч, П.Р.Петрусенка, У.І.Пракаповіч, С.Я.Рубінчык, медсёстры Ю.Ф.Бабіцкая, Р.І.Бабашкіна, В.М.Мацвеева, М.Ф.Раманоўская, Г.Б.Хоміч і многія іншыя. Узначальвае калектыў медыкаў горада С.А.Кузняцоў.

Гараджане добра памятаюць заслужаных урачоў рэспублікі В.Ц.Бакун, Т.М.Дуброўскую, Я.Б.Яцкову, якія першымі прымалі нованароджаных і лячылі немаўлят.

Дом груднога дзіцяці, дзіцячая малочная кухня, урачэбна-фізкультурны дыспансер на службе здароўя барысаўчан. Акрамя таго, на кожным прамысловым прадпрыемстве ёсць



*Гарадскі Палац культуры.*

урачэбныя і фельчарскія здраўпункты. А такія, як на заводзе медпрэпаратаў, аказваюць паслугі рабочым і служачым шмат якімі працэдурамі (іголкатэрапія, гідрамасаж і інш.). Калі ж патрэбна больш грунтоўная дапамога, запрашаюцца вузкія спецыялісты. Узначальвае здраўпункт тэрапеўт Н.Н.Камалятдзінава.

Здаўна павялося, што барысаўчане шмат у якіх галінах пачыналі першымі ў вобласці, а то і ў рэспубліцы асвойваць новыя формы работы. Адным з першых у рэспубліцы ў 1959 г. барысаўскі самадзейны драматычны калектыў стаў народным тэатрам. У яго рэпертуары былі спектаклі па п'есах А.Карнейчука «Платон Крэчат», І.Шамякіна «Глыбокая плынь», Я.Міровіча «Машэка», а таксама па п'есах М.Гогаля, В.Розава, Б.Лаўранёва, К.Транёва, А.Арбузава, Б.Шоу, М.Шатрова, Л.Талстога, М.Булгакава і іншых. Тэатр выступаў на многіх сцэнах Беларусі, а таксама ў Маскве, Ленінградзе, Вільнюсе, Калінінградзе і іншых гарадах. Ён з'яўляўся дыпламантам многіх конкурсаў і фестываляў, неаднойчы займаў высокія прызавыя месцы ў самадзейных тэатральных турнірах. Росквіт тэатра пачаўся ў 1960—1970-я гады, калі рэжысёрам быў Фёдар Мікалаевіч Міхайлаў. Прафесійны акцёр і адукаваны рэжысёр, ён спалучаў свой талент мастака з тонкім педагагічным уменнем працаваць з аматарамі драматычнага мастацтва, дабівацца станоўчых вынікаў у пастаноўках п'ес, з якімі іншы раз спраўляліся не ўсе прафесійныя тэатры. Ён адзін з першых рэжысёраў народных тэатраў быў удастоены ганаровага звання «Заслужаны дзеяч культуры Беларусі». У 1975—1983 гг. тэатр узначальвала рэжысёр Л.А.Манакова, якая падняла яго яшчэ на прыступку вышэй. З 1986 г. рэжысёрам працуе колішні таленавіты выхаванец тэатра У.А.Буйко. Тэатр стаў называцца «Відарыс» і з гонарам пацвярджае сваімі новымі пастаноўкамі пачэснае званне народнага.

Доўгія гады ў тэатры выступалі муж і жонка Анатоль і Ларыса Грачышкіны, Віктар Белтаў, Якаў Бляхер, Анатоль Гедымін, Валянціна Дзедумет, Тамара Хрэнава, Генадзь



*Сцэна са спектакля па п'есе Г.Сакаловай «Уставай, прыгажуня, прачніся» ў пастаноўцы народнага тэатра «Відарыс» (рэжысёр У.Буйко).*

Правілаў, Раіса Жыліна, Раман Раскінд, Алена Кучарэнка, Наталля Буйко, Юрый Шапчыц і іншыя.

Некаторыя ўдзельнікі народнага тэатра сталі прафесійнымі артыстамі. Гэта вядучы акцёр Ерэванскага рускага тэатра імя Станіслаўскага Георгій Крышталь, акцёры тэатра юнага гледача ў Санкт-Пецярбургу Л.Валасач, Н.Бардушка, А.Чарэднік, актрыса кіно І.Нянахава, кінарэжысер С.Сіняўскі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі рэжысёр народнага тэатра пры ДК тэкстыльшчыкаў у Мінску Я.Быткоўскі і іншыя.

На базе Барысаўскай бібліятэкі, якая атрымала пrasторны 4-павярховы будынак, упершыню ў рэспубліцы створана цэнтралізаваная сістэма гарадскіх бібліятэк па абслугоўванні чытача. У аснову цэнтралізацыі ўвайшоў вопыт бібліятэк з Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, дзе барысаўскія спецыялісты на чале з дырэктарам М.І.Хаваўка, а потым Т.М.Дронавай старанна вучыліся. Назапашаны вопыт творча пераносіўся ў свае ўстановы, і ў хуткім часе бібліятэкары з усёй Беларусі ўжо ехалі ў Барысаў — бібліятэка стала метадычным цэнтрам па ўкараненні перадавых метадаў бібліятэчнай справы. Паводле рашэння Савета Міністраў БССР, у 1977 г. работа бібліятэкі прадстаўлялася на ВДНГ у Маскве. Яна ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР (1978), ёй прысвоена званне «Бібліятэка выдатнай работы». Тут працуюць нераўнадушныя людзі на чале з дырэктарам Г.М.Слесарэнка. Яны шмат робяць дзеля таго, каб кніга стала спадарожніцай многіх барысаўчан. Прыемна тое, што быць першымі і лепшымі засталося ў традыцыі калектыву бібліятэкі.

Не адставалі ад бібліятэкараў і краязнаўцы. Менавіта на базе краязнаўчага музея, дзе скрупулёзна збіраюцца і захоўваюцца рэліквіі і звесткі па гісторыі краю, першым у рэспубліцы быў створаны ў 1988 г. Дзяржаўны аб'яднаны музей з філіяламі ў в. Іканы (Музей народнай славы) і ў г. Жодзіна (Дом-музей сям'і А.Ф.Купрыянавай). Аб'яднанне дазволіла глыбей уплываць на развіццё краязнаўства ў рэгіёне, больш актыўна весці збіральніцкую і культурна-асветную работу, узмацнілася матэрыяльная база музеяў, павысіўся заробак навуковых супрацоўнікаў. Творчы калектыў музея з'яўляўся ініцыятарам многіх добрых спраў у грамадскім жыцці горада і раёна. Па яго ініцыятыве устаноўлены 6 памятных знакаў і каля 20 мемарыяльных дошак, рэгулярна праводзіцца свята горада, прозвішчамі знакамітых землякоў названы вуліцы, многія барысаўчане сталі ганаровымі грамадзянамі, выдадзены першыя ў савецкі час кніжкі пра Барысаў і шмат інш.

Пад кіраўніцтвам музейных супрацоўнікаў створана каля 10 грамадскіх музеяў. Музей узнагароджваўся дыпломамі, ганаровымі граматамі. На жаль, так і засталіся нерэалізаванымі намаганні краязнаўцаў палепшыць умовы размяшчэння музея, стварыць у горадзе «Бярэзінскую панараму 1812 г.» і іншыя планы.

Гарадскі Палац культуры гасцінна адчыняе дзверы прыезджаму творчаму калектыву — гэта заўсёды свята. А ў будзённыя дні яго гаспадарамі з'яўляюцца гараджане. У 1980-я

гады тут працавала 30 калектываў мастацкай самадзейнасці, у якіх удзельнічала больш за 2 тыс. чалавек.

Акрамя тэатра, яшчэ 2 калектывы мелі званні народных — хор ветэранаў вайны і працы і студыя выяўленчага мастацтва, пры якой дзейнічаў клуб народных умельцаў «Каларыт». Асаблівая ўвага надаецца ў Палацы культуры дзецям. Тут працуюць дзіцячая цыркавая студыя, хор «Равеснік», студыя бальнага танца, танцавальна-спартыўны калектыў, харэаграфічная студыя. Гэта далёка не поўны пералік дзіцячых калектываў, дзе працавалі вопытныя і таленавітыя кіраўнікі. Заняткі, канцэрты, выстаўкі, сустрэчы з мэтрамі розных галін мастацтва прыцягваюць тысячы барысаўчан, якія праводзяць тут свой вольны час. Работнікі культуры садзейнічаюць адраджэнню і развіццю народных традыцый, звычаяў і абрадаў.

Добры след у культурным жыцці горада пакінулі Н.С. і Я.А.Анашчанкі, Г.П.Анціпаў, С.І.Баярынка, В.М.Белтаў, Я.І.Бляхер, В.А.Дзедумет, М.В.Ільічоў, Н.І.Лістратава, М.І.Леўчанка, М.П.Маўчанскі, Ф.М.Міхайлаў, Л.М.Мельнікава, Л.Р.Сальчанка, І.У.Уладзімірава, У.С.Хрэнаў, А.А.Ягорава і многія іншыя.

Да паслуг барысаўчан у горадзе працуюць Палац культуры, 4 дамы культуры пры прадпрыемствах, 2 дамы афіцэраў, 10 клубаў, 4 кінатэатры, цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма, у якую ўваходзіла 6 падраздзяленняў, парк адпачынку, Дзяржаўны аб'яднаны музей і 15 грамадскіх музеяў, дзіцячыя музычная, мастацкая і харэаграфічная школы, 24 прафсаюзныя бібліятэкі, народны тэатр (напомнім для параўнання: пасля вайны ў горадзе дзейнічаў 1 Дом культуры, 1 стадыён, 2 бібліятэкі).

Каля 200 аматарскіх аб'яднанняў і калектываў мастацкай самадзейнасці дзейнічае ў культурных установах горада. Сярод іх, акрамя ўжо названых, мастацтвазнаўчае аб'яднанне «У свеце прыгожага» пры Доме культуры завода БАТЭ, тэатр мініяцюр пры



*У Барысаве свята горада. 1992 г.*

Доме культуры завода «Экран», агітбрыгада хрустальнага завода, дзіцячыя танцавальныя калектывы «Ручаёк», «Натхненне» і многія іншыя.

Больш за 40 гадоў у Барысаве працуе літаратурнае аб'яднанне, якое раней называлася «Бярэзіна», пазней — літаратурна-музычны клуб «Каўчэг». Стваральнікам і першым кіраўніком яго быў паэт Леанід Рашкоўскі. З аб'яднання выйшлі такія паэты і пісьменнікі, як В.Медуніцкі, В.Гігевіч, А.Брава, А.Лапошыч, А.Ляўша, М.Мятліцкі, У.Пецюкевіч, Т.Зіненка, В.Барысаў, А.Стрыгалёў і іншыя. У некаторых выйшлі асобныя кніжкі, іншыя друкаваліся ў зборніках.

Са снежня 1918 г. у Барысаве выдаецца раённая газета. У розныя часы яна выходзіла пад рознымі назвамі («Известия Совдепа», «Бедняк», «Бальшавік Барысаўшчыны», «Бальшавіцкая трыбуна», «За камунізм», «Камуністычная праца», з 1992 г. «Адзінства»). Д.Капыткоў, Я.Лукоўскі, А.Герасіменка, А.Брава, А.Алпатаў, А.Астроўскі, якія пэўны час рэдагавалі газету, прыкладвалі шмат намаганняў, каб яна была цікавай і карыснай. Гартаючы старыя падшыўкі, можна шмат цікавага даведацца па гісторыі барысаўскага краю, пра яго станаўленне і развіццё ў розныя часы. Акрамя раёнкі, выдавалася ў горадзе 3 ведамасныя газеты на заводах БАТЭ, АГУ, «Экран». У 1990-я гады пачалі выдавацца яшчэ 4 гарадскія незалежныя газеты, працуе «12-ы канал» мясцовага тэлебачання і радыёпраграма «Навіны Барысаўшчыны».

Ідуць гады, важкія перамены адбываюцца ва ўсіх галінах жыцця горада. Адбыліся яны і ў спорце.

Створана значная база для заняткаў гараджан фізкультурай і спортам — пабудаваны спартыўны камбінат, стадыён, адкрыты дзесяткі спартыўных залаў, пляцовак, спартыўныя комплексы пры заводах. Не пустуюць сауны і басейны. У горадзе дзейнічаюць 7 спартыўных школ па 18 відах спорту, працуюць секцыі плавання, веславання, сінхроннага плавання, коннага спорту, тэніса і інш., спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа




*У час лёгкаатлетычнага кросу.*

алімпійскага рэзерву, некалькі фізкультурна-аздараўленчых камбінатаў, 23 спартыўныя клубы, некалькі дзесяткаў фізкультурна-аздараўленчых і спартыўных залаў. Звыш 120 спартсменаў сталі майстрамі спорту, 7 заслужанымі майстрамі спорту. На XXII Алімпійскіх гульнях у Маскве заслужаны майстр спорту барысаўчанін Алег Логвін стаў алімпійскім чэмпіёнам па велагонках. Чэмпіёнам Узброеных сіл СССР (1973), уладальнікам Кубка СССР (1975), сярэбраным і бронзавым прызёрам чэмпіянатаў свету і Еўропы, неаднаразовым пераможцам і прызёрам міжнародных рэгат байдарачнікаў-адзіночак быў Мікалай Сцепаненка. Майстар спорту міжнароднага класа, ён стаў працаваць трэнерам па веславанні, вучыць дзяцей авалодваць гэтым нялёгкім відам спорту на Бярэзіне, дзе калісьці і сам рабіў першыя крокі. Барысаўчане дасягнулі добрых вынікаў на рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтвах па цяжкай атлетыцы. Віктар Харытончык — майстар спорту міжнароднага класа, чэмпіён Беларусі 1986—1993 гг., чэмпіён СССР 1988 г., бронзавы прызёр чэмпіянату Еўропы (1993). Майстар спорту міжнароднага класа Дзмітрый Сіняк пачаў з таго, што стаў сярэбраным прызёрам чэмпіянату свету і Еўропы 1987 г. сярод юніёраў. Барысаўчанін Віктар Кульбачэнка, урач па адукацыі, у 1994 г. з'явіўся адзіным з першай беларускай экспедыцыі ў Гімалаі, хто здолеў падняцца на вяршыню найпрыгажэйшай гары Канчэнджанга (8586 м). Ён майстар спорту міжнароднага класа па альпінізме. Неаднаразовы чэмпіён Беларусі, СССР, удзельнік чэмпіянату свету Ігар Праскурын стаў пераможцам адкрытага чэмпіянату калясачнікаў у Германіі і ўдзельнікам Параалімпійскіх гульняў у Атланце (ЗША).

Шмат сіл прыклалі ў праслаўленне зямлі барысаўскай на ніве спорту заслужаныя трэнеры Беларусі М.Я.Сігальчык, Я.Ф.Мазуркевіч, Л.Е.Навуменка, А.Б.Голаў, М.Н.Саладар, С.В.Бабіцкі, А.А.Каралёў, А.В.Быкаў, Г.А.Іёненкава, В.А.Казак.

Штогод у горадзе праводзяцца спартакіяды (зімняя — па 7 відах спорту, летняя — па 8), першынство горада па асобных відах спорту, лёгкаатлетычная эстафета, іншыя спаборніцтвы.



*Каманда Барысаўскага гарвыканкома — пераможца абласнога турніру па валейболе ў г. Слуцку. 2000 г.*



*Баскетбалісты барысаўскага «Папіруса» — удзельнікі чэмпіянату Беларусі ў вышэйшай лізе.*

Далёка за межамі горада вядомы імёны барысаўскіх спартсменаў, сярод якіх рэкардсмен рэспублікі па цяжкай атлетыцы Генадзь Гуздзельскі і неаднаразовы чэмпіён рэспублікі сярод цяжкаатлетаў майстар спорту Аляксандр Парфяновіч; майстар спорту па веславанні на байдарках і каноэ, прызёр чэмпіянату свету, Еўропы сярод юніёраў Аляксей Абалмасаў, члены нацыянальных зборных дзюдаістка Наталля Шаблінская, лыжнік Сяргей Крына, біятланіст Аляксандр Іваноўскі і многія іншыя.

Добра ведаюць у рэспубліцы і футбольную каманду БАТЭ, якая станавілася чэмпіёнам і прызёрам першынства Беларусі па футболе, клуб «Гефест», дзе займаюцца інваліды з парушэннем апорна-рухальнага апарату; занальны турысцкі клуб на чале з кіраўніком Аляксандрам Калачовым. Члены гэтага клуба правялі больш за 3000 паходаў рознай катэгорыі складанасці.

Толькі адзін трэнер па цяжкай атлетыцы В.В.Мазалёў падрыхтаваў 16 майстроў спорту, больш за 20 пераможцаў і прызёраў буйных спаборніцтваў. Доўгі час старшынямі гарадскога камітэта па фізічнай культуры і спорце працавалі М.Г.Газізаў, І.А.Малінка, А.Ф.Каплінскі, Ю.І.Савіцкі, Л.І.Гайдук, У.А.Алейнікаў, А.А.Задарожны. Кожны з іх унёс




*На полі футбалісты БАТЭ.*





*Л.П.Козік.*



*У.М.Дронаў.*

пэўны ўклад у развіццё фізічнай культуры і спорту, у падрыхтоўку выдатных спартсменаў і будаўніцтва спартыўнай базы.

У горадзе працуюць бюро падарожжаў і экскурсій, некалькі турыстычных фірмаў, якія робяць усё, каб барысаўчане мелі магчымасць карысна праводзіць свой вольны час.

Ганарацца барысаўчане сваімі знакамітымі землякамі. У Барысаве правёў свае дзіцячыя гады вядомы беларускі фізік Георгій Паўлавіч Гурыновіч. Тут нарадзіўся і пачаў працаваць наватар чыгуначнай справы Герой Сацыялістычнай Працы Павел Дзмітрыевіч Суднікаў. У Маскоўскім вышэйшым тэхнічным вучылішчы доўгія гады выкладаў доктар фізіка-тэхнічных навук прафесар Георгій Юр'евіч Мазінг, а ў МГУ — доктар фізіка-матэматычных навук Ян Іванавіч Палякоў. Барысаўчанін Віктар Рыгоравіч Пашкевіч стаў доктарам гістарычных навук, прафесарам Ужгарадскага універсітэта. У Барысаве нарадзіліся таксама прафесар, адна з першых савецкіх спецыялістаў па ахове працы Зара Аляксандраўна Хацкевіч; аўтар вядомай кнігі «Дыягностыка ўнутраных хвароб» прафесар Барыс Саламонавіч Шкляр; беларускі антраполаг Інэса Іванаўна Салівон; доктар філалагічных навук, акадэмік Васіль Васільевіч Барысенка; лаўрэат Ленінскай прэміі Міхаіл Міхайлавіч Берман; дзяржаўны дзеяч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Анатоль Антонавіч Рэвут; дзяржаўны дзеяч, доктар эканамічных навук, прафесар Леанід Пятровіч Козік; Герой Расіі контр-адмірал-падводнік Уладзімір Мікалаевіч Дронаў; адзін з распрацоўшчыкаў верталёта МІ-8 Арон Юдавіч Ліс; доктар тэхнічных навук, правадзейны член УАСГНІЛ Анатоль Іванавіч Мурашка; Герой Сацыялістычнай Працы Ганна Казіміраўна Вяржбіцкая; дзяржаўныя дзеячы і военачальнікі браты Іосіф Аляксандравіч і Уладзімір Аляксандравіч Адамовічы; Герой Савецкага Саюза Павел



*Ю.П.Астроўскі.*



*А.У.Фёдараў.*

Фёдаравіч Тоўсцікаў; беларускі дзяржаўны дзеяч Мікалай Яфрэмавіч Аўхімовіч; галоўны кардыёлаг рэспублікі прафесар Юрый Пятровіч Астроўскі; заслужаны артыст Беларусі, галоўны дырыжор і начальнік аркестра Узброеных сіл Беларусі Аляксандр Уладзіміравіч Фёдараў і многія іншыя.

Выхадцамі з Барысаўшчыны з'яўляюцца вядомы афтальмолаг доктар медыцынскіх навук Таццяна Васільеўна Бірыч, нейрахірург доктар медыцынскіх навук Марфа Васільеўна Паўлавец, беларускі мовазнавец лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Алена Іванаўна Чабярук.



*А.А.Анікейчык.*

Барысаў і Барысаўшчына — радзіма Анатоля Аляксандравіча Анікейчыка, скульптара, народнага мастака Беларусі; Макара Кандратавіча Вронскага, скульптара, народнага мастака Украіны; Генрыха Васільевіча Паўлоўскага, заслужанага мастака Расіі; мастакоў Івана Міхайлавіча Ушакова, Наталлі Сцяпанаўны Ганчаровай, Мікалая Іосіфавіча Ісаенкі, Мікалая Дзмітрыевіча Рыжага, Валерыя Фёдаравіча Шкарубы, Надзеі Лежэ, якая жыла ў Францыі; заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, рэжысёра Валерыя Яўгенавіча Мазынскага, кампазітара Рычарда Пятровіча Бутвілоўскага, спявачкі Марыі Уладзіміраўны Адамейка і многіх іншых.

Шмат добрых імёнаў дала Барысаўшчына беларускай літаратуры: заснавальнік і кіраўнік Барысаўскага літаратурнага аб'яднання «Маладняк», літаратурны крытык Мікалай Мікалаевіч Аляхновіч, паэты і пісьменнікі Галіна Георгіеўна Васюкова, Васіль Сямёнавіч Гігевіч, Міхась (Міхаіл Мікалаевіч) Клімковіч, Васіль Хрысанфавіч Медуніцкі, Леанід Сямёнавіч Рашкоўскі, Аляксандр Іванавіч Сакалоў, Юрый Васільевіч Станкевіч, Ізі (Ісак Давыдавіч) Харык, Рыгор Мікітавіч Хацкевіч, Уладзімір Міхайлаліч Шахавец.

* * *

Не абмяжоўваўся Барысаў толькі сваімі гарадскімі праблемамі. Дапамога сельскім працаўнікам — пастаянны клопат рабочага горада. Дзелавыя ўзаемаадносіны калектываў дазваляюць спраўляцца з уборкай ураджаю, нарыхтоўкай кармоў, рамонтам тэхнікі і г.д. За пасляваенны час сельская гаспадарка раёна аднавілася практычна з нуля. Разбураныя і спаленыя вёскі, адсутнасць нават лапат і грабель — вось з чаго прыйшлося пачынаць. Але, нягледзячы на галечу і беднасць, раён паступова пераадольваў усе цяжкасці. Былі створаны 54 будаўнічыя брыгады з 400 сталяроў. З іх удзелам талака будавала дамы, фермы, людзі перабіраліся з зямлянак. Аднаўляліся калгасныя гаспадаркі з дапамогай іншых абласцей Савецкага Саюза, адкуль прывозілі насенне, жывёлу, тэхніку.

У 1950-я гады 133 дробныя гаспадаркі аб'ядналіся ў 45. На калгасных фермах налічвалася ўжо 2625 галоў буйной рагатай жывёлы, 4430 свіней і звыш 22 тыс. галоў птушкі. З кожным годам расшыраліся пасяўныя плошчы, упершыню стаў выкарыстоўвацца шматпольны севазварот.

Значных перамен гаспадаркі раёна дабіліся ў 1960—1970-я гады. Калгасы папаўняліся кваліфікаванымі кадрамі, МТС — новымі трактарамі, камбайнамі, бульбасаджалкамі. Павысіліся грашовыя даходы гаспадарак, 10 з іх мелі на сваіх рахунках дзесяткі мільёнаў рублёў. Раслі ўраджаі. У калгасах імя Чкалава і «Маяк камунізму» на круг атрымлівалі па 36 ц і 41 ц збожжавых. Кіраўнікі гаспадарак Аляксандр Дзмітрыевіч Кажамякін і Феадосій Вавілавіч Юданаў атрымалі высокае ганаровае званне Героя Сацыялістычнай Працы. Такога ж звання ўдастоена дырэктар прыгараднага саўгаса «Стара-Барысаў» Ганна Казіміраўна Вяржбіцкая. Яе гаспадарка вырошчвала агародніну для гараджан.

У пачатку 1970-х гадоў пачынаецца спецыялізацыя і канцэнтрацыя сельскагаспадарчай вытворчасці. У 1975 г. уступіў у эксплуатацыю саўгас-камбінат «Барысаўскі» па вытворчасці свініны на прамысловай аснове на 12,5 тыс. т у год; у 1980-я гады здадзены ў эксплуатацыю комплекс па адкорме буйной рагатай жывёлы ў калгасе «Чырвоны наваселец» на 3 тыс. галоў, саўгас «Мётча» займаўся авечкагадоўляй, «Гвардыя» і «Весялова» — птушкагадоўляй з сучаснай перапрацоўчай базай; калгасы «Маяк камунізму», імя Чкалава, «Чырвоная зорка» вырошчвалі збожжавыя; саўгас «Радуга» — насенне траў, «Лошніца» — бульбу.

На 1990 г. у раёне дзейнічала 8 саўгасаў і 21 калгас. Буйныя гаспадаркі мелі магчымасць укладваць больш грашовых сродкаў у будаўніцтва і добраўпарадкаванне пасёлкаў і вёсак. У Лошніцы, Вяляцічах, Хаўхоліцы, Зембіне, Жыцькаве, Ухалодзе, Мётчы і многіх іншых з'явіліся дамы культуры, школы, амбулаторыі, гандлёвыя цэнтры, дзіцячыя ўстановы, лазні, майстэрні бытавога абслугоўвання, водаправод, добрыя дарогі.

Самааддана, з любоўю да сваёй справы працавалі аграномы В.К.Кузміцкі і В.Ф.Левачоў, свінарка В.С.Шульга, даяркі П.М.Якубоўская і Ю.Л.Шыкавец, жывёлаводы Г.К.Галадок, М.Ф.Гаўрылей, Н.Л.Касяновіч, І.В.Кузура, А.Б.Палянскі, Г.Т.Сабалеўская і многія іншыя. Іх праца адзначана высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі, яны карысталіся павагай у грамадстве.

Шмат увагі ў часы адраджэння і станаўлення гаспадарак раёна аддавалі раённыя кіраўнікі: П.К.Бузо, В.А.Глод, А.Ф.Гурскі, П.А.Іваноў, А.А.Кілбас, І.М.Мажэйка, А.В.Радзецкі, І.Ф.Сыравежка, С.М.Шантар і іншыя.

Рэформы, якія кранулі не толькі прамысловасць, пазітыўна паўплывалі на жыццё вёскі, яна стала непазнавальнай, большасць вяскоўцаў пабудавала дабротныя дамы, у гаспадаркі завозіўся газ, электрычнасць стала неад'емнай часткай быту вёскі. Матэрыяльнае становішча сельскіх жыхароў значна палепшылася.

Аднак і ў сельскай гаспадарцы меліся вялікія недахопы: механізацыя працы адставала ад патрэб часу, закупачныя цэны былі нізкімі, эфектыўнасць працы невялікай, заработная плата не стымулявала творчага падыходу да справы, дысцыпліна не заўсёды адпавядала інтарэсам гаспадаркі і г.д. І гэта не спрыяла намечаным тэмпам развіцця сельскай гаспадаркі.

Вялікая і карпатлівая работа вялася па пераадоленні малапісьменнасці, пастаянна пашыралася і паляпшалася матэрыяльная база народнай адукацыі і культуры раёна.

Дзеці навучаюцца ў 41 школе, вучні са слабым здароўем накіроўваюцца ў школу-інтэрнат санаторна-курортнага прызначэння, што размяшчаецца ў в. Стара-Барысаў. Для дашкольнікаў адкрыты 28 дзіцячых садоў. Выдатныя настаўнікі і выхавацелі, такія як Л.Я.Сасноўская, Н.П.Мацвеева, Н.М.Мікуліч, Н.Д.Гурына, В.М.Лагун, В.Лайкоў і многія іншыя даюць вучням трывалыя веды, праводзяць вялікую выхаваўчую работу.

Тэрытарыяльна-медыцынскае аб'яднанне раёна ўключае цэнтральную і 9 участковых бальніц, 6 амбулаторый і 3 здраўпункты, 40 фельчарска-акушэрскіх пунктаў, цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Вялікую павагу ў насельніцтва заслужылі ўрачы Э.М.Ляцкая, А.М.Галаўнеў, У.І.Фунт, М.І.Самцэвіч, Л.У.Амбросава, Т.М.Максімовіч і многія іншыя.

У гэты ж час на тэрыторыі раёна дзейнічала 27 дамоў культуры, 18 клубаў, раённы метадычны цэнтр культуры, Музей народнай славы, 5 музычных школ, 49 бібліятэк, у якіх працавала 167 спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй. У раёне працавала 187 магазінаў, 75 сталовых, 4 гандлёвыя цэнтры.

Усе буйныя і многія дробныя вёскі звязваліся з горадам дзесяткамі аўтобусных маршрутаў.

У часы ўзбуйнення прамысловасці Барысава, многа моладзі з сельскай мясцовасці пераехала ў горад. Вёскі пастарэлі, з'явіліся пустыя дамы. Некаторыя з іх аддалі перасяленцам з забруджаных раёнаў, якія падлягалі адсяленню, але і новых дамоў пабудавалі шмат для тых, хто пераязджаў на новае месцажыхарства. На жаль, Чарнобыльская катастрофа закранула 24 вёскі раёна. Выдзеленыя дзяржаваі сродкі на правядзенне мерапрыемстваў па пераадоленні наступстваў аварыі паступова выкарыстоўваюцца для паляпшэння ўмоў жыцця жыхароў Барысаўшчыны.

* * *

Вось такі гэты горад, што ляжыць на абодвух берагах Бярэзіны. Аб рацэ трэба расказаць асобна. Бярэзіна — другі па велічыні прыток Дняпра. Яна перасякае горад за 50 кіламетраў ніжэй сваіх вытокаў і значна ўплывае на гарадскі клімат, робіць яго больш мяккім. Аднак у час вясенняй паводкі тут дзьмуць вятры, тэмпература падае, холад адмоўна сказваецца на цвіценні садоў. Замярзае Бярэзіна каля Барысава ў сярэдзіне снежня, а ўскрываецца ў 1-й палове красавіка. Але ж бывае і так, што рака і ў зіму замярзае толькі па берагах. Вясенні разліў затапляе лугі і пашы, узровень вады падымаецца на 1—1,5 м. Але вядомы выпадкі, як напрыклад у 1928 г., калі ўзровень вады ў Бярэзіне дасягнуў 383 см. У межах горада ў Бярэзіну ўліваюцца воды двух прытокаў — Схі і Плісы.

Народны паэт Беларусі Янка Купала любіў барысаўскую зямлю і часта прыязджаў сюды адпачываць і працаваць. У паэме «Барысаў» ёсць такія радкі:

Плыве рака Бяроза плаўна,  
Плыве, мінае горы, долы,  
На берагах яе спрадаўна  
Паўсталі гарады і сёлы.

Паўстаў Барысаў у сотні гоняў,  
Стаіць над рэчкай і сніць думы,  
Якім ён быў, якія сёння  
Яму пяюць Бярозы шумы.

## Ганаровыя грамадзяне горада Барысава

Анатоль Аляксандравіч Анікейчык, Мікалай Міхайлавіч Афонін, Мацвей Рыгоравіч Вайнруб, Яўсей Рыгоравіч Вайнруб, Дзмітрый Кліменцьевіч Гаўручонак, Макар Кандратавіч Вронскі, Аляксандр Іванавіч Казлоў, Аляксандра Аляксандраўна Кулін-



*Пасвячэнне былога старшыні Барысаўскага гарвыканкома П.Р. Мартысюка ў ганаровыя грамадзяне Барысава. 1987 г.*

ковіч, Данат Мікалаевіч Капуцкі, Міхаіл Фёдаравіч Кузняцоў, Аляксандр Васільевіч Кулакоў, Валянцін Васільевіч Маркаў, Пётр Рыгоравіч Мартысюк, Віктар Рыгоравіч Пашкевіч, Міхаіл Яўсеевіч Рабцаў, Павел Фёдаравіч Тоўсцікаў.

*Ж.В.Гілевіч.*

## З гісторыі буйнейшых прадпрыемстваў Барысава

### ЗАВОД АГРЭГАТАЎ

Размешчаны на месцы, дзе з 1878 г. існавала некалькі прадпрыемстваў: у 1878—1890 гг. — лесапілка, у 1891—1926 гг. — запалкавая фабрыка «Вікторыя», з 1927 г. асноўная вытворчасць — апрацоўка лесаматэрыялаў, у 1934—1941 гг. — асваенне вытворчасці піяніна.

У гады вайны заводскія памяшканні былі спалены. Адбудаваны з утварэннем суднаверфі, якая існавала ў 1947—1956 гг. У 1957—1958 гг. тут быў станкарамонтны завод. У 1958 г. на яго базе ствараецца філіял Мінскага трактарнага завода, які ў 1961 г. становіцца самастойным прадпрыемствам — заводам гідраапаратуры, з 1970 г. завод агрэгатаў. З 1983 г. у вытворчым аб'яднанні «Мінскі маторны завод».

Асноўная прадукцыя — вузлы рухавікоў, турбакампрэсары і запасныя часткі да трактароў, камбайнаў, аўтамашын, тавары народнага ўжытку (вадзяныя помпы, тэлеантэны, мэбля турысцкая і для кухні і інш.).

### ЗАВОД «АЎТАГІДРАЎЗМАЦНЯЛЬНІК»

Пачаў будавацца ў 1968 г. як завод гідрапомпаў і гідраўзмацняльнікаў рулёў, з 1971 г. мае сучасную назву. Першую прадукцыю даў у 1972 г. Высокая ступень механізацыі і аўтаматызацыі тэхналагічных працэсаў дазваляе выпускаць высакаякасную і канкурэнтаздольную прадукцыю. Гэта ў першую чаргу механізмы рулявога кіравання грузавых аўтамабіляў, гідрацыліндры і помпы механізмаў, перакульвання кабін аўтамабіляў МАЗ, гідраразмеркавальнікі для дарожных машын, запасныя часткі, аўтапрылады, прыстасаванні і інструменты, у т.л. бытавыя. Усяго завод выпускае каля




*Барысаўскі завод агрэгатаў.*



*Будынак завода «Аўтагідраўзмацняльнік».*

40 найменняў гідравузлоў. Калектыў завода быў пастаянным пераможцам у спаборніцтвах сваёй галіны, неаднаразова атрымліваў дыпломы ВЦСПС і Дзяржстандарта СССР, Міністэрства прамысловасці Беларусі, узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР (1979).

**ЗАВОД АЎТАТРАКТАРНАГА ЭЛЕКТРААБСТАЛЯВАННЯ (БАТЭ)**

Пабудаваны ў 1958—1959 гг. З'яўляецца галаўным спецыялізаваным прадпрыемствам па масавым выпуску стартэраў розных мадыфікацый да дызельных і карбюратарных рухавікоў аўтамашын і трактароў. Вырабы пастаўляюцца на ўсе прадпрыемствы аўтатрактарнага і сельскагаспадарчага машынабудавання амаль у 60 краін. Асноўнай базай для атрымання новых вырабаў з'яўляецца сучасны тэхналагічны працэс, які ажыццяўляецца ў спецыялізаваных цэхах. З тавараў шырокага ўжытку выпускаюцца пральныя машыны, электраплiткі, электракаміны і інш. Якасць і тэхнічныя характарыстыкі асноўнай прадукцыі адпавядаюць сусветнаму ўзроўню. Калектыў завода, спецыялісты і лепшыя рабочыя шмат разоў



*Адміністрацыйны корпус Барысаўскага завода аўтатрактарнага электраабсталявання.*

узнагароджваліся дыпломамі Дзяржстандарта СССР, медалямі ВДНГ, атрымалі Дзяржаўную прэмію БССР, міжнародную «Брыльянтавую зорку».

З 1994 г. адкрытае акцыянернае таварыства.

### ДРЭВААПРАЦОЎЧЫ КАМБІНАТ

Бярэ пачатак ад невялікіх саматужных лесапільных заводаў, якія існавалі з 1912 г. і на базе якіх узнік у пачатку 1920-х гадоў завод «Камінтэрн».

У 1930-я гады праведзена рэканструкцыя і мадэрнізацыя прадпрыемства. Завод быў рэарганізаваны ў камбінат «Камінтэрн», які складаўся з лесапільнага і буйнога фанернага заводаў, мэблевага і калодачнага цэхаў. На камбінаце напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны працавалі 2 тыс. чалавек.

У вайну камбінат спалены. У 1944—1945 гг. адноўлены, у 1950—1960-я гады значна мадэрнізаваны, пашырыўся асартымент мэблі, пачаўся выпуск паркету. Выконваліся заказы Варшавы, Масквы і іншых гарадоў.

З 1980 г. пасля ўводу ў строй цэха ДВП камбінат з'яўляецца адзіным прадпрыемствам у Беларусі па выпуску драўнінна-валакністых пліт.

Спецыялізуецца на перапрацоўцы круглых лесаматэрыялаў, вытворчасці мяккай і карпуснай мэблі, тавараў шырокага ўжытку. З 1971 г. уваходзіць у аб'яднанне «Барысаўдрэў».

### ЗАВОД «ЛЕСАХІМІК»

Створаны ў 1929 г. як каніфольна-шкіпінарны завод. У 1936 г. рэканструяваны. Выпрацоўваў 750 т каніфолі і 150 т шкіпінару. У 1940 г. павялічыў выпуск прадукцыі ў 3 разы. У Вялікую Айчынную вайну знішчаны, зноў пабудаваны ў 1944—1950 гг. У 1956 г. уведзены ў дзеянне адзіны ў СССР шкіпінарна-ачышчальны цэх па вытворчасці пінэну, які прымяняўся ў сельскай гаспадарцы, а таксама эфіраальдэгідных фракцый для каляровай і чорнай металургіі.

1967—1977 гг. — перыяд актыўнага тэхнічнага пераўзбраення, мадэрнізацыі асноўнага тэхналагічнага абсталявання. З 1994 г. — адкрытае акцыянернае таварыства.

Асноўная прадукцыя: каніфоль, жывічны шкіпінар, пакост, сальвент, тасол, клей, лакі, фарбы і інш.

Мае ўзнагароды: міжнародная прэмія «Факел Бірмінгема» за здольнасць развівацца ў цяжкіх эканамічных умовах (1995), Міжнародны прыз за якасць (1997), прыз якасці і карпарацыйнага іміджу «Арка Еўропы» (1998), міжнародны прыз «За тэхналогію і якасць» (1998).

### ЗАВОД МЕДЫЦЫНСКІХ ПРЭПАРАТАЎ

Пабудаваны ў 1961—1965 гг. як фармацэўтычная фабрыка. У 1969—1990 гг. хіміка-фармацэўтычны завод. У 1984 г. пабудаваны корпус таблетачнага цэха, у 1990 г. — ампульнай вытворчасці. Дзейнічаюць участкі: галенавы, таблетачны, ампульны, друкарска-карданажны.

Асноўная прадукцыя — гатовыя лекавыя сродкі і растворы ў ампулах, парашкі для ін'екцый, таблеткі, настоі, экстракты, каплі, мазі, пасты. Выпускаецца больш за 30 млн. ампул, 150 найменняў прадукцыі.

Завод медпрэпаратаў з'яўляецца адным з заснавальнікаў сумеснага беларуска-руска-германскага прадпрыемства «ФрэБар», якое з 1992 г. размяшчаецца на яго вытворчых плошчах і спецыялізуецца па выпуску гемадыялізатараў («штучнай ныркі»), а таксама кроваправодных сістэм і іголак да іх. Мае 4 асноўныя цэхі: ліцця (загатоўкі пласмасавых дэталей), 2 зборачныя (кроваправодных магістралей і дыялізатараў) і прадзення валакна. 90 % прадукцыі ідзе на экспарт.

Высокі ўзровень механізацыі, прымяненне эфектыўных рэсурсазберагальных тэхналогій, выдатная якасць прадукцыі — характэрныя рысы «ФрэБара». Прадпрыемства ўзнагароджана міжнароднай «Брыльянтавай зоркай» за якасць савета дырэктараў Нацыянальнага інстытута маркетынгу Еўропы і Амерыкі, лаўрэат прэміі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у галіне якасці (2001).

#### ПАПЯРОВАЯ ФАБРЫКА ДЗЯРЖЗНАКА

Бярэ пачатак ад папяровай фабрыкі, якая дзейнічала з 1902 г. пад назвай «Папірус» (з 1925 г. — «Прафінтэрн»). Выпускала абгортачную паперу, у 1940—1980-я гады і канцылярскую.

У 1990-я гады пачалася карэнная рэканструкцыя і мадэрнізацыя папяровай фабрыкі. З 1992 г. вытворчае унітарнае прадпрыемства «Папяровая фабрыка» дэпартамента дзяржаўных знакаў Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь.

У 1994 г. на яго базе пачалося стварэнне спецыялізаванай галіны па вытворчасці дзяржаўных знакаў каштоўных папер і дакументаў для абароны іх ад падробкі. З 1997 г. асвоены выпуск канвертаў колькасцю больш за 70 млн. штук у год.

Асноўная прадукцыя — папера з вадзянымі знакамі, офісная папера, лента чэкавая і тэлеграфная, папера ў рулонах для шпалераў, папера і дакументы са ступенямі абароны, для множыльнай тэхнікі, а таксама паліграфічная прадукцыя — простыя і мастацкія паштовыя канверты, буклеты, этыкеткі і інш.

#### ФАБРЫКА ПІЯНІНА

Створана ў 1935 г. на базе лесазавода. У 1940 г. пабудаваны спецыяльныя вытворчыя плошчы на правабярэжжы Бярэзіны. У Вялікую Айчынную вайну разбурана, адноўлена ў канцы 1944 г. У 1950—1965 гг. рэканструявана і пашырана, стала адной з буйнейшых фабрык у СССР па вытворчасці піяніна. Прадукцыя адпраўлялася больш як у 18 краін. Калі ў 1935 г. было выпушчана ўсяго 7 штук піяніна, то ў 1991 г. — 22 тыс.

Узнагароджана Памятным Чырвоным сцягам (1969), ордэнам «Знак Пашаны» (1971), дыпломамі ВЦСПС і Дзяржстандарта СССР (1975, 1980).



*Барысаўская фабрыка піяніна.*

Акрамя піяніна выпускае цымбалы, акустычныя гітары, электрагітары, дзіцячыя цацкі, шахматы і інш.

**ПРЫБОРАБУДАЎНІЧЫ ЗАВОД «ЭКРАН»**

Пабудаваны ў 1974—1976 гг. З'яўляецца адзіным прадпрыемствам у Беларусі па вытворчасці пілатажна-навігацыйных комплексаў, сістэм аўтаматычнага кіравання, камандна-пілатажных прыбораў, блокаў сувязі, блокаў упраўлення і кантролю, авіяцыйнай кантрольна-вымяральнай апаратуры для сучасных самалётаў маркі СУ, а таксама для грамадзянскіх лятальных апаратаў. Завод — адзін з буйнейшых у СНД вытворцаў антыблакіровачных сістэм тармажэння для аўтобусаў і грузавых аўтамашын, электрабытавой тэхнікі (фенаў, прасаў, дрылёў, міксераў і інш.). У 1983 г. на базе завода створана Беларускае вытворчае аб'яднанне «Экран», у якое ўваходзіць яшчэ Івацэвіцкі прыборабудаўнічы завод.



*Карпусы Барысаўскага прыборабудаўнічага завода «Экран».*

У 2001 г. адбыліся рэканструкцыя і мадэрнізацыя прадпрыемства. Уваходзіць у расійска-беларускую міждзяржаўную фінансавую прамысловую групу «Аэракасмічнае абсталяванне».

Удзельнік выставак на міжнародным авіясалоне ў Ле Буржэ (Францыя).

#### ФАНЕРНА-ЗАПАЛКАВЫ КАМБІНАТ

У 1901 г. створана запалкавая фабрыка пад назвай «Бярэзіна». Вырабляла да 60 тыс. скрынак запалак у год і фанерныя сядзенні. Выкарыстоўваліся паравыя рухавікі ў 15—75 — 200 конскіх сіл. У 1910 г. працавалі 399 рабочых.

Разбурана ў гады акупацыі ў 1918—1920 гг., адбудавана ў 1921 г.

З 1922 г. стала называцца «Чырвоная Бярэзіна», выпускала 116,3 тыс. скрынак запалак.

У 1929 г. на яе вытворчых плошчах пабудавана новая фабрыка — «Пралетарская перамога». У 1934 г. ёй прысвоена імя С.М.Кірава. Памяшканні старой фабрыкі «Чырвоная Бярэзіна» пераабсталяваны пад фанерны завод. У сярэдзіне 1930-х гадоў прадпрыемствы аб'яднаны ў фанерна-запалкавы камбінат. У Айчынную вайну разбураны і спалены, у 1944—1945 гг. адноўлены, у 1948 г. пераўзышоў даваенны ўзровень вытворчасці.

У 1972—1974 гг. адбылася рэканструкцыя запалкавай фабрыкі з пераводам на выпуск запалак у кардонных скрынках, у строй былі ўведзены новыя карпусы. Фабрыка вырабляла каля 2,5 млрд. скрынак за год і лічылася самай буйной у свеце па колькасці выпушчаных запалак. Узнагароджвалася ганаровымі граматамі ВС БССР (1976, 1977).

На адходах вытворчасці працуе цэх цвёрдых драўнінна-валакністых пліт.

У 1971 г. на базе фанерна-запалкавага камбіната створана аб'яднанне «Барысаўдрэў», у якое яшчэ ўваходзяць дрэваапрацоўчы камбінат і леспрамгас.

#### ХРУСТАЛЬНЫ ЗАВОД

Заснаваны ў 1898 г. як гута па вырабе посуду і лямпавага шкла. У 1910 г. хрустальны завод «Барысаў», працавала 260 рабочых, устаноўлены лакамабіль і паравы кацёл. На выстаўцы ў Парыжы хрустальныя вырабы адзначаны залатым медалём. У акупацыю ў 1918—1920 гг. разбураны, адноўлены ў 1921 г. У 1920—1930 гг. рэканструяваны.

У 1930-я гады прасаваныя вырабы завода лічыліся лепшымі ў краіне, выконваліся заказы для ВДНГ у Маскве, іншых гарадоў.

У Айчынную вайну зноў разбураны, адноўлены ў 1945 г. У 1947 г. выпуск прадукцыі дасягнуў даваеннага ўзроўню. У 1966—1969 гг. пачалі працаваць новыя цэхі каляровага посуду і хрусталю, бясколернага і мастацкага шкла з аўтаматызаваным працэсам шкловарэння, выпускалася 700 найменняў вырабаў. Лепшыя ўзоры экспанаваліся на міжнародных выстаўках і кірмашах у Канадзе, Генуі, Бруселі, Лейпцыгу, Парыжы і іншых гарадах, усяго ў 24 краінах, адзначаліся медалямі і дыпломамі, у т.л. «Залатым арлом» (Парыж, 1977), міжнароднай «Брыльянтавай зоркай» (1994), Гран-пры (Італія, 1998).

Узоры распрацоўвалі прафесійныя мастакі А.Абрамава, А.Пракоф'еў, П.Арцёмаў, Т.Арцёмава і іншыя.

Толькі ў 1970—1980 гг. калектыў завода 44 разы запар займаў 1-е месца ва ўсесаюзных і рэспубліканскіх спаборніцтвах.

* * *

Акрамя таго, у Барысаве дзейнічаюць **заводы**: інструментальны, пластмасавых вырабаў, «Чырвоны металіст» па выпуску эмаліраванага посуду, 140-ы па рамонце вайсковай тэхнікі, завод па рамонце радыёэлектроннага ўзбраення, «Гуматэхніка», палімернай тары «Паліміз», рэммехзавод, зборнага жалезабетону, бытавой хіміі, аўтарамонтны, шпалазавод, безалкагольных напояў; **камбінаты**: тэкстыльных матэрыялаў, хлебапрадуктаў, мясакамбінат, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, домабудаўнічы; **фабрыкі**: мастацкіх вырабаў, 2 швейныя, макаронная «Барымак»; **іншыя прадпрыемствы**: будтрэст № 21, «Барысаўхлебпром», дзіцячага спецпрадукту, «Барыфорг» па выпуску сінтэтычных нітак, 2 прадпрыемствы («Залатая іголка», «Інтэграцыя») таварыстваў інвалідаў па слыху і зроку, узбуйненая тыпаграфія, леспрамгас.

*Ж.В.Гілевіч.*

## Значныя падзеі ў жыцці Барысава ў 1990—2002 гг.

**1990 г.**

У ліку першых народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання выбраны нашы землякі — прафесар-кардыёлаг, доктар медыцынскіх навук Рыгор Арсенцьевіч Вячэрскі, дырэктар швейнай фабрыкі Леанід Пятровіч Козік, дырэктар завода агрэгатаў Мікалай Іванавіч Лобач, дырэктар завода «Чырвоны металіст» Іван Іванавіч Трусаў.

**1991 г.**

Пабудавана і ўведзена ў эксплуатацыю 4-я паліклініка.

У горадзе пачаў працаваць жаночы савет, які кіруе Т.М.Дронава.

**1992 г.**

Адноўлены помнік расійскім воінам, які быў пабудаваны на Брылёўскім полі да 100-годдзя перамогі ў вайне 1812 г.

У цэнтральнай гарадской бібліятэцы створана адзіная ў горадзе выставачная зала.

Адкрыта сярэдняя школа № 20.

**1993 г.**

Барысаўскі камбінат прыкладнога мастацтва закончыў 10-гадовую працу над цыклам габеленаў для Беларускага тэатра оперы і балета.

**1994 г.**

Барысаўчанін Валерый Румянцаў, інвалід 1-й групы, за ўдзел у марафоне на інвалідных калясках па маршруце Масква — Алма-Ата адзіны з беларусаў узнагароджаны расійскім ордэнам Мужнасці, які ўручыў яму Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын.

Барысаўскія прадпрыемствы — заводы медыцынскіх прэпаратаў, БАТЭ і хрустальны — удастоены міжнароднай «Брыльянтавай зоркі» за якасць.

**1995 г.**

У Барысаве з'явіўся ўласны праектны інстытут «Барысаўпраект» — пераемнік Барысаўскай праектнай майстэрні.

**1996 г.**

Барысаўчаніну Уладзіміру Мікалаевічу Дронаву, контр-адміралу ВМФ Расіі, за праяўлены гераізм, звязаны з рызыкай для жыцця пры выпрабаванні новых атамных падводных лодак, прысвоена званне Героя Расіі.

Начальнік 140-га рамонтнага завода Уладзімір Фёдаравіч Сакач у складзе творчага калектыву стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Расіі за шэраг распрацовак на тэму канверсіі ў галіне прамысловасці.

Барысаўчанін кардыяхірург, доктар медыцынскіх навук Юрый Пятровіч Астроўскі ўдастоены Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Здадзены ў эксплуатацыю новы будынак інфекцыйнай бальніцы.

У Барысаве пачало дзейнічаць уласнае тэлебачанне — тэлекампанія «Скіф» (12-ы канал).

Закончана рэстаўрацыя помніка С.Арджанікідзе.

**1997 г.**

Адкрыты філіял недзяржаўнага інстытута кіравання і прадпрымальніцтва.

У выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» імя П.Броўкі выйшла гісторыка-дакументальная хроніка «Памяць. Барысаў. Барысаўскі раён».

За мужнасць, смелыя і рашучыя дзеянні ў час ліквідацыі пажару майстар-выратавальнік спецыялізаванай аварыйна-выратавальнай часці г. Барысава малодшы сяржант Аляксандр Сяргеевіч Хоміч Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі ўзнагароджаны ордэнам «За асабістую мужнасць» за нумарам 1.

Імя былой вучаніцы дзіцячай музычнай школы Людмілы Бацэка (педагог Антаніна



*Закладка рабінавай алеі жанчынамі Мінічыны ў Барысаве 14 кастрычніка 1998 г.*

Аляксееўна Фаменка) занесена ў «Залатую кнігу планеты», якая знаходзіцца ў Крамлёўскім палацы ў Маскве.

Адкрыты першы ў Беларусі Цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў.

**1998 г.**

Л.П.Козік становіцца намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.

Барысаўчанін Аляксандр Пятровіч Астроўскі прызначаны Генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Нью-Йорку (ЗША).

Барысаўскаму парку культуры і адпачынку споўнілася 70 гадоў.

Барысаў і Малаяраславец (Кулажская вобласць) становяцца гарадамі-пабрацімамі.

Альпініст з Барысава В.Я.Кульбачэнка першы з беларусаў узышоў на вышэйшую вяршыню свету Джамалунгму (Эверэст) — 8848 м.

Хрустальны завод адзначыў сваё 100-годдзе.

14 кастрычніка ў Барысаве прадстаўніцамі жаночых арганізацый Міншчыны закладзена рабінавая алея ў гонар жанчын-маці.

**1999 г.**

Споўнілася 80 гадоў гарадской бібліятэцы. Дырэктар Цэнтралізаванай бібліятэчкай сістэмы Галіна Міхайлаўна Слесарэнка была ўзнагароджана спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за дасягненні ў эстэтычным і маральным выхаванні беларускага народа і прапаганду духоўных каштоўнасцей.

Футбольная каманда БАТЭ — чэмпіён Рэспублікі Беларусь у вышэйшай лізе.

29 снежня рашэннем гарадскога Савета дэпутатаў зацверджаны герб горада.

**2000 г.**

Намеснік прэмьер-міністра Рэспублікі Беларусь барысаўчанін Л.П.Козік выбраны старшынёй эканамічнага савета Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Адкрыўся новы універсальны магазін «Веста», адзін з буйнейшых у Мінскай вобласці.

Пастаўлены помнік воінам-інтэрнацыяналістам.

**2001 г.**

15 студзеня рашэннем гарадскога Савета дэпутатаў зацверджаны флаг горада.

За 10 гадоў, пачынаючы з 1991 г., больш за 60 навучэнцаў мастацкай школы Барысава сталі пераможцамі конкурсаў дзіцячага малюнка ў Нарвегіі, Японіі, Кітаі, Галандыі, Індыі, Расіі.

Адзначыла сваё 100-годдзе запалкавая фабрыка імя Кірава.

22 чэрвеня прынята пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб святкаванні 900-годдзя г. Барысава». Створаны рэспубліканскі аргкамітэт па падрыхтоўцы да святкавання юбілею горада. Старшынёй аргкамітэта прызначаны Л.П.Козік, паўнамоцны прадстаўнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.

Барысаўчанін Л.П.Козік прызначаны на пасаду намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь абраны Віктар Аляксандравіч Гумінскі, намеснік камандзіра 65-га армейскага корпуса, і Эдуард Паўлавіч Сіняк, галоўны ўрач Барысаўскага раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання.



*У адным з залаў універмага «Веста».*





*У час пасяджэння рэспубліканскага аргкамітэта па падрыхтоўцы да святкавання 900–годдзя г. Барысава 18 красавіка 2002 г. Вядзе нараду старшыня аргкамітэта, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Л.П.Козік (у цэнтры), злева — намеснік старшыні аргкамітэта, намеснік старшыні Мінскага аблвыканкома В.В.Майко, справа — старшыня Барысаўскага гарвыканкома В.І.Бургун.*

За апошняе 10-годдзе ў Барысаве ўведзена ў эксплуатацыю 556,8 тыс. $м^2$ жылля. Пачата рэканструкцыя цэнтральных раёнаў горада.

**2002 г.**

Дырэктар гандлёва-прамыслова прадпрыемства «Веста» Валянціна Андрэеўна Конанава прызначана на пасаду намесніка міністра гандлю Рэспублікі Беларусь.

У сакавіку ў Барысаве прайшла Міжрэгіянальная навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 900-годдзю горада.

## Барысаў у святле статыстыкі (2001)

У горадзе размешчана 41 прамысловае прадпрыемства. У 2001 г. імі выраблена прадукцыі на 332,1 млрд. рублёў, выпушчана тавараў народнага спажывання на 161,4 млрд. рублёў.

Дзейнічаюць 4 замежныя і 16 сумесных прадпрыемстваў, малы бізнес прадстаўлены 581 арганізацыяй і 4644 індывідуальнымі прадпрымальнікамі.

У 2001 г. прадпрыемствамі горада было экспартавана прадукцыі на 150,8 млн. долараў ЗША, у т.л. у Расію на суму 105,2 млн. долараў (амаль 70 %), у краіны далёкага замежжа — на суму 37,9 млн. долараў ЗША.

* * *

4 аўтатранспартныя прадпрыемствы забяспечваюць грузавыя перавозкі, 1 — пасажырскія.

Тэлефонную і радыёсувязь у горадзе забяспечвае раённы вузел электрасувязі. Устаноўлена 43 547 тэлефонных нумароў.

Жыллёвае і капітальнае будаўніцтва ў Барысаве ажыццяўляюць 9 будаўнічых арганізацый.

* * *

У горадзе 514 прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання, з іх 67,3 % адносяцца да дзяржаўнай формы ўласнасці; дзейнічаюць 4 рынкі.

* * *

Гарадское тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне ўключае 10 лячэбна-прафілактычных устаноў, у т.л. гарадскую і інфекцыйную бальніцы на 570 і 200 ложкаў адпаведна, радзільны дом на 200 ложкаў, процітуберкулёзны і псіханеўралагічны дыспасеры на 60 і 30 ложкаў. Амбулаторна-паліклінічная сетка прадстаўлена 7 паліклінікамі, 3 дыспасерамі, жаночай кансультацыяй. Працуюць станцыі хуткай дапамогі і пералівання крыві.

* * *

У Барысаве 23 школы: 17 сярэдніх, 3 гімназіі, сярэдняя політэхнічная школа, політэхнічны ліцэй, школа-сад. У іх налічвалася 23 тыс. вучняў. Дзейнічаюць Цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, 38 дашкольных устаноў.

У горадзе размешчаны 3 гарадскія і 2 сельскія прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, педагагічны і політэхнічны каледжы, медыцынскае вучылішча, аддзяленне інстытута кіравання і прадпрымальніцтва.



*Горад рыхтуецца да юбілею.*

* * *

З устаноў культуры ў Барысаве дзейнічаюць гарадскі Палац культуры, 10 ведамасных і прафсаюзных клубаў, цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма, Барысаўскі аб'яднаны музей, 15 грамадскіх музеяў.

* * *

Для заняткаў фізічнай культурай і спортам у горадзе ёсць стадыён, 45 спартыўных залаў і 70 спартыўных пляцовак, 2 басейны. Дзейнічаюць 7 дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ, 23 спартыўныя клубы і грамадскія аб'яднанні.

* * *

Барысаў мае пабрацімскія сувязі з украінскім горадам Белая Царква (з 1985) і расійскімі гарадамі Падольск (з 1996), Малаяраславец (з 1998) і Мыцішчы (з 1999).

# РОЗДУМ ПРА РОДНЫ ГОРАД У ЯГО ЮБІЛЕЙНЫЯ ДНІ

Гляджуся ў азёры любімай Айчыны,
Чытаю паданні сівой даўніны,
Заглядваю ў летапіс пушчаў, даліны,
Знаходжу ў бяросце радкі Скарыны.
Радок за радочкам у сэрца ўбіраю,
Смакую, люблю, разумею яго.
Не можам мы жыць без роднага краю,
Як птушкі гнязда не кідаюць свайго.

*В.Буланда*

Чытаю паданні сівой даўніны... Лаўрэнцьеўскі і Іпацьеўскі летапісы данеслі да нас першыя ўпамінанні аб горадзе Барысаве. Цяжка ўявіць, які ў яго доўгі шлях, колькі захапляючых падзей, гістарычных імён, колькі зусім невядомых імён каля 30 пакаленняў людзей, што пражылі свае жыцці на гэтым самым месцы, што ўжо 900 гадоў носіць імя князя полацкага Барыса Усяславіча.

Старажытны Барысаў не «музей пад адкрытым небам», на жаль. Ён так размясціўся на берагах Бярэзіны, што праз яго прайшлі навалы захопнікаў, ён стаў на вякі магістраллю паміж Захадам і Усходам, і выконваць такую місію яму было вельмі цяжка, трэба было шмат чым ахвяраваць. Але насуперак усяму ён жыў, будаваўся, сталеў і адным з першых беларускіх гарадоў у 3-м тысячагоддзі адзначае свой 900-гадовы юбілей.

Можа, таму яму столькі ўвагі ад улады, ад усіх беларусаў, якія пажадалі дапамагчы гораду сустрэць юбілей памаладзеўшым і расквітнеўшым.

Трэба было дажыць да 900-годдзя роднага горада, каб асэнсаваць, што ён значыць у жыцці кожнага з нас.

Ён адзіны, непаўторны ва ўсім, нават у сваіх шматлікіх праблемах.

Чым жа адметны наш родны горад?

Барысаўчан сёння за 150 тысяч, гэта робіць нас дзевятым буйным горадам Рэспублікі Беларусь, самым буйным у Мінскай вобласці. Нярэдка чуваць у горадзе: чаму мы не сталіца Мінскай вобласці? І праўда, чаму?

Наша прамысловасць сёння прадстаўлена 41 прадпрыемствам. Прадукцыя, якая выпускаецца на іх, складае больш за чацвёртую частку ад усёй прадукцыі Мінскай вобласці. У 2001 г. у горадзе зароблена сродкаў на суму 65 млрд. 223 млн. рублёў. З іх барысаўчане адлічылі ў рэспубліканскі бюджэт 26 млрд. 809,7 млн. рублёў, у абласны — 18 млрд. 147,7 млн. рублёў і сабе пакінулі 20 млрд. 265,7 млн. рублёў.

З цягам часу мянялася аблічча Барысава. Ён рос і набываў прыкметы сучаснага прамысловага горада.

Ці ёсць яшчэ такі прыгожы ўезд у горад на Беларусі, як у Барысаў, калі едзеш з боку Оршы і запынаешся на мосце цераз Бярэзіну? Праверце! Можа і ёсць.

Павольная Бярэзіна сіняй стужкай аддзяляе старую частку горада з яе Васкрасенскім праваслаўным храмам і каталіцкім касцёлам ад новай. А ці такая ўжо яна і новая? Менавіта тут ужо больш за 100 гадоў таму размяшчаліся Барысаўскае дэпо, хрустальны завод. І толькі старажылы (а ў нас 100-гадовых жыхароў 6 чалавек, тых, хто пераступіў сваё 90-годдзе, — 113) памятаюць, што на месцы Цэнтральнай плошчы горада 50 гадоў таму быў стадыён, а яшчэ раней — іпадром. А мы ўсё яшчэ па звычцы лічым гэту частку горада новай.

Кажуць, наяўнасць помнікаў сведчыць аб культурным узроўні грамадства. Нельга з гэтым не пагадзіцца. Найбольш дарагія для барысаўчан тыя, што звязаны з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны. Многія адразу ўзгадаюць помнік Люсі Чалоўскай, нашай гераічнай зямлячцы, партызанцы-разведчыцы, які быў пастаўлены амаль паўвека таму. Добрыя радкі напісаў барысаўскі паэт Леанід Рашкоўскі (чалавек мужнага лёсу, які пражыў яркае, узнёслае, поўнае чалавечай годнасці жыццё):

У каждого есть лучшая улица,
Я среди боли
и вечных тревог
Всегда вспоминаю
Проспект Революции,
Который
сквозь жизнь мою
властно пролег.
Здесь юность моя началась
комсомольская,
Здесь песня звенела
на все голоса,
И Люся Чаловская,
Люся Чаловская
С надеждой и верой
смотрела в глаза.

На правым беразе Бярэзіны стаіць помнік гераічнаму танкаваму экіпажу ў складзе Паўла Рака, Аляксандра Пятраева і Аляксея Данілава. Іх танк першым уварваўся ў горад. Адрэзаныя ад наступаючых савецкіх войскаў, танкісты 17 гадзін змагаліся з ворагам. Магілы гэтых мужных байцоў, якім пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, знаходзяцца на гарадскіх могілках. Да іх прыходзяць барысаўчане, аддаючы даніну вялікай павагі сынам украінскага і рускага народаў.

Аб смутку і вечным спакоі нашэптваюць вербы ў мемарыяльным скверы на вуліцы Чапаева, дзе пастаўлены помнік ахвярам фашызму — 10 тысячам савецкіх ваеннапалонных, якія загінулі ў фашысцкім канцлагеры. Слухаючы шэпт плакучых вербаў, разумееш, што жыць у міры — найвялікшае шчасце.

На вялікі жаль, помнікі Барысава больш напамінаюць аб трагічных падзеях у яго жыцці.

У скверы, што побач з політэхнічным каледжам, пастаўлены помнік воінам-інтэрнацыяналістам, якіх з Барысава аказалася не так і мала: 855 барысаўчан удзельнічалі ў баявых дзеяннях у Афганістане са снежня 1979 г. па люты 1989 г. Гэты помнік як напамін нам, жывым, аб тым, што яны былі такімі маладымі, яны сталі і героямі і ахвярамі адначасова, яны — наш боль, наша памяць, якую нельга страціць, каб гэта не паўтарылася больш ніколі... Каб не ў камені, не ў бронзе, а жывымі вярталіся нашы сыны, мужы, унукі дадому.

Аўтары помніка — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь А.Арцімовіч (скульптар) і І.Марозаў (архітэктар), а па сутнасці гэты помнік народны, таму што ўзводзілі яго на добраахвотныя ахвяраванні гараджан, калектываў прадпрыемстваў і ўстаноў, воінскіх падраздзяленняў.

Хочацца спадзявацца, што ў горадзе ў бліжэйшы час з'явяцца і іншыя, гістарычныя помнікі: заснавальніку горада, што даў яму сваё імя, князю Барысу, храм-помнік на «Батарэях» у гонар і памяць усіх безымянных воінаў-барысаўчан, што паклалі жыцці за Айчыну. Магчыма будзе адрэстаўрыраваны і першы ў Беларусі парк культуры і адпачынку савецкага часу, які быў адкрыты ў 1927 г. Для многіх пакаленняў барысаўчан ён застаецца назаўсёды паркам іх юнацтва. Так хочацца каб ён заставаўся заўсёды паркам нашага юнацтва для многіх і многіх пакаленняў.

У юбілейны для горада год у Барысаве намечана правесці шмат цікавых мерапрыемстваў. У сакавіку адбылася Міжрэгіянальная навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная адразу дзвюм вельмі значным падзеям: 900-годдзю нараджэння Ефрасінні Полацкай і горада Барысава. І не толькі лічба «900» аб'яднала гэтыя значныя падзеі. Як вядома, вялікая прападобная Ефрасіння Полацкая — родная пляменніца заснавальніка нашага горада — князя Барыса.

Цэнтрам духоўнага і культурнага жыцця, безумоўна, з'яўляецца цэнтральная гарадская бібліятэка, якой ужо крыху больш за 80 гадоў. Цікавыя назіранні можна вынесці,



*У зале беларусікі і краязнаўства цэнтральнай бібліятэкі.*

пабываўшы ў бібліятэцы: сівагаловы пенсіянер прыйшоў у залу беларусікі, каб пазнаёміцца з гісторыяй назваў вуліц Барысава. Навошта яму гэта? Аказваецца, хоча дзядуля ўдзельнічаць у конкурсе, аб'яўленым гарадскім аддзелам культуры ў гонар 900-годдзя горада. Многа ў гэтай зале вучнёўскай моладзі. Толькі паспяваюць бібліятэкары выдаваць матэрыялы ці то па экалогіі, ці то па літаратуры, гісторыі, геаграфіі, культуры роднага краю. Душа радуецца: ёсць у нас будучае!

У выставачнай зале бібліятэкі адна за адной змяняюцца экспазіцыі, іх было ўжо 80. У Барысаве жывуць і працуюць звыш 150 прафесійных і самадзейных жывапісцаў, графікаў, майстроў прыкладнога мастацтва. Адбыліся выстаўкі вядомых у горадзе мастакоў С.Мірзаяна, Н.Ганчаровай, В.Бялова, М.Кісялёва і іншых. Разам з выстаўкамі барысаўчан прайшлі выстаўкі мастакоў з Мінска, Магілёва, Гродна, гарадоў-пабрацімаў Барысава Малаяраслаўца (Расія), Белай Царквы (Украіна). Выстаўку нашага земляка мастака В.Шкарубы наведала звыш 50 тыс. барысаўчан. Па ініцыятыве гарвыканкома В.Шкаруба вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Адбыліся ў гэтай зале выстаўкі фларыстыкі, іканапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і іншыя.

2002 год юбілейны і для Барысаўскай дзіцячай музычнай школы. Яна адзначыла сваё 50-годдзе. Творчыя калектывы гэтай школы носяць званне узорных і народных. Адзін з іх — узорны хор «Чароўнасць» (кіраўнік Л.Я.Мальцэвіч). Без яго не праходзіць ні адзін значны канцэрт у горадзе. Ён з'яўляецца лаўрэатам Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа», прызёрам абласных конкурсаў. У студзені 2001 г. гэты хор зачараваў нямецкіх прыхільнікаў харавога мастацтва, калі ўдзельнічаў у Міжнародным фестывалі арганнай і харавой музыкі у гарадах зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Другі

творчы калектыў музычнай школы — ансамбль скрыпачоў — з вялікім поспехам выступае не толькі на Беларусі, але і ў Польшчы, Чэхіі, Італіі. Кіруе ансамблем А.А.Фаменка. Імя былой удзельніцы калектыву Людмілы Бацэкі занесена ў «Залатую кнігу планеты», якая знаходзіцца ў Крамлёўскім палацы. Сёння яна студэнтка Маскоўскай кансерваторыі, стыпендыят Асацыяцыі лаўрэатаў Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага і фонду Уладзіміра Співакова. Другая ўдзельніца ансамбля Таццяна Рэвут працуе па кантракце ў Міланскім сімфанічным аркестры. Вялікую канцэртную дзейнасць вядзе і ансамбль народных інструментаў «Явар», лаўрэат абласных конкурсаў, мае запісы на рэспубліканскім радыё.

Дванаццаць гадоў дзейнічае ў горадзе харэаграфічная школа, адзіная ў вобласці, і ўжо добра вядомая ў рэспубліцы. Яна двойчы лаўрэат абласнога конкурсу «Хрустальны чаравічак» (1997, 2001), заняла 2-е месца на 1-м Рэспубліканскім фестывалі харэаграфіі ў Брэсце.

У апошні час у горадзе перажывае сапраўдны ўздым харэаграфія. З 2001 г. Барысаў запрашае да сябе ўдзельнікаў міжрэгіянальнага фестывалю дзіцячай харэаграфіі «Барысаўскі прыстанак». Напярэдадні 900-годдзя горада на фестываль прыехалі мастацкія калектывы з Беларусі, Латвіі, Расіі, Украіны, Эстоніі. Дзесяць танцавальных ансамбляў з Барысава не пакінулі сцэну без узнагарод у самых розных намінацыях, а галоўны прыз



*У час закрыцця міжрэгіянальнага фестывалю дзіцячай харэаграфіі «Барысаўскі прыстанак». 2002 г.*

фестывалю — хрустальны лебедзь — застаўся ў барысаўскім ансамблі «Раўніца» (кіраўнікі Н.Русакевіч і Н.Буйко, 2-я сярэдняя школа мастацтваў).

У апошнія гады ў горадзе адбываецца росквіт мастацкай самадзейнасці, народнай творчасці. Творчыя калектывы ўстаноў культуры горада толькі ў 2000 г. прынялі ўдзел у 35 міжнародных, рэспубліканскіх, абласных фестывалях, конкурсах, аглядах, занялі ў іх 35 прызавых, у т.л. 8 першых, месцаў.

У 2003 г. хору ветэранаў вайны і працы гарадскога Палаца культуры споўніцца 25 гадоў, 20 з якіх ён носіць ганаровае званне народнага. Хорам кіруе Таццяна Крампульц, канцэртмайстар Любоў Усціновіч. Калектыў вядзе вялікую канцэртную дзейнасць, высокім узроўнем выканаўчага мастацтва вызначаюцца яго салісты: Міхаіл Філонаў, Васіль Уланаў, Аляксандра Арцюховіч, Ніна Кароткіна.

Больш за 20 гадоў існуе ў горадзе дзіцячая мастацкая школа. Яе навучэнцы не аднойчы выходзілі пераможцамі рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў у Нарвегіі, Галандыі, Японіі, Кітаі, Індыі. Колькасць такіх пераможцаў даволі значная — 58. Усе гады школу ўзначальвае С.І.Баяранка.

Сапраўднымі цэнтрамі захавання культурна-гістарычнай спадчыны з'яўляюцца гарадскі краязнаўчы музей, 10 школьных музеяў, музей «Міласэрнасць і мужнасць» (медвучылішча) і інш. Прыкметны след у гісторыі горада пакінула краязнаўца Ж.В.Гілевіч, якая з 1965 г. да 1992 г. працавала ў мясцовым музеі спачатку навуковым супрацоўнікам, а апошнія 17 гадоў — яго дырэктарам.

Цікавыя і шматгранныя здабыткі мае сёння гарадская адукацыя. Нягледзячы на цяжкасці нашага часу, у горадзе захавана сетка дашкольных устаноў, усе запыты бацькоў па ўладкаванні дзяцей у дзіцячыя сады па месцы жыхарства абавязкова выконваюцца. Вялікая ўвага ўдзяляецца аздараўленню дзяцей: у дашкольных установах працуюць фізкультурныя залы і спартыўныя пляцоўкі, больш за 2000 дзяцей карыстаюцца 12 малымі плавальнымі басейнамі, у дзіцячых садах створаны фізіякабінеты і фітабары. Сучасныя выхаванцы дашкольных устаноў навучаюцца і выхоўваюцца ў таленавітых педагогаў і выхавацеляў, якія авалодалі сучаснымі тэхналогіямі і з поспехам выкарыстоўваюць іх у сваёй рабоце. Толькі пералік перадавых тэхналогій, па якіх працуюць настаўнікі пачатковых класаў, прымусіць здзівіцца чалавека, малазнаёмага з сучаснай школай.

Паслядоўна вырашаецца задача ўкаранення сучасных педагагічных тэхналогій і ў адукацыйны працэс базавай і сярэдняй школы. У горадзе дзейнічае 26 эксперыментальных пляцовак па іх апрабацыі, 7 з іх маюць статус пляцовак рэспубліканскага ўзроўню.

У апошні час значная ўвага ўдзяляецца дыферэнцыраванаму навучанню школьнікаў, сацыяльна-эканамічнай падтрымцы таленавітых дзяцей. Шэсць гадоў запар барысаўскія школьнікі займаюць першыя месцы на абласных прадметных алімпіядах, паспяхова выступаюць на рэспубліканскіх і міжнародных. Тут значныя дасягненні маюць педкалектывы гімназіі № 1, політэхнічнага ліцэя, сярэдніх школ № 15, 16, 17.

Якая цікавая, таленавітая моладзь падрастае, можна пераканацца, чытаючы сачыненні, вершы, што прадстаўлены на конкурс у гарадскі аддзел адукацыі напярэдадні юбілею Барысава.

Ён перажыў занапады і ўздымы,
Не аднойчы тануў у крыві.
Засцілаўся касцямі людскімі,
Дзеля міру на нашай зямлі,
Там гучалі і стрэльбаў раскаты,
І святочныя гоман і спеў.
Уздымаліся сцены і краты.
Ускіпалі і радасць, і гнеў...

*Крысціна Сінкевіч,*
*вучаніца 9-га класа СШ № 15*

* * *

Я люблю цябе, мой горад,
Як магчыма толькі ў свеце,
Самы чысты і зялёны,
Самы родны на планеце.
Я табою ганаруся,
Гавару табе я: «Дзякуй».
Ты — мой лёс. І не патрэбна
Больш Радзімы мне ніякай.
Я жадаю табе шчасця,
Даўгалецця, прыгажосці,
Каб любілі цябе людзі —
Землякі мае і госці.
Дзе б я ні была, усюды
Пра цябе я думаць буду.
І хачу ў год нараджэння,
Пажадаць здзяйснення цудаў!

*Крысціна Дрозд,*
*вучаніца політэхнічнага ліцэя*

Шчырыя словы прызнання ў любві да роднага горада, выказаныя юнымі жыхарамі Барысава, сведчаць, што для іх ён на ўсё жыццё будзе асацыіравацца з самымі лепшымі пачуццямі і ўспамінамі, бо памяць дзяцінства светлая і пранікнёная.

Пашыраецца і навукова-даследчая дзейнасць школьнікаў, аб чым сведчыць 4-я гарадская вучнёўская канферэнцыя, праведзеная ў 2002 г. і прысвечаная 900-годдзю Барысава. У ёй прынялі ўдзел каля 70 вучняў, работы якіх парадавалі творчым падыходам, цікавымі

тэмамі, навуковасцю, нават адкрыццямі. Лепшыя работы вучняў адзначаны дыпломамі на рэспубліканскіх канферэнцыях і турнірах.

Захавала свой аўтарытэт у час вялікіх перамен і сістэма прафадукацыі ў горадзе. Каб паступіць у ПТВ-121, трэба пераадолець значны конкурс. Замест ПТВ-85 адкрыўся прафесійны ліцэй № 1. Не застаюцца без працы і педагогі, майстры ПТВ-62 будаўнікоў.

Ёсць значныя перамены і ў прадстаўнікоў сярэдняй спецыяльнай адукацыі. З верасня 2002 г. політэхнічны каледж (здаўна вядомы як палітэхнікум), намераны, і не без пастаў, атрымаць статус дзяржаўнага вышэйшага політэхнічнага каледжа. Разам з Барысаўскім аддзяленнем інстытута кіравання і прадпрымальніцтва, які існуе ў горадзе 5 гадоў, каледж дасць магчымасць моладзі атрымаць вышэйшую адукацыю ў родным горадзе.

Стала педагагічным каледжам і Барысаўскае педвучылішча. Тут рыхтуюць настаўнікаў пачатковых класаў з рознымі спецыялізацыямі, выхавацеляў дашкольных устаноў. Медыцынскае вучылішча, якое ў 2001 г. адзначыла свой 65-гадовы юбілей, рыхтуе медыцынскіх сясцёр, акушэраў, фельчараў. З яго сцен выйшла ўжо амаль 9 тыс. спецыялістаў. На прафесіяналізме, чуласці, дабрыні людзей у белых халатах трымаецца сёння гарадская медыцына. Можна скласці вялізны спіс урачоў і медыцынскіх сясцёр, якім многія барысаўчане абавязаны выратаваным здароўем, а то і жыццём.


*У час практычных заняткаў у Барысаўскім ПТВ-121.*

Ці спартыўны наш горад? Спытайцеся аб гэтым у майстроў спорту — Аляксея Абалмасава, Дзмітрыя Лазеркі, Аляксандра Парфяновіча, Аляксандра Цімафеева, Сяргея Крына, Наталлі Шаблынскай. Пабывайце ў ДЮСШ, дзе рыхтуецца спартыўны рэзерв па 18 відах спорту, 22 спартыўных клубах, асацыяцыях і федэрацыях, у турысцкім клубе, у дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву, у залах якой выраслі чэмпіён XX Алімпійскіх гульняў веласіпедыст Алег Логвін, вядомыя штангісты, майстры спорту міжнароднага класа Дзмітрый Сіняк, Віктар Харытончык і Аляксандр Красоўскі, больш за 80 майстроў спорту.

Прывычнай з'явай для барысаўчан стала мясцовае тэлебачанне, якое непрыкметна

ўвайшло ў нашы дамы са сваімі віншаваннямі, навінамі, зрабіла нас дасведчанымі аб усім, што адбываецца ў горадзе.

Напрыканцы дазволь, чытач, задацца пытаннямі: хто падлічыць, колькім жыхарам Барысаўшчыны даў пуцёўку у жыццё наш горад? Колькі нашых землякоў уславілі яго сваім жыццём і справамі? Іх вельмі шмат. І ні адна кніжка не ўмесціць усіх імёнаў. Але адно з іх усё ж такі хочацца ўзгадаць. Барысаў стаў першым горадам, які ўбачыў у сваім жыцці будучы лётчык-касманаўт Уладзімір Васільевіч Кавалёнак, двойчы Герой Савецкага Саюза. Хлопчыкам прыехаў ён, вучань Зачысценскай СШ, сюды, каб атрымаць камсамольскі білет, а крыху пазней ён сеў у Барысаве ў цягнік, які павёз яго ў новае жыццё, да подзвігу, да сусветнай вядомасці, да зорак.



*У.В.Кавалёнак.*

Так і сёння, і заўтра пойдуць у вялікае жыццё шмат і шмат ураджэнцаў Барысава, каб не скончылася яго гісторыя, яго слава, яго летапіс.

*Л.Ф.Белая.*



*Панарама старой часткі горада.*

## НАЙБОЛЬШ СТАРЫЯ ВУЛІЦЫ ГОРАДА

**Старая, левабярэжная, частка горада**

| Сучасная назва | Старая назва |
|---|---|
| Авіяпалка «Нармандыя — Нёман» | Андрэеўская |
| Гогаля | Замкавая |
| Дзяржынскага | |
| ад рынку ў бок Бярэзіны | Палынская |
| ад рынку ў бок СШ № 1 | Маскоўская |
| Завулак Савецкі | Нова-Мікалаеўская |
| Ібаруры | Загарадная |
| Камсамольская | |
| ад пошты ў бок Бярэзіны | Віленская |
| ад пошты ў бок «Гуматэхнікі» | Савуцінская |
| Камінскага | Віжынская |
| Лапаціна | |
| ад рынку ў бок вуліцы Яраша | Полацкая, Свабоды |
| ад рынку ў бок вуліцы Гогаля | Харугвеная |
| Марозава | Міхайлаўская, Студэнцкая |
| Мінская | Юрыдычная, Банная |
| Савецкая | Мікалаеўская |
| 3-га Інтэрнацыянала | |
| ад завода агрэгатаў да пошты | Мінская |
| ад пошты да вуліцы Яраша | Базарная, Лепельская |
| Урыцкага | Аляксееўская |
| Хацкевіча | Лашчэўская, Калгасная |
| Чырвонаармейская | Салдацкая слабада |



*Вуліца Чапаева — адна з прыгажэйшых у горадзе.*

**Новая, правабярэжная, частка горада**

| Сучасная назва | Старая назва |
|---|---|
| Адамовіча | завулак Андрэеўскі |
| Арджанікідзе | Крайняя, Рабочая |
| Батарэйная | Першая, Спартыўная |
| Батурына | Другая, 3-я Батарэйная |
| Блюхера | Іркуцкая |
| 8 Сакавіка | |
| ад праспекта Рэвалюцыі ў бок запалкавай фабрыкі | Лучаўская, Троцкага |
| ад праспекта Рэвалюцыі ў бок вуліцы Горкага | Мільённая |
| Віцебская | Зарэмбаўская |
| Гагарына | |
| ад вуліцы Даўмана да праспекта Рэвалюцыі | Сярэдняя, Магістральная |
| ад вуліцы Даўмана ў бок стадыёна | Кацярынінскі тракт |
| Ганчарная | не змянялася |
| Горкага | Крывая |
| Даўмана | Трэцяя |
| Карла Маркса | праспект генерала Рыхтара |
| Розы Люксембург | Кацярынінская |
| Ленінградская | Паўлаўская |
| Ленінская | Манапольная |
| Пушкінская | не змянялася |
| 1 Ліпеня | Бярэзінская |
| Правабярэжная | Набярэжная |
| 1 Мая (да вуліцы Энгельса) | Багданаўская |
| Паштовая | не змянялася |
| Пралетарская | Фельдфебельская |
| Працы | |
| ад вуліцы 30-годдзя ВЛКСМ да прывакзальнай плошчы | Вакзальны праспект |
| ад прывакзальнай плошчы ў бок млынкамбіната | Глівінская |
| праспект Рэвалюцыі | праспект Трубіцкога |
| Стаханаўская | Пагранічная |
| Тоўсцікава | Першая, Спартыўная |
| 30-годдзя ВЛКСМ | Таварная |
| 1812 года | завулак 2-і Батарэйны |
| Чапаева | Хітрыкаўская, Зіноўева |
| Чырванасцяжная | Усясвяцкая |
| Чарняхоўскага | Глівінская |
| Шкляная | не змянялася |
| Энгельса | Аляксандраўская |

## ЛІТАРАТУРА ПРА БАРЫСАЎ:

Барысаў: Фотаальбом. Мн., 1978.
Березинская операция в войну 1812 г.: Записки графа Ланжерона. СПб., 1899.
Борисов И.С. «Сатурн» на ладони: О разведке и разведчиках. Мн., 1994.
Борисовский стекольный: Сборник материалов по истории стеклозавода им. Дзержинского. Мн., 1974.
Военский К. Наполеон и борисовские евреи. СПб., 1912.
Военский К.А. Собрание И.Х.Колодеева по 1812 году в Новоборисове Минской губернии // Военный сборник. СПб., 1904. № 2.
Гілевіч Ж.В., Малеін В.А. Барысаўскі краязнаўчы музей: Даведнік. Мн., 1991.
Гилевич Ж.В. Борисов и окрестности: Справочник-путеводитель. Мн., 1986.
Де-Сегюр Ф.П. Переправа через Березину. СПб., Киев; Харьков, 1905.
Дмитриева Н., Соболь Л. Звезды надежды. М., 1994.
Ерусалимчик Л.Ф., Гилевич Ж.В. Борисов: Историко-экономический очерк. Мн., 1986.
Ерусалимчик Л.Ф. Помнят те, кому выпало жить. Мн., 1988.
Железовский А.П. Озеро Палик помнит. Мн., 1976.
З гісторыі горада Барысава. Барысаў, 1958.
Знаёмы Сяргей. Відагоршчы. Мн., 1930; Дом № 31. Мн., 1930; За дамбаю. Мн., 1932; Ганчары. Мн., 1933.
Золотарь И. Записки десантника. М., 1960.
Клейн Э.М., Довгяло М.И., Белоцерковец Н.Е. Город Борисов: наружное описание, промышленная и общественная жизнь, история // Записки Северо-Западного Отдела Императорского Географического Общества. Книга 1. Вильно, 1910.
Корнилов Л. Останутся в памяти. М., 1965.
Краснянский В.Г. Город Борисов и Борисовский уезд в Отечественную войну 1812 года. Гродно, 1914.
Купала Я. Барысаў. Мн., 1934.
Мазинг Г.Ю., Ерусалимчик Л.Ф. Березина, год 1812-й. Мн., 1991.
Мазус И. Березина: Эпизод Отечественной войны 1812 г. // Континент. 1995. № 4 (86).
Никольский Н. 16 часов жизни. М., 1966.
Памяць. Барысаў. Барысаўскі раён. Мн., 1997.
Пашкевич В.Г. Над рекой Березой. Мн., 1974.
Пашкевич В.Г. Партизанское движение на Борисовщине в годы Великой Отечественной войны. Борисов., 1977.
Розенблюм А.Б. Следы в траве забвения. Борисов, 1995.
Рясной В., Чернявский Ю. По следам палача. Мн., 1966.
Tyszkiewicz E. Opisanie powiaty Borysowskiego. Wilno, 1847.
У горадзе над ракой Бярозай // Мінская праўда. 1966.
Харкевич В.И. Березина, 1812. СПб., 1893.
Хацкевіч Р. На золку. Мн., 1972.
Хацкевіч Р. Хмара над лесам. Мн., 1980.
Шарков В.А. У берегов Палика. Мн., 1985.

# ЗМЕСТ

ДА ЧЫТАЧА ... 3
БАРЫСАЎ У СКЛАДЗЕ ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ ... 5
Адкуль паходзіць назва горада ... 5
Тапанімічныя пацвярджэнні ... 6
Князь Барыс — віноўнік «вольнасцей» палачан ... 7
«І паклікаў тады епіскап князя Барыса» ... 8
Барысаў у падзеях 1127 г. у Полацкай зямлі ... 10
Барысавы камяні ... 12
ГОРАД У СВЯТЛЕ АРХЕАЛАГІЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ ... 15
Замчышча на востраве ... 15
Раскопкі ў Стара-Барысаве ... 17
Некрополь старажытнага Барысава ... 20
Адметнасць гістарычнай тапаграфіі Барысава ... 22
Брылёўская знаходка — новая загадка ... 24
Барысаў у часы Вялікага княства Літоўскага ... 26
БАРЫСАЎ У СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ ... 38
Перамены ў палітычным і грамадскім жыцці ... 38
Гаспадарчае і гандлёвае жыццё гараджан ... 40
Барысаў і ваколіцы ў час вайны 1812 г. ... 42
Сацыяльна-эканамічнае развіццё Барысаўшчыны ... 56
Горадабудаўніцтва ... 68
Змагары за волю, за лепшую долю ... 76
Барысаў у 1905—1917 гг. ... 78
Даследаванне барысаўскага краю ... 81
БАРЫСАЎ У ЧАС КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ 1917 г. І ЗАМЕЖНАЙ ІНТЭРВЕНЦЫІ ... 85
БАРЫСАЎ У 1921—1941 гг. ... 99
ВОГНЕННЫЯ ГАДЫ ... 122
Абарона Барысава ... 122
Акупантам не скарыліся ... 128
Вызваленне ... 151
Аднаўленне Барысава ... 164
БАРЫСАЎ У 1945 —1990-я ГАДЫ ... 169
Ганаровыя грамадзяне горада Барысава ... 197
З гісторыі буйнейшых прадпрыемстваў Барысава ... 198
Значныя падзеі ў жыцці Барысава ў 1990—2002 гг. ... 204
Барысаў у святле статыстыкі (2001) ... 209
РОЗДУМ ПРА РОДНЫ ГОРАД У ЯГО ЮБІЛЕЙНЫЯ ДНІ ... 211
Найбольш старыя вуліцы горада ... 220
Літаратура пра Барысаў ... 222

Навукова-папулярнае выданне

**Гілевіч** Жанна Вікенцьеўна, **Штыхаў** Георгій Васільевіч,
**Насевіч** Вячаслаў Леанідавіч, **Белая** Ларыса Фёдараўна

**ДЗЕВЯЦЬ СТАГОДДЗЯЎ БАРЫСАВА**

Кніга падрыхтавана выдавецкім цэнтрам БЕЛТА
Адказны за выпуск *Г.К.Кісялёў*
Рэдактар *З.І.Малейка*
Мастак *А.В.Лапін*
Тэхнічны рэдактар *А.І.Хомчанка*
Камп'ютэрная вёрстка *М.Э.Малярэвіч*
Карэктары: *В.І.Багдановіч, А.П.Кірэева, Л.І.Рудніцкая*

Фота У.Валчка, Г.Гарбунова, студыі лічбавай фатаграфіі І.Мядзведзева,
з фондаў Барысаўскага аб'яднанага музея, фататэкі БЕЛТА і асабістых архіваў

Падпісана ў друк з арыгінал-макета 24.05.2002.
Фармат 70x90 1/16. Папера афсетная. Гарнітура Таймс. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 16,4. Ул.-выд. арк. 18,2. Тыраж 5000 экз.
Заказ 3662.


ISBN 985-6302-41-2
9 789856 302414

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Беларускае тэлеграфнае агенцтва» (УП «БЕЛТА»).
Ліцэнзія ЛВ № 60 ад 29.11.1997.
Рэспубліка Беларусь. 220030, Мінск, вул. Кірава, 26.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку».
Рэспубліка Беларусь. 220024, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.



*Герб Барысава.*



*Сцяг горада.*

*Уезд у горад з боку Мінска.*



*«Батарэі» — памятнае месца, звязанае з вайной 1812 г.*



*Помнік рускім салдатам, загінуўшым у 1812 г. Брылёўскае поле.*



*Помнік загінуўшым французскім салдатам на месцы пераправы напалеонаўскай арміі цераз Бярэзіну.*



*Васкрасенскі сабор. Помнік архітэктуры другой палавіны XIX ст.*



*Касцёл. Помнік архітэктуры пачатку XIX ст.*



*Помнік на брацкай магіле савецкіх ваеннапалонных, якія загінулі ў Барысаўскім канцлагеры ў 1941 — 1944 гг.*



*Помнік Л.Чалоўскай.*



*Помнік на месцы перапахавання савецкіх патрыётаў, расстраляных фашыстамі на артылерыйскім палігоне ў 1941 — 1944 гг.*




*Помнік экіпажу танка Т-34 — Героям Савецкага Саюза П.М.Раку, А.І.Данілаву і А.А.Пятраеву.*



*Помнік воінам-інтэрнацыяналістам.*




*Чыгуначны вакзал. Узведзены ў пачатку XX ст.*



*Прывакзальная плошча.*



*Адміністрацыйны будынак на праспекце Рэвалюцыі.*
*На пярэднім плане помнік У.І.Леніну работы А.А.Анікейчыка.*



*Добраўпарадкаванне Цэнтральнай плошчы напярэдадні святкавання 900-годдзя горада.*



*На праспекце Рэвалюцыі.*



*Вуліца А.Трусава.*



*Будынак гарадскога аддзялення Знешэканомбанка.*

*Прэзідэнт Беларусі А.Р.Лукашэнка ў час наведвання Барысава. Жнівень 2001 г.*



*У выставачнай зале гарадской бібліятэкі.*




*Футбалісты БАТЭ — чэмпіёны Беларусі 1999 г.*



*«Плыве ў свет рака Бяроза, плыве сягоння, як і ўчора...» — рака Бярэзіна ў наваколлі Барысава і ў межах горада.*

